

*„У нас мільёны цудоўных людзей, мільёны адукаваных юнакоў і дзяўчат, якія гараць страсцю барацьбы за пабудову камуністычнага грамадства“.*

М. С. ХРУШЧОЎ. З прамовы на Пленуме ЦК КПСС 14 лютага 1964 г.


# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XII


## У нумары




**4**

КРАСАВІК

1964

Выдавецтва «ЗВЯЗДА».
МІНСК

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак**
**«А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

---

**Вокладка У. ФІЛІПЕНКІ.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Мікіта Сяргеевіч ХРУШЧОЎ з касманаўтамі Германам ЦІТОВЫМ, Юрыем ГАГАРЫНЫМ, Андрыянам НІКАЛАЕВЫМ, Валянцінай НІКАЛАЕВАЙ-ЦЕРАШКОВАЙ, Валерыем БЫКОЎСКІМ і Паўлам ПАПОВІЧАМ.**

Фота Я. Умнова.

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Раіса КУДРЭВІЧ. Хутка вясна.** З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.

---

**Галоўны рэдактар ПІМЕН ПАНЧАНКА.**
**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (нам. галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Генадзь БУРАЎКІН, Васіль БЫКАЎ, Арсень ВАНІЦКІ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).**



М. ЖУКАЎ. Петраград. 1917 год.

Алег ЛОЙКА



# У Разліве

Кажуць, слядоў не кідае ні човен імклівы,
Ані вясло, што крыло па-над плынню ўзаўе...
Бачу я: Ленін вяслуе ў зацішак Разліву,
Хваля з-пад вёслаў ягоных
*у сэрца мне б'е!..*

Кажуць, ссячы і не будзе больш дрэваў шумлівых,
Лісце завяне і вецце дажджом спарахніць...
Ссеклі бярозы калісь на будан у Разліве,
*Лісце ж іх, бронзай ажыўшы, і сёння звініць!..*

Кажуць, сплывае агонь з дымам сіне-гаркавым...
Ленін касцёр тут расклаў, прасвятліўшы прастор,
Аб рэвалюцыі думаў над ім, аб дзяржаве,—
Зарою світальнай гарыць над зямлёй той касцёр!..



Аляксей ЗАРЫЦКІ



# Расказ пра майго настаўніка

«На чале цурыхскага швейцарскага руху стаяў Фрыц Платэн, ён быў сакратаром партыі. Ён прымыкаў да Цымервальдскай левай, быў сынам рабочага, быў простым гарачым хлопцам, карыстаўся вялікім уплывам у масах».

**Н. К. КРУПСКАЯ. «Успаміны аб ЛЕНІНЕ».**

Больш дваццаці гадоў таму назад
Жыў у Маскве я на студэнцкім хлебе.
Выкладчыкаў у нас было харошых шмат,
Ды аднаго за ўсіх я помню лепей —
То Платэн Фрыц, стары настаўнік мой,
Швейцарскі камуніст сівагаловы.
З якой настойлівасцю маладой
Мы вывучалі ў інстытуце мовы!

З далёкіх сёл і гарадоў туды
Бадзёра ўпарты маладняк спяшаўся.
Чытаў нам Платэн лекцыі тады
На мове Энгельса і Карла Маркса.
Высокі, статны,
Помню, капялюш
Заўсёды ён насіў з пяром — тырольскі.
Стары, збялелы ад жыццёвых сцюж,
Любіў задор наш камсамольскі.

Пражыў ці мала сівы камуніст,
Але душою маладым застаўся,

Расказваў нам, як з Леніным калісь
У Цурыху далёкім сустракаўся.
І ганарыўся больш за ўсё ў жыцці,
Што за гарамі,
Там, у Цымервальдзе,
Ён вырашыў за Леніным ісці,
У вочы плюючы падману й здрадзе.

З такою шчырасцю расказваў ён,
Што мы,
Тады здавалася часамі,
Да тых усіх падзей,
Тых дзён
Нібыта мелі дачыненне самі.
Нібы глядзелі самі ў захапленні
Мы з тых уцёсаў,
З тых крутых вяршынь,
З якіх калісь любіў вялікі Ленін
Праніклівa глядзець у далячынь.

★

У сэрцы Фрыца Платэна заўжды
Дзён рэвалюцыі гучала рэха.
Швейцарац разам з Леніным сюды,
У Расію, у семнаццатым паехаў.
Еўропа ў полымі: кругом вайна.
Цераз Германію ляціць цягнік разгонна,
І Ленін з Платэнам каля акна
Стаяць свайго няўтульнага вагона.

І Платэн паглядае ўжо здалёк
Туды, дзе родныя знікаюць горы.
Швейцарыя, здаецца, астравок
У агнявым вірлівым моры.

— Нам ехаць праз агонь,— ён праказаў.
— Так, праз агонь,— пацвердзіў гучна Ленін.
І з Леніным навечна лёс звязаў
Фрыц Платэн, у адданасці нязменны.

★

На дзіва выдаўся туманны дзень.
У зімнім Петраградзе неспакойна.
Пачаўся васемнаццаты.
Ідзе
Машына з мітынга паволі ў Смольны.

Фрыц Платэн поруч з Леніным.
Шафёр
Углядзеўся ў туман з трывогай.
І раптам стрэл з імглы амаль ва ўпор.
За куляй куля, толькі свіст і скрогат.

Ды Леніна прыгнуць сваёй рукой
І захінуць сабой
Паспеў швейцарац.



І цьмяны след пакінула на ёй
Сляпая куля Платэну на памяць.

★

У трыццаць шостым годзе час прыйшоў
Нам з інстытутам нашым развітацца.
Студэнцкі вечар,
Шчыльны круг сяброў.
Вячэра скромная,
А потым танцы.

Да рання Платэн нас не пакідаў,
То жартаўлівым весяліў нас словам,
То танцаваў нястомна,
То спяваў,
Высокі, статны і белагаловы.

Здымаўся ў нашым коле тым стары.
На славу выйшлі тыя фотаздымкі.
Гулялі мы ўсім курсам да зары
І не журыліся ані хвілінкі.

На вуліцу выходзілі гурмой.
З усмешкай Платэн крочыў разам з намі.
Світанак плыў ліпнёвы над Масквой,
Над маладымі нашымі шляхамі.

★

Даўно няма настаўніка майго,
У трыццаць сёмым ён загінуў недзе.
Імя не ўспаміналася яго
Шмат год, нібы ён і не жыў на свеце.

Мне дваццаць шэсць было, ўжо не юнак.
Але, прызнацца шчыра,
Без вагання
Я верыў, як і ўсе,
Што трэба так,
Што гэта з ворагам ідзе змаганне.

А ўсё-ткі неяк здымкі я збярог
Студэнцкія,
Дзе з Платэнам мы зняты.
Шмат за плячамі ўжо трывог, дарог.
Цяпер мы знаем, хто быў вінаваты.

Што здымкі, брат.
Вось ён перада мной
Нібы жывы стаіць — стары настаўнік.
Высокі, статны, з белай галавой,
Вядзе расказ аб слаўных справах даўніх
І ўзмахвае парывіста падчас
Рукой са следам кулі,
Што паслана
Заклятым ворагам у Ільіча
Была калісьці з золкага туману.

**Анатоль КУДРАВЕЦ**



Мастак
Ільля НЕМАГАЙ

# Салігорская песня

■ **Нарыс**

Ён толькі сеў абедаць, калі яму сказалі, што прыехала сястра. Яна сядзіць у будцы аўтобуснага вакзала. Брыгадзір усё ведае і адпусціў яго са змены. Можна проста адсюль бегчы ў горад.

Ён неяк залішне замітусіўся, пачырванеў і адразу ўстаў з-за стала.

— Прыехала? — перапытаў, быццам не даверыў вушам сваім, і адразу кінуўся да дзвярэй.— Хлопцы, салют! Мяне ўжо няма! — крыкнуў ад парога.

Ужо ля шашы, пад зялёным дашчатым навесам, глянуў на свае ногі, абутыя ў не новыя, хоць і моцныя яшчэ кірзавыя боты з пабялелымі ад вады і раствору насамі, потым на шэрыя, са свежымі слядамі мелу картовыя штаны, на кароткую — у пояс — целагрэйку і спахмурнеў: «Трэба было б пераапрануцца». Але адразу адмахнуўся ад гэтай думкі: гэта ж ёй цэлых пятнаццаць мінут давядзецца сядзець адной у мітусні цеснага вакзала.





Ён быў мужчына, і ў яго быў свой гонар, нават нейкая зухаватасць, ён пачаў насвістваць нешта вясёлае, мусіць, «Сільва, ты мяне не любіш...» Ён насвістваў нават тады, калі ўціснуўся ў вялікі зялёны аўтобус.

Яна не была яго сястра. У яго былі толькі два браты — Міша і Мікола, ды і тыя далёка. Яна была Света — і толькі...

Света прачытала яго верш пра Салігорск у «Строительной газете» і прыслала яму пісьмо. Яна вельмі саромелася, гэта было відаць па тону пісьма, і таму пісала, што ёй спадабаліся вершы, ёй і дзяўчатам з іх пакоя, і спадабаўся малады горад Салігорск. Горад спадабаўся, вядома, завочна, бо яна ж ні разу не бачыла яго. І яшчэ яна пісала, што гэта якраз для іх, маладых, будаваць новыя гарады і будаваць сваё шчасце, і тое, што яна працуе маляром і думае (вось дзівачка), што ў прыгожым горадзе Салігорску і яе рукам знойдзецца работа.



Вядома, знойдзецца! Ён так і напісаў ёй. Ён хацеў напісаць яшчэ, што тут рады кожнай дзяўчыне, але парашыў, што яна можа няправільна зразумець гэтыя словы, і пакінуў іх пры сабе...

Потым было яшчэ адно пісьмо з Кіева, і яшчэ... І ў адказ ішлі пісьмы з Салігорска. І ўжо шмат чаго хацелася сказаць у іх, і не стала хапаць звычайных слоў. Яны здаваліся блеклымі і не маглі расказаць пра ўсё тое трывожна-хвалюючае, што нараджалася і шукала дарогу на свет. Ён браў паперу і пісаў вершы пра раку Случ, якая замірае ў цішыні вечара, пра дзявочыя песні, пра Салігорск, які не ўвесь спіць ноччу, і пра каханне. У вершах ён быў шмат смялейшы, чым у пісьмах.

І вось яна прыехала. «Сястра!..» Ён сказаў гэта слова ўголас і ўсміхнуўся, энергічна секануўшы паветра рукой, быццам падганяў да месца цаглiну. Прымай, Салігорск, у сваю сям'ю яшчэ аднаго будаўніка!

Ён рыўком адчыніў дзверы аўтобуснага вакзала, зайшоў і, хоць ля кас тоўпілася шмат людзей, адразу ўбачыў яе. Яна сядзела ля акна. На падлозе, каля яе ног, стаяў чамадан. Света... Ясныя блакітныя вочы з цёплай шэрай каёмкай, светлыя валасы...

Яна таксама ўбачыла яго і пазнала. І цяпер, сустрэўшы яе позірк, ён вельмі пашкадаваў, што не пераапрануўся. Чамусьці якраз цяпер успомнілася, што адно крысо целагрэйкі прапалена, а на левым рукаве адарваны гузік.

Нейкую долю мінуты ён затрымаўся ў нерашучасці ля дзвярэй, потым ступіў наперад.

— З прыездам, Света! — сказаў ён, і яго карыя вочы засвяціліся несхаванай радасцю. Яна ўбачыла гэтую радасць, і ад таго, што радасць была безабаронная і такая адкрытая, шчырая, ёй зрабілася лёгка і весела. Яна ўстала насустрач яму і сказала мяккім, пявучым голасам простыя і незвычайныя словы:

— А я ўжо баялася, што прыйдзецца ехаць назад, так і не пабачыўшы... самы малады і самы прыгожы горад.

«Самы малады і самы прыгожы горад»,— гэта былі словы з яго пісьма. Яна сказала іх з мяккай някрыўднай усмешкай на тонкіх вуснах. І ён не пакрыўдзіўся.

— Ён спадабаецца табе... наш горад, вось убачыш. Тут столькі харошага,— сказаў ён, беручыся за ручку чамадана, і пачырванеў, быццам нясціпла пахваліў сябе.— Толькі з кватэрамі тугавата. Будуем, будуем, а не хапае,— прадаўжаў ён ужо на двары, ідучы ў бок вуліцы Ленінскага камсамола.— Ды хіба і паспееш. Гораду ўсяго пяць год, а людзей пад дваццаць тысяч набіраецца. Людзі ўсё прыбываюць і прыбываюць. Ды і самі салігорцы стараюцца...— Ён зноў страшэнна зачырванеўся і заспяшаўся гаварыць далей: — Тут такое разгортваецца, што аж галава кружыцца. Яшчэ першы камбінат не скончылі, а ўжо за другі ўзяліся... А там трэці — і можа не апошні. А табе я знайшоў пакойчык, дагаварыўся з гаспадыняй. Усё як трэба... Я таксама на кватэры, недалёка адсюль, у Чыжэвічах...

Яны ішлі па вуліцы, і ён гаварыў, гаварыў, гаварыў... Пра горад, пра сільвініт, пра людзей... Быццам баяўся, што калі перастане гаварыць, то горад, той горад, які ўжо ёсць, і асабліва той, які будзе і які ён больш за ўсё любіў, можа ёй не спадабацца.

Ён заступаўся за яго — пяцігадовага падростка, засланяў яго ад магчымай крыўды, хоць небяспекі яшчэ ніадкуль не было і Света веселаківала галавой і шырока раскрытымі вачамі асвятляла ўсё, што траплялася ім насустрач.

— Ты ведаеш, я прыехаў, дык тут усяго нейкіх пару дамоў было. Увесь горад у зямлі быў, у падмурках. Ды і падмуркаў не было. А цяпер, бачыш, як раздаўся, вырас. Шырокаэкранны кінатэатр, універмаг, тэхнікум...— ён паказваў рукой на высокія будынкі і смяяўся, і лавіў позірк яе цудоўных блакітных вачэй з трывожнай шэрай каёмкай.

Назаўтра ён павёў яе на камбінат. Стаялі пад вялізнымі чорнымі махінамі капроў, лазілі па абагачальнай фабрыцы, слухалі трэск электразваркі... Паўз іх праносіліся аўтамашыны з жалезнымі бэлькамі і растворам, пратупалі бульдозер і некалькі трактараў; дзяўчаты пранеслі на насілках дымны асфальт... Будоўля жыла ў напружаным працоўным рытме, грымела, гудзела, дымілася і ўся некуды спяшалася, баялася спазніцца.

Света была абута ў лёгкія туфелькі. Каля пустога шкілета градзірні яна пакаўзнулася і нялоўка ступіла ў мокрую мешаніну з глею і торфу. Ён паспеў падтрымаць яе.

— Тут шмат гразі,— сказала яна, сціраючы глей паперай.

— Будоўля... Столькі машын, людзей, і ўсе ходзяць, хто дзе хоча, абы карацей,— адказаў ён.

Калі выходзілі на шашу, яна запэцкала другі туфель.

— Колькі тут гразі! — сказала са злосцю.

Ён уважліва паглядзеў на яе і ціха, гледзячы ў бок, паправіў:

— Гэта не гразь. Гэта мокры пясок.

Наском бота ён капянуў мокрую цёмна-жоўтую зямлю. Гэта сапраўды быў пясок. Мокры пясок.



Потым яны былі каля ракі. Набліжаўся вечар, і, хоць стаяў канец кастрычніка, холаду не адчувалася. Была свежасць і чысціня паветра — ні гукаў, ні пахаў. Нават колер панаваў адзін — колер спакойнай задумлівай восені, роўны жоўта-шэры. Толькі калі сонца пайшло к заходу і кранулася берагу, ціхая плынь ракі закіпела, затрапяталася — у вадзе, не спяшаючыся, паласкалася жар-птушка, распусціўшы на хвалях вогненнае пер'е.

— Здорава! — сказаў ён. Яна кіўнула галавой, потым задуменна дадала:

— А ўсё ж гэта не Дняпро...

Ён нахмурыўся, чорныя бровы яго сышліся ля пераноісся, утварыўшы суцэльную лінію, і суха адказаў:

— Гэта Случ.— Падумаў трохі і яшчэ раз паўтарыў.— Случ.

Потым падняў з зямлі невялікі каменьчык і кінуў у раку, забіў жар-птушку. Яна сканала на хвалях, губляючы залатое пер'е.



А ён засмяяўся і стаў чытаць вершы. Ён чытаў пра краны, якія горда выкінулі ў неба магутныя стрэлы, пра любага, які хоча паляцець на Месяц, каб прабіць там шахтны ствол, пра слаўнага партызана Чуклая, што загінуў у вайну, абараняючы салігорскі сільвініт.

Прайшло некалькі дзён. Іх зноў бачылі разам, ужо ў гарадскім камсамольскім парку. Маладыя невысокія таполі, акацыі, клёны дружна шапацелі пажоўклай, але яшчэ не апаўшай лістотай. Паветра было чыстае, халоднае, і парк праглядаўся наскрозь.

— Зусім малая! — сказала яна, гладзячы кару маленькай, тоненькай таполі.

— Што ты! — запярэчыў ён і ўсміхнуўся.— У шэсцьдзесят першым, калі мы садзілі, яна была мне па плячо, а цяпер я пад ёй хаваюся. А крона якая! Скора ўсе яны будуць вялікія,— правёў ён рукой кругом сябе.

— А ў Кіеве вясною цвітуць каштаны...

— Тут таксама зацвітуць.

— Ну, пакуль зацвітуць... пасівець можна,— яна сарвала жоўты ліст і засмяялася, і гэты смех яму здаўся ненатуральным.

— Тут таксама зацвітуць каштаны,— упарта паўтарыў ён і зноў насупіў бровы. Яна нічога не сказала, а паказала на кволае, без адзінага лісточка дрэва:

— Засохла...

— Гэта не страшна. Такіх няшмат. Іх проста замяніць.— Ён працягнуў руку, каб адламаць сухую галінку. І яна ўбачыла на руцэ яго, вышэй далоні, дзве невялікія драпінкі. Відаць, раніцай шмаргануў нечым вострым. Кроў не ішла, была выступіла і засохла.

Яна дакранулася да ранкі — асцярожна, чуць-чуць. Пальцы яе былі халодныя:

— Ты абадраў руку. Давай перавяжу.

Дастала з кішэні хусцінку, хацела разарваць, але ён не даў, паклаў хусцінку назад у кішэню, усміхнуўся іранічна, аднымі вачамі.

— Не трэба. Гэта зажыве... Зажыло ўжо...

З канца вуліцы вецер данёс песню. Пелі далёка, і слоў нельга было разабраць, хоць пелі добра і прыгожымі, звонкімі галасамі.

— Салігорская песня,— сказаў ён. Хацеў яшчэ дадаць, што напісаў яе іх паэт шахцёр Іван Раманенка і што музыку да яе стварыў таксама свой, салігорскі кампазітар. Нават хацеў расказаць пра сваю брыгаду, пра цудоўных хлопцаў, двух Анатоляў — Кразовіча і Малочку, пра Валю Сплендзер, нядаўнюю дзесяцікласніцу, партрэт якой даўно ўжо вісіць на Дошцы гонару, і шмат яшчэ што меў расказаць ён, але раптам перадумаў і стаў насвістваць услед за галасамі.

На наступны дзень, прыйшоўшы пасля работы, ён не застаў яе на кватэры. Не было і яе чамадана. Гаспадыня сказала, што яна паехала.

Некалькі вечароў ён адзін хадзіў па горадзе, быў на рацэ, у лесе, над якім вісеў круглы чыста-белы месяц. Увесь час ён або насвістваў, або ціха гаварыў нешта сам сабе, энергічна ўзмахваючы рукой, быццам быў на рабоце, на рыштаваннях, і падганяў цагліну да цагліны. Потым пайшоў дамоў, узяў чысты ліст паперы і вывеў вялікімі літарамі: «Романтика». Гэта быў новы верш, і ён акуратна запісаў яго:

Она начинается у стены,
У пёстрой учебной карты.
Она не седеет от седины,
Путь начав со школьной парты,
Романтика — это вокзальный шум
И вырезки из газеты.
Романтика — хаос тревог и дум,
И место в купе... без билета...
Я видел романтиков, под дождём
Цемент разгружающих в склады...
Они не за длинным гнались рублём,
А делали с мыслью: «Надо».
Со мною ломами долбили грунт,
Замёрзший, тугой и звонкий,
И девушке, ехавшей к нам на пункт,
«Привет!» — посылали вдогонку.
Я видел романтиков на копре.
Под вопли калёной стужи
Они монтировали в январе
Узоры железных кружев.
Никто не просился из них к костру,
Хотя до костей простыли.
Победу ковали они на ветру,
Не трусили
и не ныли.

Паставіўшы кропку, ён яшчэ доўга не клаў ручку, пазіраючы ў цёмнае акно, потым падпісаў: «Васіль Рэпнік, муляр».

Перачытваць напісанае не стаў. Выключыў святло і лёг. Да пачатку змены заставалася яшчэ тры гадзіны. А ён быў не толькі паэт. Ён быў чалавек. Яму было трохі больш за дваццаць, і ён вельмі хацеў спаць.







Уладзімір ФАМІН

# Партыі



Партыя,
маці мая,
Слова сказаць дазволь.
Слова трымаю я —
Сын і салдат твой.

Кліч у дарогу сваю —
Стаў я пад сцяг Ільічоў.
Шчыра пад ношу тваю
Падставіў сваё плячо.

Знаю, нялёгкі шлях
Выбраў я
у жыцці,
Знаю,
да хрусту ў касцях
З гэтаю ношай ісці.

Толькі не здраджу я,
Не спатыкнуся ў страі.

Партыя! —
гэта імя
У сэрцы гарачым маім.

Партыя!
Ты для мяне
Слых мой надзейны і зрок.
Партыя!
Ты для мяне —
Цвёрды наперад крок.

Партыя —
вочы мае!
Партыя —
вушы мае!
Партыя —
розум мой!
Партыя —
гонар мой!

# У ліцейным цэху

Вагранкі
Дыхаюць жарам
натужна
На тысячу з лішнім
Градусаў.
З вагранак
Каўшы п'юць дружна
Сталь...
Глядзі, чалавек,
Радуйся.

З-пад рук тваіх
Вырываюцца з громам
Сонцы
У іскры кожнай.
Сталь, быццам царыца...
Яе карона
Зоркамі
Зіхаціць ажно.

Даюць ёй дарогу
З вялікай павагай.
І сталь
па латках



Спяшаецца.
Глядзіце, людзі,
Да ног вашых
Яна схіляецца.

# Зямля

Паслухай, дружа!
Вухам прыпадзі
Ты да зямлі,
Як да грудзей матулі.
Прыслухайся уважліва —
Гудзіць
Яна натужна,
Як пчаліны вулей.

Аж пачарнелі плечы
У яе:
Цяжар трымае
На сабе
Планета.

Табе, зямля,
Я аддаю свае
І рукі дужыя
І песню гэту.

Хвіліны нават
Не засне яна:
Нібы рабочы,
На працоўнай вахце...
Умець
Людзям аддаць сябе
Спаўна —
У зямлі нам трэба
Павучыцца,
Браце.

# На лузе

Настоена паветра
Ужо даўно,
Ажно хмялееш:
Пахне медуніцай.
Напэўна, хмелю крышачку
Яно
Пазычыла крыніцы.

Растуць стагі пад неба
На вачах,
Гудуць наўкол
Магутныя маторы.
Аж соль павыступала

На плячах
Калгасных
Непаседлівых шафёраў.

Гудзе,
Гамоніць луг,
Нібы жывы.
І мне здаецца сёння,
Быццам гэта
Не сцірты добрай
Лугавой травы —
Пасаг зіме
Рыхтуе лета.



**Ірына КАВАЛЕЎСКАЯ**

**Мастак**
**Эльмар ГУСЕЙНАЎ**




## Апавяданне

Раніца хлынула ў вокны яркімі сонечнымі праменнямі, гулам машын, пахам роснай зелені. За вялізнымі дамамі ў высокіх пышных каштанах залівалася малінаўка. Перад гудком у прахадной натоўп пагусцеў так, што кожны чалавек адчуваў плячо суседа. На завадскі двор людзі высыпалі купкамі, разыходзіліся на свае рабочыя месцы.

Ліда, задыхаючыся, дагнала Барыса, учапілася за рукаў яго сіняй рабочай курткі і амаль подбегам трусіла побач. Барыс глянуў на яе зверху, ціха ўсміхнуўся і яшчэ больш паддаў ходу, а Ліда, паглядаючы на яго знізу ўверх, усё паўтарала: «А вось і не адстану, а вось і не адстану...»

— Во ўчапілася! — вынырнуў з натоўпу Лёшка з чырвоным, задраным уверх носам.

— Шкадуеш, што не за цябе, га? — гарэзліва запытала яна.

— Было б чаго шкадаваць!

— Ну, прызнайся ўжо.

— Мае і вочы на цябе не глядзяць...

— Аднак убачылі, і не толькі сёння...

— Трэба ты мне! Ты ж хутка так завучышся, што і ён, жаніх твой, гэты даўгалыгі бусел, збяжыць ад цябе, як муж ад Тацяны Мікалаеўны.

— Не злуй, Лёха, табе не ідзе злавацца.



— Вучаныя дзяўчаты — адна нудота, не згаворышся ніяк, хоць трэсні.

— Спачуваю табе, кірпа чубатая.

На іх азірнуўся майстар, Іван Яўхімавіч. Ён ішоў уперадзе, побач з ім перакідалася на кароткіх ножках яго мажная жонка.

— Ну, дык ты глядзі, нікому не аддавай гэты прыбор, я прышлю чалавека, забяру, няхай тады аблізваюцца, — сказаў Іван Яўхімавіч, калі жонка збіралася павярнуць да сябе, на склад.

— Добра, — адказала яна.

Яўхімавіч паскорыў крок, дагнаў стрыжаную, трошкі пасівелую ўжо жанчыну, зайшоў ёй крыху наперад і лагодна кіўком павітаўся. Жанчына адказала і, стройная, гордая, шпарка крочыла наперад.

— Тацяна Мікалаеўна, а я ўжо ўсё падрыхтаваў, каб рамантаваць арматуру.

— Пустая работа...

— Чаму?

— Я ж табе казала, што выпісалі новае абсталяванне, усё будзем мяняць.

— Э-э-эх, марныя грошы, скажу я табе. Навошта ўсё гэта?

— Старэеш, Іван Яўхімавіч, старэеш. На маладых трэба раўняцца.

— А што маладыя... ветрагоны. Толькі знаюць гірлы начэсваць да штаны дудкамі шыць.

— І Барыс ваш таксама?

— Барыс? Барыс — прафесар, галавасты азгрывец.

— Што-о?

— Прыходжу ўчора вечарам праверыць змену, а ён спіць... Сядзіць за сталом, палажыў чупрыну на інструменты і спіць, як пшаніцу прадаўшы.

— Не шкадуем мы добрых людзей, на што было загружаць так чалавека...

Праз галінкі дрэў на твары іх падалі зайчыкі, мільгацелі па шыі, грудзях, валасах. Зайчыкі перасталі скакаць, калі абое спыніліся ля крутога ганку-лесвіцы, па якім кожны дзень Тацяна Мікалаеўна падымалася ў свой кабінет.

— Я і забыла, Іван Яўхімавіч... Адкрываюцца курсы пры заводзе. Можа пойдзем?

— От, злыбеда, і каму там карціць? — зазлаваў той і апусціў вочы долу.

— Час такі, Іван, нельга адставаць. Памятаеш, як партызанілі дружна.

— Тады ж былі маладыя.

— А цяпер?

Іван Яўхімавіч пацiснуў плячыма і рвануў на сябе дзверы, што былі побач з ганкам.

У цэху ён уключыў рубільнік асвятлення і пайшоў у сваю майстэрню. Шпарка прайшоў міма маматораў і спыніўся ля жалезнага варштата. Тут яго чакалі хлопцы.

З цэха праз шчыліны дзвярэй даносіўся стук жалеза, прыглушаны грукат маставых кранаў.

— Барыс, ты сёння дзяжурыш па цэху. Ты, Ляксей, канвеер правер. Усім астатнім на ўчарашнія месцы. Жыва, — скамандаваў майстар.

Недалёка ад дзвярэй, ля цаглянай сцяны, адгародкі ад цэха, бы-



ла Лідзіна кладоўка — вузкая, прамавугольная, застаўленая лаўкамі так цесна, што людзі заходзілі ў яе, як у нару. Пры сцяне на доўгіх лаўках стаялі скрынкі з балтамі, гайкамі, трубамі, ляжалі скруткі электрапровада. Ля дзвярэй да перагародкі прыткнуўся кульгавы, на падстаўках і падкладках, Лідзін стол. На ім заўсёды была чарнільніца, абгрызеная школьная ручка і скрынка з карткамі па ўліку матэрыялаў. Праз круглыя дзіркі рашоткі Ліда бачыла ўсё, што адбывалася ў цэху. Яна зачаравана глядзела на худога, сагнутага над маторам Барыса.

— Добры хлопец, га? — пачула яна раптам голас Івана Яўхімавіча, і ў душы ўся сцялася, бы яе злавілі на нечым недазволеным.

— А я вас чакала, трэба падпісаць заяўкі на электралямпачкі.

Іван Яўхімавіч усеўся на скрыпучую Лідзіну табурэтку і пачаў акуратна выводзіць на паперках сваё прозвішча.

— Дык ты скора станеш настаўніцаю? — спытаў ён, не адрываючы вачэй.

— Праз тры гады.

— Ну і надумала ж ты! Хіба табе ў нас дрэнна?

— Ды не, але ж з дзяцінства марыла стаць настаўніцай.

— Ат, пена зялёная — навошта гэта табе трэба?..

— А што? — здзівілася Ліда.

— Жыццё трэба наладжваць, думаць трэба...

— Пра што?

— Мі-і-ілая, хопіць блазноты. Раскінь розумам, прыглёдзься. Тут прадпрыемства старое, усе добрыя месцы заняты, нават і з адукацыяй не праткнешся. Разумееш?

— Не.

— На новабудоўлю трэба падавацца, там сябе паказаць. А тут?.. Барыс, бачыш, інстытут канчае, а што з таго?

— Барыс? Барыс разумны, праб'ецца.

— Не праб'ецца, кажу я табе. Едзь куды-небудзь і яго пазавеш. Там лягчэй будзе стаць і на вышэйшыя пасады. Вось я...

— Яўхімавіч, як вам не брыдка?

— Не хвалюйся, за табой ён паедзе, скончыць вучобу і прыедзе. Ён жа чэсны, не пакіне цябе. І я пасаблю яму выехаць.

Ліда хуценька сабрала са стала заяўкі і выбегла прэч, як з агню выскачыла. Крыху супакоіўшыся, яна падалася наверх, да Тацяны Мікалаеўны, палажыла ёй на стол заяўкі. Тая хуценька пападпісвала іх, адклала і занялася нейкай папкай. Ліда стаяла ля стала, не брала заяўкі, пазірала, бы хацела нешта спытацца і баялася.

— Ну, што яшчэ? — урэшце загаварыла да яе Тацяна Мікалаеўна.

— Ёсць адно дужа далікатнае пытанне...

— Кажы.





— Яно і вас датычыць.

— Мяне-е?

Тацяна Мікалаеўна адклала папку і паглядзела на Ліду.

— Разумееце, адзін чалавек казаў, што не варта вучыцца, а трэба хітраваць у жыцці, і гэтым можна ўсяго дасягнуць.

— А пры чым тут я?

— Я ўспомніла вас, ваша жыццё і парашыла, што ён не ведаў праўды, памыляўся.

Жанчыны задумаліся, маўчалі. Потым Тацяна Мікалаеўна ціха загаварыла:

— Мне прыгадаўся пасляваенны час. Тады я была такая ж, як ты цяпер, маладая, дапытлівая. Сюды мы прыехалі з лесу, з партызанскага атрада, утраіх: я, Юзік і Іван Яўхімавіч. Іван і Юзік падрыўнікамі былі, ордэны прынеслі, пасады пазаймалі. А я што? Былая школьніца, а потым медсястра ў атрадзе... З хлопцамі за кампанію сюды папала, і прызначылі мяне кладаўшчыцай, на тваім месцы працавала. Мае сябры расказвалі пра свае баявыя заслугі на сходах, ім пляскалі ў далоні. Я зайздросціла хлопцам, хацела быць смелай, на іх падобнай, асабліва на Юзіка. Пайшла вучыцца, і мы пажаніліся. Юзіку не падабалася мая вучоба, занятасць, і ён часта смяяўся: «Ці не на маё месца меціш?» І вось... Жарт стаў явай.

«Не, Іван Яўхімавіч,— думала Ліда, вяртаючыся ў цэх,— разумнаму чалавеку ўсюды месца хопіць, а дурню — нідзе няма прытулку».

Яўхімавіч сустрэў яе ў кладовай строгім позіркам. Ён трымаў у руках кніжку, якую Ліда раніцой кінула ў стол, каб пачытаць у абед.

— Што гэта? — суровым голасам запытаў ён.

— «Гора ад розуму».

— Бачу, што «Гора ад розуму». Каб больш яе тут не было, а то на шматкі парву,— пастукаў ён пальцамі па кніжцы і кінуў на стол.

— Вы, як той Скалазуб, кніг не любіце?

— А хто гэта такі? Дзе ён працуе?

Дзверы захісталіся, скрыпнулі, заляпалі адламанай планкай. Пачуліся Барысавы крокі. Яўхімавіч змоўк і падазрона паглядаў то на Ліду, то на Барыса. А той, спакойна забаўляючыся адвёрткай, весела сказаў:

— Абсталяванне новае прыбыло, згружаюць.

Яўхімавіч неяк адразу спахмурнеў, вусны яго перасмыкнуліся, і ён зняможана апусціўся на скрыпучую Лідзіну табурэтку.

— Дык, кажаш, згружаюць? А я ж ім пісаў, што не трэба нам яшчэ цэлых дзесяць год. Нашто дарэмна траціць грошы?

Крыху супакоіўшыся, цяжкімі крокамі ён выйшаў з майстэрні. Паправіў каўнерык кашулі, шапку, састроіў прыемную ўсмешку на твары і шырока расчыніў дзверы ў кабінет Таццяны Мікалаеўны.

— Дык кажы, з чым прыйшоў,— узняла галаву Таццяна Мікалаеўна.

Ён ступіў цераз парог, паляпаў сябе па кішэнях, падаў ёй паперку.

— От, Танюша, дастаў пуцёвачку ў санаторый... Думаў сам паеду, але ж... пераабсталёўваемся.

— Не, Іван, нельга мне.

— Чаму?

— Усё таму ж. У цябе памочнік — Барыс, а ў мяне,— яна хвіліну памаўчала,— няма такога надзейнага, не выгадавала яшчэ.

— А на ліха, скажы, здалася табе гэтая пертурбацыя? Думаеш, дзе ўспомняць, у гісторыю запішуць? Думаеш, вельмі добра выкідваць старое абсталяванне? Яно ж грошы каштуе, нашы, дзяржаўныя, залатыя.

— Пра выдаткі не хвалюйся. Новае акупіць сябе, верне затраты.

— Баюся, што і мне і табе новае гэта галаву зверне. А ты за колькі год нават адпачынак не брала, сваё законнае нават для сябе не скарыстала.

— Позна ўжо мне жыць для сябе, няма ў мяне нічога свайго, сцёрлася неяк, прайшло міма.

— Чаму так? Юзік казаў, зноў хоча да цябе вярнуцца. Сумуе ён па табе, пуцёўку прасіў перадаць і маўчаць наказваў. А хіба выцерпіш, сябры вы мне абое. Ён і сам туды едзе адпачываць.

— Не паеду я. Чужы ён мне стаў. Не магу я так раптоўна перайначыцца да яго. Ідзі, Іван, мне няма калі. Ідзі.

Яўхімавіч выйшаў, злосны на сябе, на Таццяну Мікалаеўну, на Юзіка, на ўвесь свет.

— Вар'ятка! Усе планы парушыла.

Да Івана Яўхімавіча падбег Лёшка, усхваляваны, задыханы, радасны.

— Прабачце, пробны станок наровіцца: пырскае іскрамі, не ўключаецца.

— А што з ім?

— Ліха яго ведае, новы ж, не разбяруся.

— Скажы, хай Барыс паглядзіць.

— Няма яго, у камітэт камсамола выклікалі, там нешта тэрміновае.

— От жа ліха! Зараз іду...

Іван Яўхімавіч падаўся да тэлефона, пазваніў:

— Надзя, чуеш, аддавай той прыбор каму хочаш, няхай бяруць, цешацца. Мне ён ужо не трэба.

Паклаўшы трубку, ён узяў у рукі спісаны і складзены аркуш паперы, утаропіўся ў яго вачамі. Бровы насупіліся, твар спахмурнеў, ён увесь як бы намогся ў пошуках нейкай думкі. Але думка ўпарта не прыходзіла. Яўхімавіч паскроб сабе патыліцу і пайшоў у цэх да станкоў. Разлажыў на адным з іх чарцёж і доўга ўзіраўся то ў паперку, то ў плецiва рознакаляровых правадкоў. Хлопцы перасталі цягаць станкі ў цэх, і Лёшка нагнуўся над паперкай, што была ў руках Яўхімавіча.

— Слабыя мы, брат, з табою. Відаць, не адолеем...

— Чаму?

— Ты малады, не паспеў навучыцца, а я...

— Ды што вы, спраўляліся ж дагэтуль.

— То было дагэтуль. На даваеннай тэхніцы ехалі, а цяпер галаву трэба мець сучасную, каб справіцца.

Лёшка не чакаў ад майстра такога прызнання і на хвіліну разгубіўся, а потым загаварыў горача, у запале.

— Іван Яўхімавіч, хіба святыя гаршкі лепяць? Давайце падвучымся крыху ды дадзім Барысу ачка.

Іван Яўхімавіч паглядзеў на яго неяк збоку і, засмяяўшыся, зняў шапку:

— Бачыш, валасы паўцякалі з галавы, а ты хочаш, каб за навуку засеў.

— Ну і што ж, вучацца і старыя!..

— Нашто дзяржаву ўводзіць у растраты. Няхай лепш маладыя разумнеюць, а мне... брыдка ўжо, ад сына адстаў на многа.

Барыс нячутна падышоў, крануў абодвух за плечы.

— Кажыце, як справы?

— Мы тут з Лёшам вырашылі, каб ты застаўся за мяне, на маё месца.

— Нічога не разумею.

— Перадаю табе камандаванне, адмаўляюся ад пасады. Вырас ты пры мне і цяпер вядзі справу далей. А я адстаў, буду ўжо неяк дабываць век.

— Не спяшайцеся, глядзіце, каб не шкадавалі.

— А што шкадаваць... Патрачаны час трэба шкадаваць. Думаў, на ранейшых заслугах дажыць, аж, выходзіць, кожны дзень павінен быць заслугай.

— Не панікуйце, я зараз усё растлумачу, і ўсё будзе, як раней.

— Не! Не буду. Я ўсё зразумеў. Розум цяпер усяму галава. Уступаю дарогу розуму.

Хлопцы саромеліся глядзець адзін аднаму ў вочы: ім было няёмка за майстра. А Іван Яўхімавіч кінуў аркуш паперы на станок і цвёрдым крокам пайшоў прэч. У яго постаці адчувалася нейкая ўпэўненасць, рашучасць. Лёшка выставіў грудзі, высока ўзняў галаву, надзьмуў шчокі і нейкім, толькі яму вядомым чынам, стаў падобны да Івана Яўхімавіча. Хлопцы засмяяліся. Барыс паглядзеў на ўсіх і спакойным мяккім голасам дадаў:

— Не такі чалавек наш майстар, каб здацца без бою. Ён яшчэ пакажа сябе. Пабачыце!



**Вечаслаў АДАМЧЫК**

**Мастак**
**Мікола ЗАЛОЗНЫ**





# Маланка паліць жыта

**Апавяданне**

Быў шчыры свет, было маё дзяцінства. Было яно даўно — перамешанае вайною, радасцю і страхам. Быў Камараў кут. Ён быў нічый, гэты доўгі клін балота,— у мураве і дзяцеліне,— як была нічыя пабеленая знадворку хата з выдранымі вокнамі, з разабранаю падлогаю, закіданы каменнямі і ржавым жалезам калодзеж, старое раскрытае гумно; як быў нічый увесь гэты хутар на грудку пад высокаю ліпаю, што пахла мёдам і на якой была трухлявая калода без пчол. Гаспадара — старога адзінокага Камара — у цёплую ноч добрага лета нехта застрэліў, вывеўшы з хаты пад калодзеж. Казалі, што стары Камар быў некалі панам, быў злы, урэдны і зацкаваў сабакамі местачковага яўрэя, свайго арандатара; казалі, што ён прайграў у карты, разбазарыў сваю зямлю, і ад вялікага



маёнтка застаўся ціхі, недагледжаны хутар. Цяпер мы тут пасвілі каровы і лазілі на гарышча па нейкія старыя, запыленыя кнігі. Кнігі былі ў скураных вокладках, яны пахлі цвіллю і даўнасцю.

Іншы раз сюды, у Камараў кут, прыганялі мяшчане: цыбатыя, у кароткіх майтках і ў жоўтых бліщчастых касках, накрадзеных, пэўна, у местачковай пажарнай. Мы з імі біліся і адбіралі залатыя каскі.

З Камаравага кута мы хадзілі ў зялёныя местачковыя гароды рваць моркву і ламаць сырое тытунёвае лісце. Высушыўшы над агнём лісце, мы курылі, аж у вачах жаўцеў свет. Вадзіў нас туды Ясь Хрышчоны, за вочы — Семафор, доўгі, няскладны, з доўгімі худымі рукамі, за ўсіх нас старэйшы. Кавалер, як сарамацілі яго мацяркі, калі ён біў каго з нас, ужо прыгнаўшы з поля, павесіць пугу і пойдзе ў сваты, а ён усё да малых раўняецца.

Хадзілі мы туды, покуль з жоўтага сланечніку, з разоры не выскачыў крываногі кудлаты хлопец год васемнаццаці,— камендантаў сын, як потым дазналіся,— і покуль не злавіў самага меншага з нас, Лёніка. Нядужы, перапалоханы Лёнік, зачапіўшыся за купіну, упаў, і яго, дабегшы, без жалю, не шкадуючы, як старога, мясіў нагамі камендантаў сын. Лёнік потым недамагаў, кашляў, а мы ўжо бегалі на далёкія хутары аблатошваць чужыя няспелыя сады. Толькі адзін Язэпаў Казік пільнаваўся сваіх кароў і не хадзіў нікуды. Ён меў нешта сталае, дарослае і трымаўся ад нас неяк воддаль і болей на адзіноце. Быў ён рослы, тонкі і нейкі зеленаваты, хваравіты з твару, але прыгожы. Нехта, мусіць старэйшы, казаў, што была дзеўка, ды певень запеў, як радзілася.

Іншы раз, хаваючыся ад нашых вачэй, Казік сядзеў з Гэлькаю. Гэлька — сірата-бежанка — служыла ў бяздзетнага багатыра Пініпа. І Піліп казаў, што ўзяў яе за дачку,— гэта перад людзьмі,— а за вочы біў і ноччу выпраўляў жаць чужую асаку для кароў і коней. Гэлька расказвала нам пра гэта і плакала.

Яна ўжо бралася на дзеўку: пад выцвілаю кофтаю ў яе значыліся маладыя вострыя грудзі, а ў мочках распухалі праколатыя для завушніц дзірачкі. І калі дзе незнарок Казік заседжваўся з Гэлькаю, мы ўсе смяяліся і казалі, што яны любяцца.

А злы, нядобры Семафор невядома чаму заступаўся за Гэльку і, калі не было Казіка, цішком хадзіў разам з ёю, і мы заўважалі, што ён рабіўся нейкі сур'ёзны і нават дабрэў з намі.

Але скора пра гэта Гэльчына каханне даведаўся Піліп, збіў Гэльку, а яго старая Тэкля хадзіла сварыцца да Казікавага бацькі і крычала на ўсю вуліцу: «А што будзе, калі яна прынясе ў прыполе. Ведама ж, сірата, хто яе пашкадуе?»

Гэлька болей не прыганяла ў Камараў кут. Цяпер яна пасвіла на Піліпавым полі — і мы бачылі, як кожны дзень яна выходзіла на грудок, сумна пазірала сюды, дзе былі мы, дзе быў Казік, і сумна спявала. Аднаго разу Казік не вытрымаў, папрасіўся, каб я папільнаваў яго каровы і пайшоў на Піліпава поле.

Ды гэта Казікава каханне было скупое, нядоўгае. Раптоўна яно пачалося, раптоўна і абарвалася. Язэп забіў у хаце вокны, скінуў нажытак на воз і пераехаў у мястэчка, мусіць, хацеў усцерагчы сваіх сыноў: старэйшы яго Бронік служыў у паліцыі.

На свеце ішла вайна. Кожнае ночы з мястэчка, з нямецкага бункера, з глухое цішыні цяжка стукаў кулямёт. Цяпер ужо ў вёсцы спалі на падлозе і застаўляліся падушкамі — казалі, што кулі не праходзяць праз пер'е. Аднае ночы ў мястэчку нешта гарэла, а па



нашай вуліцы ехалі конна партызаны — коні цяжка гукалі капытамі па пяску. Маці, босая, у сарочцы, сядзела каля акна, лічыла іх і ўсё нямоцна, баючыся, каб не пачулі на вуліцы, будзіла бацьку: «Спіш, каб ты ніколі не ўстаў, вунь усё мястэчка згарэла».

Раніцаю з мястэчка горка і ўдушліва пахла нечым паленым, а на вуліцы перад нашым акном стаяла машына, поўная паліцыянтаў — у чорных шынялях з шэрымі каўнярамі, з шэрымі закарвашамі. Паліцыянты саскоквалі з кузава, смешна распускаючы шынялі і прысядаючы, як бабы, і беглі ў другі канец вёскі, пэўна, да старасты.

Я яшчэ хацеў наказаць Семафоравым,— яны жылі блізка, праз тры хаты,— але было позна: ужо на падворку плакала Семафорава маці, моцна, як па нябожчыку, ужо сюды гналі Семафора, перапалоханага, з чырвонымі рубцамі на шчацэ, гналі яго бацьку, без шапкі, у кажусе, у споднiх портках, і невядома чаму Дзям'яна-старасту, усяго акрываўленага, з расквашаным носам. Дзям'ян усё бажыўся і круціў галавою, што, дальбог, не ведае, хто памагаў партызанам рэзаць слупы. З носа ў яго капала кроў і цёмна застывала на пяску.

У той дзень з нашае вёскі забралі сямёра мужчын, і ўсе казалі, што іх павязуць у Нямеччыну і што разам з імі павязуць Семафора.

Спадала лета, ішоў ранні верасень. За Камаравым кутом на далёкіх, сівых ад асакі балотах збіраліся буслы, сумна клекаталі і на трэці дзень падняліся, доўга кружыліся, доўга набіралі вышыню, назаўсёды прападаючы з вачэй. Толькі шпакі цёмным косым крылом мільгалі на сінім небе, недзе спадаючы за грудком на поле. Ля дарогі на каленях стаялі бабы, рвалі грэчку, стаўлялі ў кучкі.

Аднаго дня тае ціхае ранняе восені ў вёску прыйшла высокая пані, у чорным капялюшыку з вуалькаю на вочы, з чорным сакваяжыкам у руцэ, з напудраным носам, і стала хадзіць па хатах, запісваючы дзяцей у школу.

У школу пайшлі толькі мы з Лёнікам.

Абое падстрыжаныя пад нажніцы ў рады, абое босыя, абое ў зрэбных портках, што ламаліся і трашчалі, як бляха, мы селі за першую лаўку, з дзівам і страхам чакаючы настаўніцы, а на нас,



сабраўшыся, глядзелі далікатна прыбраныя, прычасаныя і прыгожыя, як анёлы, местачковыя дзеці.

— А во! Пaглядзіце, яго падстрыглі, як авечку,— нехта з іх стаў смяяцца і паказваць на Лёніка пальцам, і сталі смяяцца і паказваць на Лёніка пальцамі ўсе. А Лёнік, напалоханы, натапыраны, як верабей у жмені, нечакана стаў адбівацца і нечакана здаў чубатаму хлопчыку кулаком па воку. Хлопчык з енкам адскочыў ад Лёніка. У клас прыбегла настаўніца, насцярожаная, перапалохана апусціўшы рукі, і я пазнаў тую самую пані з напудраным носам, што прыходзіла да нас у вёску. Яна стала охкаць і крычаць на Лёніка і на таго чубатага хлопчыка. А калі крычала, вочы ў яе заплюшчваліся, а ў роце блішчаў залаты зуб. Яна схапіла іх абаіх за вушы — са злосцю, аж паднімаючы ад падлогі — і павяла ў канцылярыю.

У клас Лёнік вярнуўся злы, насуплены і сказаў мне, што не пойдзе ў школу.

Але потым яна была добрая — грамадзянка настаўніца — шчырая з намі; нават прыгажэла, асабліва тады, калі прыходзіла на ўрок спеваў, калі садзілася за раяль, што стаяў у нас у класе і чорна блішчаў мяккім празрыстым лакам, пацiху апускала лёгкія рукі на касцяныя белыя клавішы, пацiху іграла і пацiху зачынала самотным, адзінокім голасам:

Люблю наш край,
Старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз спазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.

Ціха, задумаўшыся пра нешта сваё, далёкае, памагалі і мы. Вочы настаўніцы вільготна блішчалі, вусны дрыжалі і крывіліся не то ад затоенай прыхаванай радасці, не то ад прыглушанай крыўды і плачу. І, мусіць, тады яна нічога не помніла, не бачыла. Не бачыла, як аднаго разу ў клас зайшоў кіраўнік школы, нізенькі, даўганосы. Зайшоў без стуку, не зачыніўшы за сабою дзверы.

Мы ўсе, засаромеўшыся, разгубіўшыся, сціхлі, настаўніца апамнілася, падняла вочы і ўбачыла дырэктара школы, убачыла высокага немца ў кароткіх белых ботах з шырокімі халяўкамі — ён ужо стаяў у парозе, моўчкі кусаючы ногці — і, падхапіўшыся, насцярожана спыталася, што тут робіцца.

— Нічога, нічога...— замахаў кароткімі рукамі дырэктар.— Мы толькі забяром раяль...

Немец пастараніўся, і ў клас зайшлі грузчыкі, сагнуўшыся, цяжка апусціўшы доўгія рукі. З імі зайшоў Казік і, хаваючыся ў немца за спіною, стаў падміргваць нам з Лёнікам адным вокам і смяяцца.

Немец паказаў галавою на раяль — грузчыкі дружна ўзяліся, натужваючыся, чырванеючы і абіваючы ля дзвярэй сцяну, вынеслі яго з класа.

Настаўніца падышла да акна і, нахіліўшыся, доўга глядзела на двор,— там нехта крычаў, задыхаючыся ад натугі: «Раз-два — узялі! Яшчэ раз!», мусіць, паднімаючы раяль на машыну,— і плакала.

Гэта быў апошні наш урок спеваў і апошні дзень заняткаў у гэтай школе.

Назаўтра нас павялі ў пустую яўрэйскую хату, што стаяла на другі бок вуліцы, з вузенькім калі-



дорчыкам, з кафельнымі грубкамі без дзверцаў, з аблупленымі шпалерамі на сценах, дзе мы ўжо вучыліся цэлую зіму, на кожнай перамены выбягаючы паглядзець на рахманую сарну. Сарну гадавалі немцы, што стаялі ў нашай старой школе — і там было цяпер усё чыста і дагледжана: расчышчаныя ад снегу сцежкі і высыпаныя жоўтым пяском, пафарбаваны нанава плот, пабеленая прыбіральня і калодзеж, толькі будынак школы быў стракаты, у зялёных плямах. Каля варот стаяла паласатая будка, і там усё хадзіў немец у доўгім белым кажусе, у плеценых саламяных чунях на ботах. Ён гаварыў па-польску, смеючыся, паказваў на мае і Лёнікавы лапці, клікаў некага фатаграфаваць нас.

На згоне зімы, калі раскіс і раздражджэў снег на дарогах, калі ў канавах пасталі лужыны, вялікія, як мора, з вялікімі хвалямі ад ветру, з шапкамі жоўтай пены пры беразе, калі на сухія чорныя пагоркі прыляцелі гракі,— яны выдзёўбвалі з зямлі кароткіх белых чарвякоў, глыталі, давячыся, і потым крычалі на ўсё горла ад радасці,— у мястэчка невядома адкуль набралася казакаў. На казаках былі кубанкі з зялёным верхам, з белымі стужкамі накрыж, з блішчастымі какардамі і шырокія чорныя буркі з высокімі вострымі плечукамі — здалёк казакі былі чорныя і страшныя, як чэрці.

Іх нагналі ў нашу вёску — па пяць, па шэсць чалавек у хату. У нас спачатку на зямлі, на саломе, а потым на палку, што зрабіў бацька, спала аж сем. У Лёніка на пастоі быў адзін — чаркес з чырвоным башлыком за плячыма, з чорнымі калодачкамі на грудзях, з кароткім кінжалам пры боку.

Раз на свята на вуліцы чаркес танцаваў з кінжалам у зубах, і глядзець на гэтае дзіва бегала цэлая вёска.

Вычысціўшы коней і падмазаўшы калёсы, казакі ездзілі недзе пад Наваградак у цёмныя далёкія лясы на аблаву і вярталіся адтуль з поўнымі вазамі сена для сваіх коней і п'яныя. Дома яшчэ пілі, спявалі песні, свае, тонка падсвістваючы і падцягваючы. А дробненькі, вусаты Пятро, што ўсё шкадаваў мяне, што ўсё казаў, што і ў яго гэтакі сынок расце, частуючы мяне застылым мармеладам без хлеба, калі быў цвярозы, пад п'яную руку дурэў: зрываў са сцяны вінтоўку, бег на вуліцу і, не цэлячыся, страляў у нашую бярэзіну. Па разу даваў страляць усім нам, а потым браў вінтоўку, хістаючыся, ішоў у хату, але на парозе спыняўся і, жмурачы вочы, пытаў:

— А партизаны у вас есть?

— Няма,— круціў хто-небудзь з нас галавою.

— Вы все здесь партизаны, сучьи дети, всех вас...— і трос вінтоўкаю.

Мы ўсе разбягаліся,— казакаў баяліся ўсе, а мая маці вучыла мяне:

— Глядзі, не падсунь галавы,— сёння ж ні на кога ўправы не знойдзеш.

І калі аднаго дня Лёнік прыйшоў да нас клікаць мяне ў школу, маці расплакалася і сказала:

— Куды ж вы, дзеткі, пойдзеце, гэтакая валтузня на свеце...

І мы не пайшлі.

У вялікі пост, на вербніцу, казакі спраўлялі вяселле. Замуж ішла Піліпава наймічка Гэлька, ішла за кульгавага з вялікім рубцом на галаве Цярэню, што стаяў у нас і ў нашым гумне вырабляў шкуры на гужы і сёдлы, і ад яго заўсёды пахла моцным дзёгцем. Вяселле



было тры дні і тры ночы і было б болей, каб п'яны Пятро не застрэліў старога хворага на тыф Сцяпана, што сярод ночы з гарачкі, схапіўшыся з пасцелі, выбег на вуліцу, каб нехта не наказаў сотніку ў мястэчка і той не разагнаў вяселле.

Вяселле разышлося, а кульгавы Цярэня, хістаючыся і цяляпаючы п'янаю галавою, пад руку вёў да нас Гэльку, а ззаду іх ішоў гарманіст і дробна перабіраў вясёлы марш.

Гэлька прыйшла ў нашу хату, як у сваю, поўнаю гаспадыняю, і была разбітная, і праворная і, нікога не саромеючыся, абнімала Цярэню.

Цяпер на Гэльцы была не тая плацянковая спадніца, зношаная, рэдзенькая, што ўся свяцілася, у якой яна ганяла ў поле, а новая паркалёвая сукенка ў вялікія чырвоныя кветкі, якую ёй прывёз недзе з аблавы Пятро і якая не сыходзілася на ёй, але ўсё ж харашыла Гэльку. Яна ўсё прычэсвалася, глядзелася ў люстэрка і, калі Цярэня ішоў у гумно вырабляць шкуры і калі да яе падыходзіў Пятро, клаў руку ёй на плячо, нешта скоранька шаптаў, яна заходзілася ад рогату, закідаючы назад галаву.

А раз яе Цярэня біў, зашчапіўшыся ў гумне, і, пэўна, забіў бы, каб не збегліся казакі, не сарвалі дзверы, не абаранілі. Гэлька пасля гэтага стала нейкай прыціхлаю, усё нешта думала пра сваё і ўсё болей маўчала. А Цярэня прыходзіў дадому п'яны, плакаў і рваў на сабе кашулю. Мы ўсе сыходзілі з хаты, а Гэлька ўсё недзе хавалася ў стопцы. А раз ён паехаў на аблаву на партызан, і Гэлька чакала яго, седзячы пры акне, і глядзела на двор — а на двары было хораша, было цёплае, чыстае неба, быў май, было светла, зелена, у нашым гародчыку цвіў бэз, недзе за ліштвою шчабяталі, вывеўшыся, нядужыя вераб'і, на плоце сядзеў мяккі шэры кот, не мігаючы, глядзеў угору. Гэльцы, мусіць, успаміналася Казік, і яна раз пыталася пра яго, закрываючыся фіранкаю, пэўна, каб я не бачыў, што яна плача.

З аблавы казакі не вярнуліся — у Камаравым куце мяшчанскія пастухі гаварылі, што скора прыйдуць нашы.

У мястэчку немцы нешта падрывалі, у нашай хаце звінелі і калаліся шыбы, са столі адлушчваўся і падаў мел. Дзень пры дні з Наваградка ішлі машыны з завешанымі будамі, блізенька адна за адною — ім не было канца. З шашы на наш гарод за хату мякка каціўся белымі клубкамі пыл, блытаўся ў густым частаколе, едка асядаючы на крапіву і лопух. Стаяла на пагодзе. Млелі і купаліся ў гарачым пяску куры. На нашай бярэзіне, на белых павуцінах гайдаліся залёныя чарвякі, абрываліся, нячутна падалі на траву.

Млелі паліцыянты ад гарачыні, іх гналі купкамі недзе ў Наваградак выезджанаю дарогаю з боку шашы,— там быў гразкі пясок, ён сцякаў з колаў, як вада, калі ехала фурманка,— і паліцыянты ўсё садзіліся на нашым узмежку, разуваліся, высыпалі пясок з чаравікаў і ішлі далей, пазнімаўшы з галавы і пазатыкаўшы за рамяні чорныя пілоткі. А адзін невядома чаго ўсё аглядваўся на нашу хату — я стаяў у гародчыку — і раптам, убачыўшы мяне, спыніўся, замахаў рукою, і я пазнаў Язэпавага Казіка. Паліцыянты пайшлі, а Казік ўсё стаяў, пакуль нехта з іх, пэўна, самы старшы, не крыкнуў на яго. Казік плячом падтрос вінтоўку, рукою адвёў прыклад далей за спіну і, не спяшаючыся, пабег даганяць паліцыянтаў. За вёскаю, за крыжам, яшчэ раз агледзеўся. Ён, мусіць, не хацеў, ён, мусіць, ведаў, што яго гоняць туды, дзе, як цяжкі і моцны гром, варочалася вайна.

Праз Камараў кут наўпрасткі праз жыта ў мястэчка беглі бабы ў доўгіх шырокіх спадніцах, у белых кофтах, распусціўшы валасы, без хустак і неслі назад хто што: аконныя рамы, мяшкі, лапаткі з кароткімі чаранкамі, вялікія блішчастыя банкі — гэта, казалі, з маргарынам.

У мястэчка пайшлі і мы. Там ужо не было немцаў. На вакзале ўвесь перон быў засыпаны раструшчаным шклом і навушнікамі, якія, мусіць, надзявалі немцы, каб не аглухнуць, калі падрывалі вадакачку — цяпер там ляжалі адна на адной цэментаваныя груды з голымі пакручанымі прэнтамі, вялікія, як валуны. У вакзале, у пустой і голай пачакальні, дзе мы збіралі раскіданыя ружовыя білеты і нейкія квіткі з сінімі палоскамі наўскасяк, я ўбачыў раяль, той самы, з нашай школы, цяпер ужо з адламаным вечкам, з выбітымі клавішамі, а нехта, нябрыты, рыжы, з пераламаным брылём у шапцы, хадзіў па ім з нагамі і выкручваў у акне блішчастыя прабоі і зашчапіцы.

У Камараў кут мы неслі поўныя кішэні патронаў і цэлыя звязкі ружовых білетаў і гаварылі, што скора будуць баі, і радаваліся.

Назаўтра раненька, выганяючы ў поле, мы ўбачылі, як у мястэчка канаваю ля шашы пабег, прыгнуўшыся, немец без шапкі, мільгаючы босымі нагамі, не аглядваючыся, убачылі, як па жыце каля грудкоў беглі нашы салдаты адзін за адным. З рэдкага хвойніку выехалі дзве машыны, нешта пацягнуўшы за сабою на грудкі, пэўна — гарматы, і потым адтуль выстралілі — нізка на балотах у алешніку двойчы адгукнулася рэха: нешта, як жывое, зашыпеўшы, паляцела над вёскаю ў мястэчка, і там бухнула — усяго адзін раз. У мястэчку штосьці загарэлася, паваліў чорны дым, а потым заскакала ўгору чырвонае полымя. З хатаў выбеглі і сталі цікаваць бабы, не высоўваючыся з-за платоў, каб не застрэліла. З нашае хаты выбегла Гэлька і, падступаючыся на пальчыкі, стала глядзець туды, дзе жытам беглі чырвонаармейцы, і стала крычаць: «Нашы ідуць, нашы ідуць!» А мы цэлаю плоймаю паляцелі ў канец вёскі — там паказаўся коннік, мусіць, першы разведчык.

На другі дзень у вёсцы было поўна войска. У нас за гумном на картаплянішчы стаялі прыхаваныя наламаным алешнікам гарматы.

На другі дзень праз вёску, упрогшыся ў перадок, Язэп вёз Казіка — ужо нежывога, з запечанай ранаю вышэй брыва. Казік ляжаў на шырокіх лошках, прыбітых да перадка, абыякава адкінуўшы галаву і звесіўшы рукі, босы, ва ўсім споднім, і на вуліцу да Язэпа з усяго нашага канца ціхенька збягаліся бабы. Яны шморгалі насамі і ўсё нагіналіся да фартухоў і падолаў. А Язэп стаяў неяк перад усімі вінаваты, неяк усё адварочваючыся, каб не глядзець на Казіка. З-пад шапкі бруднымі рагамі яму на вочы цёк пот. Ён выціраў яго рукою, неяк пачынаючы ад локця. І гаварыў: — губы яго крывіліся і дрыжалі:

— Вунь каля Навасадаў... Ішоў хлопец дадому...

Толькі адна Гэлька не бегала глядзець Казіка, яна сядзела ў нас у хаце і глядзела праз акно, як разыходзіліся і плакалі бабы. Мая маці, вярнуўшыся, усё наракала на яе: «Гэта ж грэх, каб нябожчыка не паглядзець».

— Няхай, цётачка, я ўсё буду думаць, што ён жывы...— Гэлька ўсхліпнула і, закрыўшыся рукамі, выбегла з хаты недзе ў сенцы і там плакала. І плакаў я, неяк па-свойму шкадуючы Гэльку.

Назаўтра яна пайшла да Піліпа, мусіць, не чакаючы Цярэню.

На трэці дзень шашою недзе ў бок Наваградка нашы салдаты — можа адзін на сто — гналі палонных немцаў. Канчалася вайна — мы пляскалі на каменнях чорныя нямецкія крыжы і прыколвалі да шапак выразаныя з жоўтых кансервавых бляшанак зоркі. Я насіў вялікую, зашытую з аднаго канца, каб не звальвалася з галавы, вылінялую на сонцы пілотку.

Канчалася вайна — канчалася маё дзяцінства. Як даўно... Трывожны і далёкі яго свет. І блізкі...

Я прыходжу ў той свет: там жыве яшчэ першае Гэльчына каханне, там жывуць мае равеснікі, там жывуць тыя, каго сёння няма на гэтай зямлі. Я прыходжу ў той свет, каб вярнуць сваё дзяцінства без дыму вайны і стрэлаў, сіняе і мяккае, як паветра ў ціхі вечар.





Міхась ТЫЧЫНА



# У касцёле

Званы, вядома, павінны званіць,
капейкі, канечне, звінець.
А людзі?.. Людзі — можа, падаць ніц
перад Ісусам?
Не.
А яны на каленях.

Які іх прыгнаў сюды вецер?
Можа гора?
А мо спавядацца прыйшлі ў грахах?
Дзяўчына,
а ты?
Азірнулася: вось усміхнецца...
Не ўсмешка —
а цень спрадвечнай цемры ў вачах

А ксёндза
(плеш яго, як патэльня,—
падмазаў
і аладкі пячы
ці яечню смаж)
адным вокам — на бога,
другім жа — так ласа
на дзяўчыну.
«Го-оспадзі на-а-аш!»

Відаць па ўсім,
у яго «музыкальнае» вуха:
як капейкі звіняць,
насцярожана слухае,
бы фальшывую ноту
хоча ўлавіць —
мо манета
чаканкі старой зазвініць.

Я выходжу.
На лесвіцы бачу:
старэнькая
жанчына,
забыўшы пра святасць,
лае кагось:
нехта расшчодрыўся —
кінуў ёй гузік у жменьку.
«Каб цябе кідала так
на пагост!»

Я са змроку на вуліцу вынесся.
Сонца сляпіць.
Бачу:
купал касцёла, крыжы...
І купал бязмежна
блакітнага неба,
пад якім
так хораша жыць!

# Начныя патрулі



Горад спіць. Цішыня на граніцы.
Я іду... Мне насустрач патруль міліцыі...

Зноў патруль мне насустрач... Двое...
Не, не міліцыя... Ён і яна.

Зразумела без слоў усё ноччу такою.
Мяне ж думка хвалюе адна:
яшчэ многа начэй
патрулі будуць цокаць па бруку...
Але знікнуць граніцы,
знікне слова «вайна» —
будзе жыць у спакоі горад над Бугам.
І адзіны патруль не засне давідна:
ён і яна.

★

Ранне босыя ногі раніла
рос халодным агнём.
Поўдзень босыя ногі
пёк гарачым пяском.
А яны ўсё ішлі.
А яны ўсё ішлі.
Вось
жаданы
адпачынак у прыцемку хвой:
іх — на сонца,
у цень — фашыстаў канвой.
І ўсё ж рады былі
адпачынку
на гарачай, на роднай зямлі.
І дзяліліся хлеба счарсцвелага
крошкай апошняю,
і акуркам дзяліліся —
на паўзацяжкі на кожнага.

Зноў прыкладамі іх зганялі ў калону.
Абпякаючы губы,
дакурваў палонны.
— Суха ў лесе...
Можа ўспыхнуць пажар,—
ён сказаў,
пapляваў на акурак,
кінуў
і добра яго прытаптаў.
У Нямеччыну іх пад канвоем вялі
па гарачай, па роднай, па любай зямлі.

★

Колькі раз я збягаў па лесвіцы
з надзеяй — убачыць цябе.
Сэрца ў грудзях, як шпачок у далонях,
песціцца,
тонкай дзюбкай у грудзі дзяўбе.

Сэрцу трэба каханне шчырае.
Сэрцу трэба пяшчота.
Вось таму і ўспыхваюць чырванню,
як сустрэну цябе,
мае шчокі,
вось таму і бягу я па лесвіцы,
вось таму і хаджу у журбе,
што пачуцці у сэрцы не месцяцца,
што кахаю цябе.

# Зіма

Прачнуся —
і адразу да акна
з адзінаю надзеяй —
снег убачыць.
Чамусьці запазняецца зіма аднак.
На нейкай станцыі
ссадзілі безбілетную няйначай.
А мо прыелася ёй кожны год
з'яўляцца ў час,
калі яе усе чакаюць,
нудоту выслухоўваць віншавальных од?..
Ці проста мо зіма жадае
спазніцца,
як на лекцыю студэнт,
а каб пазбегнуць нейк спагнання
і ўсе сумненні нашы
распыліць ушчэнт,
даведку прад'явіць —
па белым снезе
першыя сляды уранні.



Сяргей ГРАХОЎСКІ

Мастак
Юры АРХІПАЎ

# Засвеціцца акно

Апавяданне

— Дурны ж ты, Іван, дурны! Праўду кажуць, калі бог захоча каго пакараць, дык адніме розум.

— Слухай, не ка́пай! Без цябе моташна! А стараешся дарэмна — не адгаворыш. Дабранач. Сплю!

Іван павярнуўся да сцяны, падклаў пад шчаку правую руку і заплюшчыў вочы.

Валянцін ведаў, што ён не спіць і доўга яшчэ не засне. Калі ж з ім пагаварыць, як не цяпер, пакуль няма хлопцаў? Трэба ж дурня засцерагчы ад бяды.

— Так я табе і паверу, што спіш. Я, брат, каторую ноч чую, як ледзь не да раніцы круцішся і ўздыхаеш. Учарнеў, як галавешка. А чым ты паможаш? Ну, злітуешся, возьмеш калеку і будзеш цацкацца з ёю ўсё жыццё. Зноў паказуха: глядзіце, які я добранькі, чулы, уважлівы. Гаварыце пра мяне, пішыце заметкі, бярыце з дурня прыклад! Ты толькі падумай. Ну, ажэнішся, пойдуць дзеці, а потым працверазееш, дойдзе, што ўляпаўся, як пацук у саладуху. І будзеш павадыром і папіхачом усё жыццё. Я цябе ведаю, ты, як той чумак, якому «гіркоісты і шкода кінуты».

— Хопіць мяне тупым рашпілем пілаваць! — ускапіўся Іван. Ён сеў на ложку, падкурчыў калені ледзь не да падбародка. Пашукаў запалкі ў кішэнях рабочых штаноў, што віселі на спінцы ложка, узяў на тумбачцы папяросу і закурыў. Валянцін бачыў, як у яго руцэ дрыжыць агеньчык, як над сківіцамі, нібы яблыкі, перакочваюцца жаўлакі і гараць чорныя цыганскія вочы.— Ты па-праўднаму каго-небудзь кахаў? Так, каб жыць не мог, каб без яе не было чым дыхаць? Каб лепшых не бачыў на свеце? Маўчыш? Значыць, не.

— Ты, Рамео, не тлумі мне і сабе галаву. Ты ж ведаеш, што ў Беларусі жанчын на пяць з палавою працэнтаў больш за мужчын. Вось і выбірай. А за такім красюком, як ты, толькі кіўні, любая пабяжыць.

— Ну і цынік жа ты, Валька. Пра дзяўчат гаворыш, нібыта коньмі гандлюеш. Працэнты падлічыў!.. Ды ты ведаеш, што Галя — адна на ўсім свеце, і больш для мяне нікога няма. Адна! Разумееш, адна!

— Кінь, ідэаліст! Ты ж не ў сваім маёнтку жывеш. Ці можа пакаёвак і служанак наймаць для яе збіраешся? Нашаму брату трэба жонка, каб і памыла, і зварыла, і па магазінах пабегала.

— Табе, відаць, не жонка, а дармовая хатняя работніца патрэбна? Каб і працавала, і абед табе гатавала, і кашулі мыла, і спала ў цябе пад бокам?



Яны яшчэ раз закурылі з Іванавага пачка. Валянцін, высокі, нават крыху тлуставаты, бялявы хлопец, у сіняй з белымі палоскамі тэнісцы, хадзіў па пакоі. Іван сядзеў на ложку, камечыў у зубах папяросу і пазіраў на Валянціна. Яны разам раслі ў ціхім прынёманскім сяле, разам хадзілі ў школу, а на выпускным вечары пакляліся не разлучацца, пакуль іх не развядзе лёс. Нават нейкаю далёкаю раднёю яны даводзіліся адзін аднаму. Вось таму, мабыць, Валянцін і стараўся быць апекуном свайго школьнага таварыша. Ён успомніў,

як, развітваючыся за аселіцай, Іванава маці прасіла яго: «Ты ж ужо глядзі, Валечка, каб мой ветрагон там не нарабіў чаго. Хлопец ты самастаяцельны, дык, калі што, ушчувай яго».

Валянцін ведаў, што яго логіка жалезная, простая і пераканаўчая. І як толькі гэтага не разумее Іван? Яму ж яшчэ вучыцца трэба, а ён, як той цецярук, заладзіў і дзяўбе сваё: «ажанюся і ажанюся». Праўда, да гэтага няшчасця ён маўчаў. А цяпер, як скруціўся. Ні раніцай, ні ноччу не адыходзіць ад бальніцы, гатоў наняцца ў санітары.

Валянціну ўспомніўся гарачы чэрвеньскі дзень. Над дарогамі вісеў густы руды пыл. Ішлі самазвалы з цэглаю і растворам. Валянцін з хлопцамі залівалі гарачым бітумам перакрыцці новай школы. Галя працавала ў іх брыгадзе матарысткаю на пад'ёмніку. Націсне кнопку — і пад'ёмнік пайшоў угару, другую — пад'ёмнік ляціць уніз. Вось і ўся работа.

Вясёлая, светлая, зграбная, Галя жартавала аднолькава з усімі, кожнаму ўсміхалася добрымі вачыма, а на сонцы пабліскалі яе белыя, як часнок, зубы. Калі Галя смяялася, на яе тугіх, смуглявых шчоках паяўляліся ямачкі, ад крыўды паміж бровамі збіралася маршчынка. Матарыстка заўсёды была ў сініх спартыўных шараварах, у мяккіх тапачках і ў беленькай або ў паласатай кофтачцы.

Самыя языкатыя нахабнікі пры Галіне чырванелі і прыкусвалі язык. А яе шчокі заліваліся чырванню толькі тады, калі ў іх брыгаду забягаў Іван. Усе ведалі, што Галі падабаецца гэты чарнявы кранаўшчык і здагадваліся, чаму так часта ён прыбягае нібы да Валянціна, а, злазячы з рыштавання, спыняецца каля Галіны і стаіць, аж пакуль яго не паклічуць. Увечары іх бачылі разам у кіно, а потым яны доўга блукалі над блакітнаю ад туману і месячнага святла Дзвіною.

Валька часам пасмейваўся з свайго сябра, называў яго «жанацікам», а Іван і слухаць не хацеў. Апраўдваўся, што Галя вельмі разумная і начытаная дзяўчына, што з ёю прыемна і цікава гаварыць.

І трэба ж было, каб іменна ў Галіну змену, як вялізны факел, успыхнуў бітум, калі ён у каўшы па пад'ёмніку поўз на чацвёрты паверх. На даху толькі што паставілі сухія кроквы... Калі б гэты «факел» з чорнаю грываю дыму дайшоў да верху, зашугалі б кроквы і дошкі, складзеныя на гарышчы школы... Галя падскочыла да шчытка, націснула кнопку, і вялізны дымны факел памчаўся ўніз. Яна ўхапіла на лапату пяску і, як толькі палаючы коўш параўняўся з ёю, шуснула ў яго пясок. Хлопцы наверсе пачулі страшэнны крык. Галя знікла ў воблаку чорнага дыму. Потым, енчачы, папаўзла па зямлі, закіданай трэскамі і абломкамі цэглы. На дзяўчыне гарэла адзежа.

Калі Валянцін злез з рыштаванняў, непрытомную Галю чацвёра хлопцаў ужо неслі ў бальніцу. Казалі, што з каўша бітум плескануўся ёй на нагу, успыхнула вопратка. Ці будзе яна хадзіць, яшчэ ніхто не ведаў.

Вось тады і скруціўся Іван. На досвітку ўжо ляціць у канец пасёлка, туды, дзе ў сасонніку падняліся белыя карпусы бальнічнага гарадка. Спачатку яго не пускалі і блізка. Дык ён што надумаўся: яшчэ да ўсходу сонца прыцягнуў заляпаную растворам і вапнаю драбіну, падставіў яе да другога паверха, якраз насупраць акна Галінай палаты, і палез. Ён усадзіў галаву ў адчыненую фортку і



ціха паклікаў Галю. Яна ўбачыла яго і ўзрадавалася, і спалохалася: глядзіць і не разумее, як ён дапяў пад акно другога паверха.

Пасля казалі, што з гэтага дня яна пайшла на папраўку, пачала ўсміхацца, зрабілася гаваркая, а на досвітку не спала і ўсё пазірала на акно.

* * *

На Галінай тумбачцы заўсёды стаялі прыгожыя нарцысы. Галя хацела ўспомніць, дзе маглі б расці такія. Дзе ён толькі іх дастае? А раніцаю на тумбачцы стаяў букет белых палявых рамонкаў з вялікімі жоўтымі вочкамі і сінія-сінія васількі. На іх яшчэ дрыжалі дробныя расінкі, кветкі пахлі раніцай, полем і цёплым чэрвеньскім ветрам. «Гэта ён сам...— падумала Галя.— Пакуль я спала, ён хадзіў па полі, збіраў гэты букет і думаў пра мяне. А можа гэта ён таму, што шкадуе мяне. Навошта я яму цяпер? Можа кульгаваю застануся на ўсё жыццё. Урачы ж вельмі няпэўна супакойваюць. Вось, мабыць, і Ваня суцяшае сваімі букетамі. А як выйду з бальніцы, не буду нікому патрэбна. Мыліца, кіёк, і... пачыкільгала шукаць лёгкую работу. Бедная мама, як яна ўсё гэта перанясе? Вось пішу ёй «жывая, здаровая», а сама плачу, не ад болю і крыўды, а ад сораму, што першы раз у жыцці хлушу сваёй добрай, ласкавай маме. Як яна мяне не пускала сюды, як упрошвала, як угаворвала! А праводзячы, прасіла: «Сцеражыся, дачушка. Машын жа ўсякіх там процьма. Ведаю, што сама глупства не наробіш і ў крыўду сябе не дасі, а машына, яна ні на кога не зважае!»

Галя глядзела на рамонкі і зноў думала пра Івана. Суседкі па палаце зайздросцілі ёй. А яна пыталася ў сябе: «Чым гэта можа кончыцца? Вяселлем ці развітаннем назаўсёды? Ат, чым бы не кончылася, абы ён прыходзіў, абы толькі ведаць, што ён недзе тут, побач, тупае каля бальніцы». Калі яна яшчэ спала, на золаку ёй заўсёды чуліся нейчыя павольныя глухаватыя крокі. Ёй хацелася верыць, што гэта ходзіць Іван, хацелася пэўна ведаць, што гэта ён, і рабілася святлей на душы. Яна не магла дачакацца, калі зноў убачыць яго ў кароценькім белым халаціку, крышку нязграбнага і загарэлага.

Галі ўжо дазвалялі садзіцца. А калі яна стамлялася, прыпірала падушкі да спінкі ложка і гадзінамі праз акно глядзела на гарадок, што вырас на яе вачах. Яна бачыла на школе шыферны дах, за дахам — стралу вежавага крана. Направа стаяў трыццацівасьмікватэрны дом з расчыненымі вокнамі. Было відаць, як маляры фарбуюць балконы і рамы. Гэта, мабыць, брыгада Машы Баркоўскай. А сёння паміж цёмна-сініх сосен на высокім флагштоку ўзвіўся чырвоны сцяг — гэта адкрыўся піянерскі лагер.

Галя ўспомніла сябе піянеркаю і першае лагернае лета пад Гомелем, у Клёнках. Колькі ж гэта гадоў прайшло? Мабыць, восем. Тады ёй мінула адзінаццаць, а цяпер... О, як хутка ляціць час!.. А што з ёю будзе яшчэ праз восем гадоў? Дзе будзе жыць, што рабіць?

Ад гэтых думак закалацілася сэрца, здавалася, што ў пакоі мала паветра, нешта пачынала казытаць у горле, а слёзы самі беглі па шчоках. Галя цішком, каб ніхто не бачыў, выцірала іх далонню. Тут яна заўважыла, што яе маленькія рукі памякчэлі і пасвятлелі, адраслі ружовыя пазногцікі, хоць ты рабі манікюр.

Яна прывыкла да бальнічнага парадку, да ўрачэбных абходаў, да бясконцых гаворак сваіх суседак. Не магла толькі прывыкнуць да перавязак, да страшэннага болю ад іх, да некаторых непрыемных нязручнасцей свайго становішча ляжачай хворай. І заўсёды нечага чакала: калі не спалася, яна глядзела на зорнае неба і чакала, калі пачне днець, на досвітку чакала ўсходу сонца, а пасля паміж снеданнем і абедам, абходам і працэдурамі зноў нечага чакала, чакала і чакала. Мабыць, у чаканнях ёсць нейкая частка чалавечага шчасця. А хто ўжо нічога не чакае, таму, відаць, сумна жывецца на свеце.

Чаго Галя чакае цяпер? Мабыць, больш за ўсё таго дня, калі яе выпішуць з бальніцы, калі зноў апынецца на вуліцы, у сваім утульным інтэрнацкім пакойчыку. Яна глядзіць праз акно і зайздросціць кожнаму, каго бачыць за бальнічнымі сценамі. Вось апынулася ў палаце і здалося, што ўсе людзі хворыя, а за хвіліну да свайго няшчасця была ўпэўнена, што гэтыя карпусы наогул пустуюць і наўрад ці будзе калі хто ў іх.

Галя ловіць сябе на тым, што ўвесь час думае пра Івана: то ён уяўляецца ёй у палінялым камбінезоне і запыленых кірзавых ботах з кароткімі халяўкамі, чакае яе каля дзявочага інтэрната, то бачыць яго ў белай кашулі, загарэлага, з непаслухмяным чорным чубам. Яго тугая і цёплая рука ляжыць на яе плячы. Яны плывуць, кружацца ў павольным вальсе. На танцавальнай пляцоўцы многа людзей, цесна і тлумна, іграе пабудкомаўскі духавы аркестр, а Іван вядзе яе так, нібы нясе перад сабою. А цяпер адтанцавалася назаўсёды! Адным словам — калека.

* * *

З панядзелка Іван працаваў у другой змене. Ранічкаю ён прыбягаў да Галі, перадаваў цукеркі і пячэнне, пытаўся ў добрай старэнькай санітаркі пра здароўе хворай.

— Скора ўжо скакаць будзе,— суцяшала тая.— А як убачыць, што я руку за спіною трымаю, смяецца, як малое дзіця.

Іван ішоў на той бок, куды выходзіла Галіна палата, высвістваў свае «пазыўныя» і чакаў, пакуль не з'явіцца ў акне яе галоўка. Ён доўга нешта махаў рукамі, паказваў на мігах, потым пацiскаў свае паднятыя ўгару рукі, здымаў кепку, круціў яе над галавою і спяшаўся ў трэст.

Там ён ужо каторы дзень абіваў парогі пабудкома і кіраўніка трэста. Разам з ім неадлучна хадзіў худы і цыбаты сакратар камітэта камсамола Генка Анціпчык. Ён сваім маладзёжным баском стараўся пераканаць кіраўніка.

— Разумееце, Мікалай Архіпавіч, як здарава атрымаецца: выходзіць Галя Сіманенка з бальніцы, спраўляем камсамольскае вяселле, і, калі ласка, ключы ад новай кватэры. Выхаваўчы факт, ці не? Прыклад усёй моладзі? Прыклад.

— Пачакай, камсамол, пачакай са сваімі фактарамі і прыкладамі. У мяне многасямейныя яшчэ ў вёсках жывуць, за чатыры кіламетры на работу ходзяць, а тут ні села, ні пала, дай, баба, сала. Сям'і то я яшчэ пакуль што, прабачце, не бачу.

— Вы спрашчаеце, Мікалай Архіпавіч. Я проста клапачуся за



сваіх камсамольцаў. Вы ж ведаеце, Галя трапіла ў аварыю, можна сказаць, жыццём рызыкавала. Ужо аргумент. Па-другое, член брыгады кампрацы,— па...

— Не трашчы, калі ласка, як кулямёт. Яшчэ не было ў цябе «па-першае», а ты ўжо адразу «кампрацы». Вось так і ператвараеце святую справу ў «камы», скрозь «кам», «ком» і на плакатах пішаце «кам», і сказаць па-людску лянуецеся. «Ка-му-ніс-ты-чнай». Вось так. Табе то гэтую розніцу адчуваць трэба.

Гэта так, між іншым.

Мікалай Архіпавіч падняў на лоб свае «лупатыя» акуляры, і на хлопцаў глянулі зморраныя шэрыя вочы. Яны ўсміхаліся. А твар быў крышачку суровы. Для многіх было загадкаю, калі спіць гэты чалавек і ці спіць наогул: ноччу гадзінамі ён прастойваў на мантажы берагавой помпавай станцыі, услед за мантажнікамі лазіў па хісткіх рыштаваннях крэкінга, а раніцаю, без дзесяці дзевяць, свежы, паголены, «нашыпраны», з'яўляўся ў калідоры трэста і ўжо на хаду вырашаў дзесятак дробных спраў. Многія ведалі, калі не падпільнуеш яго зранку, дык днём не дагоніш. Вось і пільнавалі, як Іван са сваім «сватам».

— Слухай, Іван, тут вырашаецца не яго, а твой лёс, а ты маўчыш. Ты то збіраешся жаніцца? Галя згодна за цябе пайсці замуж?

— Я... Я гатоў хоць зараз,— засаромеўся Іван.

— А яна?

— Думаю, што і яна.

— Ён думае! А ты гаварыў з ёю?

На выручку паспяшаўся Генка:

— Тут, Мікалай Архіпавіч, рыхтаваўся сюрпрыз для Галі. Разумееце, выпісваецца з бальніцы, Іван ёй гаворыць пра свой намер, праз дзень-другі вяселле, у клубе, з духавым аркестрам, з шампанскім і кветкамі. І тут, калі ласка,— ключ ад новай кватэры і, так сказаць, ад шчасця.

— Можа табе, Генадзь, варта ў кіно падацца. Рэжысёр! Чухрай! Усё запланаваў, як у сцэнарыі. А тут, брат, жыццё зрываецца, на агні. Як хочаш разумей, і ў прамым і ў пераносным сэнсе. У прынцыпе я за тое, каб даць маладым кватэру. Аднапакаёвую, вядома, асобную, з кухняй, ваннай і не вышэй другога паверха. Чаму? Зразумела. Але вось бяда, жаніх нават не пагаварыў з нявестаю, не спытаў, ці згодна яна. А можа яшчэ і кватэра не трэба. Ты вось што, Іван, узгадні ўсё з Галінаю. Калі згодна, няхай напіша заяву ў пасялковы савет. І заходзь да мяне. Тады ўсё вырашым.

Ён выйшаў з-за стала, правёў хлопцаў да дзвярэй і, развітваючыся, спытаў у Івана:

— Можа ёй што патрэбна, дык ты кажы, не саромся. Зробім і дастанем усё, што ў нашых сілах.

— Дзякую. Усё ёсць.

* * *

З кабіны вежавага крана ўсё навокал відаць на дзесятак кіламетраў. Іван бачыць сіневаты сасоннік за Дзвіною. Над пасёлкам вісіць пыл, узняты сотнямі машын. А вунь і бальніца. Векавыя сосны ледзь не стукаюць галінамі ў шыбы. Іван знайшоў Галіна акно. Яно

адчыненае. Пэўна, і яна бачыць яго кран, а калі ў кабіне загарыцца святло, здалёк добра відзён сілуэт кранаўшчыка.

Хацелася Івану пабачыцца з Галяй, але пасля гаворкі ў трэсце яму было сорамна. Ну, навошта было адкрываць душу, выкладваць свае думкі, намеры і планы гэтаму хлапчуку, што без года тыдзень сядзіць у сакратарскім крэсле? Прасіў бы проста кватэру для сябе, ну, нарэшце, схлусіў бы, што пераедзе маці з меншаю сястрою. Але хлусіць Іван не ўмеў. Таму ён верыў кожнаму чалавеку, кожнаму слову. Вось і не змог ён схлусіць Анціпчыку, а цяпер сам дакарае сябе: атрымліваецца, сапраўды, як той Валька казаў, «паказуха», жаніцьба з далёкім прыцэлам.

Жаніцьба... А Галя ж яшчэ нічога не ведае. А можа яна і думаць не думае пра вяселле і да яго проста так, па-сяброўску адносіцца.

Ды і пакуль што нічога пэўнага не вядома з яе нагою. Чакаюць прафесара з Віцебска. Што ён скажа. Можа будзе яшчэ адна аперацыя.

Іван добра чуў каманды знізу: «віра, яшчэ віра!», «майна, майна!» Ён ездзіў на сваім кране ўзад і ўперад, падымаў паддоны з растворам, цэглу і бетонныя пліты, а думаў пра сваё. У вачах стаяла Галя. Ён бачыў яе твар, рассыпаныя на белай падушцы густыя валасы, вільготныя, задуменныя і ласкавыя вочы. Яму чамусьці запомніўся каўнерык шэрай бальнічнай кашулі з паўрозкамі на грудзях, тоўста забінтаваная пакалечаная нага, падумалася і пра мыліцу. Цяжка нават уявіць з мыліцаю Галінку, шуструю, вясёлую. І тут жа ў Іванавых вушах прагучаў матчын голас, спакойны, і безапеляцыйны: «Хіба, сынок, свет клінам сышоўся, што калеку ў жонкі бярэш?»

Пачынала змяркацца. Іван зноў паглядзеў на бальнічныя вокны. Яны свяціліся ў сіняватам змроку. Вунь і Галіна відно. Адчыненае. Значыць, яшчэ не спіць. Іван ужо не мог дачакацца канца змены.

Ён падаў апошнюю бодню з бетонам. У белым святле двух зыркіх пражэктараў мітусіліся сілуэты муляроў, перад фарамі грузавікоў, нібыта туман, клубіўся густы пыл. А наўкол мігалі агні, агні, агні. Яны гарэлі на будаўнічых пляцоўках і ў сотнях дамоў. Многія з іх будаваў Іван, а вось закончылі, і ён не пазнаваў іх, не ведае, хто там жыве. Паглядзець бы на іх гэтак гадоў праз дваццаць. Тут з'явяцца новыя жыхары. Многіх, мабыць, яшчэ і на свеце няма. Будуць жыць, кахаць, радавацца, пакутаваць і нават не спытаюць, хто паставіў гэтыя дамы, гэты горад, хто на багне збудаваў гэты завод. Сотні дамоў, цэлы горад! Тут будуць жыць нашы нашчадкі, але так яны і не даведаюцца, хто збудаваў гэтую школу, клуб, тэхнікум. Яму ніхто не скажа, што Іван Мінчэня і Галя Сіманенка прыйшлі сюды першыя, што яны вельмі кахалі адно аднаго, што былі шчаслівыя, хоць і жылі ў палатках і бараках. А як далей складзецца іх жыццё, ён яшчэ і сам не ведае.

Іван хуценька збег уніз і, не чакаючы, калі злезуць з рыштавання хлопцы, падаўся з пляцоўкі. Ён ішоў у канец гарадка. За апошнімі дамамі раслі старыя, цёмныя сосны. Яны ціха і журботна шумелі, нагадваючы Івану дзяцінства. Ён убачыў белыя сцены бальнічных карпусоў і ярка асветленыя вокны.

Быў той летні час, калі ноч ледзьве паспявала прамільгнуць недзе паміж вечарам і раннем. А так увесь час ад захаду сонца і да самага світання ўсё зацягнута сіняватам вячэрнім змрокам.

Іван увайшоў у вестыбюль стацыянара, азірнуўся, нікога не ўбачыў. Каб трапіў яму які-небудзь старэнькі халацік, ён бы надзеў яго і прашмыгнуў бы ў Галініну палату. А цяпер прасіся, пераконвай, што ёсць неадкладная справа, угаворвай, каб табе зрабілі ласку. Іван знарок пакашляў. Аднекуль з бакоўкі выйшла немаладая санітарка.

— Гэта ты тут сігналы падаеш? І ночы на цябе няма! Ідзі спаць і не тапчыся па чыстай падлозе, усё роўна не пушчу. Былі ў яе сёння цэлай талакой. І дзяўчаты, і хлопцы прыходзілі. Так што на гэты раз без цябе абыдзецца.

— Цёцечка Дунечка, давайце не будзем дарэмна траціць час і энергію. Я адсюль не пайду, пакуль не пабачу Галіну. Да раніцы буду прасіць і ўсё роўна ўпрашу. Так што пусціце лепш адразу. І вам, і мне, і ёй будзе лепш.

Доўга яшчэ ўгаворваў Іван цётку Дуню і ўгаварыў-такі.

У кароткім халаціку, заляпаным іржавымі плямамі, Іван на дыбачках увайшоў у восьмую палату. Галя чытала, павярнуўшыся да сцяны. Яе суседка, пажылая тынкоўшчыца, спала, накрыўшыся прасцінаю. Адзін ложак ужо некалькі дзён пуставаў. А Верка-арматуршчыца з дня на дзень чакала, што яе выпішуць, і зранку да ночы вышывала нейкую вельмі прыгожую падушачку.

Галя не пачула, як увайшоў Іван: ён і па лесвіцы і па калідоры ступаў ціха, як цень, каб толькі не выдаць сябе і не падвесці цёцю Дуню. Яму што? У горшым выпадку выганяць, а ёй нагарыць. Верка глядзела, як ён падкрадаецца да Галінага ложка, усміхалася і маўчала. Галя павярнула галаву, толькі калі на сцяне ўбачыла нейчы цень. На яе твары прамільгнула радасць і здзіўленне. Яна адклала кніжку і працягнула Івану белую руку. Паказала, каб садзіўся на табурэтку.

— Сёння да мяне ледзь не ўвесь камітэт камсамола заваліўся. Дзяўчаты шчабяталі, усё чамусьці пра цябе распытвалі, а Генка некалькі разоў пачынаў прамовы пра мужнасць. Ды вунь Верка, маладзец, яго абсек-



ла. Кажа: «Тут жа трыбуны няма і аўдыторыя малаватая». І што ты думаеш, загаварыў хлопец па-людску, нават жартаваў і даволі трапна. Вось і «Як гартавалася сталь» прынеслі. Я спачатку ледзь стрымала слёзы. Ведаю, што для падтрымкі духу выбралі гэтую кніжку. А вось разгарнула і, мабыць, пяты раз чытаю, адарвацца не магу.

Іван слухаў не вельмі ўважліва. Потым нагнуўся да самага вуха і горача, хвалюючыся, зашаптаў:

— Галачка, даражэнькая, ты ж ведаеш, як я... ну, не магу жыць без цябе і ніколі не разлучуся з табою. Выпісвайся хутчэй, і мы будзем разам, на ўсё жыццё.

Галя не чакала гэтага прызнання цяпер, тут, у бальнічнай палаце, пры сведках, калі яна не можа пабегчы насустрач Івану, павіснуць у яго на шыі. А можа гэта ён робіць ад жалю, можа ахвяруе сабою, а што, калі... чаго добрага, камсамольскі камітэт «прапрацовачку» зрабіў, слова з яго ўзяў, што «маральна падтрымае» яе ў цяжкую хвіліну?

За адно імгненне Галя адчула радасць і сумненне, надзею і страх. Яна не ведала, што рабіць, што сказаць Івану. Ён сваёй вялікаю гарачаю рукою накрыў яе маленькую беленькую ручку. Галя адчувала, як дрыжаць яго пальцы, як стукае ў жылах кроў, як ён часта дыхае, зірнула ў вочы — яны вельмі пакорлівыя, іскрыстыя. І глядзяць проста і адкрыта. Гэты позірк супакоіў яе. На вочы набеглі слёзы, электрычная лямпачка паплыла ў тумане. Што яму сказаць? Галя нават не ведала, што сказаць самой сабе. Пачуцці і думкі змяшаліся ў страшэннай супярэчлівасці. Яна маўчала.

Іван быў упэўнены, што Галя згодна не разлучацца з ім усё жыццё, ды яму хацелася не толькі ведаць, але пачуць, убачыць яе чырвоныя, крышачку засмяглыя вусны, калі яны прашэпчуць «добра».

— Ванечка, ты ведаеш, як мне добра з табою, як я цябе чакаю заўсёды. Але давай дамовімся: пакуль што не будзем пра гэта гаварыць. І на тваю прапанову я нічога не скажу. Вось папраўлюся, тады пабачым, чаго я буду вартая. Але ніякіх ахвяр, ні падачак мне не трэба.

— Што ты гаворыш! За што абражаеш? Так і ведай, як толькі выйдзеш, пойдзем і запішамся.

Галя пакруціла галавою. Ёй было цяжка гаварыць.

— Добрая ж у цябе мінутачка. А ну, вымятайся, і глядзі, каб ніхто не ўбачыў,— ціха, але настойліва загадала цёця Дуня.— Каму любошчы, а ты сохні, як мошчы. Уважыш от такому, а ён гатоў тут да раніцы сядзець. А ну, марш!

— Зараз, зараз, цётачка,— Іван нахіліўся над Галінаю: — Ну, дык як?

Яна маўчала. Моцна сціснула яго пальцы і адвярнула галаву к сцяне: яна плакала.

Іван устаў. У гэтым кароткім халаціку ён быў асабліва нязграбны, няўклюдны, ссутулены. Ён ціха развітаўся з Галяю, кіўнуў Веры і на дыбачках выйшаў з палаты.

На душы ў Івана было і радасна, і горка, у роце перасохла, шчокі гарэлі, на скроні цікала напружаная жылка. Яму не хацелася ісці дадому, ён не ўмеў рабіць выгляд, што нічога не адбылося, або зноў спрачацца і лаяцца з Валянцінам.

Іван паміж соснамі ішоў на Дзвіну. Рака хуталася ў лёгкі туман, з-за лесу ўзыходзіў вялікі чырвоны месяц. На травы ўпала буйная раса, недзе ў гушчары пакрыкваў драч, а, відаць, каля клуба ці на танцавальнай пляцоўцы то сумаваў, то вясёлым пераборам заліваўся баян. У пасёлку свяціліся вокны. Вялікімі зорамі праплывалі сігнальныя агні вежавых кранаў.

Мабыць, яшчэ не спіць і глядзіць праз акно і Галіна. Яны ж заўсёды любілі свой вячэрні гарадок: глядзелі яшчэ на цёмныя вокны недабудаваных дамоў і кожны, мабыць, думаў: дзе ж іх акно? Калі і якім святлом яно загарыцца?

«А цяпер ці засвеціцца яно наогул?» — думаў Іван. Ён жа быў упэўнены, што Галя кінецца яму на шыю, засмяецца ад шчасця і тут жа напіша заяву аб шлюбе. Іван пакажа яе Мікалаю Архіпавічу, і ў іх будзе свая маленькая ўтульная кватэрка. А цяпер? Што ён скажа кіраўніку трэста? Як паглядзіць у вочы хлопцам, якім Генка раззваніў пра іхняе «камсамольскае вяселле»?

Іван і не заўважыў, як ад ракі павярнуў у пасёлак. На боты наліп мокры ад расы пясок, твар крыху астыў ад начной вільгаці, а думкі сталі ясныя, выразныя і больш лагічныя. «Яна ж мне, нарэшце, не адмовіла. Прасіла пачакаць. Каб не цёця Дуня, высветліў бы ўсё, а то ледзь не за каршэнь выкінула».

За спіною Іван пачуў нейчыя таропкія крокі. Ён азірнуўся і спыніўся. Да яго ўжо не ішоў, а бег хлопец, падобны на Вальку.

— Ну, пакутнік, зноў трамбаваў сцежку пад бальнічнымі вокнамі? А я, брат, увесь вечар круціў во... якую дзяўчыну. Практыкантка з мінскага політэхнікума. Жанаю завуць. Галоўнае без фанабэрыі... Ха-ха-ха, як цялё на вяроўцы, куды вяду, туды ідзе.

— Паскуднік ты, Валька. І калі ты толькі стаў такі?

— Дурны ты, Іван, дурны! У святыя з камсамольскім білетам хочаш падацца. Да калекі прыляпіўся, як п'яны да плоту, і молішся на яе.

— Адыдзі лепш, бо вытну,— Іван цяжка дыхаў, павярнуўся і хутка пайшоў у інтэрнат.

Насупраць ён зноў убачыў яшчэ не заселены пяціпавярховы дом і падумаў: «Недзе тут засвеціцца і наша акно».



## *Міколу Хведаровічу 60 гадоў*



*Мікола Хведаровіч нарадзіўся ў мястэчку Капыль. Вучыўся на педагагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, рэдагаваў часопіс «Чырвоная Беларусь», працаваў у кабінеце маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР і ў рэдакцыі часопіса «Полымя рэвалюцыі».*

*У 1925 годзе Мікола Хведаровіч уступіў у рады КПСС.*

*Першыя вершы паэта з'явіліся ў друку ў 1926 годзе. Ён аўтар звыш дзесяці паэтычных зборнікаў і кнігі ўспамінаў «Памятныя сустрэчы». Мікола Хведаровіч вядомы і як перакладчык на беларускую мову твораў А. Пушкіна, Э. Багрыцкага ды многіх іншых паэтаў.*

Мікола **ХВЕДАРОВІЧ**

# Маладосць

Цяжка лёс свой перайначыць,
Супыніць гады і дні.
Не стрымаць іх,
Хоць і бачыш,
Як спяшаюцца яны.

Быццам коні праняслісся
У небыццё.
І ўжо я госць.
Хоць яшчэ раз усміхніся
Напаследак, маладосць!

Ты як песня,
Ты як птушка,
Што ляціць над галавой,
Быццам граеш, вясялушка,
Зноў паходнаю трубой.

Помню, колькі раз бывала,
Як, саскочыўшы з сядла,
Запявалай на прывалах
Эскадрону ты была.

Як успомню,
Проста люба,
Сэрца б'ецца гарачэй.
Вечарамі позна ў клубе
Голас твой гучыць яшчэ.

Разганяе ён трывогу,
Безнадзейную нуду.
Камсамольцаў у дарогу
Песні нашыя вядуць.

Іх пачуеш сёння ў лесе,
Дзе пурга вакол мяла...
Я табе удзячны, песня.
Ты мяне не падвяла.

Ты жыцця майго аснова,
Верны я табе заўжды,
Калі песню шчырым словам
Перадаў я маладым.

Покуль сэрца не астыла
І пульсуе ў жылах кроў,
Роднай песні дам я крылы,
Хай жыве сярод сяброў.

Мо здалёку адгукнецца,
Як жаданы, шчыры госць.
Мо яшчэ раз усміхнецца
Напаследак маладосць.

# Пажаданне



Я хацеў бы ветрам быць,
З небам, з сонцам падружыць.
Бо жыву адной трывогай,
Каб да зор знайсці дарогу.

Каб мне быў паплечнік, брат
Мой шырокі дагляд —

Недасяжны і бясконцы —
Дзе начуе наша сонца.

Я абняць цябе хачу,
Калі ж трэба — аблячу.
Не бяда, што ты далёкі,
І бязмежны, і шырокі.

Ведай, браце, чалавек
Сёння — у трывожны век —
Завалодаў вышынёю,
Стратасфернай цішынёю.

Ён у космасе ляціць,
Зыркай зоркай мігаціць,
Пракладаючы арбіты
Праз дажджы метэарытаў.

Я хацеў бы ветрам быць,
З касманаўтамі дружыць.
Ім папутны заўжды буду,
Дружбы нашай не забуду.

☆

Зяхае стомлена тайга,
Дрымотная спрадвеку,
Бо не ступала тут нага
Ніколі чалавека.

А мы шыбаем напралом
Упартаю тайгою.
Ваду балотную мы п'ём,
Запас бярэм з сабою.

Мы пракладаем новы шлях,
Хоць кожны гора зведаў...
Апоры дружныя ў барах
Нас даганяюць следам.

Карчуем пні, дзярэм кусты,
І дзе прайшлі мы ўчора —
Гудуць імклівыя драты
На здвоеных апорах.

Бягуць наступныя гады,
Бягуць не шляхам вузкім,
А да крыштальнае вады
Падкаменнай Тунгускі.

У гэтай бурнае ракі
Сіберны, дзікі нораў:
Каменне крышачы вякі,
Свой шлях вядзе да мора.

Яна супыніць свой разгон
У самае разводдзе,
Калі жалеза і бетон
Ёй шлях перагародзяць.



Антон АЛЕШКА

Мастак
Ісак ДАВІДОВІЧ

# Над намі мільён вышыні

Аповесць[*]

14

У той дзень, калі так нечакана Кудлач пайшоў з дому, Марына намервалася схадзіць у кіно. Чакала мужа болей за тры гадзіны і, калі на двары зусім змерклася, узялася прыбіраць пакой. Выцерла падаконнік, зняла са стала абрус і ўбачыла на падлозе пісьмо.

Кінула работу, прысела, хутка прабегла вачамі пачатак, дабрадушна ўсміхнулася ў тым месцы пісьма, дзе Янка Чуб апісваў характар сваёй дзяўчыны, а пад канец акруглілa вочы і міжволі азірнулася.

Накрываючы стол новым абрусам, задумалася.

«Янка Чуб? Гэта ж чорны механік, што забягаў да нас некалькі разоў. Весела смяяўся, гуляў з Сашам. І бачыш ты, калі апамятаўся... Што яму трэба ад мяне?»

Яна яшчэ не зусім усвядоміла, што адбылося ў доме. Адмахвалася ад розных думак, але супакоіцца не магла.

Ціха павячэрала з сынам. Аднак на душы не палягчэла і пасля таго, як Саша заснуў.

Насцярожаная, падышла да этажэркі і на ніжняй паліцы ўбачыла эцюд. Затрымала позірк на сіняватым, асмужаным небе. Далей убачыла бераг ракі, зялёны луг, лес.

«Гэта ж той бераг, дзе мы ў выхадны адпачывалі»,— пазнала

[*] Заканчэнне. Гл. № 3

яна. Бестурботна і весела прайшоў тады час. А які ва ўсіх быў настрой!

Яна ўзяла папку, разгарнула. Пераглядаючы малюнкі, спынілася на адным з іх і доўга ўзіралася. Там намаляваны парк з фантанам, што пачынаўся адразу за радзільным домам. Гэтае месца яна добра ведала, бо кожны дзень хадзіла тудой на работу. Тут часта прагульваўся і Кудлач, чакаючы яе з работы.

Прыгадаліся дзённыя клопаты ў роддоме. Колькі тут перабыло за дзень наведвальнікаў, колькі шчаслівых бацькоў паехала дадому з маленькімі! Паравозны машыніст ў форме пацалаваў Марыну ў шчаку і падаў букет кветак:

— Ад майго сына! — сказаў ён радасна.

Увесь дзень Марына жыла радасцямі людзей, іх добрымі пачуццямі. Ішла дамоў, па дарозе сустрэла Пятроўскага. Пастаяла, пасмяялася... А дома ўжо чакала гэтае пісьмо...

Падсвядома нараджалася злосць на Чуба.

«Знайшоўся такі добранькі...— думала яна.— А дзе ж ты быў раней?»

Дасюль яны з Кудлачом жылі мірна, згодна. Ён ніколі не пытаўся, чым яна займалася, калі быў на палётах ці дзяжурыў. Служба ў яго такая, што ён вельмі часта па некалькі дзён не прыходзіў дамоў, лятаў на вучэнні, трэніроўкі. Здаралася і так, што снедаў дома, а абедаў недзе за трыдзевяць зямель. У вольны час не сядзеў дома, цягнуўся з эцюднікам за горад або ў парк і там прападаў да поцемкаў. І ўсё было добра.

«Цяпер Чуб жыве дзесьці на Украіне. Які яму клопат да нашага жыцця?» Ноччу яна прахапілася, як ад штуршка. Сцяпана дома не было.

«А можа, дзяжурыць? Не раз так бывала»,— супакойвала яна сябе, але сон ужо не ішоў. Яна ўстала, падышла да Сашавага ложка, паправіла коўдру. Выйшла ў другі пакой, пастаяла перад настольным гадзіннікам. Роўна шэсць. Ні рана, ні позна. Спакваля ўзялася гатаваць снеданне.

На рабоце ўвесь дзень не было ранейшай весялосці і бесклапотнасці. Задумлівасць хмурыла яе бровы. Не магла дачакацца канца змены. І на хвілінку нідзе не затрымалася, пабегла дамоў. Заглянула ў пакой, пастаяла на кухні.

«Не было Сцяпана...» Увесь вечар яна думала пра гэта.

А Кудлач не прыйшоў ні на трэці, ні на чацвёрты дзень. Неяк ужо на пяты дзень, прыбегшы з двара, Саша працягнуў ёй шакаладку.

— Дзе ты ўзяў?

— Тата даў...

Марына здрыганулася.

— У штаб хадзіў?

— Не, не ў штаб, мама...

— Кажы, сынок...

— Тата сядзіць, дзе лётчыкі жывуць. На палёты збіраецца...

Марына здагадалася, што Саша быў у гасцініцы. Цяпер яна пасапраўднаму ўсхвалявалася. Аднак не паспела правесці сына на двор, як пачуўся стук у дзверы. Забегла суседка.

— Марына, гэта праўда?

— Што?

— Быццам не ведаеш?

— Кажы...



— Як жа! Пра цябе з Пятроўскім увесь гарадок гаворыць...

Марына з пагардай глянула ў цікаўна-ілжывыя вочы суседкі. З якой рады яна павінна спавядацца, казаць, што робіцца на душы.

— Няхай і пра мяне пагавораць...

Адказ перакапаў суседку, што людзі гавораць праўду.

Марына пабыла адна, ды дома ёй не сядзелася. Цягнула на вуліцу. І трэба ж так здарыцца — насупраць дома спаткала Пятроўскага.

— Добры дзень,— зачапіла яна.

— Чула, што гавораць?

— А ты чуў? Чаму ж не прыйшоў? — задзірыста наступала яна.

— Ты што?

Яна перахапіла яго нейкі цьмяны позірк.

— Людзі, кажаш, гавораць, што ты мой палюбоўнік? Ці не занадта гэта для цябе? На цябе ж глядзець сорамна. Стаіш, як мокрая курыца,— насмешліва сказала яна.

— Пачакай, Марына...

— А каб я сапраўды трапіла ў бяду? Ты б прыйшоў на выручку? Хлусіць перад салдатамі ўмееш? А яны ж разумнейшыя за цябе... Хацеў асарамаціць мяне? Дык я...

— Я спяшаюся...— Пятроўскі завярнуўся і хутка пакрочыў.

Страшэнна хацелася дагнаць яго, сказаць нешта крыўднае, рэзкае.

Не цямячы, што з ёю робіцца, яна азірнулася і ўбачыла, як жанчыны з іхняга двара, якія сядзелі на лаўцы, зрабілі выгляд, што не глядзяць у яе бок.

«І вы ўжо не хочаце глядзець? З якой пары так сталася?— з'едліва ўсміхнулася яна.— Адвярнуліся, як ад скажэннай. Думаеце, перапрошваць буду? Чакайце!»

Знарок паволі падышла да свайго пад'езда, нібы лішні раз паказалася ўсім.

«А раней жа вы не давалі праходу,— абураючыся, падумала яна.— Вярталася з работы — сустракалі, раіліся наконт дзяцей і саміх сябе. А цяпер адварочваецеся...»

Марына пайшла па вуліцы. Уважліва прыглядалася да людзей. Няўжо на яе ўсе так глядзяць? А што думае камандзір палка? Пры гэтай думцы яна нават спынілася.

«А сапраўды, што ён скажа?» — ажывілася яна і пайшла ў штаб.

Дзяжурны па палку, маладзенькі лётчык, казырнуў ёй, выслухаў, ветліва запрасіў ісці за ім. Каля кабінета камандзіра ўзняў вочы на дзверы, паднёс руку да казырка і пайшоў па калідоры.

Яна правяла яго позіркам і пастукалася ў дзверы.

— Прашу! — пачулася ў адказ.

— Вы мяне не звалі,— сказала яна, увайшоўшы ў кабінет.— Я сама прыйшла...

Дым устаў ёй насустрач.

— Вельмі рад вас бачыць,— далікатна паціснуў прыгожую руку з ямачкамі на пальцах, як у дзіцяці, і нават крыху разгубіўся.

Марына падзякавала за ўвагу, палажыла на стол бліскучую сумачку.

Твар яе бялявы, з прывабнай чырванню на шчоках. Прыгожы носік, мажліва, занадта правільны. Чорныя, як смоль, валасы сабраны ў высокі вузел. Можа ад гэтага бялявая шыя з чорнай радзімкай здалася вельмі прыгожай. Шырокая ўнізе сукенка і вішнёвая кофтачка добра пасавалі да зграбнай постаці маладой жанчыны.

Марына ўнесла ў строгі кабінет нязвыклае для яго святло.

— Вы да нас не заходзіце,— сказала яна з дакорам і ўзняла чорныя вочы на Дыма.— Работы многа...

Стуліла прыгожыя губы, крышачку схіліла на бок галаву і стала такая прывабная, што палкоўнік глядзеў на яе, як зачараваны.

— Сядайце,— апамятаўся ён і падсунуў крэсла.

— Мы, акушэркі, у радзільным доме, калі можна так сказаць, даём дзецям пуцёўку ў жыццё. Яны вырастаюць, і ў школе імі доўга займаецца ваша жонка. Так?

Дым кіўнуў галавой.

— Пасля школы хлопцы ідуць у армію і трапляюць у вашы рукі...

— А дзяўчаты? — хітравата запытаўся Дым.

— Далей вучацца, працуюць. Некаторыя з іх становяцца сяброўкамі вашых лётчыкаў, тэхнікаў...

Дым усміхнуўся. Яму было прыемна слухаць Марыну.

— А вы лятаеце, дзяжурыце, працуеце ў штабе. Вашы дзеці растуць і не бачаць бацькоў...

— Служба наша асаблівая,— заўважыў Дым, калі Марына змоўкла на хвілінку.

— А калі будзе так, што афіцэры змогуць бачыць сваіх жонак удзень, самі будуць выхоўваць сваіх дзяцей, не будуць спадзявацца на яслі, дзіцячы сад, школу?

— Мы займаемся рабочым днём афіцэра. Хутка будзем мець мажлівасць не толькі выхоўваць дзяцей,— Дым нібы апраўдваўся перад Марынай.

— Я скажу больш,— Марына павяла плячом, аглядаючы кабінет Дыма.— Часам такое становішча выклікае канфлікты ў маладых сем'ях. Не падумайце, што я прыйшла абгрунтаваць уласныя непрыемнасці. Не! Ды я ўжо не такая маладая...

Дым перахапіў Марынін позірк.

— У нас афіцэры многа працуюць, ездзяць у камандзіроўкі і ў сямейным жыцці абыходзяцца без канфліктаў,— сказаў ён.— А вось вы... Самі ж сказалі, што ў вас непрыемнасці. Я хачу пагаварыць, як камандзір...

— Вы не мой камандзір...

Дым узняў бровы.

— Як старэйшы таварыш і камандзір вашага мужа...

— Гэта прыблізна...

— Як чалавек з чалавекам.

— О, цяпер іншая справа. Слухаю вас.

— Дык што там у вас з Пятроўскім? — па тым, як падскочылі бровы Марыны, Дым зразумеў, што не так сказаў, але яна сама выручыла яго.

— І вы!— са здзіўленнем глянула на камандзіра.— І вы пра Пятроўскага? За каго вы мяне прымаеце?

Дым узлёг на стол.

— Пятроўскі не зманіць чужой жонкі. Не бойцеся! Паверце мне, жанчынам такія мужчыны не падабаюцца. Яны існуюць для паказу, як цацкі,— горача сказала яна.

Яму спатрэбілася не мала сілы, каб не паказаць Марыне свайго здзіўлення.

— А як вы думаеце? — спытала яна.



«У яе Пятроўскаму сапраўды няма чаго рабіць. Дарэмна пайшла чутка. Зрэшты, такой можна многае даравацъ»,— плыло ў галаве ў Дыма.

Ён любіў Кудлача ўсёй душой, як лётчыка, як чалавека, гэтыя дні шчыра спачуваў яму, нават некалькі быў сумеўся, што па-камандзірску не мог вырашыць яго пытання. Цяпер вось віноўніца ўсяго шуму сядзела перад ім, чакала адказу, а ён не ведаў, што сказаць.

— Та-а-ак...— працягнуў ён нізкім грудным голасам, нават павёў плячамі, як ад холаду.— Як я думаю?

Мусіць, ніколі ў Дыма не было цяжэйшага пытання, чымся гэтае. Адказвай на яго не як камандзір падначаленаму, а як чалавек чалавеку...

— Разумееце, такі факт, што нават Чуб не змоўчаў...

— Але! Паўгода ж маўчаў... Я на месцы Чуба зрабіла б значна больш. І ў той жа дзень...

Марына кінула на Дыма калючы позірк і стала глядзець на свае складзеныя на каленях рукі, якія церабілі насоўку. Можна было падумаць, што яна пакрыўдзілася на яго.

Нейкі час яны сядзелі моўчкі, думаючы кожны пра сваё.

Дым з кожнай мінутай спакайнеў.

«Харошыя людзі,— думаў ён пра Кудлача з Марынай,— а вось трэба так здарыцца. Чаго ім не хапае?»

Марына падняла галаву.

— З Пятроўскім я вучылася ў адной школе і ведаю, што падабалася яму. Аднак ён мне...— адмоўна пакруціла галавой.— Праз колькі год спаткаліся тут у гарадку... Дык што ж, пры сустрэчах я павінна была адварочвацца ад яго? Як вы скажаце? Ці ж меў падставы Кудлач рабіць такое? — паглядзела яна на Дыма, як на вінаватага.

— Сямейныя адносіны — складаная справа...

— Асабліва чужыя,— дадала яна.

Зазваніў тэлефон. Дым неахвотна падняў трубку.

— Здравія жадаю! Слухаю вас, таварыш камандзір.— Дым прыслухаўся.— Памятаю, як жа! Гаварылі і даўно. Падпісалі загад на Кудлача? З болем аддам. Не буду затрымліваць гатовага камандзіра эскадрыллі. Атрымаем загад і адкамандзіруем. Астатняе ўсё ў парадку. Бывайце здаровы! — Дым палажыў трубку.— Кудлач з павышэннем назначаны ў полк...— Дым назваў полк Алесіка, які базіраваўся на поўнач ад іх.— Збірайцеся пераязджаць,— неяк вельмі стрымана зазначыў ён.

Зборы Марыну не турбавалі. Яна прывыкла да частых пераездаў. Куды важней была работа, якую давядзецца кідаць.

Марына ўздыхнула і лёгка ўстала.

— Дзякую за ўсё,— сказала яна.

— Заходзьце,— Дым, нібы нехаця, выпусціў яе руку, правёў госцю з кабінета.

Яна выйшла са штаба, поўнячыся новымі думкамі і турботамі. На двары было ціха і цёпла. Над вершалінамі голых бяроз іскрылася сонца. Чысты блакіт неба веяў лагоднасцю.

Марына сцяжынкаю пайшла ў гасцініцу лётчыкаў. Адчыніла шосты пакой.

— А во дзе ты, пустэльнік! — радасна сказала Кудлачу, які маляваў за сталом. Ад нечаканасці ён устаў, паклаў пэндзлік. Ма-

рына падышла да стала і ўбачыла на малюнку вялікае адчыненае акно. За ім відна галінка бэзу з набухлымі пупышкамі. На іх масляніста блішчыць карычневая луска, і на самых кончыках ужо значацца тонкія зялёныя язычкі лісточкаў.

— Добра,— пахваліла яна. Ёй успомніўся гарачы летні дзень, радасць і весялосць.

— Сцёпа, нам жа сына гадаваць трэба. Што ты робіш?

Знаёмы пах валасоў закружыў Кудлачу галаву. Ён нават не мог прамовіць слова.

— Хадзем дамоў,— Марына прыгладзіла шорсткі чуб мужа, адхінуўшыся, з надзеяй глянула яму ў твар.

— Не...— нібы глытаючы сухое, адказаў ён.

— І слухаць нічога не хачу,— яна пачала збіраць са стала малюнкі, фарбы, кніжкі.— Пойдзем!

— На начныя палёты еду...

— Прыходзь пасля начных. Я буду чакаць...

— Вазьмі дамоў,— падаў ён згорнуты ў трубачку малюнак.

## 15

Апошнія тры дні Смірын з раніцы да поцемкаў сядзеў з лётчыкамі ў баракамеры і нават не заходзіў у штаб. Кудлач расказаў яму, што ў полк прыехаў новы нампаліт камандзіра палка маёр Звераў. Афіцэры хвалілі Зверава: бярэцца за работу шчыра. На стаянках выстройваў механікаў, аглядаў капцёркі. Павыкідаў непатрэбшчыну, і, кажуць, парадак палепшыўся.

Свежае вока заўсёды бачыць болей і лепш.

І таму сёння ў сонечную раніцу на пастраенні палка, калі з казармы выйшаў Дым, а за ім Звераў, Смірын уважліва пазіраў на нампаліта. Быў ён у новенькім мундзіры з бліскучымі гузікамі. Дым ставіў задачу палку, а побач, залажыўшы рукі назад, стаяў нампаліт. Крышку ніжэйшы за Дыма, з вельмі вялікімі чорнымі вачамі, ён аглядаў строй з фланга да фланга і, здавалася, восьвось уставіць слова ў камандзіраву гутарку.

Пад канец размовы Дым загадаў першай эскадрыллі пасля пастраення ісці ў баракамеру і, зірнуўшы на правы фланг, дзе стаяў Смірын, пацікавіўся, калі будуць скончаны выпрабаванні. Урач адказаў, што ўсе эскадрыллі ў яго былі, а з першай пастараецца работу скончыць да вечара.

Дым глянуў на Зверава.

— У мяне аб'явы,— сказаў нампаліт і ступіў крок наперад. Паведаміў, што ў шаснаццаць гадзін ён збірае групаводаў палітзаняткаў, а ў васемнаццаць у клубе палка адбудзецца сход жонак афіцэраў.

На тым і закончылася пастраенне. Эскадрыллі разышліся, і ўрач апынуўся перад нампалітам адзін. Збіраўся папытацца ў яго пра Кудзельскага, але нампаліт апярэдзіў.

— Абавязкова павінны сёння быць на нарадзе групаводаў. Я глядзеў па журналу — вы рэдка бывалі...

Звераў не без цікавасці аглядаў палкавога ўрача. На задумлівым твары Смірына быў спакой.

— Не прыйду сягоння...



— Чаму?

— Работы многа...

— Хто б сказаў, што работы многа, толькі не вы, доктар,— у голасе Зверава праявілі гуллівыя ноткі, а вялікія чорныя вочы смяяліся. Гэта кальнула ўрача. Ён пацямнеў з твару, выпрастаўся.

Звераў заўважыў гэта, але працягваў:

— А што вы такое робіце?

— Вы былі на пастраенні? Чулі, што Дым загадаў рабіць першай эскадрыллі?

— Чуў...

— Тады нашто пытацца, што я раблю...

— А ўсё ж дазвольце не паверыць, што ў вас многа работы...

— Не думайце, што толькі ў вас работа і яе многа,— адказаў Смірын.

Звераў нездаволена хмыкнуў, і Смірын не стрымаўся:

— У нас службу ўсе нясуць спраўна. І вам, як нампаліту, не сумнявацца трэба ў рабоце афіцэраў, а ведаць кожнага з іх, ды яшчэ падбадзёрваць, натхняць. Тады будзеце падобны на Фурманавакамісара...

— Вось вы як?..

— Нават больш...

Звераў азірнуўся.

— Не азірайцеся, мы тут удвух. Вы мне кінулі папрок, а я адказаў,— прамовіў Смірын.

Нават не развітаўшыся, Звераў пабег у штаб.

Ад гутаркі са Зверавым у Смірына асталося прыкрае пачуццё. «Вастранькі, як брытва!» — думаў Смірын, хацеў таксама пайсці ў штаб і прадоўжыць там са Зверавым размову, аднак на дзверы медпункта паказаўся механік, далажыў, што апаратура гатова. У агрэгатнай Смірын праверыў рухавік, агледзеў прыборы камеры і выйшаў да лётчыкаў.

— Пачнем?

— Так точна!

У высокую стальную каробку баракамеры селі тры лётчыкі. Іх твары ярка асвятляла электрычная лямпачка. Механік герметычна зачыніў дзверы, уключыў рухавік, і «пад'ём» на вышыню пачаўся.

Рухавік выпампоўваў са стальной каробкі паветра, а блішчасты слупок жывога срэбра ў загнутым калене прыбора падаў, паказваючы бараметрычны ціск па вышынях. На шчыце баракамеры гэту работу дубліраваў яшчэ альтыметр.

Смірын у шлемафоне стаяў за пультам перад прыборнай дошкай. Размаўляў з лётчыкамі, падыходзіў да круглага акенца ў стальной сцяне, падобнага на вока цыклопа, узіраўся ў іх твары.

Парыпваючы новенькімі чаравікамі, у баракамеру ўвайшоў начальнік палітааддзела палкоўнік Матуль. Строгі і занадта хмуры.

Смірын адключыў сябе ад пульта баракамеры, далажыў палкоўніку.

— Працягвайце работу,— сказаў Матуль і моцна паціснуў урачу руку.

Смірын падключыўся да пульта, загадаў лёчыкам падлічыць пульс і запісаць на стандартных лістах.

Палкоўнік Матуль агледзеў круглае, закаванае ў сталь акенца, а потым наблізіўся і зазірнуў у яго. За сталом у рад сядзелі лётчыкі з кіслароднымі маскамі на тварах. Па чырвоных потных лбах зразумеў, што не лёгка ім выпрабоўваць атмасферу вышыні.

«Здаровыя хлопцы...— падумаў ён пра лётчыкаў.— Аж па́ра з іх ідзе!»

Нікога з іх ён не пазнаў. Запытаўся ў Смірына:

— Якая цяпер вышыня?

— Дванаццаць тысяч семсот метраў...

— Вышэй пойдзеце?

— Пойдзем да столі...

— Як адчуваюць сябе лётчыкі?

— Добра. За ўсе дні выпрабаванняў ні адзін чалавек не сышоў, не выканаўшы практыкаванняў...

«З толкам робіш, з толкам... Не дрэнны спецыяліст»,— думаў Матуль, гаворачы са Смірыным. Ён чамусьці ўважліва разглядаў урача, нібы хацеў высветліць не тое, як адчуваюць сябе лётчыкі, а нешта другое, больш важнае.

Смірыну прыемна было, што Матуль усім цікавіцца, усё хоча ведаць, знайшоў час і паглядзець выпрабаванні ў баракамеры.

«Маёй работай цікавіцца сам начальнік палітаддзела. Гэта ўжо вялікая пахвальба»,— урач зірнуў на палкоўніка.

— Можа вы хочаце праведаць стратасферу, то хутка вызваліцца баракамера, і я магу вас падняць,— прапанаваў ён Матулю.

Палкоўнік адышоў ад акенца, твар яго кранула ўсмешка: «Рождённый ползать летать не может...»

— Вы ж ляталі?

— У свой час, доктар, мы даставалі завоблачную вышыню. Усё было! — вочы Матуля заіскрыліся.— Цяпер не маю часу. Вось што: не забывайце на нашы вопытныя кадры. На палётах вытрымліваць рэжым дня, лётны час. Ніякіх адступленняў ад загаду...

Смірын не ўтрымаўся і расказаў пра гутарку з Астахавым наконт Дыма.

— Ён думаў, што я дабіваўся водпуску камандзіру палка. А я выконваў загад...

— Пасля ўсіх выпрабаванняў зайдзіце да мяне.

— Слухаюся!

— Сумуеце па Кудзельскім? — глянуў Матуль на Смірына. Палкоўнік ведаў пра іх вялікую і даўнюю дружбу.

— Яго няма, і ў мяне нібы правай рукі не хапае,— адказаў Смірын.

Матуль падбадзёрыў яго:

— Вы былі франтавыя сябры. Разумею вас. Аднак знойдуцца сябры і цяпер. Так я кажу? Ну, а я хутка паеду ў акадэмію генеральнага штаба...

— Жадаю поспехаў. Будзеце генераламі, не забывайце нас, палкавых работнікаў...

— Полк — асноўнае звяно! — Матуль развітаўся і пайшоў.

Калі з баракамеры выйшла трэцяя тройка лётчыкаў, Смірын зірнуў на гадзіннік. Абед...

Крышку стомлены і задумлівы, ішоў Смірын па сонечных прысадах ў сталоўку. З суседніх прысадаў да яго спяшаўся капітан Левакоўскі.

— Што ў цябе было са Зверавым? — спытаў ён.

— Нічога...

— Так ужо і нічога. Ён жа прыбег у палітаддзел з заявай, што Смірын дэманстратыўна падрывае аўтарытэт нампаліта, перашкаджае праводзіць мерапрыемствы па дырэктыве палітупраўлення.



— А далей...

— Што пры такіх умовах ён, Звераў, не зможа плённа працаваць у палку. Паставіў пытанне — альбо ён, альбо Смірын... Потым прыйшоў Матуль.

— Ён да мяне заходзіў.

— Не гарачыся, бо атрымаеш спагнанне...

— На мазоль станавіцца не дазволю. Ты ж мяне ведаеш...

— Глядзі, дружа...

Хутка беглі дні. Полк многа лятаў. Неяк раніцай перад разборам палётаў Звераў запрасіў Смірына да сябе.

«Няўжо надумаўся цяпер гаварыць пра той выпадак»,— падумаў урач, уваходзячы ў кабінет нампаліта.

Звераў сядзеў за сталом.

— Праз дзень думаю ляцець з камандзірам палка. Два палёты запланаваў,— ён дастаў са стала медыцынскую кніжку, падаў Смірыну.— Прашу пазнаёміцца...

Смірын прысеў да стала, паглядзеў, калі была апошняя ўрачэбна-лётная камісія. Нампаліт хадзіў па кабінеце.

— Дакументы ў мяне ў парадку. Нават праходзіў выпрабаванні ў баракамеры...

— Толькі на пяць тысяч?

— Так...

— А трэба?

— Я лічу, што гэта фармальнасць. Лётчык я не малады, думаю, што змагу.

— А я думаю, што не зможаце лятаць, пакуль не пройдзеце поўнасцю выпрабаванняў, як іх прайшлі ўсе лётчыкі палка,— сказаў Смірын і загарнуў кніжку.— Цяпер яна будзе ў мяне...

Звераў залажыў рукі за спіну, насцярожыўся.

— Голы фармалізм? — востра зірнуў на Смірына.

— Вы лічыце пунктуальнае выкананне загаду фармалізмам? — Смірын устаў.

Звераў перамяніў тон.

— Доктар, а як жа мне быць?

— Як быць? Прашу заўтра ў баракамеру. Падніму вас з лётчыкам Макаравым. Усё будзе без фармалізму...

— Вы, доктар, злапамятны...

— Як гукнеш, так і адгукнецца,— адказаў Смірын.— Заўтра ў дзевяць нуль-нуль прашу да мяне,— і пайшоў.

Звераў застаўся адзін. Падышоў да акна і, адставіўшы ў бок нагу, нездаволена пастукаў абцасам па падлозе.

«Вот табе і эскулап!» — ён не чакаў, што так атрымаецца. Меркаваў вылецець у новым палку. Ён не толькі нампаліт, а яшчэ і лётчык. У злучэнні лятаюць толькі два нампаліты, значыць, ён будзе трэці. Папрасіў камандзіра палка запланаваць два палёты, лічыў, што з урачом уладзіць усё без цяжкасцей.

«Сухар, а не ўрач. Не падпіша планавай табліцы, і не будзеш лятаць,— пакрыўджана думаў ён.— А можа заўтра ва ўсім прызнацца? Не, не трэба казаць нічога...»

На другі дзень Звераў прыйшоў у баракамеру, як умовіліся, нават не паказаў выгляду, што надоечы між імі была непрыемная гутарка. Паслухмяна адносіўся да ўсіх патрабаванняў урача пры аглядзе, ахвотна адказваў на ўсе пытанні. Пасля Зверава Смірын

агледзеў Макарава. Упэўніўся, што абодва добра ведаюць, як карыстацца кіслародным прыборам, і пачаў пад'ём.

Да звону ў вушах гудзеў рухавік. Смірын, як маятнік, хадзіў ад пульта да акенца баракамеры. Перагаворваўся са Зверавым, звяртаўся да Макарава, цікавіўся, як ён пераносіць вышыню.

— Таварыш маёр, як сябе адчуваеце? Нешта не чую вашага голасу,— праз некаторы час сказаў Смірын. Звераў не адказаў. Смірын падышоў да акенца. Твар нампаліта быў белы, як палатно. Відно было, што яму не хапала паветра, бо ён адкручваў аварыйны кран кіслароднага прыбора.

— Таварыш Звераў, я вас не чую,— паўтарыў Смірын, а сам вырваў штурвал з рук механіка і пачаў хуткі спуск. Стрэлка альтыметра пайшла круціцца ўлева, а слупок ртуці ў правым калене ўзнімаўся ўгору.

— Таварыш маёр, чаму нічога не гаворыце?

Вышыня хутка падала. Смірын сціснуў штурвал, бокам падступіўся да акенца. Звераў паспакайнеў, але па-ранейшаму быў бледны.

Урач загадаў лётчыку Макараву праверыць аварыйную падачу кіслароду ў прыборы Зверава і на некаторы час спыніў спуск. Макараў далажыў: кран і апарат спраўныя.

Зрабілі яшчэ дзве пляцоўкі, і спуск закончыўся. Смірын, Макараў і механік вынеслі з баракамеры мокрага Зверава, палажылі на канапу. Смірын прыпаў вухам да потных грудзей нампаліта, намагаўся выслухаць тоны сэрца. Яны былі выразныя і чыстыя.

Звераў сказаў:

— Вось тут... галава баліць,— рукою паказаў на левую палавіну галавы.

Смірын зразумеў небяспечнасць таго, што сказаў Звераў, але не выдаў свайго хвалявання. Уважліва агледзеў маёра: рэфлексы правай палавіны цела ў яго былі замаруджаны. А гэта многа значыла. Так можна страціць чалавека не толькі для авіяцыі, а наогул для жыцця.

Што ж здарылася з маёрам Зверавым? Вышыня была невялікая і для трэніраванага чалавека не ўяўляла небяспекі. Кіслародны прыбор працаваў добра. І вось, калі ласка! Сядзі і думай, ад чаго ў баракамеры спалатнеў маёр.

Смірын перабраў у памяці ўсе выпадкі, калі лётчыкі не вытрымлівалі пад'ёмаў у баракамеры, але чаго-небудзь, нават крыху падобнага на гэты выпадак, у яго практыцы не было.

— Неяк раптам стала горача. Я пачаў задыхацца. Млявасць разлілася па ўсім целе,— абудзіў Смірына ціхі голас Зверава.

— Не размаўляйце...

— Добра, доктар,— Звераў нават вочы заплюшчыў.

Праз некаторы час Смірын зноў праверыў пульс Зверава і ўзрадаваўся: ён быў нармальны. Прынёс прыбор і вымераў крывяны ціск. Выняў з вушэй гумавыя трубкі фанендаскопа і ледзь не сказаў: «Не круціце, таварыш маёр, у вас сапраўды нічога няма».

— Ужо галава не баліць,— сказаў Звераў, нібы здагадваўся, аб чым думаў доктар.

— Ляжыце спакойна.

Смірын зайшоў у камеру, сеў на месца Зверава і сам праверыў кіслародны прыбор.

«Што ж тут адбылося? — думаў ён.— А можа, не адпачыў як след?» Выйшаў з камеры, шырокімі крокамі мераў пакой, нібы тут быў адзін.



— Можа вам куды трэба ісці? — папытаўся Звераў.

Смірын спыніўся.

— Вы ўгадалі...

— Можаце ісці. Я буду ляжаць...

— Толькі не ўставайце...

— Добра, доктар...

Смірын пайшоў у амбулаторыю, каб пазваніць у лазарэт, ці ёсць там месцы. Дзяжурная медсястра сказала, што афіцэрская палата зусім пустая. Калі Смірын вярнуўся ў баракамеру, Зверава там не было.

— Таварыш Звераў! — гукнуў Смірын.

З агрэгатнай паказаўся механік.

— Дзе маёр?

— Ляжаў жа тут...

Смірын выбег на двор і ўбачыў Зверава, які ўжо быў каля свайго дома.

Урач не ўвайшоў, а ўбег у кватэру нампаліта. Той ужо ляжаў на ложку, папраўляў на сабе коўдру.

Смірын цяжка сеў у крэсла.

Звераў нічога не гаварыў, урач таксама маўчаў. Цягнулася так, мусіць, каля дзесяці мінут.

Злосць у Смірына прайшла.

— Доктар, хіба я не ведаў, куды вы спяшаліся?— сказаў Звераў.— Мяне не ашукаеце...

— Вы самі сябе ашукалі...

— Няхай сабе. Затое я дома. Вельмі не люблю ляжаць у лазарэце...

Смірын з дакорам зірнуў на яго.

— Зараз мне зусім добра. Заўтра я пайду на службу...

Урач перасеў на ложак, зноў узяўся правяраць рэфлексы. Доўга даследаваў, а потым устаў і падышоў да акна. Думаў аб тым, што ранейшых сімптомаў цяпер ужо не заўважалася.

«Можа мне там здалося, што ёсць паталогія?» — раптам з'явілася пытанне. Смірын быў нездаволены Зверавым, а яшчэ больш самім сабою. Ён не здолеў паставіць дыягназ.

І яшчэ больш стала крыўдна не за сябе, а за медыцыну, якая так мала дала ў рукі ўрача-практыка, а ўсё забрала ў клінікі, інстытуты.

Хто ж ён, Смірын, у палку? Сапраўдны ўрач ці толькі дарадчык па ўрачэбных пытаннях?

За якую-небудзь гадзіну твар урача змарнеў так, нібы ён цяжка перахварэў і нядаўна ўстаў са шпітальнага ложка.

А Звераў між тым увесь час сачыў за Смірыным і бадай здагадваўся, што рабілася на душы ўрача. Хацеў супакоіць, сказаць, каб не турбаваўся, ішоў на службу. Аднак перадумаў, загаварыў пра другое.

— Камандзір пакрыўдзіцца...

— За што?

— Дамовіліся ляцець, а я лёг...

«Што ён гаворыць? Толькі што справа ішла аб жыцці чалавека, а ён шкадуе дробязі, пра якія можна не ўспамінаць»,— падумаў Смірын і пазваніў у лазарэт. Выклікаў фельчара Пятрова, пакінуў яго ў нампаліта, а сам пайшоў да камандзіра палка.

— Слабец ён. К палётам не дапускаць,— загадаў Дым.

— Слухаю!
Смірын, задумлівы, стаяў перад камандзірам.
— Што яшчэ ў вас?
— Гэта не самае важнае. Важней тое, што я не паставіў дыягназ...
Дым падышоў да Смірына.
— Нічога асаблівага, што вы не паставілі дыягназ. Кажуць, адзін Арыстоцель усё ўгадваў. Скажу пра сябе. Калі я скончыў авіяцыйную школу, то ўсё ведаў. Пытанняў нікому не задаваў. А сёння шукаю адказу на тысячу з'яў. Ясна?
— Разумею...
Смірын прыйшоў дамоў, узяўся за падручнікі. Шукаў адказу на пытанне: што ж здарылася ў баракамеры?
Смірын зноў падаўся да Зверава. Каля баракамеры спаткаў Сарочына. Далажыў пра выпадак з нампалітам і здзівіўся: начальнік хоць і пачырванеў увесь, але стрымана распытваў, як усё было. Потым папрасіў штодзённа дакладваць пра стан здароўя маёра і, убачыўшы, што Смірын спяшаецца, нехаця развітаўся. Гэта здзівіла Смірына. «Нешта здарылася з начальнікам»,— падумаў ён.
Яшчэ з калідора было чутно, што ў кватэры Зверава смяяліся.
— Вельмі весела ў вас,— сказаў Смірын, зайшоўшы ў пакой.
— Расказваю фельчару смешную гісторыю,— адказаў Звераў.— Званіў Дым, загадаў ляжаць да суботы...
— Мажліва і больш...
— Злітуйцеся, доктар...
— Самалёт вы ўсё ж не скора ўбачыце...
— Я буду рабіць усё, што загадаеце,— сказаў Звераў.
— Вам стала горш?
— Наадварот, мне зусім добра...
Смірын яшчэ раз агледзеў хворага.
«У яго ўжо ўсе звесткі пра маю хваробу сабраны. Па вачах бачу»,— падумаў Звераў і тут жа адважыўся на самае галоўнае.
— Вось што, доктар... Я павінен расказаць вам,— толькі гэта між намі.— Збераву адразу стала лёгка гаварыць.— Перад ад'ездам сюды я зайшоў да свайго палкавога ўрача па медыцынскую кніжку. Мы з ім былі сябры, і я жартам папрасіў паставіць адзнаку аб выпрабаваннях у баракамеры. Ён напісаў, што паднімаў мяне на пяць тысяч. А цяпер, калі вы пачалі мяне падымаць, самі бачылі, што было,— Звераў узняў на Смірына бліскучыя чорныя вочы і здзівіўся, што ўрач даверліва слухае яго, ківаючы галавой.
— Я разумею, доктар, што цяпер страціў ваша давер'е, але...
Смірын усміхнуўся:
— Што вы!.. Ну што ж, у полк пойдзеце заўтра, а трэніроўку ў баракамеры пачнем пасля выхаднога дня. Згода?
Звераў устаў, працягнуў Смірыну папяросы.
— Не куру і вам не раю...— весела кінуў Смірын.— Бывайце!

## 16

На камандным пульце асталіся палкоўнік Дым і маёр Смірын. Седзячы над планавай табліцай. Дым падлічыў, колькі будзе сёння палётаў, і нахіліўся над мікрафонам:



— Сорак чацвёрты, як у вас справы?
У рэпрадуктары пачуўся басавіты голас сорак чацвёртага:
— Дазвольце дзесяць і дваццаць?
— Дазваляю! Прыём!
Цішыню аэрадрома абудзіў магутны гул рухавікоў, ён сцяною ішоў на пульт, глушыў усё на сваім шляху. Потым апаў, як марская хваля, ударыўшыся аб скалісты бераг. Пасля гэтага на ўзлётнай паласе паказалася звяно серабрыстых знішчальнікаў, за ім другое. Трэцяе выходзіла з рулёжнай дарожкі.
— Сорак дазваляю,— спакойна сказаў Дым у мікрафон.
І пайшло...
Ад прарэзлівага гулу рухавікоў звонка задрыжалі шыбы ў вокнах каманднага пульта і папера, што ляжала на планавай табліцы, нячутна папаўзла на падлогу. Смірын падхапіў яе на ляту.
Не паспеў сціхнуць гул самалётаў, якія ўзляцелі, а на старце ўжо з'явілася звяно другой эскадрыллі. Яно паволі рухалася, здавалася, раўняла строй і па камандзе кіраўніка палётаў імкліва пайшло на ўзлёт.
Зазваніў тэлефон. Камандзір падняў трубку.
— Дым слухае!..
— Гаворыць Астахаў,— пачулася ў трубцы.— У адзінаццаць гадзін ваш вылет. Вы слухаеце? Цэлі будзе даваць камандуючы. Над возерам перахапіць. Я ўвесь час на сваім камандным пункце.
Тулячы да вуха чорную тэлефонную трубку, Дым схіліўся над картай, затрымаў палец на маленькім сінім кружочку возера сярод зялёнага мора лясоў. Хутка вызначыў курс, прыблізную адлеглаć.
— Вы сказалі ісці эскадрылляй?
— А як жа?
— Па планавай табліцы мы ідзём васьмёркай. Васьмёркай пайду, таварыш камандзір,— сказаў Дым.
Смірын не раз назіраў перамены, якія адбываліся з камандзірам, калі ён збіраўся ў палёт.
Дым адразу стаў вышэйшы і больш сабраны. Твар яго пасуравеў і папрыгажэў, а вочы загарэліся нейкім асаблівым, яркім святлом...
Смірын з затоеным сумам назіраў за Дымам, зайздросціў яго спрыту і незвычайнай адвазе. У гэтага чалавека было штосьці такое, што падбадзёрвала людзей. Непарушны аўтарытэт камандзіра грунтаваўся на вялікіх ведах і вопыце.
Выглянуўшы з пульта, Дым паклікаў маёра Капусціна і перадаў яму чырвоную павязку кіраўніка палётаў. Па планавай табліцы паказаў, хто ў паветры, дзе знаходзіцца і калі павінен садзіцца.
— Іду з Ануцюнавым на перахват... А вы камандуйце,— сказаў маёру Капусціну, а сам па лесвіцы хутка пабег уніз. Сеў у машыну і паехаў на стаянкі.
Скора ў рэпрадуктары пачуўся яго голас:
— Дазвольце дзесяць?
— Дазваляю,— адказаў маёр Капусцін.
Васьмёрка цесна выстраілася парамі, дала поўны газ і са свістам пранеслася паўз камандны пульт.
Дым узляцеў першы, падабраў «ногі» і крануў ручку на сябе. Строга азірнуўся — ніхто не адстаў, сямёрка трымалася каля яго шчыльным строем.
— Добра,— кінуў ён.
Аддалялася, нібы правальвалася зямля, бязмежна шырыўся га-

рызонт. З левага боку стаяла іскрыстае сонца, і ўвесь той бок зацягнуў сонечны пыл. Нічога не відаць знішчальніку пад сонца!

А ўперадзе далёка-далёка Дым прыкмеціў, як бліснула вялікім люстэркам возера, а яшчэ далей дыміў комінамі камбінат. Палеткі нібы спаўзлі з канца плоскасцей назад, і спераду наплываў зялёны лес. Вышыня хутка нарастала...

Камандзір ямчэй умасціўся на сядзенні, шчыльней прытуліўся плячамі да браніраванай спінкі. Настрой у яго быў добры, і, каб не ларынгі на шыі, ён бы заспяваў.

Пад крыламі самалёта плыў ужо лес. Дым зірнуў на карту ў планшэце. Яшчэ тры мінуты, і яны выйдуць на патрэбны рубеж.

«Якую ж цэль дасць камандуючы?» — падумаў Дым і амаль у тую ж хвіліну пачуў працяглы, разважлівы голас Астахава:

— Цэль нумар адзін, курс сорак пяць. Вышыня...

Дым зірнуў на альтыметр.

«Дрэнна, што ў нас такая вышыня. Трэба быць значна вышэй»,— плаўна ўзяў ручку кіравання на сябе.

— Сачыць за мной! — загадаў вядзёным і ўбачыў, што ўсе самалёты пайшлі з наборам вышыні.

— Цэль нумар адзін, курс сорак пяць, раён... — паўтарыў Астахаў.

Сляпіла сонца. Дым апусціў на вочы светафільтравыя акуляры, паправіў на твары кіслародную маску.

— Атакаваць цэль! — загадаў Астахаў.

— Вас зразумеў. Прыём! — адказаў Дым. Ён павярнуў свой самалёт управа і ўбачыў цэль: унізе ішоў бамбардзіроўшчык, цягнучы за сабою прыгожы бялюткі хвост.

— Падрыхтавацца,— загадаў Дым.

Апынуўшыся з сонечнага боку ад цэлі, Дым добра ведаў, што бамбардзіроўшчык яго не бачыць. Загадаў вядзёным:

— Атакую!

Сілуэт бамбардзіроўшчыка ўпісаўся ў першы бліскучы круг, потым у другі і нарэшце стаў на перакрыжаванне. Шум турбін зрабіўся зусім глухі, і Дым націснуў кнопку фотакінакулямёта. Потым рыўком узяў ручку на сябе і свечкай ірвануў у вышыню. Азірнуўся на цэль, задаволена ўсміхаўся: так вам і трэба...

Заднія стралкі бамбардзіроўшчыка не вытрымалі імклівай атакі, кінулі дзяржанні спараных буйнакаліберных кулямётаў, і тыя рулямі ўзняліся ўгару. Якраз, як бывала на вайне. Нервы ёсць нервы. Не кожны стралок, бачачы, як нос знішчальніка становіцца ў хвост бамбардзіроўшчыка, здолее весці агонь, абараняцца. Інстынкт самазахавання гоніць стралка пад бронеспінку.

«Акадэмічная цэль. З ёю справіўся б лётчык Макараў,— падумаў Дым.— Астахаў жа чамусьці хацеў паслаць сюды цэлую эскадрыллю». І тут жа спахапіўся: хто ведае, якімі меркаваннямі кіраваўся камандзір злучэння!

Дым уяўляў ужо, што хутка вернецца на аэрадром, сядзе зноў за стол кіраўніка палётаў і закончыць сённяшні лётны дзень.

Па франтавой звычцы ён не пераставаў аглядаць заднюю паўсферу, чакаў атакі знішчальнікаў, якія па ідэі павінны былі прыкрываць цэль.

І тут зноў пачуўся голас Астахава:

— Цэль нумар два, курс дзевяноста. Вышыня...

— Дзе знаходзіцца цэль? — не ўтрымаўся Дым і прыкусіў язык. Парушыў залатое правіла перахватчыка: маўчаць і ўважліва слухаць каманды...



— Цэль выходзіць на возера,— адказаў Астахаў.

— Вас зразумеў,— адказаў Дым і перадаўАнуцюнаву.— Атакуйце цэль нумар два. Падыходзіць да возера...

Дым глянуў за борт. Над возерам па вялікаму кругу хадзіла звяно Ануцюнава. Патрэбнай перавагі ў вышыні яно не мела, і палкоўнік на ўсякі выпадак сам ірвануўся ў вышыню.

— Увага! — загадаў вядзёным.

Ён убачыў самалёт, наперарэз якому кінуўся Ануцюнаў. Каб лепш бачыць атаку, палкоўнік змяніў курс. Цяпер сонца свяціла ў плечы і відаць было, як бамбардзіроўшчык, хутка набіраючы вышыню, уцякаў ад Ануцюнава.

Дым не такі чалавек, каб доўга разважаць у складаных абставінах.

Ён тут жа, спікіраваўшы на бамбардзіроўшчыка, узяў у прыцэл край яго крыла і кабіну. Цяпер ужо можна адкрываць агонь. Трасіры снарадаў прашыюць кабіну лётчыка, штурмана, зачэпяць і рухавікі...

Дыму прыгадалася, як ён на Курскай дузе ў першы дзень бітвы такім манеўрам за першы вылет збіў трох «юнкерсаў»...

Выйшаў з атакі, набраў вышыню, азірнуўся. Ануцюнаў усё-такі дагнаў бамбардзіроўшчык і атакаваў сваім звяном. Яго звяно ішло парамі, уступам, і гэта не спадабалася Дыму.

«Тактыка! — зазлаваў ён.— Хваставыя стралкі знімуць спачатку пару Ануцюнава, потым саб'юць другую двойку самалётаў. Атакаваць трэба адначасова дзвюма парамі. Агонь стралкоў рассеецца...»

Разважанні Дыма перабіў Астахаў:

— Перайдзіце на другі канал сувязі,— загадаў ён.

— Вас зразумеў,— адказаў Дым і загадаў сваім самалётам далучыцца да Ануцюнава. Гэта, зразумела, нездарма...

Дым пераключыўся на другі канал сувязі. Астахаў папытаўся, колькі ў яго гаручага.

— Дзевяцьсот... Як зразумелі?

— Ідзіце ў квадрат А...

— Вас зразумеў. Прыём! — адказаў камандзір палка. Знайшоў на карце квадрат А, здрыгануўся ад нечаканасці. Квадрат А — самы правы фланг паветраных прастораў, якія ахоўвала злучэнне Астахава.

— Я вас слухаю...

— У квадраце А з курсам сто восемдзесят два ідзе парушальнік. Цяпер ён у дваццаці кіламетрах ад пункта М... Парушальніка пасадзіць або збіць...

— Вас зразумеў. Прыём!

Усё ясна. Толькі ўчора Дым дазнаўся, што завадатары вайны ў Карэі, разгарачаныя вялікімі няўдачамі, паспрабавалі паслаць парушальніка ў нашыя паветраныя прасторы на Далёкім Усходзе. Знішчальнікі перахапілі парушальніка і пасадзілі на аэрадром.

«Гэта было недзе далёка. Але калі і тут хто заблудзіўся, то я пакажу дарогу»,— паабяцаў Дым, трымаючы курс на поўдзень ад пункта М... Ён прыкінуў напрамак, хуткасць і быў цвёрда ўпэўнены, што іх курсы абавязкова перасякуцца ў гэтым месцы.

Рухавік пасвістваў без натугі, вышыня бадзёрыла і вастрыла зрок. Перад Дымам адкрываліся ўсё новыя і новыя гарызонты суседняга з квадратам А ўчастка. Тут ён ні разу не лятаў.

Дым паправіў кіслародную маску, перазарадзіў гарматы, зняў з гашэткі засцерагальнік. Як на вайне: не драмаць!

Ён павярнуў галаву ўлева, глянуў на канец кансолі, і яму здалося, быццам самалёт ледзь прыкметна ўзмахвае крыламі.

Цэль ён убачыў іменна там, дзе разлічваў убачыць.

— Заўважыў парушальніка. Іду на збліжэнне. Прыём! — перадаў Астахаву.

І тут Дым раптам заўважыў, што парушальніка даганяюць два знішчальнікі. Цэль камандуючага маўчала, а парушальнік вёў агонь. Ад яго хваста ў бок далёкіх знішчальнікаў ляцелі рознакаляровыя трасіры. Што рабіць? Запрашаць на пасадку? Якая можа быць просьба, калі ідзе страляніна?

Дым страпянуўся. Умомант вострым вокам ён разлічыў свой удар і з боку сонца па самым краі сферы абстрэлу хваставых стралкоў спікіраваў на праціўніка. У прыцэле паявіўся маленькі шэры сілуэт парушальніка. Ён увачавідкі павялічваўся, выйшаў за рамкі першага круга. Нарэшце пад тры чвэрткі стаў на перакрыжаванне...

«Сам ідзе ў прыцэл»,— мільганула думка.

Трасіры задніх стралкоў веерам разляцеліся ў бакі.

Дым націснуў гашэтку. Самалёт задрыжаў ад стрэлаў гармат. Парушальнік задыміў, зваліўся неахвотна на крыло і стаў куляцца, падаючы ўніз.

Дым выхапіў машыну з атакі, азірнуўся. Унізе над парушальнікам свечкамі ішлі ўгору два знішчальнікі.

Дым перадаў Астахаву, што парушальніка збіў і вяртаецца дамоў.

Глянуўшы на прыборы, ён убачыў, што гаручага ў абрэз, і выбраў самы эканомны рэжым рухавіка. Але гэта не памагло. Прайшло пяць мінут, і машыну моцна пацягнула на нос.

— Іду без гаручага,— далажыў ён Астахаву.

— Дазваляю катапультавацць...— загадаў Астахаў.

Дайшоў да двух тысяч метраў, яшчэ раз упэўніўся, што да аэрадрома яму не дацягнуць. Садзіцца трэба... А дзе? Пад ім, як мора, плыў лес.

Стрэлка альтыметра на момант застыла на двух тысячах і пайшла далей улева.

— Катапультую,— глуха сказаў Дым.— Як зразумелі?

— Вас зразумеў,— адказаў Астахаў.

З кабіны яго выстраліла, як страляе коркам бутэлька. Куляючыся ў паветры, ён паспешна адвязаўся ад сядзення, адштурхнуўся ад яго нагамі і тузануў за колца парашута. Стропамі моцна секанула па галаве. Ён гушкаўся пад шырокім купалам і не бачыў свету белага ад пякучага болю ў левай шчацэ.

Над Дымам у вышыні прайшла пара самалётаў. Яны ўбачылі парашутыста і пайшлі па кругу. Дым правёў іх сумным позіркам. Ніколі ён не быў такі бездапаможны, як цяпер. Разумеў, што на яго месцы зрабіў бы так кожны лётчык. Нарэшце, Астахаў дазволіў катапультавацць. Усё гэта так. Аднак ён — камандзір палка. А раз так, значыць, павінен быў зрабіць нешта такое, каб выратаваць не толькі сябе, а і машыну. Павінен быў і не змог...

Падцягваючыся на стропах, ён плаўна ішоў па ветры. Меркаваў прызямліцца на адзінай ледзь прыкметнай зверху паляне. Але моцны вецер аднёс яго ўбок, і ён стукнуўся аб каструбаваты ствол дрэва. Агнём пеканула ў правую нагу. Ён заплюшчыў ад болю вочы.





«На сасну сеў»,— зразумеўшы, што здарылася, ён дастаў з кішэні нож перарэзаў зблытаныя стропы і, абсыпаючы сухую кару, ссунуўся з дрэва на зямлю. Адпоўзшы ў лагчыну, разгроб мох, ігліцу і прыпаў гарачым тварам да сіняга, крупяністага снегу.

Самалёты зрабілі над ім яшчэ адзін круг і пайшлі на поўдзень...

Да каманднага пульта падруліў «ПО-2». Наперарэз яму, размахваючы санітарнай сумкай, памчаўся Смірын. Амаль на хаду ён ускочыў у заднюю кабіну, прывязаў сябе да сядзення і крыкнуў на ўвесь голас:

— Га-зу-уй!

«ПО-2» прабег між рулёжнымі дарожкамі і ўзляцеў у паветра. Ён пайшоў над палеткамі, над балотамі, узнімаючыся ўсё вышэй і вышэй. Над лесам, дзе грымеў паветраны «бой», Макараў знізіў самалёт, высунуўся з кабіны і ўбачыў на дрэве купал парашута.

«Дзе ж камандзір?» Смірын узіраўся ў невялікую прагаліну, але там нікога не было.

Смірын узяў Макарава за каўнер ззаду. Лётчык адразу набраў вышыню, выключыў матор. Толькі так і можна перагаварыцца на «ПО-2» пасажыру з лётчыкам.

— Камандзіра не відаць?

— Не відаць...

— Прайдзіце паўз самы купал парашута. Можа вісіць на стропах...

Над прагалінай пранесліся вельмі нізка адзін раз, другі...

Калі самалёт пайшоў з наборам вышыні, Смірын выглянуў за борт і ўбачыў Дыма: абапіраючыся на кій, ён махаў ім шлемафонам.

Што рабіць? Навокал лес. Нідзе не відаць ні дарог, ні сцежак...

Лётчык зноў набраў вышыню, выключыў матор.

— Ваша рашэнне?

— Нам бы сесці, каб было дзе...

Макараў толькі пакруціў галавой:

— Дзе ж мы сядзем? Поруч з купалам парашута?

— Тады пройдзем яшчэ раз над камандзірам. Сумку санітарную яму скінем.

Самалёт пайшоў зусім нізка. Смірын кінуў сваю сумку на абвіслыя галіны елкі.

— Лаві-і-іце! — крыкнуў ён што было духу.

На самалёце ўбачылі, што сумка трапіла да Дыма. Зрабілі яшчэ тры кругі і пайшлі дамоў.

Пад плоскасцямі плыў густы, стары лес. Потым пайшлі пералескі, а далей паказаліся палеткі. З правага боку мільганула пакручастая рэчка, а ўперадзе сярод азімага жыта вілася палявая дарога.

«Да яго ні пад'ехаць, ні падысці,— разважаў Смірын.— А калі я папрашуся?..»

Уперадзе паказаўся ўжо аэрадром. «ПО-2» па-вераб'інаму падскочыў некалькі разоў і спыніўся поруч з камандным пультам.

Падбег устрывожаны Звераў.

— Бачылі камандзіра?

Смірын і Макараў расказалі, што бачылі зверху. Звераў разгарнуў карту.

— Далёка да шашы...



— І дарог няма,— уставіў Ануцюнаў.

— Камандзір ці ранены, ці сур'ёзна пашкодзіў нагу,— сказаў Смірын.— Я хачу скочыць да яго з парашутам. Хто мяне скіне?

— Вы парашутыст?

— Дзесяць разоў скакаў...

— Далажу ў злучэнне,— спахапіўся Цвёрдахвалаў і пабег на пульт.

— Што вы там адзін будзеце рабіць? І я з вамі...— падахвоціўся Ануцюнаў.

— Вам забаронена скакаць з парашутам...

Звераў глянуў на Смірына.

— Я вас скіну...

— Добра!

У гэты час з свайго каманднага пункта прыляцеў палкоўнік Астахаў. Падруліў да пульта і адразу накіраваўся да Цвёрдахвалава.

— Якія меры прынялі для пошукаў камандзіра?

— Пазваніў у штаб злучэння...

— Што?

Цяжка сказаць, што б было далей, каб да іх у гэты час не падышоў Смірын. Ён расказаў Астахаву, што лятаў над Дымам, скінуў яму санітарную сумку, што Дым зможа аказаць сабе якую-колечы дапамогу, але ён хоча скочыць да яго на парашуце і на месцы разабрацца, што да чаго.

Астахаў махнуў рукою Цвёрдахвалаву, доўга пазіраў на Смірына.

— З кім хочаце ляцець?

— Са Зверавым...

— Не марудзіць. Можа ранены камандзір... Праўда, ён нічога не перадаваў, пакуль я з ім меў сувязь...

Смірын паклаў запазуху некалькі бінтоў. Шлемафон і куртку ўзяў у Макарава, а парашут прынёс Ануцюнаў. Неўзабаве лётчыкі экіпіравалі Смірына, падсадзілі ў кабіну і памахалі рукамі.

Звераў увесь час ішоў з наборам вышыні і, калі паявіўся над Дымам, выключыў матор.

— Падрыхтавацца! — загадаў ён урачу.

Смірын, трымаючыся за левы борт, вылез на крыло самалёта. Вятрыска на вышыні забіваў дух.

— Пайшо-о-оў! — крыкнуў Звераў.

Смірын кінуўся галавою ўніз. Адлічыў чатыры разы і вышмаргнуў колца парашута. Яго падкінула вельмі размашыста і паставіла галавою ўверх. Калі агледзеўся, то адразу зразумеў, што скідаў яго спрактыкаваны чалавек. Гэта добра. Смірын прыцэліўся на прагаліну лявей купала парашута, падцягнуўся на стропах і неўзабаве гупнуў падэшвамі на мяккую ігліцу. Паляцела ў бакі сухое лісце, мох...

Смірын хутчэй патушыў парашут і, скідаючы з плячэй лямкі, пачуў Дымаў голас:

— Вялікая зямля заўсёды паможа!..

— Як бачыце! — усміхнуўся Смірын і хутчэй пабег да камандзіра.— Што ў вас?

Ён прыглядаўся да правай нагі, на яе Дым не мог наступіць.

— Нагамі аб ствол стукнула...

«Гэта бадай яшчэ нічога ў параўнанні з тым, што я думаў...»

Смірын узяў камандзіра пад руку, выбраў лапіну муравы, паса-

дзіў яго. Стаў на калені сам і яшчэ не паспеў дакрануцца да яго, як камандзір засцярожліва наставіў рукі.

— Агнём пячэ!..

Звераў траха не чапляўся крылом за вяршаліны дрэў, кружыўся над імі, высоўваючыся з кабіны. Дым седзячы, а Смірын стоячы пачалі яму махаць, каб ляцеў дамоў. Звераў зразумеў, яшчэ раз нізка пранёсся над прагалінай і пайшоў на аэрадром.

Смірын тым часам папрабаваў сцягнуць бот, але, убачыўшы, як Дым схапіўся за нагу, нажом распароў халяву.

Уважліва агледзеў, абмацаў нагу і ўздыхнуў.

— Падламаліся,— гаварыў ён.— Не многа, але падламаліся...

— І трэба ж падвярнуцца гэтай хваіне!

Смірын узяў сумку, змадэліраваў шыну і, накладаючы яе на нагу, растлумачыў:

— Такі пералом называецца дзюцюітрэнаўскі...

— Можа дымаўскі? — сціскаючы зубы, працадзіў камандзір.— Няхай хто другі дастане нагой вунь да таго сучка...

Настрой у Дыма палепшыўся, а калі Смірын скончыў бінтаваць, ён памкнуўся ўстаць.

— Памагу зараз,— Смірын падставіў плячо, і яны ўдвух паволі пачыкілялі да шашы.

Ішлі то поруч, то адзін за адным. У нізінах пад мохам, як мокрая соль, чвякаў снег. На першым жа яловым выварацні Дым сеў адпачыць. Адсопся, выцер твар і вінавата паглядзеў на Смірына. Неўзабаве пайшлі далей. Смірын заўважыў, што Дым садзіўся ўсё часцей і часцей. Потым як сеў, дык і прыкіпеў.

Смірын нібы чакаў гэтага моманту. Узяў камандзіра на плечы і панёс. Дым то маўчаў, то стагнаў, прасіўся пасядзець, яму хацелася адпачыць. Смірын падбадзёрваў яго і крочыў усё далей і далей. Так і не заўважыў, калі лес заткаўся сінявою адвячоркаю.

Раптам ззаду забрахалі сабакі. Дым азірнуўся і свіснуў, як салавей-разбойнік. Два вялізныя шэрыя ваўкадавы перасталі брахаць, з лесу паказаўся чалавек са стрэльбай. Ляснік!

Пазнаёміліся, пагаварылі, і ляснік павёў іх да сябе.

— Алена, смаж каўбасу,— гукнуў ляснік, ступіўшы на ганак хаты.— У нас сёння госці...

Запалілі лямпу. Не ведалі, дзе іх пасадзіць, што падаць. На камінку над трыножкай разгарэліся трэскі, на патэльні засквірчэла сала, каўбаса.

Ляснік унёс з сянец кантовую пляшку.

— Сядайце за стол, дарагія таварышы. Падсілкуемся, а пасля будзем думаць, што рабіць далей.

Вячэра цягнулася доўга. Дзеці паснулі, на лаве драмала гаспадыня, а гаворка не спынялася. Цяпер расказваў Дым:

— Дзесятага ліпеня сорак першага года мы шасцёркай прыкрывалі бамбардзіроўшчыкі, якія бамбілі пераправы цераз Буг пад самым Брэстам. Нашы «ДБ-3Ф-1» пашкодзілі чыгуначны мост, разбілі некалькі пераправаў, а мы круціліся над імі і, калі бамбардзіроўшчыкі леглі на зваротны курс, пайшлі ўслед. Наш вядучы ўбачыў убаку звяно нямецкіх знішчальнікаў. Яны да нас не набліжаліся, ішлі паралельным курсам. Мы нават здзівіліся, што сталася з немцамі. Аднак доўга не прыйшлося чакаць. Мінут праз пятнаццаць на нас збоку сонца звалілася васьмёрка «месершмітаў». І завязаўся паветраны бой. Усе спляліся ў клубок. Я збіў аднаго «месера», другога падпаліў і ўзяў у прыцэл трэцяга. У гэты момант па плоскасці май-





го самалёта нечакана разанулі трасы. Штосьці трэснула, і самалёт накраніўся. Пасля ўдару па фюзеляжу самалёт зусім зваліўся. Я адчыніў ліхтар і пакінуў самалёт. Скакаў зацяжным. Калі над галавой успыхнуў белы купал парашута, на мяне спікіравала пара «месершмітаў». Ірваліся снарады, свісцелі кулі: фрыцы вырашылі расстраляць мяне ў паветры. Вось пеканула ў плячо, а тут і зямля якраз. Я ўпаў у куп'істае балота. А немцы ўсё пікіравалі на мяне і заўзята абстрэльвалі. Асколкам ранілі ў сцягно і, мусіць, думалі, што забілі. Пахадзілі на брыючым, амаль чапляючыся за вершаліны дрэў, і паляцелі.

Колькі я ляжаў у тым балоце, не ведаю. Нарэшце пачуў крокі. Выхапіў пісталет.

— Ён тут! — сказаў дзявочы голас.

Расхіліліся кусты, на мяне глянулі ўстрывожаныя, вялікія дзявочыя вочы. Не звяртаючы ніякай увагі на настаўлены пісталет, яна кінулася да мяне.

— Ты ж ранены! — хутка азірнулася.— Дзед Мірон! Сюды!

— Іду, Паліна...

— Дзе немцы? — папытаўся я.

— Там,— махнула Паліна рукой.

Яна скінула блузку, разадрала яе, перавязала раны. Перацягнула мяне на сухое адонне. А пад вечар забрала ў школу, дзе настаўнічала. Усю ноч рыхтавалася ў дарогу, варыла, смажыла. На досвітку выехалі з вёскі. Пяць дзён ляснымі дарогамі браліся на ўсход. Паліна і карміла і паіла мяне, як малога. Дзесьці пад Гомелем напаткалі палявы шпіталь. Я абняў Паліну, падзякаваў, сказаў, што пасля вайны прыеду. Яна ўсміхнулася, сказала, што будзе чакаць. Атрымалася так, што я ў сорак чацвёртым годзе ваяваў на 1-ым Беларускім фронце і наведаў тую вёску. Паліна раненая прыйшла з партызанскага атраду. Рука яе была падвязана хусткай. Ранілі яе ў апошнім баі. Я палажыў яе ў шпіталь і вярнуўся ў часць. Мы перапісваліся, і калі скончылася вайна, я зноў паехаў да яе. У полк ужо вярнуўся разам з Палінай.

— Харошыя ў нас дзяўчаты,— сказаў ляснік і глянуў у акно на зорнае неба.— Нам пара збірацца...

— Мы гатовы...— устаў з лаўкі Смірын.

— Парашуты я знайду і прывязу пасля. Не прападуць...

Выйшлі на цёмны ганак. Смірын перанёс Дыма на воз, падлажыў пад нагу болей сена, аглянуліся ўдвух на цёмную хату і паехалі. На ляснoй дарозе сакаталі колы, фыркаў конік.

І калі выбраліся на шашу, Смірын спыніў першую ж машыну. Аднак доўга таргаваўся з леснікам, які не аддаваў Дыма.

— Што гэтыя машыны! Я на сваім стаенніку як бач дастаўлюся на ерадром...

## 17

Лейтэнант Макараў павесіў у шафу шынель Смірына, у якім ён прыехаў з палётаў. Скінуў лётную форму. Надзеў новы гарнітур з залатымі пагонамі. Шыю трошкі ціснуў гальштук, які ўпершыню сёння завязаў. Другім разам гадзіну прастаяў бы перад люстэркам, падагнаў бы яго. Цяпер не было калі. Глянуў на настольны гадзіннік,



на радыёпрыёмнік, уздыхнуў і выйшаў на вуліцу. Непрыемны цяжар ціснуў душу. На двары, здаецца, было крышку лягчэй, хацелася пахадзіць па вуліцы. Аднак жаданне жаданнем, а служба патрабавала свайго. Яго чакаў дзяжурны па палку.

— Думаў, спознішся,— сказаў ён.

Макараў крануў павязку на яго рукаве.

— Пайшлі...

— Дзяжурыў нармальна,— казаў старшы лейтэнант, ідучы за Макаравым у пакой дзяжурнага.

Удвух усё агледзелі, што трэба аглядаць пры здачы дзяжурства, палічылі, што лічыцца штодзённа, зрабілі развод караулаў, і чырвоная павязка з белым надпісам апынулася на рукаве Макарава.

— Усё ў парадку,— уздыхнуў былы дзяжурны.

— Памаўчы, калі ласка...— незадаволена сказаў Макараў.

— Што з табою, Саша?

— Усё ў парадку... Дзяжурыў нармальна... А камандзіра палка няма. І Смірына няма. Што з імі?

Старшы лейтэнант развёў рукамі.

— Я думаў, у цябе што другое...

— Пойдзем да Цвёрдахвалава,— ціха, але выразна сказаў Макараў.

Старшы лейтэнант крыкнуў на ўвесь пусты калідор штаба «смірна!», і яны, адбіваючы крок, увайшлі ў кабінет Цвёрдахвалава.

Начальнік штаба ўстаў з-за стала і, стоячы, выслухаў даклад старшага лейтэнанта аб здачы, а Макарава аб тым, што ён прыняў дзяжурства. Новага дзяжурнага ўразіла, як трымаўся Цвёрдахвалаў.

Перад ім на стале ляжала папка з паперамі, і ён іх, пэўна, чытаў, як рабіў гэта ўчора, пазаўчора. У такі дзень?.. Па спіне Макарава прабег халадок.

— Ноччу праверыць караулы, запісаць праверку...

Лейтэнант перахапіў праніклівы позірк начальніка штаба і, каб хутчэй скончыць гутарку, бадзёра сказаў:

— Слухаюся!

— Пытанняў няма? — папытаўся Цвёрдахвалаў.

У дзяжурнага пытанняў не было.

— Можаце ісці...

Макараў павярнуўся і, спіной адчуваючы грозны позірк Цвёрдахвалава, выйшаў за старшым лейтэнантам з кабінета. Развітаўся з таварышам і зайшоў у пустую дзяжурку. Астаўшыся адзін, задумаўся. Дзе цяпер камандзір? Ідзе са Смірыным ці едзе? На чым? Там няма ні сцежак, ні дарог...

Макараў не хацеў, але ўзрушанасць прымусіла зноў падумаць пра свайго папярэдніка — дзяжурнага па палку. Яму чамусьці здавалася, што ў старшага лейтэнанта пагас камсамольскі агеньчык.

«Пабыць бы табе на дыспуце, што нядаўна быў у клубе гарнізона, ты б адразу ажывіўся»,— усё вельмі ярка прыгадалася Макараву. Тэма дыспуту: «У чым хараство маладога савецкага чалавека?» Гарнізонны клуб не мог змясціць усіх, хто хацеў прыняць удзел у ім, паслухаць. Многія стаялі ў калідоры. Пасля невялікага даклада выступалі прамоўцы. Гаварылі аб паводзінах камсамольцаў дома, на рабоце, на вуліцы. Чыталі вершы, байкі, урыўкі з паэм. Вельмі запамяталася выступленне токара Зіны, члена камітэта камсамола падшэфнага камбіната.

— Камсамольцы-авіятары, мы вас любім. З вамі хочацца гаварыць аб жыцці, рабоце, літаратуры. Аднак і сярод вас... Мая сяброўка расказвала, як у мінулую суботу пазнаёмілася з адным вашым сержантам. Завяла гутарку пра «Анегіна» Пушкіна, а ён ёй пра кантровачны дрот і нейкія шплінты...
Авіятары грымнулі раскацістым смехам.
— Механік, значыць,— пазналі яны.
— Хто такі?
— Як зваць?
— Шкада, што не папыталася яго прозвішча, але ён, пэўна, тут...
Узняўся яшчэ большы смех.
— Дзяўчына яму расказвала, што ездзіла ў свой калгас, які вырошчвае вельмі добры лён. Ён папытаўся, якой машынай яго косяць...
— Ха-ха!
— Гарадскі чалавек!
— Мы хочам, каб у нашага маладога чалавека, камсамольца, ваеннага або цывільнага, звычкі, думы, адносіны да таварышаў, дзяўчат былі вельмі чулыя...
Пасля выступлення Зіны ў зале не знайшлося ні аднаго раўнадушнага чалавека. Кожны імкнуўся выказаць свае меркаванні, спрачаўся з другімі.
Макараў вельмі часта ўспамінаў выступленні на дыспуце.
«У старшага лейтэнанта ў грудзях не сэрца, а дуцік са старога самалёта»,— абураўся Макараў, бо ў палку не было ні аднаго чалавека, якога б не турбавала тое, што не вярнуўся камандзір. І не проста камандзір — ас...
Лейтэнант пазваніў у лазарэт.
— У вас няма Смірына? — спытаў у дзяжурнай сястры.
— Няма...
— Прашу прабачэння...
Палажыў трубку, узлёг на стол. Звёў павекі. Перад ім паплыла зеляніна лесу, бліснуў на сонцы белы парашут Дыма. Сядзіш у гэтым пакоі, а чалавеку, можа, патрэбна дапамога?..
Сонца ўжо было нізка. Касыя чырвоныя праменні варушыліся на канапе, на сцяне мяккімі меднымі плямамі.
Ён выйшаў у калідор. Убачыў Зверава і Капусціна: яны паднімаліся на ганак штаба. Падаў каманду, адрапартаваў і пайшоў поруч са Зверавым. Ціха запытаўся ў яго:
— А каб я паляцеў пашукаць маёра?..
— Покуль не трэба. Там ёсць надзейны чалавек... Будзем чакаць абодвух.
— Будзем чакаць,— паўтарыў Макараў, выходзячы на двор. На душы ў яго крыху адлягло. З'явілася надзея, што Смірын і Дым скора будуць дома. Лейтэнанту нават здалося, што бярозкі каля штаба зрабіліся весялейшыя, на іх вершалінах бліснуў прамень заходзячага сонца.
Неўзабаве Макараў зноў пазваніў у лазарэт.
— Смірына няма?
— Хто звоніць?
— Гэта вы, Вера?
— Я. Толькі што заступіла дзяжурыць. Прыедзе Смірын — пазваню вам... Добра?
— Чакаю вашага званка...



Увесь вечар лейтэнант не знаходзіў сабе месца. Пабыў у казарме на адбоі, праверыў каравулы і, як звычайна робяць дзяжурныя па палку, мог на пару гадзін прылегчы, пакінуўшы за сябе памочніка. А ён усё тупаў па алеі каля штаба.
Пад хруст пяску на алеі згадаліся лейтэнанту школьныя гады. У школе ён вучыўся выдатна. Па матэматыцы ішоў першы. Усе думалі, што ён будзе паступаць на фізіка-матэматычны. На выпускным вечары падышоў да яго выкладчык матэматыкі. Хацеў падручыцца памагчы рыхтавацца да экзаменаў.
— Я іду ў авіяцыйнае вучылішча,— сказаў яму Макараў.
Матэматык прамоўчаў. У тую хвіліну ён, мусіць, не падумаў, што, акрамя матэматыкаў і фізікаў, Радзіме яшчэ патрэбны адукаваныя абаронцы. За яго падумаў Макараў.
У вучылішчы Макараву ўсё давалася вельмі лёгка. Жыў палётамі, марыў пра іх. Прыбыў у заслужаны полк, быў трохі затрымаўся з палётамі. Нарэшце выпусцілі ў паветра. Дым назіраў за яго вучобай. І вось... Дым вырваў яго са штопара. Не лаяў, а стараўся падтрымаць упэўненасць. Лейтэнант за кароткі час прайшоў падрыхтоўку ў звяне. Аднак яму здавалася, што цяпер вучоба ішла марудна, што ён топчацца на месцы.
«Не давялося з Дымам у пары палятаць,— думаў лейтэнант.— Эх, зірнуць бы на яго перахват!»
Ноч прайшла непрыкметна. Макараў не заўважыў, калі над ваенным гарадком спалавела неба. Ён спыніўся каля штаба, глянуў на казармы. Лявей ужо ружавеў усход.
— Пайду ў эскадрыллю,— сказаў дзяжурнаму па штабу.— Будуць званіць — пераключайце туды.
— Слухаюся!
І пайшоў прысадамі. Пабыў у казарме на пад'ёме, зайшоў у сталоўку, адправіў на аэрадром механікаў.
Ужо свяціла ранішняе сонца, калі вяртаўся ў штаб. На перакрыжаванні спыніўся, глянуў на домік. Падышоў, узбег на ганак. Пазваніў. Адчыніла Дымава жонка.
— Калі ласка...
— Лейтэнант Макараў,— хвалюючыся, сказаў лётчык.
— Праходзьце,— сказала яна і павяла ў пакой, дзе ён аднойчы быў з палкоўнікам.— Мяне завуць Паліна Аляксандраўна.
Пасадзіла лейтэнанта ў крэсла, сама села насупраць. Была яна рослая, у цёмным плацці, скупа ўсыпаным вялікімі чырвонымі кветкамі. Прыгожы бледны твар з выразнымі цёмнымі кругамі пад вачамі: відаць, не спала ўсю ноч.
— Я сёння дзяжурны,— нарэшце сказаў Макараў.— Прабачце, што так рана зайшоў...
— Для мяне гэта не рана,— заўважыла Паліна Аляксандраўна.— А тым больш сёння...
— Ваш муж выпускаў мяне ў паветра, сачыў за кожным маім крокам. Калі мне аставалася жыць лічаныя секунды — вырваў мяне са штопара, у які я так недарэчна трапіў. Ніяк не магу дачакацца яго...
— Смірын сказаў, што нічога страшнага няма...
Макараў ўсхапіўся з месца.
— Дзе вы бачылі Смірына?
— Нядаўна былі тут удвух. Паехалі ў лазарэт...
Лейтэнант падхапіўся.
— Дзякуй!..

І хутка пабег у лазарэт.
Вера запыніла яго ў калідоры, не пускала ў палату. Макараў так прасіўся, так глядзеў на яе, што сястра вымушана была ўскінуць яму на плечы халат. Не памятаючы сябе, лейтэнант пацалаваў яе ў шчаку. Ад парога палаты ўзіраўся ў твар палкоўніка, які ляжаў на ложку, заклаўшы рукі за галаву. Потым вейкі яго ўзняліся, твар асвятліўся радасцю.
Макараў на пальчыках падышоў да ложка, абняў Дыма і прыпаў да яго грудзей.
— Як добра, што вы дома,— шаптаў лейтэнант.— Цяпер я спакойна магу жыць на зямлі...
— Сядайце,— запрасіў Дым.
Макараў не адышоў ад ложка.
— Падламаўся крыху.— Дым паказаў на ногі.— Вецер падвёў...
З асцярогай глянуў Макараў на ногі камандзіра.
— Цяжка было дагнаць парушальніка?
— Адразу перахапіў. З сонечнага боку спікіраваў на яго і...
— З першага заходу...— за яго сказаў Макараў.
— І вас жа так вучыў...
У грудзях Макарава салодка заныла.
— Жадаю хутчэй ачуняць,— сказаў ён.— Пабягу ў штаб...

## 18

— Колькі можна спаць? — крыкнуў маёр Лушчыцкі, зачыняючы за сабою дзверы.— А калі спіш, то хоць бы замыкаўся...
Ён думаў застаць Смірына яшчэ ў пасцелі.
— Нас ніхто не ўкрадзе,— пачуўся голас гаспадара з другога пакоя, а потым і сам ён паказаўся на парозе з брытвай у руцэ.— Прывітанне! Сядай, я зараз...
Неўзабаве выйшаў да таварыша чыста паголены, у пакоі запахла адэкалонам.
Сяргей Максімавіч паціснуў Смірыну руку, уважліва паглядзеў на яго. Здалося, што Мікола Іванавіч зблажэў крыху, але рысы яго твару былі надта жывыя. Спагадліва паблісквалі чорныя вочы.
Палкавы ўрач ведаў, што эвакуіраваць Дыма з таго цёмнага лесу было вельмі цяжка.
— Дык ты, кажуць, скакаў з парашутам...
— Скакаў...
— Адчайны ты чалавек!
Лушчыцкі памаўчаў, пакруціў галавою.
— А я не скочыў бы...
— Чаму?
— Між намі... баюся!
— Трэба практыкавацца...
— Нічога не дасць практыка...
— Дасць...
— Адзін раз я скакаў. Ды як? Лётчыкі дружна, адзін за адным, пакінулі самалёт, а я не мог крануцца з месца. З дапамогай начальніка парашутна-дэсантнай службы ўмомант апынуўся ў паветры...
Смірын зарагатаў на ўвесь пакой.
— Прымусілі, значыць?



— Ух і паляцеў! Перакульвалася неба і зямля... У вушах свістаў вецер. Ледзь справіўся сесці!..
Сябры ад душы пасмяяліся. Потым Лушчыцкі ўстаў, падышоў да стала, расшпіліў планшэтку, дастаў агульны сшытак.
— Прачытаў усё,— павольна сказаў ён.— І вельмі рады за цябе. Ты так глыбока распрацаваў пытанне кіслароднага галадання, што я здзівіўся. Віншую, дружа! І ведаеш, што мы зробім?
— Кажы...
— Тваю работу пашлём майму настаўніку — прафесару Сямёнаву. Я з ім перапісваюся. Напішу пісьмо, папрашу прачытаць. Давай паперу.
— Прафесар смяяцца будзе...
— Пабачым...
Лушчыцкі сеў за стол і пачаў пісаць. Мікола Іванавіч пашкадаваў, што паказаў яму свой сшытак. Усё было ціха, а цяпер пойдуць размовы...
— Ну, вось... Паглядзі...
Смірын прачытаў і збянтэжана запратэставаў:
— Так нельга. Што падумае прафесар?
— Ты не ведаеш прафесара. Гэта садоўнік у навукі. Усё жыццё памагае маладым парасткам. У тваёй рабоце столькі новага, арыгінальнага і смелага па фізіялогіі дыхання на вышыні, што стары вучоны проста ўзрадуецца. Дай канверт...
Агульны сшытак абгарнулі тоўстай паперай, напісалі адрас і ўдвух рушылі на пошту. Здалі пакет і затрымаліся на ганку. Падышоў лётчык-капітан.
— Сяргей Максімавіч, калі будзеце ў баракамеры?
— Зараз іду...
— У цябе выпрабаванні? — запытаўся Смірын у Лушчыцкага.
— Трэба яшчэ раз падняць капітана да столі.
— І ў мяне ёсць чалавек...
— Хто?
— Маёр Звераў... Я ўжо яго пасля таго выпадку ў баракамеры многа разоў трэніраваў, а сёння закончу даследаванні...
Урачы накіраваліся ў баракамеру, дамовіліся, што пад'ём правядзе Лушчыцкі.
— На трэцяе месца сяду я. Даўно не быў на вышыні,— падахвоціўся Смірын.— Возьмеш?
— Чаго там не бачыў?
— Хачу праверыць адзін момант...
— Дзеля навукі на ўсё згодзен.
Пакуль палкавы ўрач займаўся з капітанам, Мікола Іванавіч пазваніў Звераву. Нампаліт прыйшоў хутка.
— Вы, доктар, ужо тут? Калі адпачывалі?
— Адпачыў...
— Дым расказваў мне. Хапіла вам...
— Што было, тое прайшло...
Вымераўшы крывяны ціск, Смірын сказаў Звераву:
— І я буду паднімацца...
— Калега, прашу сюды,— паклікаў Смірына Сяргей Максімавіч да свайго стала, завязаў на яго плячо манжэт. Ціскаў гумовую грушу, нахіляўся над прыборам.
— А ну, яшчэ раз...
— Забракаваць хочаш?

— Каго?
Лушчыцкі выняў з вушэй трубкі фанендаскопа, загадаў:
— Прашу заняць месцы...
У баракамеру зайшлі ўтрох, селі да стала. Смірын праверыў свой кіслародны прыбор. Тое самае зрабілі астатнія.
Яркае святло, кволы блакітны колер панелі прыемна бадзёрылі Смірына. Сталёвыя дзверы зачыніліся, шчоўкнулі замкі, і пад'ём пачаўся. Манатонна шумелі помпы. За круглым акенцам мерна тупаў Лушчыцкі.
Смірын пазіраў на стрэлку альтыметра і думаў, што адразу ж пасля выпрабаванняў пойдзе да камандзіра прасіць водпуск.
— Надзець маскі! — загадаў Лушчыцкі.
Стрэлка альтыметра настойліва хілілася ўправа, паказваючы вялікую вышыню. Цяпер яны дыхалі адным кіслародам.
Смірын узяў руку Зверава, прыслухаўся да пульсу. Перад ім ляжаў секундамер. Чаго хацеў урач, Звераў не ведаў. Трывожыла яго зусім іншае. Нампаліт разумеў, што палкавы ўрач сеў у баракамеру дзеля дасканалага вывучэння яго здароўя ва ўмовах вялікай вышыні. На нізкіх і сярэдніх вышынях, на якія паднімаў яго Смірын аж двойчы, ён паспяхова прайшоў выпрабаванні. Прыемна адчуваць, што поплеч сядзіць таварыш, які паможа і словам, і справай, і лекамі.



Дайшлі да столі. Зрабілі прыпынак, так званую пляцоўку. Кожны падлічваў свой пульс, запаўняў анкету.
Лётчыкам Лушчыцкі даў задачу на вылічэнне курса. Першы адказаў Звераў, за ім капітан.
— Да доктара ў мяне іншае пытанне. Мікола Іванавіч, колькі ў чалавека жалудачкаў Маргані?
— Тры, Сяргей Максімавіч. У рыфму адказаць?
— Не трэба. Будзем зніжацца, — паведаміў Лушчыцкі.
Калі скінулі маскі, Смірын выцерся хустачкай, сказаў:
— У вас, маёр, вельмі ўстойлівыя велічыні. Гэта ўласціва вынослівым, трэніраваным лётчыкам...
Шчоўкнулі замкі дзвярэй. Ужо выйшаўшы з камеры, Смірын зноў памераў крывяны ціск у маёра Зверава.
— Вам у космас лятаць...— развітваючыся, ён задаволена паціснуў маёру руку.
Звераў шпарка пайшоў. Палкавы ўрач, крыху забавіўшыся ў баракамеры, неўзабаве выйшаў на ганак.
Сонца высока стаяла над гарадком. Чыстае неба паволі зацягвалася тонкай смугой. Дрэвы ў прысадах варушылі ледзь прыкметным, яшчэ клейкім і кволым зялёным лісцем. На двары было цёпла і хораша.
Смірын, жмурачыся, грэўся на сонцы, сачыў за ластаўкамі, якія ляпілі пад страхою баракамеры гняздо. У імклівым палёце яны нагадвалі самалёты, на якіх лятала лётчыкі з яго палка.
— Што вы там убачылі, Мікола Іванавіч?
З тратуара да баракамеры збочыла Вера. Яна ўся аж свяцілася радасцю. Падышоўшы, пачала ўважліва ўзірацца ў той бок, куды глядзеў Смірын. Зразумеўшы, што зацікавіла ўрача, лагодна дакранулася да яго рукі.
— Спраўна робяць,— глянуў ён на Веру.— Глядзіце...
— І спяшаюцца...
Ён адвёў позірк ад чорнага гнязда і, прыслухоўваючыся да шчэбету ластавак, зірнуў на Веру.
— І расцвілі ж вы сёння...— сказаў раздумліва.
— Вясна, Мікола Іванавіч. Пара здзяйснення мар і надзей, як сказаў паэт,— яе вочы іскрыліся гарэзнасцю, а на пунсовым твары расцвіла добрая ўсмешка.
— Куды сабраліся? — глянула яна ў твар урачу. Прыемная лагоднасць агарнула яе душу.
— Іду да камандзіра і паеду...
— Куды?..— аж спалохалася Вера.
— Шукаць свой лёс...
Яна, уздыхнуўшы, здзіўлена азірнулася.
— А я падумала... Божа, што я падумала? — Вера выразна глянула на Смірына. Прыгожай, аголенай да пляча, рукой паправіла кучаравыя валасы і нібы сказала: вось якая я! Глядзі!..
Мікола Іванавіч, робячы выгляд, што задумаўся, на крок адступіўся ад Веры. У яго перахапіла дыханне.
«Чаго ты шукаеш? Гэта твой лёс!» — чуўся яму спакуслівы шэпт.
Ён змагаўся з сабою, стараўся знайсці ў ёй хоць маленькую загану. І чым пільней узіраўся, тым больш яна падабалася яму. Сэрца яго зайшлося ад захаплення. Знікла ўтома. Усё навокал дыхала свежасцю вясны. На дрэвах ледзь прыкметна і, як яму здалося, радасна трапяталася лісце.
На вуліцы затармазіла машына. З яе выйшаў палкоўнік і, пільна ўзіраючыся, накіраваўся да Смірына. Абхапіў яго за плечы, моцна сціснуў.
— Вось дзе я цябе знайшоў! — ён адхіснуўся на момант, нібы яшчэ раз захацеў упэўніцца, што гэта Смірын.
— Хмарук! — радасна крыкнуў Смірын.
— А мне гавораць — Смірын быў... Пачакайце, думаю, гэта ж, пэўна, той самы... Еду і гляджу — ты, не ты. Дай, думаю, пагляджу. Дзе ж ты служыш, мой маёр? Ты — доктар?
Мікола Іванавіч кіўнуў.
— Прашу пазнаёміцца. Наша медыцынская сястра...
Палкоўнік Хмарук далікатна паціснуў яе руку і хутка выпусціў, нібы апёкся аб гарачае. Затаіў дыханне, а потым, паправіўшы шапку з залатым крабам, гучна ўздыхнуў.
— А я прыехаў на месца Матуля.
— Здарова! — выдыхнуў Смірын.
Яны яшчэ раз моцна паціснулі адзін аднаму рукі.
— Скончыў акадэмію і адразу сюды...
— А Матуль не дачакаўся і паехаў...
Цяпер палкоўнік глянуў на Веру.

— Вайну з доктарам пачыналі, разам хадзілі па яе пакручастых дарогах,— растлумачыў ён і адвёў вочы.— На фронце пасля вельмі часта сустракаліся, а гэта...
— Мне здаецца, гэта было толькі ўчора,— уставіў Смірын.
— Час бяжыць вельмі хутка. Восем год прайшло...
Хмарук памажнеў, але не страціў сваёй стройнасці і жвавасці. Выпраўка бездакорная, грудзі, як звон. На куртцы іскрылася залатая зорка Героя, а ніжэй у шэсць радоў ішлі ордэнскія планкі.
— Усё яшчэ лятаем?
— Інакш не ўяўляю службы ў арміі. Толькі ў паветры! А цяпер еду ад Дыма...
— Як ён сябе адчувае? — пацікавілася Вера. — Я ўжо чатыры гадзіны не бачыла яго. Змянілася з дзяжурства...
Хмарук развёў рукамі.
— У яго становішчы... Словам, ляжыць...— сказаў палкоўнік.— Ты куды?
— Куды можа ісці доктар? Вядома, у лазарэт...
— Жыву я ў гасцініцы, тут жа, у гарадку. Дамовімся так: заходзь вечарам. І вас запрашаю ў сваю келлю,— сказаў Хмарук.— Цяпер я еду ў гарком партыі. А вы далёка?
— У горад выбралася...
— Падвязу вас,— Хмарук не стаў развітвацца з урачом, спыніўшыся каля машыны, яшчэ раз напомніў: — Вечарам чакаю...
Хмарук паехаў з Верай, а Смірын па дарозе ў лазарэт то ўсміхаўся, то рабіўся задумлівы і вельмі сур'ёзны. Радаваўся, што спаткаў франтавога сябра, але ўспомніў і сваё. Трэба ехаць. І неадкладна.
У пакоі дзяжурнага ўрача ўскінуў на плечы халат, зайшоў у палату Дыма. Камандзір ляжаў з кніжкай у руцэ, а калі пачуў крокі, памкнуўся сесці.
— Не ўставайце... Не вялікі начальнік прыйшоў,— усміхнуўся Смірын.
— Для мяне цяпер самы большы,— усміхнуўся Дым.
Урач адкінуў з ног прасцірадла, костачкай пальца пастукаў па гіпсе.
— Высах! Аж гудзе! Нідзе не ціснe?
— Не...
Пакратаў пад пятою загнутую палоску жалеза.
— Стрэмя ў вас, як у сапраўднага кавалерыста...
І весела засмяяліся.
— Сядайце. Расказвайце, што народ кажа?
— Тэлефон у штабе не змаўкае. Усе хвалююцца, віншуюць,— сказаў Смірын.— Усё злучэнне...
— Пачатак быў добры, а канец недарэчны. Не магу скакаць з парашутам. Так?
— Не можаце? Проста выпадак такі...
— Як у вас справы?
— Трэба ісці ў водпуск...
— Давайце рапарт...
Смірын пайшоў да дзяжурнай сястры, напісаў рапарт. Прынёс яго Дыму. Камандзір падпісаў.
— Першая рэзалюцыя ў гарызантальным палажэнні,— засмяяўся Дым.— Жадаю поспехаў!
— Дзякую, таварыш камандзір!
Выйшаў у калідор і спыніўся. Званіў тэлефон.



— Вас просяць,—паклікала яго дзяжурная сястра.
Званіў Лушчыцкі.
— У баракамеры вас чакае начальнік,— афіцыйна загадаў ён.
Ішоў з лазарэта і збіраўся добра прабраць таварыша, але калі пераступіў парог баракамеры і ўбачыў патыліцу Сарочына, які навыцяжку стаяў перад палкоўнікам медыцынскай службы Каўцовым, зразумеў, чаму так з ім гаварыў Лушчыцкі.
Каўцоў устаў з-за стала, павітаўся са Смірыным.
— Як справы, парашутыст?
— Добра...
Каўцоў высокі, плячысты. Галава круглая, нізка падстрыжаная. З-пад ілба ўважліва пазіраюць шэрыя вочы.
— Сядайце,— кіўнуў Смірыну і сам сеў на ранейшае месца.— Я праверыў дакументацыю маёра Лушчыцкага. Заўвагі, якія яму зрабіў, датычацца нейкім чынам і вас. Ён вам раскажа... Як адчувае сябе Дым?
— Нядрэнна...
Каўцоў глянуў на гадзіннік.
— У злучэнні мы арганізавалі пошукавую каманду. Яна будзе мець «ПО-2», санітарную машыну. У вашым гарнізоне такую каманду ўзначаліце вы.
— Слухаюся!
— З часам каманда будзе аснашчацца навейшай тэхнікай.
Ціха скрыпнулі дзверы. Увайшоў Ахтан, далажыў пра сябе. Каўцоў уважліва паглядзеў на яго. «Вунь які ён!» — падумаў палкоўнік.
Смірын адышоўся да Лушчыцкага, каб не заступаць Сарочына і Ахтана: няхай начальнік добра паглядзіць на іх.
— Якую вышэйшую школу скончылі? — запытаўся Каўцоў у Ахтана.
Ахтан зніякавеў, калі пералічаў навучальныя ўстановы, у якіх вучыўся, нават хваляваўся, а потым ажыў, падняў галаву.



— І артапедыяй займаліся? — спытаў Каўцоў.
— Працаваў субардынатарам у артапедычнай клініцы,— без затрымкі адказаў Ахтан.
— І хірургам працавалі?
— Так...
— Колькі часу?
— Гм... Паўтара года...
— Многа рабілі аперацый?
Ахтан неспакойна азірнуўся. Здагадаўся, куды хіліў начальнік.
— Рабіў... Усё рабіў. І тэрапеўтам быў. Служба ў арміі вымагае ад урача многапрофільнасці...
— А можа наадварот?
Ахтан гаварыў вельмі ж гладка. Сарочын ужо не захапляўся Ахтанам і толькі зацята маўчаў.
— А яшчэ на каго-небудзь з урачоў пакідалі хворага? — строга глянуў палкоўнік.
— Прафесар Пятроў расказваў, што...
— Будзеце мне тут расказваць пра прафесара Пятрова. Урачы так не робяць, як зрабілі вы. Хірургіраваць забараняю. Ясна?
— Так точна!
— З вамі я разбяруся...
Тое, чаго так чакалі Лушчыцкі і Смірын, сягоння не здарылася.

Сарочын правёў Каўцова амаль да самай прахадной штаба злучэння. Усю дарогу збіраўся распачаць гаворку пра Ахтана, далажыць пра яго няскончаную навуковую работу, выказаць свае сумненні ў здольнасцях капітана, але так і не адважыўся нічога сказаць. Слухаў, што гаварыў начальнік пра работу медслужбы ў часе інтэнсіўных палётаў, ахвотна пацвярджаў яго словы.
Нарэшце Каўцоў змоўк.
— Апірайцеся болей на палкавых урачоў,— параіў начальнік і, казырнуўшы, пайшоў далей.
Сарочын, астаўшыся адзін, разгублена азіраўся. Не ведаў, з кім параіцца, каму расказаць пра тое, што трывожыла яго апошнія дні.
Невядома адкуль паявілася смеласць, і ён рашыўся пайсці да Астахава, падрабязна расказаць яму пра Ахтана і паслухаць, што скажа камандзір. Хапіла духу дайсці да дзвярэй штаба. Далей — не слухаліся ногі.
«З Астахавым Ахтан жыве ў адным доме. Ён-то пастараўся з ім пасябраваць, а я пайду. Паверне назад!» Сарочын хутчэй пайшоў з двара штаба і апамятаўся толькі тады, калі яго аклікнуў падпалкоўнік Каралёў.
— Вы да мяне, доктар?
Каралёў стаяў на ганку штаба.
— Да вас...
— У апошні час нешта рэдка, доктар, сталі наведваць нас,— Каралёў гасцінна адчыніў дзверы свайго кабінета.— Астахаў у штабе?
— Быў у сябе...
Каралёў пазіраў у сумнаваты твар Сарочына і губляўся ў здагадках: што прывяло сюды начальніка медслужбы злучэння? Пэўна, знайшоў непарадкі ў сталовых ці на складах. А Ахтан, між іншым, не вельмі кантралюе.



— Як вам падабаецца мой старшы ўрач Ахтан? — папытаўся Каралёў.
— Я думаў, што ён зробіць наш лазарэт узорным. Усё-такі — хірург. А ён... — Сарочын асцярожна расказаў пра аперацыю, і Каралёў адразу ўскочыў з месца.
— Я так і знаў! Падвядзе, абавязкова падвядзе,— хваляваўся Каралёў. — Ён падаваў рапарт у паветраную акадэмію. Гадзіну сядзеў з ім, угаворваў забраць рапарт назад. Дык ён мне сказаў, што я не ведаю нармальнай фізіялогіі. Прыйшлося скамандаваць і...
Каралёў, уражаны, маўчаў.
— Няма чаго яму займацца хірургіяй,— ён ляпнуў далоняй па стале.— А то скалечыць каго...
— Каўцоў забараніў яму хірургіраваць...
— Правільна! — Каралёў стаў супакойвацца.— Я яго адразу раскусіў...
А калі Сарочын расказаў, што Ахтан прывёз з сабою няскончаную навуковую работу, Каралёў усміхнуўся:
— Якую прывёз, такую і назад павязе. Не ахтаны рухаюць навуку. Не!
Сарочын пасядзеў трохі, пагаварыў пра Дыма, пра палёты і паспешна развітаўся.

## 19

Палкоўніку Астахаву пазваніў камандуючы, папытаўся, як лечыцца Дым, што яму трэба, перадаў прывітанне і абяцаў быць сам. Пад канец гутаркі падкрэсліў, што палкоўнік павінен звярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку старшых лётчыкаў, камандзіраў звенняў. Гэта Астахаў зразумеў, як папрок. Выправіў на перахват васьмёрку Дыма, потым яго аднаго. І вось цяпер камандуючы паправіў памылку. Маўляў, лепш трэба рыхтаваць сярэдняе звяно камандзіраў. Аднак паведаміў, што яго злучэнне па баявой падрыхтоўцы лётчыкаў выйшла на першае месца.
Астахаў устаў з-за стала. Хадзіў па кабінеце, прыслухоўваўся да сваіх крокаў, церабіў кароткі чуб. Настрой яго быў няпэўны.
«На вайне чалавек, што думаў, тое і казаў. А гэта навучыліся гаварыць дыпламатычна — з аднаго боку, добра, а з другога — трэба звярнуць увагу. Як жа на самай справе ён лічыць наша злучэнне?» — разважаў Астахаў.
Патрабаванне камандуючага пра паляпшэнне падрыхтоўкі камандзіраў ён не будзе выпускаць з-пад увагі. У плане лётнай падрыхтоўкі выдзеліць асобным пунктам. Дзеля сябе будзе добра, і тыя, хто прыедзе правяраць, убачаць аператыўнасць работы яго штаба. Астахаў быў рад, што пачуў голас камандуючага. Значыць, на яго звяртаюць увагу, ведаюць пра добрыя справы, не мінаюць і хібаў.
У дзверы кабінета настойліва пастукалі. Увайшоў палкоўнік Каўцоў. Моцна паціснуў руку Астахава.
— Віншую з поспехам!
— Дзякую...
Падчас вайны яны служылі ў адной дывізіі і нават сябравалі. Потым Каўцоў пайшоў у вышэйшы штаб начальнікам медыцынскай службы, а Астахаў вырас да камандзіра злучэння.

— Маладзеем, Канстанцін Аляксандравіч. Вельмі прыемна! — сказаў Каўцоў.
— Яшчэ ёсць порах, Аляксандр Іванавіч. І сухі! — з усмешкай адказаў Астахаў.— Якім чынам да нас?
— Быў у суседзяў і да вас заскочыў. Ёсць справа...
— Слухаю...
Селі за стол, накрыты зялёным сукном.
— У вашым гарнізоне мы арганізавалі пошукавую каманду. Памятаеце, у часы вайны была ў нас такая армейская каманда.
— Вельмі добра...
— Узначаліць яе палкавы ўрач Смірын. І гэта трэба правесці вашым загадам.
— Зробім! — бадзёра сказаў Астахаў.— Эх, медыцына!
У яго голасе Каўцоў улавіў затоены папрок і насцярожыўся.
— Не, нічога! — паправіўся Астахаў.— Да медыцыны я нічога не маю. Хачу толькі сказаць, што мае рукі не дацягнуліся да яе. А мы, камандзіры, часта не вельмі цікавімся вашым братам. І я такі самы. Пра дактароў мы ўспамінаем, калі што здарыцца. У лазарэце нашага гарнізона працуе капітан Ахтан, ленінградскі доктар. Кажуць, добры спецыяліст. Не тое кажу?..— перапытаў Астахаў, убачыўшы, што бровы Каўцова ўзняліся.
— Іменна не тое...
— Спрачацца не буду...
У кабінет камандзіра, як у свой уласны, увайшоў палкоўнік Хмарук.
— Не перашкодзіў? — глянуў ён на Астахава.
— Знаёмцеся,— адказаў камандзір.
Каўцоў пацікавіўся здароўем Хмарука, папытаўся, калі праходзіў урачэбна-лётную камісію, калі думае лятаць.
— Спачатку трэба асталявацца на кватэры,— а тады думаць пра палёты,— уставіў Астахаў.
— У гэтых пытаннях лётчык павінен быць філосафам. Іначай над ім возьмуць уладу рэчы. Ёсць страха над галавой? Ёсць! Мне, не маладому ды не жанатаму, болей нічога не трэба,— усміхнуўся Хмарук.— А што датычыць палётаў, то я гатовы ў паветра хоць зараз...
Хмарук спадабаўся Каўцову.
— Мы з камандзірам гаворым пра пошукавую каманду. Сродкі і людзі ў вас ёсць. Даручылі гэтую справу маёру Смірыну,— пазіраючы на Хмарука, сказаў Каўцоў.
Начальнік палітаддзела кіўнуў галавой.
— Шкада, што ў мяне Сарочын такі... Палкоўнік прыехаў і займаецца пошукавай камандай. А ён што? — задумаўся Астахаў.
— Сягоння я з ім гаварыў,— падышоў Хмарук да камандзіра,— Быў ён батальённым урачом і цяпер застаўся ім...
Каўцоў з цікавасцю паглядзеў на Хмарука. Яму спадабалася прамініклівасць начальніка палітаддзела.
— А што мы можам зрабіць? У вас жа няма лепшых кадраў,— звярнуўся Астахаў да Каўцова.
— У іх няма, дык у нас ёсць. Вазьміце Смірына. Чым не начальнік медслужбы злучэння? А сядзіць у палку. Як, таварыш камандзір?
Астахаў намагаўся ўспомніць, што яму пра Смірына гаварыла жонка, і не мог.



— У падборы кадраў у нас існуе адзін прынцып. Нам не словы, а справу падавай...
Астахаў паварушыўся на сваім крэсле. Хмарук ссунуў шапку набок, выпусціў кучаравую чупрыну.
— Калі здарыўся выпадак з Дымам, то ні Сарочын, ні хвалёны ленінградскі спецыяліст нават не паварушыліся. А Смірын адразу апынуўся там. Як дабраўся ў той лес? Нампаліт скінуў яго на парашуце. Вось такі ўрач патрэбен нам у авіяцыі!
Камандзір сядзеў задумлівы. Каўцоў маўчаў. Вельмі правільна гаварыў начальнік палітаддзела.
— Я знаёміўся з начальнікамі служб і пацікавіўся ў Сарочына, колькі разоў ён скакаў з парашутам. Дык ён на мяне так паглядзеў, быццам я з Марса зваліўся.
— Ты гаворыш пра Смірына так, нібы даўно яго ведаеш,— узняў галаву Астахаў.
— Я са Смірыным ваяваў у сорак першым годзе. Былі з ім пад канём і на кані. Агнём выпрабаваны чалавек...
— Тады твая праўда,— пагадзіўся Астахаў.
Хмарук выйшаў на сярэдзіну кабінета.
— Паеду ў полк Дыма. Пагляджу планаванне лётнай падрыхтоўкі, праверу і палітмасавую работу,— сказаў Хмарук і падаў руку Каўцову.— Не забывайце нас...
Каўцоў добразычліва паглядзеў услед начальніку палітаддзела.
— Які чалавек!..
— Арол! — сказаў Астахаў.
Каўцоў яшчэ трохі пабыў у Астахава, а потым заспяшаўся ў суседняе злучэнне. Астахаў таксама не сядзеў у кабінеце. Ён думаў пабыць на суседнім аэрадроме і паехаў дамоў. Дома спытаў у жонкі:
— Ты мне гаварыла пра Смірына...
— Гэта ўрач Дыма? Ага... Я здзіўляюся, як ён служыць у палку. Ніякага такту з урачамі і...
— Адкуль ты ведаеш?
— Ахтан казаў...
Астахаў нездаволена павярнуўся і пайшоў. «Часам так і складваецца думка пра чалавека: адзін сказаў, другі дадаў. Правільна сёння гаварыў Хмарук, што кадры трэба падбіраць толькі па дзелавых якасцях».
Па дарозе Астахаў заехаў у лазарэт.
Яго спаткала медыцынская сястра, правяла ў палату да Дыма. Прыкрыла за ім дзверы.
— Леанід Іванавіч! — ён аберуч сціснуў гарачую руку камандзіра палка.— Жывы?
— Нам, знішчальнікам, з такой тэхнікай, як у нас, толькі жыць ды жыць. Няма чаго скардзіцца...
— Ляжыцё ў чатырох сценах і не ведаеце, хто вас сюды камандзіраваў. Я! На маёй душы ляжыць грэх...
Астахаў уважліва аглядаў загіпсаваную нагу камандзіра палка, якая ляжала на падушцы. Пакратаў пальцам жалезнае стрэмя, а потым гіпс.
— Суцэльны жалезабетон.
Дым засмяяўся.
— Праўда. Вунь жалеза, а гэта ж той самы бетон,— паказаў Астахаў на гіпс...
У халаце камандзір злучэння быў шырокі і крыху прыгорблены. Ён сеў насупраць Дыма.

— Можа ў шпіталь паедзеце?
— Смірын сказаў, што скора пайду...
— Чаму Смірын?
— Ён жа старшы ўрач палка і лечыць мяне...
— А Ахтан?
— Каб у мяне ў палку быў гэты самы Ахтан, то дзе я тады павінен быць...
— Не буду спрачацца. Праўда, ён вылечыў маю жонку...
— Ахтаны ведаюць, каго лячыць. Інакш ім нельга,— сказаў Дым.
Астахаў памаўчаў, падумаў.
— Чаму я вас паслаў на перахват?
— Вам відней...
— А другі чалавек справіўся б з задачай?
Камандзір палка трохі падумаў.
— За парушальнікам ішла пара знішчальнікаў. Праўда, далёка...
— А ведаеце хто гэта быў? Ваш Кудлач. Алесік падняў яго, але пазнавата...
— Сцяпан Сцяпанавіч! — весела гукнуў Дым.— Я то і бачыў у яго атаках штосьці знаёмае... Ад Кудлача парушальнік мог у адзін момант павярнуць у нейтральную зону, і — бывай здароў...
— Во!
— Я па краі сектара абстрэлу зваліўся збоку сонца. Яны і ахнуць не паспелі. Не даў экіпажу падумаць, што адказаць, калі запытаюць, «чаго залезлі на чужую тэрыторыю».
— Лётчыкам трэба расказаць...
— Згодзен...

Перад самым абедам Ахтан паведаміў Дыму.
— Да вас хоча зайсці жонка лётчыка...
— Прасіце...
Неўзабаве на парозе палаты паявілася Марына.
— Калі ласка!..— узрадаваўся Дым.
З кветкамі і пакункамі ў руках яна парывіста абняла і пацалавала палкоўніка.
— Вы бачылі Сцяпана?
— Бачыў...
Марына гучна ўздыхнула, адхінулася, букет паставіла на тумбачку, а пакункі палажыла на акно.
— Божа! На двары цеплыня, усё цвіце, радуецца... і раптам у небе страляніна...
— А як жа інакш...— адказаў Дым.
— Мы дрыжым над кожным дзіцёнкам, кормім, поім, носім. Экіпаж бамбардзіроўшчыка — гэта ж не адзін чалавек...
— Не адзін...
— І ў кожнага з іх ёсць бацька, маці, дзеці...
— А ў нашых лётчыкаў, думаеце, іх няма?
— І мой Сцяпан...
Марына прыціснула рукі да грудзей, не даслухала Дыма. Адчуваючы, як сэрца страшэнна забілася, яна ступіла да акна, ухапілася за падаконнік. Няўцямна ўставілася ў акно. Потым неяк павольна адхінулася ад яго, нічога не бачачы перад сабою, заламала рукі.— Казала, паедзем разам, дык — не. Кватэра яму патрэбна новая... К чорту кватэру! Зараз жа еду да Сцяпана...



— Прывітанне яму ад усяго палка і ад мяне асабіста.
— Перадам,— Марына паціснула руку Дыму і хутка выйшла з палаты.
Ахтан вывеў яе з лазарэта на двор і доўга пазіраў услед: не разумеў, што здарылася з жанчынай.

Муся адразу прыкмеціла, што Ахтан нечым устрывожаны.
— Што здарылася?
— Тут Каўцоў...
— Хто такі Каўцоў? — падышла яна да Ахтана.— А-а... ведаю. Далей.
— Пытаўся, што канчаў...
— У асабістай справе ёсць копія дыплома. Няхай паглядзіць і не пытаецца. Не дрыжаць!.. Сягоння гаварыла наконт звання табе...
Ахтан захіліў твар рукамі, моўчкі сядзеў.
— Мы стаім на цвёрдым грунце,— паказала Муся на падлогу, маючы на ўвазе гаспадара першага паверха.— Астахаў за нас...
Яна пацалавала мужа ў лоб і, выходзячы з пакоя, сказала:
— Пабыла мужавай жонкай — хопіць. Пара і мне на работу. Іду ў паліклініку на сход урачоў горада...
— Ужо дамовілася?
— Самі запрасілі...

## 20

Можа Звераў не ведаў яшчэ ўсіх механікаў, тэхнікаў, але лётчыкаў палка добра вывучыў у паветры. Ён многа лятаў, сам настойліва вучыўся, падцягваў другіх.
Недарэчная сутычка са Смірыным у пачатку службы ў палку яшчэ раз паказала яму, якім чулым трэба быць да людзей. Не лёгка служыць лётчыку нампалітам у палку! Ёсць, праўда, людзі, якія сцвярджаюць, што адзін і той жа чалавек не можа быць класным лётчыкам і добрым палітработнікам. Аднак, хто і калі, седзячы ў кабінеце, правільна сказаў аб тым, што робіцца ў войсках?
Дзейнасць Зверава ў палку даказвала адваротнае.
Нядаўна ён падрыхтаваў і правёў агульны партыйны сход і ўбачыў, што камуністы палка надзейна памагаюць камандзіру ў баявой вучобе і выхаванні асабовага саставу палка.
Падаспеў сход камсамольскай арганізацыі. Звераў вельмі шкадаваў, што не было Дыма, але пераносіць сход на пазнейшы час не захацеў. Камандзір не так скора вернецца ў строй, а перад камсамольскай арганізацыяй павінна быць пастаўлена вельмі важнае пытанне аб лётнай падрыхтоўцы ў летні перыяд.
Акрамя штодзённай дапамогі камсамольскай арганізацыі, нампаліт, як правіла, сам заўсёды добра рыхтаваўся да сходаў, рыхтаваў камсоргаў, камуністаў эскадрыллі.
Сягоння Звераў сядзеў над сваім блакнотам. Выбіраў навейшыя факты з жыцця і вучобы камсамольцаў, якія хацеў скарыстаць у выступленні на сходзе.

У кабінет зайшоў лейтэнант Макараў.

— Будзеце на камсамольскім сходзе? — запытаўся ён у Зверава.

— Абавязкова...

— Буду выступаць і крытыкаваць камандаванне палка, якое апошні час стала дрэнна працаваць...

— Канкрэтна...

Макараў устаў, але Звераў пасадзіў яго.

— Камандзіра на камсамольскім сходзе не крытыкуюць...

— Гэта правіла, як браня, ахоўвае выдатных камандзіраў і начальнікаў,— гэта добра, і дрэнных — а гэта вельмі кепска,— нездаволена сказаў Макараў.

«Нарэшце спікіраваў таварыш»,— Звераў зразумеў, што Макараў ужо сказаў, што хацеў.

— А хто вам дазволіў абмяркоўваць загад міністра?..

Густыя вейкі Макарава ўздрыгануліся.

— Я ведаў, што вы гэта скажаце. Зараз жа перадаць мяне на бюро, разабраць, усыпаць і паставіць галачку...

— Чакайце, куды вас панесла...

— А як жа іначай? Толькі думаеш выступіць на сходзе, сказаць, што набалела, а ў цябе пытаюцца пра загад міністра...

— Нічога не папішаш, загад ёсць загад,— весела паглядзеў на камсамольца Звераў.— А мы людзі ваенныя. Мяне можаце крытыкаваць — дазваляю, а камандзіра няможна.

Звераў добра ведаў, што Макараў не збіраўся крытыкаваць Дыма, а калі пакрытыкуе яго, нампаліта, то ад гэтага будзе толькі карысць.

— Няўжо вам абавязкова называць прозвішча? Гаварыце аб справе. Аб справах трэба гаварыць, таварыш лейтэнант...

Звераў не дапытваўся, каго Макараў збіраўся крытыкаваць. Гэта не важна. Важней было правільна арыентаваць камсамольца.

— А за справамі ў нас заўсёды стаяць людзі. Ясна?

— Ясна. Дазвольце ісці?

Нампаліт зірнуў на гадзіннік. І яму пара збірацца.

Заглянуў у кабінет Цвёрдахвалава, з прыемнасцю адзначыў, што начальнік штаба апярэдзіў, раней за яго пайшоў на сход. На ганку стаялі Капусцін і Анצуцюнаў. Так яны ўтрох і рушылі ў клуб. Звераў яшчэ здалёк сярод камсамольцаў палка ўбачыў прадстаўніка палітаддзела — намесніка па камсамолу. Павіталіся з ім і пайшлі ў клуб. За імі рушылі ўсе камсамольцы.

Ужо выбіралі прэзідыум, як прыйшоў палкоўнік Хмарук. Яго пад дружныя воплескі запрасілі ў прэзідыум.

З дакладам выступіў маёр Капусцін. Пачаў гаварыць неяк вельмі ціха, а потым голас яго ўзмацнеў, ён адарваўся ад напісанага, і справа зусім пайшла на лад.

Звераў задумліва прабег позіркам па першым радзе, потым па другім. Сядзелі лётчыкі, тэхнікі, сяржанты, салдаты. Цвёрдахвалава не было. Начальнік штаба, відаць, дзесьці затрымаўся па важнай справе і, пэўна ж, хутка прыйдзе.

Пасля перапынку прамоўцы дружна змянялі адзін аднаго. Чацвёртым выступіў Макараў. Крытыкаваў механікаў-камсамольцаў за падрыхтоўку сто дваццаць трэцяй машыны ў мінулы лётны дзень. Запытаўся, што перашкаджае камсамольцам палка заняць вядучую ролю ў баявой падрыхтоўцы.

— Адразу скажу, што трэба ламаць старыя метады планавання. Прозвішчаў называць не буду...



— Чаму? — крыкнулі з залы.

— Не перашкаджай!

— Я закончыў праграму падрыхтоўкі ў саставе звяна. Атрымаў адзнакі. Пакуль што выйшла нядрэнна. Нам бы цяпер хутчэй ісці ўперад. Максімальна скарыстаць добрую пагоду. А мы стаім. Хто вінаваты? — Макараў развёў рукамі.— Мне здаецца, што самы харошы план, які даводзіцца вышэйшым штабам, на месяцы можна пераглядаць у бок лепшага яго выканання. Ніякага парушэння не будзе. А таптацца на месцы і пазіраць на гэты план... не буду гаварыць, як гэта называецца...

У зале пачуліся воплескі адабрэння.

— Да смешнага даходзіць справа. Наземная падрыхтоўка не забяспечвае лётную. У паветры мы даўно правялі баі звяна, а ўчора слухалі лекцыю — «Паветраны бой пары самалётаў». Недарэчнасць такога планавання падрыхтовак на зямлі і ў паветры відавочная. А хто аб гэтым заікнуўся ў сваім выступленні? Можа дакладчык хоць крыху закрануў хібы работы нашага штаба? А можа нічога ў гэтым дрэннага няма? Можа мы і далей так будзем працаваць?..

Калі Макараў пакінуў трыбуну, зала бурна шумела. Усе ведалі, што лейтэнант гаварыў пра Цвёрдахвалава.

Хмарук запісаў нешта сабе ў кніжачку. Відаць было, выступленне лейтэнанта спадабалася палкоўніку.

Камсамольцы выступалі з агеньчыкам. Задачы баявой падрыхтоўкі на летні перыяд захапілі іх.

У канцы спрэчак выступіў Хмарук. Пахваліў камсамольцаў за гарачае жаданне служыць Радзіме яшчэ лепш, паўней выкарыстаць нашу цудоўную тэхніку. Абяцаў Макараву неадкладна разабрацца з планаваннем падрыхтовак і вінаватых паклікаць на партыйную камісію. Заўвагі другіх прамоўцаў яго таксама зацікавілі.

Пасля сходу Хмарук нічога не сказаў Звераву. Сам нампаліт разумеў, дзе ў палку вузкае месца.

З клуба Звераў пайшоў у кабінет начальніка штаба. Цвёрдахвалаў абкладаўся паперамі, старанна пісаў.

— Тэрмінова выклікалі на камандны пункт. Пакуль праверыў, дык спазніўся на сход...

— Для чаго мне гэта гаворыце?

— Вы ж нампаліт...

— Не думайце, што камсамольскі сход палка патрэбен нампаліту. Зусім не так. Камсамольцы на сходзе гаварылі, як лепш забяспечыць выкананне баявой падрыхтоўкі палка, начальнікам штаба якога з'яўляецеся вы. І вам гэта не цікава?

— Я так не гаварыў,— Цвёрдахвалаў палажыў аловак.— Няёмка было пад канец заходзіць...

— А пад канец якраз пра вас гаварылі.

— Хто?

Вочы Цвёрдахвалава спыніліся, і ён перагнуўся цераз стол. Каб трохі, дык бы ткнуў указальным пальцам у грудзі нампаліта.

— І вы памагалі?

— Я ўсім памагаю,— стрымана адказаў Звераў.— Цяпер прыйшоў вам памагчы...

— Ну-ну,— гучна выдыхнуў Цвёрдахвалаў.— Цікава паглядзець...

Яму не ўяўлялася, як нампаліт будзе яму памагаць. Такога за ўвесь час яго службы на пасадзе начальніка штаба не было.

— Хочаце паглядзець? Давайце разбяромся, як атрымалася ў

эскадрыллі Ануцюнава. Лётчыкі закончылі падрыхтоўку ў саставе звяна, правялі паветраныя баі, а ўчора ім па наземнай падрыхтоўцы чыталі лекцыю: «Баі пары». Нармальна?

Цвёрдахвалаў утаропіўся ў паперы. Звераў закрануў самае балючае месца работы начальніка штаба. Што яму сказаць?

«Як ён даведаўся пра гэта? — яшчэ больш прыгнуўся Цвёрдахвалаў.— Штабнікі сказалі. Сам ён не дабярэцца да такога».

Правай рукой націснуў кнопку на краі стала. Прыбег пасыльны.

— Майго намесніка сюды...

Не доўга стаяла непрыемная цішыня. На парозе кабінета паказаўся намеснік.

— Нясіце планы падрыхтовак...

Цвёрдахвалаў уважліва разглядаў прынесеныя планы па месяцах, кварталах.

— Усё нармальна ў планах,— бадзёра паглядзеў на Зверава.

— А на справе?

— Наземная падрыхтоўка адстала,— сказаў намеснік.— Усё палёты, палёты... Каб трохі дагнаць лётную падрыхтоўку, учора далі тэму: «Баі пары».

— Ідзіце! — загадаў Цвёрдахвалаў намесніку.

У кабінеце некалькі мінут панавала цішыня.

— І на сходзе так гаварылі? — прыцішаным голасам запытаўся начальнік штаба.

— Нават больш... Сходы цікавыя тым, што не толькі мы вучым другіх, а і самі вучымся ў людзей...

— Гэта так...

— Трэба неадкладна перагледзець планы падрыхтовак, зрабіць іх жыццёвымі. Звярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку лётчыкаў, зыходзячы з індывідуальных асаблівасцей кожнага. Не трэба баяцца так планаваць. Што? Цяжка?

Ніхто так да гэтага не гаварыў з Цвёрдахвалавым. Сходзіліся планы ў агульных рысах за месяц, за квартал — і цудоўна! У дэталях ніхто ніколі не корпаўся.

— Чаму ж гэта на камсамольскім сходзе пачалі крытыкаваць начальніка штаба? — не здаваўся Цвёрдахвалаў.— Гэта ўмацаванне аўтарытэту?

— Дапусцім, начальніка штаба не крытыкавалі... А пра справы планавання гаварылі. І слушна!

Прыкра стала на душы ў Зверава. Не хацелася далей прадаўжаць гутарку, і ён выйшаў з кабінета.

Цвёрдахвалаў астаўся адзін. Пасядзеў, падумаў і нечакана жахнуўся. Гэта ж столькі работы! Дзень і ноч сядзі, страчы і страчы... Але калі зрабіць так, як параіў Звераў, узнімецца культура работы штаба. Планы перастануць быць запыленай паперкай, а стануць асновай у рабоце. Усякі ўбачыць майстэрства штабнога афіцэра. Пайсці па такой лесвіцы — далёка зойдзеш!

Цвёрдахвалаў так і пачне рабіць з заўтрашняга дня. Прыкінуў, з чаго пачаць у першую чаргу, задумаўся. І тут жа спалохаўся. Калі Звераў прыйшоў у кабінет і сказаў у вочы пра недахопы ў рабоце штаба, то чаму ён не зможа гэта зрабіць на сходзе партыйнага актыву? Паложыць на абедзве лапаткі, і тады Цвёрдахвалаву не падняцца.

У грудзях Цвёрдахвалава шчымела, на твары гарохам высыпаў пот. Няма чаго Звераву заглядаць у рабочую папку начальніка штаба — хай займаецца сваімі справамі.



«Зраблю ўсё як трэба і тады, калі што якое, вазьму і пастаўлю яго на сваё месца»,— аж усміхнуўся ад радасці Цвёрдахвалаў.

## 21

Смірын прыехаў на станцыю Клім раніцай. Ні на хвіліну не затрымаўся на пероне, не зайшоў у вясёлае белае памяшканне вакзала, а адразу накіраваўся на прывакзальную плошчу. Запаволіў крок каля дагледжаных газонаў невялічкага скверыка і, убачыўшы на перакрыжаванні вуліц міліцыянера ў белай летняй гімнасцёрцы, пайшоў да яго.

Даведаўшыся, што тут — станцыя і невялічкі пасёлак, а горад знаходзіцца за тры кіламетры адсюль, Смірын не стаў чакаць аўтобуса і пайшоў пасялковай вуліцай.

Адразу за пасёлкам — палеткі. З левага боку на аграмадных прасторах кусцілася жыта, а па правую руку ляжалі старанна забаранаваныя загоны. Ён нават збочыў, нагнуўся і ўбачыў ячменнае зерне. Значыць, пасеялі і ярыну.

Дарога, абсаджаная бярозамі, дружна бегла на грудок, з-за якога віднеліся макаўкі трох заводскіх камінoў. Над імі цяпер узнімалася лёгкае жаўтлявае воблачка. Нібы і не дым...

Свяціла яркае сонца, наўкола заліваліся жаўранкі...

Смірын ішоў абочынай дарогі. На душы ляжала лёгкае невыразнае хваляванне. Нейкая невыразная ўнутраная сіла штурхала яго хутчэй трапіць у горад. Гэта падарожжа вельмі непакоіла яго.

Узышоў на грудок. Цяпер горад быў, як на далоні. На ўскраіне віднеліся высокія карпусы, з камінoў павярнуў густы, чорны дым. Перад уваходам у горад гарбаціўся мост, блішчала сіняя гладзь ракі на зялёным улонні сенажацяў.

Неўзабаве Смірын ішоў па ўскраіннай вуліцы горада, пазіраў на вясёлыя белыя домікі. Скрозь за платамі многа было вішняку, агрэсту, а на вуліцы — каштанаў.

На ганку двухпавярховага светлага дома з шырокім дваром Смірын убачыў жанчыну ў белым халаце. Завярнуў у двор. Гэта была гарадская бальніца. Смірын павітаўся з санітаркай, якая прыбірала ганак.

— Дзе галоўны ўрач? — папытаўся ён.

— У кабінеце. Першыя дзверы налева...

Яму далі халат, і ён, на хаду абкрыўшыся, неўзабаве ўжо стаяў у кабінеце галоўнага ўрача.

— Мабыць на работу? — весела глянуў на яго зеленаватымі вачамі сівы, хударлявы ўрач. — Дэмабілізаваліся?

— Служу, служу яшчэ...

— Шкада! Прабачце, а служыце ў часці ці ў шпіталі?

— У часці...

— Падчас вайны я крыху служыў на ваенным аэрадроме...

— І я служу ў авіяцыі...

Галоўны ўрач вельмі ўзрадаваўся, нібы сустрэў аднапалчаніна.

— Я, ведаеце, любіў лятаць...

— Значыць, па натуры вы авіяцыйны ўрач. А тут хірургіруеце?

— Інфекцыяніст...

— Звычайна галоўнымі ўрачамі бываюць хірургі.

— І ў нас так было. Я часова.

— Вы даўно працуеце ў гэтым горадзе?
— З сорак пятага...
— Скажыце, працуе ў вашым горадзе ўрач Смірына?
— Чарнявая такая жанчына? Была, была такая...— галоўны ўрач пацерабіў бародку, задумаўся.— Працавала, здаецца, у Зарэчным раёне...
— Адна ці з сынам?
— Дакладна не магу сказаць,— здзівіўся галоўны ўрач, убачыўшы, як Смірын адразу спалатнеў.
— А дзе яна цяпер? — голас Смірына задрыжаў.
Інфекцыяніст развёў рукамі.
— Трэба пазваніць у гарздраў...
Смірын ужо не слухаў яго, падаў руку.
— Бывайце!
На вуліцы спытаў сустрэчную жанчыну.
— Далёка гарсавет?
Яна паказала ў цэнтр горада.
Ад хуткай хады і незвычайнага хвалявання сэрца Смірына, здавалася, вырвецца з грудзей. Ён не бачыў людзей, не прыкмячаў харастваа сонечнага дня: у вушах тонка-тонка звінела.
— Дзе ў вас гарсавет? — спытаў у сустрэчнага хлопца.
— А вось,— паказаў той на суседні дом.

Смірын падзівіўся, што сам не ўбачыў вялікую, напісаную яркімі фарбамі шыльду, узбег на высокі ганак гарсавета. На другім паверсе ў левым крыле памяшкання знайшоў аддзел аховы здароўя.

У прасторным пакоі за сталом, адна насупраць другой, сядзелі дзве жанчыны сярэдняга ўзросту, падобныя адна на адну, як сёстры. Смірын падумаў, што яму гэта здалося, працёр вочы. Не! Так і ёсць!
— Хто з вас загадчык аддзела?
Жанчыны ўсміхнуліся.
— Рана нам у загадчыкі...
Адна з іх паказала рукой налева. Толькі цяпер Смірын убачыў, што там былі дзверы.
— Дзякую!
Ён зараз жа пайшоў у наступны кабінет.
— Дазвольце?
— Калі ласка, — сказаў чалавек, што сядзеў за сталом. Ён нават не паглядзеў, хто да яго зайшоў.
— У мяне пытанне...
Загадчык узняў галаву і, як бы запарушыўшы вочы, стаў іх хутка праціраць. Падняўся з-за стала, адступіўся назад.
— Што робіцца на зямлі! — крыкнуў Смірын. — Івін? Колька-а!
Яны моцна абняліся, паваліі крэсла. Удвух яго паднялі. Потым загаварылі наперабой: успаміналі першы дзень вайны, бамбардзіроўку, танкавы бой, яр, медыцынскі пункт і доктара Эскіна...
Нарэшце Івін вылузаўся з абдымкаў Смірына, адступіўся на некалькі крокаў, уважліва прыглядзеўся.

— Ён! — крыкнуў сам сабе і зноў кінуўся да Смірына. — А, братачка! З таго свету з'явіўся! Маёр? Акадэмію скончыў? А я, братка, пайшоў па цывільнай лініі. Гарздравам стаў...

Івін мала змяніўся. Адно твар пасуравеў, неяк пацямнеў, нібы доўга быў на сонцы. На левай шчацэ бялеў рубец — след ад кулі. Ад гэтага здавалася, нібы чалавек увесь час усміхаецца адной палавінай твару.



— Дзе мая жонка?
— А, братачка! Які ж я чалавек! — Івін зноў ухапіўся за галаву. — Твая Алеся працавала ў нас, а потым паехала...
— А Васіль?
— І Васіль... Харошы такі хлопец...
— Дзе ж яны?
— Ад нас ехалі ўрачы на будоўлі. Алеся сказала, што заўсёды была на пярэднім краі, і запісалася першая...
Івін адчыніў дзверы ў агульную канцылярыю.
— Марыя Іванаўна, дзесьці ў нас было пісьмо доктара Смірынай. Памятаеце, яна першая з горада паехала на Усход?
— Памятаю. Было пісьмо...
— Пашукайце, калі ласка...
Жанчына прынесла папку з паперамі.
— Дайце сюды,— сказаў Івін.
Яна акуратна вылузала з папкі пісьмо разам з канвертам і аддала Івіну.
— Пісьмо было летась,— сказала жанчына і выйшла з кабінета.
Смірын амаль выхапіў пісьмо з рук Івіна. Доўга ўзіраўся ў роўны, цвёрды почырк, якім быў напісаны адрас. Пачаў чытаць пісьмо. Яно было вельмі кароткае і афіцыйнае. Алеся прасіла выслаць ёй службовую характарыстыку.
Смірын яшчэ раз прабег вачамі пісьмо, павярнуўся да стала, падсунуў крэсла, сеў. Не было сілы стаяць. Сэрца гулка тахкала ў грудзях. На момант ён заплюшчыў вочы, пасядзеў ціха, потым заспяшаўся.

— Бывай, Івін! Дзякуй,— і схаваў у кішэню пісьмо.— Я еду...
— Не пушчу. Пойдзем да мяне. Пазнаёмлю з жонкай, пакажу дзяцей. Няхай падзівяцца на цябе...
— Мяне Васіль кліча,— сказаў Смірын.
— Усяго на гадзінку...
— Не.
— На паўгадзіны...
— Прыеду другім разам. Не на гадзіну. А цяпер бывай,— і моцна абняў Івіна.

Самалёт зрабіў тры пасадкі па маршруту і высадзіў Смірына далёка за Уралам. Там ён перасеў на камфартабельны лайнер другой лініі. Ляцеў яшчэ цэлую ноч і раніцай апынуўся ў Алавянску. Новы паветраны порт! Побач вялікі горад і заводы, заводы...

Ні на адной геаграфічнай карце яшчэ не значыўся гэты горад, бо вырас зусім нядаўна. Яму ўсяго некалькі год.

На гарызонце ў лёгкай сіняве цямнелі ліловыя вяршаліны гор. На поўнач ад горада віднеліся дзве пукатыя сопкі. Неба над імі чыстае, высокае. Вуліцы горада асфальтаваныя, абсаджаныя піхтай.

Смірыну ўсё было нова, дзіўна.

Скора ён падышоў да белага двухпавярховага дома. Затрымаўся на ганку, потым рушыў у калідор і, затаіўшы дыханне, ціха пастукаў у дзверы, на якіх стаяла чацвёрка, абведзеная сінім кружочкам. Ціха... Яшчэ раз пастукаўся, больш настойліва. За дзвярамі пачуліся крокі, шчоўкнуў замок. Нячутна адчыніліся дзверы. Выглянуў хударлявы чалавек у паласатай піжаме і мяккіх пантофлях.

— Калі ласка, заходзьце,— басавітым голасам запрасіў ён.
Смірын апынуўся ў невялікім пакоі, відаць, гасцінай. Пасярэдзіне стаяў круглы стол, да сцен туліліся шафа з кнігамі і канапа.
— Сядайце, маёр. Разам будзем снедаць...
Смірын сеў на крэсла, мяккае, раскошнае, але сядзеў на ім, як на іголках. Калі гаспадар пайшоў на кухню, Смірын пазіраў на дзверы, што былі з правага боку. Яму здавалася, што гэтыя дзверы вось-вось адчыняцца, і...
Сэрца балюча ныла, гарэла душа.
Хвіліны, якія ён тут сядзеў, здаліся гадамі. Ён нясмела азіраўся, адчуваючы страшэнную спустошанасць у грудзях.
— Прашу сюды,— весела паклікаў гаспадар.
Смірын устаў.
— Люблю ваенных. І мусіць таму, што сам ніколі не служыў у арміі,— сказаў гаспадар.
Смірын хацеў сказаць чаго прыйшоў, адмовіцца ад пачастункаў, але гаспадар паслужліва падсунуў яму крэсла.
— Усё жыццё вару сталь. У вайну яна ішла на ваенныя патрэбы. Цяпер даём прадукцыю народнай гаспадарцы. Наша сталь — самая танная ў Саюзе, а па якасці мы ззаду пакінулі немца Крупа...
На стале стаяла бутэлька каньяку і два кілішкі.
— Вып'ем, маёр, каб дома не журыліся. Сям'я мая жыве ў Таганрозе. А тут я адзін...
Смірын выпіў, закусіў.
— А чаму ж так атрымалася? — папытаўся ён.
— Прыехаў ненадоўга. Спачатку вучыў маладых сталявараў. Цяпер працую обер-майстрам. Думаю сюды перавозіць сям'ю. Наш горад расце, як на дражджах. Будучы цэнтр металургіі ўсходу краіны...
Маёр з цікавасцю слухаў і разглядаў майстра ліцейнай справы. Ён ніколі не быў на будоўлях. Перад яго позіркам прамільгнулі разбураныя кварталы гарадоў, пакарэжаныя фермы мастоў, ангараў і над усім гэтым самалёты, самалёты... Дым, агонь і бясконцы гул...
А майстар расказваў пра домны-гіганты, аўтаматычныя лініі на заводах. Пра такое Смірын толькі чытаў у газетах.
Выпілі па другім кілішку. Смірын, выкарыстаўшы замінку ў размове, запытаўся пра тое, што яго больш за ўсё трывожыла:
— Хто да вас жыў у гэтай кватэры.
— Жанчына-хірург. Я не застаў яе,— адказаў майстар.
— Дзе яна цяпер?
— Паехала...
Майстар глянуў на маёра:
— Ваша знаёмая?
Нешта ўтрымала Смірына ад прызнання.
— Сваячка... Блізкая...
— А мы папытаемся ў суседзяў...
Яны выйшлі на пляцоўку лесвіцы. Сталявар пастукаў да суседзяў.
— Дзядзя Міша? — пачуўся жаночы голас, і дзверы адчыніліся.— О, дык вы не адны, пад аховай. Заходзьце!
— Адно пытанне,— сказаў дзядзя Міша.— Вы казалі, што ў маёй кватэры калісьці жыла ўрач...
Жанчына выйшла на пляцоўку, прычыніла за сабою дзверы.
— Тут жыла ўрач Смірына...
— І куды яна пераехала? — не ўтрымаўся Смірын.



Жанчына глянула на маёра, і яму здалося, што яна штосьці зразумела.
— Смірына працуе на тэкстыльным камбінаце ў Сярэдняй Азіі. У мяне ёсць яе адрас... Пачакайце хвілінку.
Неўзабаве яна прынесла адрас, аддала Смірыну.
— Яе сын часта хварэў, дык яна пераехала ў цёплы край.
— Дзякуй! — пакланіўся Смірын жанчыне.— І вам дзякуй, дзядзя Міша. Бывайце здаровы! — сардэчна, як роднаму, паціснуў ён сталявару руку.

Калі Смірын, пастукаўшы ў дзверы, пачуў знаёмы голас, яму здалося, што сэрца вось-вось вырвецца з яго грудзей. Не помнячы сябе, ён прыкусіў губу і адчыніў дзверы.
— Я цябе даўно чакаю,— сказала жанчына, стоячы плячамі да дзвярэй. Яна праглядала на стале нейкую тоўстую кнігу. Перагарнуўшы яшчэ некалькі старонак, яна адсунула кнігу, заклапочана глянула на стул, на якім вісела плацце, і азірнулася.
— А-ах! — вырвалася ў яе.
Абапіраючыся на край стала, яна адступалася назад. Твар яе збялеў. У шырока расплюшчаных вачах свяціліся здзіўленне і жах.
Праз момант яна аберуч ухапілася за скроні.
— А, божа!
Памкнулася да Смірына, працягнула рукі, а потым, як спалохаўшыся чаго, зноў адступілася назад.
— Алеся, мілая...— Смірын, працягнуўшы рукі, ступіў да яе.
Яна спалохана адхіснулася, працягнуўшы перад сабою руку, нібы хацела бараніцца ад яго.
— Алеся, гэта ж я...
Ён ухапіў яе руку, прыціснуў да грудзей.
— Мікола...— нарэшце прашаптала яна. Нахілілася ўперад, шырока расплюшчыла вочы. У іх глыбокай сіняве ўспыхнулі радасныя іскрынкі.
Яна ўзмахнула рукамі і ў момант павісла ў яго на шыі. Круглыя плечы сутаргава затрэсліся і паміж пацалункамі можна было разабраць толькі адно:
— Мікола, адкуль?..
Смірын выпусціў Алесю з рук і, узлёгшы на стол, закрыў рукамі твар, адчуваючы, як праз страшэнную збалеласць душы ў ім узнімаецца гаючая радасць.
— Нарэшце я дома. Дзе наш Васіль? — перахапіў ён гарачы жончын позірк.
— Сын вучыцца...
Смірын не ўтрымаўся, падхапіў яе на рукі, насіў па пакоі і горача цалаваў вусны, вочы, лоб. І ўсё штосьці гаварыў, чаго, мусіць, і сам не разумеў.
— Алеся мая...
Потым яны згодна селі поплеч. Ён гладзіў яе рукі, раз-пораз цалаваў.
— Што нарабіла праклятая вайна!..— нарэшце сказаў ён з болем.
— А я вось тут жыву,— яна вачамі абвяла пакой.— Адна... А ты як? — з асцярогай папыталася і нават прыжмурылася.
— І я адзін...
Алеся не магла адарваць позірку ад мужа, любавалася ім. Ёй

так было добра, што яна баялася паварушыцца, каб не спалохаць трапяткой радасці.

Нарэшце яна падхапілася і дакорліва сказала:

— Якая ж я жонка! Снедаць пара! Мыйся!

Ён мыўся на кухні, старанна ліў на сябе цеплаватую ваду. Выціраючыся ручніком, падышоў да адчыненага акна.

На асмужаным сінім небе высока стаяла гарачае паўднёвае сонца. За зялёна-спалавелым садам віднеліся карпусы тэкстыльнага камбіната.

— Гэтыя гмахі выраслі за тры гады,— паставіўшы на стол талеркі, сказала Алеся.— Цікавы край, праўда?

Смірын прыгладзіў чуб, прысеў да стала.

— Як жа, скажы, маецца наша Беларусь? — пыталася яна далей.— У канцы чэрвеня збіралася паехаць у Мінск. Цяпер наш Васіль там...

— У Мінску? — ахнуў Смірын.

— У сувораўскім...

Алеся выйшла з кухні і вярнулася з альбомам. Разгарнула, паказала фота сына.

На Смірына з усмешкай глянуў бравы суворавец. Быў ён у парусінавай гімнасцёрцы з пагонамі. Фуражка ссунута крышку на левы бок. Прыжмураныя ўсмешкай вялікія вочы свецяцца хітрынкай.

Бацька доўга ўзіраўся ў сынаў твар, бязмерна цешыўся:

— Нашай пароды. Нашай...

Алеся знайшла ў шафе бутэльку віна. Выпілі, закусілі. І ўсё ўспаміналі, гаварылі...

— У той страшны дзень пасля паўдня ў гарадку паявіўся Івін. Ён сказаў, што цябе забілі,— расказвала Алеся.— Я з Васілём на руках пайшла па гарадку, знямелая, нікога не бачыла, нічога не чула. Апамяталася, пачуўшы за дарогай страляніну. Раўлі машыны, танкі... Па гарадку слаўся дым. Эсэсаўцы з аўтаматамі зганялі ўсіх, каго злавілі, на стрэльбішча. Я кінулася ў самы густы дым. Па мне стралялі. Я душылася дымам. Васіль змогся і толькі хрыпеў. Забегла я далёка ў поле, у жыта. Зайшла на хутар. Трапіліся добрыя людзі, далі прытулак, а пасля завезлі да сваякоў у далёкую лясную вёску. Праз год пайшла у партызанскі атрад. І Васіль са мной быў увесь час. А калі прагналі немцаў, паехала ў родную вёску. Застала папялішча...

— І я быў на тым селішчы...

— Ну, і ў той жа год увосень, паступіла ў Ленінградскі медыцынскі інстытут...

— Пачакай... Дык і я ж тады вучыўся ў акадэміі. На Выбаргскай старане!.. Як жа мы не сустрэліся, жывучы ў адным горадзе?..

— Не сустрэліся,— сумна сказала Алеся.— Калі я скончыла інстытут, Васіль падрос і пайшоў у школу. Пасля чацвёртага класа аддала яго ў сувораўскае вучылішча. І асталася адна...

## 22

— Алеся, глянь, які будзе парк!

Яны спыніліся. Алеся паднесла руку да вачэй, глянула на маладыя дрэўцы, пасаджаныя каля ракі. Яна добра ведала даваенны



Мінск, але цяпер нічога не пазнавала. Перад ёю быў новы горад, шырокія магістралі, плошчы, паркі.

Яе сэрца моцна білася, на твары было радаснае здзіўленне.

Смірын глядзеў на жонку, і душа яго поўнілася лагодным спакоем. За два тыдні падарожжа Алеся расцвіла і пахарашэла. У яе жвавай паставе было штосьці даўно знаёмае, мілае і роднае, куткі яе вуснаў варушыліся, і, здавалася, яна вось-вось засмяецца звонка і гарэзна, як у маладосці.

— Я ўспамінала Беларусь, працуючы ў Кліме, на ўсходзе і ў Сярэдняй Азіі. Мне сніўся шум нашых лясоў, часта ўспаміналіся цяжкія партызанскія паходы, блакада і баі. А Мінск уяўляўся зусім не такі...

Яны прайшлі паўз густыя маладыя прысады, па правую руку маўклівею белаватай скалою высіўся тэатр оперы і балету. Засталося толькі перайсці вуліцу...

У дзвярах вучылішча іх прывітаў суворавец. Падцягнуты, стройны, чырванашчокі. Прытрымліваючы левай рукой шаблю з блішчастым упрыгожаннем, ён крышку нахіліўся ўперад да Алесі, уважліва выслухаў яе. Папрасіў хвілінку пачакаць і роўным крокам пайшоў па калідоры налева.

У прасторным вестыбюлі Смірын агледзеўся. На блакітных мармуровых каланадах красаваліся фрэскі ў строгім ваенным стылі. Тут былі перакрыжаваныя сцягі, мечы, аўтаматы. На другі паверх вяла шырокая трохмаршавая лесвіца з вішнёвай дывановай дарожкай. У нішы на ўвесь рост, у батфортах, з крыжамі і рэгаліямі на грудзях, з агаленай шпагай у руцэ стаяла аграмадная скульптура Суворава. Смірын міжволі ўспомніў акадэмію, у якой вучыўся.

Неўзабаве ў вестыбюль выйшаў малады капітан з павязкай дзяжурнага на рукаве. Ён адрэкамендаваўся Смірыну, пазнаёміўся з Алесяй і запрасіў ісці за ім. Зайшлі ў пакой для наведвальнікаў.

— Добра, што сёння прыехалі. Заўтра раніцай сувораўцы едуць у лагеры. Зараз паклічу вашага сына,— сказаў капітан і выйшаў.

Смірын, усхваляваны, пачаў хадзіць па пакоі. Спыніўся перад карцінай на сцяне: «Пераход Суворава цераз Альпы»... На яго павеяла холадам.

У калідоры пачуліся крокі. Адчыніліся дзверы, і ўвайшоў рослы суворавец. На момант затрымаўся каля парога, казырнуў Смірыну.

— Мама! — кінуўся да маці, абняў яе, пацалаваў.— Я чакаў цябе крыху пазней. Ты ж пісала... А ўчора глядзеў на карту і дзівіўся: як далёка ты ад мяне...

— А тату ты ўспамінаў, сынок?

— Мне чамусьці раней ўяўлялася, што тата мой кавалерыст, як генерал Даватар. Потым здавалася, што ён быў танкістам у маршала Ротмістрава... Шкада, што ў цябе не захавалася яго фота...

Смірын не мог болей трываць:

— Васіль! Сынок!..

Васіль здзіўлена глянуў на маёра. Потым — на маці.

Смірын кінуўся да яго, абняў, пацалаваў.

— Пакінуў цябе маленькага, а цяпер ты ўжо салдат...

— Мама... праўда?..

— Тата, сынок. Наш тата...— кіўнула яна, з любасцю пазіраючы на іх абодвух.

Такой радаснай Васіль не бачыў маці ніколі. Вялікая бура пранеслася раптам у яго душы. Усё, што ўсталявалася ў ёй за гады, у адзін момант рухнула. Ён не памятаў бацькі, не ведаў яго пяшчот.

Яму ўсе казалі, што бацька загінуў на фронце ў першы дзень вайны. І маці так гаварыла, а цяпер...

— Наш тата знайшоў нас,— сказала маці.

Васіль нясмела пацягнуўся да бацькі, абняў за шыю. А бацька ўсё туліў да грудзей і цалаваў яго.

— Пусці яго, Мікола. Сядзем тут.— Алеся павяла да канапы. Селі. Васіль — пасярэдзіне.

Гаворцы не было канца. Перабівалі адно аднаго, радасна смяяліся, моцна трымаючы за рукі.

— Дзе ты, тата, служыш? — пытаўся Васіль.

— У авіяцыі...

— А ў якім гарнізоне?

— Недалёка тут...

Васіль аж засвяціўся ад радасці. Лашчыўся да бацькі, закладваў яго моцную руку сабе за шыю і пяшчотна пазіраў на маці.

— І лятаеш?

— Калі трэба, лятаю. Звычайна ж толькі сачу, каб лётчыкі былі здаровыя і добра ляталі...

— На рэактыўных самалётах?

— Вядома...

— О-о! Сёння ў вучылішчы я самы шчаслівы чалавек. Даведаецца генерал, начальнік наш, аддасць загад, павіншуе. І прачытаюць загад перад строем. Усё вучылішча будзе радавацца.

— У вас так робяць?

— Кожнага сувораўца віншуюць з днём нараджэння. Загадам па вучылішчу. Тата, ты прыедзеш да мяне ў лагер?

— І не адзін раз...

— Мы будзем дружна жыць...

— Цяпер нам толькі жыць ды жыць,— бацька абняў сына.— І так працаваць і служыць, каб дзеці больш не разлучаліся з бацькамі. Зразумеў, Васілёк?

— Зразумеў, тата.

У пакой увайшоў дзяжурны па вучылішчу. Васіль адразу ўстаў.

Алеся паглядзела на гадзіннік.

— Мікола, нам пара,— сказала яна.

— Тата, ты скора прыедзеш?.. А дзе мы цяпер будзем жыць?

— Недалёка, сынок, будзеш прыязджаць на канікулы, у адпачынак...

У фае развіталіся з сынам, з дзяжурным па вучылішчу.

На вуліцы ўжо запаліліся ліхтары.

— Як хутка прабег час! — сказала Алеся.

— А здаецца — адну хвіліну сядзелі! — дадаў Смірын.

Незвычайная вестка ў адзін дзень абляцела ваенны гарадок: Смірын знайшоў сваю сям'ю... Людзі дзівіліся, шчыра радаваліся. Адзін Ахтан, даведаўшыся пра гэта, не знаходзіў сабе месца. Алеся ведала пра яго справы яшчэ там, у Кліме, і магла расказаць пра гэта Смірыну. Ды і не толькі яму. Трэба схадзіць да яе... Не, лепш «выпадкова» сустрэць на вуліцы і папрасіць, каб нічога не гаварыла.

Чакаць такой сустрэчы доўга не прыйшлося.

Алеся вельмі здзівілася, калі ўбачыла Ахтана ў форме, з капітанскімі пагонамі.

— Вы ў арміі?





— Начальнік лазарэта гарнізона,— амаль адрапартаваў Ахтан.
Алеся тут жа зразумела, што Ахтан пільнаваў яе і што ён хоча нешта сказаць. Яна дзівілася жывучасці гэтага чалавека: як ні штурхаюць яго абставіны жыцця, а ён, як кот, заўсёды ўпадзе на ногі.
Пасля першага здзіўлення ў яе раптам з'явілася агіда.
Ахтан, мусіць, адчуў гэта, бо заспяшаўся.
— Вось што... У мяне да вас просьба: не расказвайце мужу, як мы ў Кліме працавалі...
— Хто гэта «мы»?
— Інакш кажучы, як я там...
— Гэта іншая справа. А то — «мы»...
— Даруйце, не так сказаў.
— А хіба гэта сакрэт?
— Сакрэту няма, але мы са Смірыным паспрачаліся і...
— Якія я маю адносіны да вашай спрэчкі?
— Яно так. Аднак прашу не гаварыць, што са мной было ў Кліме.
— А хіба тут не ведаюць? — Алеся спынілася ад здзіўлення.
«Яе, відаць, напалохаць трэба. Тады размова пойдзе лягчэй»,— падумаў Ахтан.
— Ведаеце, гэта я папытаўся ў вашага мужа, ці не радня ён з урачом Смірынай, якая працавала са мной у Кліме. Мікола Іванавіч ухапіўся за гэтую вестку, і вось вы тут... Цяпер ён, вядома, папытаецца ў мяне, як вы жылі без яго. І я магу сказаць яму... А Мікола Іванавіч раўнівы...— не скончыў Ахтан.
Алеся ўздрыганулася ад таго, што пачула. Вунь куды цаляў Ахтан!
Нястрымная злосць скаланула ўсю яе істоту. Яна з усяе сілы размахнулася і наводмаш пляснула яму па твары. Аж рэха пракацілася па прысадах.
— Што ж ты пра мяне скажаш? — ціха, але выразна, папыталася яна.
Ахтан спрытна адскочыў ад яе, сагнуўся, затуліў твар рукамі і ўмомант знік за кустамі.
Алеся ціха пайшла прысадамі, грэбліва адставіўшы руку. Было такое адчуванне, быццам яна дакранулася да нечага бруднага.

Як толькі яна пераступіла парог дома, Мікола Іванавіч усхапіўся з-за стала, падбег да яе.
— Што з табою?
Яна расказала пра спатканне з Ахтанам.
— Мый рукі,— падвёў ён жонку да рукамыйніка.
— Я збіралася падзякаваць. Гэта ж ён сказаў табе, што я працавала ў Кліме. А калі ён заікнуўся... нервы не вытрымалі...
— Уяўляю, як ён уцякаў. Такія вельмі спрытныя на ногі. Га? — яны ўдваіх засмяяліся.
— Кім ён працуе ў лазарэце? — запыталася Алеся.
— Хірургам...
Алеся з вялікім здзіўленнем зірнула на мужа.
— Гэта ж кашчунства! Я хачу пагаварыць з вашым палкоўнікам.
— Каўцовым?



— Так...
Яны селі за стол.
— Якія ў цябе навіны? — пытала Алеся.
— Многа навін. Паслухай... Перад самым ад'ездам у нашым гарадку я спаткаў палкоўніка Хмарука, свайго франтавога таварыша. Пазнаёміў яго з нашай медыцынскай сястрой Верай. Дык яны пажаніліся.
— Каханне з першага позірку. Кажуць, што яно вельмі моцнае — на ўсё жыццё.— Алеся хітра зірнула на мужа.— Сам успомні... Быў на вучэннях, зайшоў у амбулаторыю, пагаварылі, а праз два тыдні згулялі вяселле...
Смірын задумаўся.
— Дык гэта мы, мілая мая...
— А цяпер скора серабро на скронях заіскрыцца, а я ніколі не падумала пра другога.
— Дзякуй. І ты ў мяне адзіная. А серабро... адзнака сталасці. Май на ўвазе, што нам у жыцці трэба яшчэ вельмі многа зрабіць...

## 23

Палёты пачаліся па плану. Узняліся дзве эскадрыллі, зрабілі ўсё, што трэба па планавай табліцы, і самалёты парамі, адна за другой, селі на аэрадром.
Калі пачала вырульваць наступная група, на ліхтары самалётаў упалі рэдкія, буйныя кроплі.
Хмары аблажылі аэрадром з усіх бакоў, і ў адзін момант бетонка і рулёжныя дарожкі заблішчалі светлым лакам. Узняўся туман. Ад каманднага пульта не відаць было стаянак самалётаў.
Маёр Капусцін доўга ўзіраўся ў акно каманднага пульта. Глянуў на Зверава, які сядзеў поруч, уздыхнуў і ў мікрафон загадаў групе, якая вырульвала:
— Выключыць рухавікі! — Гэта азначала, што палётаў болей не будзе.
Смірын накіраваўся да санітарнай машыны. Неўзабаве прыехалі ў гарадок. Смірын хацеў пайсці дамоў, але яго паклікаў пасыльны са штаба:
— Таварыш маёр, вас выклікае палкоўнік Астахаў...
Выйшаўшы на гарадскую плошчу, ён заўважыў «Пабеду» Астахава. Палкоўнік паехаў дамоў. Што рабіць? Не даганяць жа яго! Смірын пастаяў, падумаў і, пакуль суд ды справа, вырашыў зайсці ў штаб свайго палка.
На ганку яго спаткаў усхваляваны начальнік страявой часці.
— Што тут было! Усе крычалі на мяне...
— Ну а я не збіраюся на вас крычаць,— супакоіў яго Смірын і паправіў на плячы начстроя пагон.
— Быў ваш Сарочын і маленькі ўрач...
— Ахтан?
— Ага. Накінуліся, траха не разарвалі. А што я — вінаваты? Прыехаў старшына і прывёз са шпіталя вось што...
Яны ўвайшлі ў кабінет, і начальнік страявой часці падаў Смірыну паперу. У ёй паведамлялася, што салдат Каржаневіч лячыўся ў шпіталі дзесяць дзён з дыягназам грып і выпісан у часць з адпачынкам на чатырнаццаць дзён...

— Лічы, паўтара месяца няма чалавека...— сказаў начстрой.— Цвёрдахвалаў званіў у штаб злучэння... Што будзе?
— Спакойна,— сказаў Смірын і пайшоў са штаба.
Ён зайшоў у медыцынскі пункт, узяў амбулаторны журнал, потым падаўся ў лазарэт, каб узяць гісторыю хваробы салдата Каржаневіча.
Змагацца дык змагацца... Не з голымі рукамі.
Прытуліўшыся плячом да калоны, стаяў начальнік медслужбы злучэння Сарочын.
— Можна падумаць, паглядзеўшы на вас, што не палкоўнік вас выклікаў, а вы яго,— яхідна зазначыў ён.
— Палкоўнік паехаў дамоў, і мне няма куды спяшацца,— спакойна сказаў Смірын.
Сарочын адышоў ад калоны, кіўнуўшы Смірыну.
— Прашу да мяне...— і пайшоў у штаб. Смірын не адставаў ад яго.
Кабінет Сарочына быў на першым паверсе. Гэта — вузкі і доўгі пакой з адным шырокім акном. Каля сцяны стаяў маленькі столік і адно крэсла.
Сарочын загрымеў гэтым крэслам.
— Сядайце,— прапанаваў ён.
Смірын азірнуўся: калі ён сядзе, то начальнік будзе стаяць.
— Вы самі сядайце,— сказаў ён і сеў на падаконнік.
Сарочын не сеў. Нават не глянуўшы на Смірына, ён пачаў гаварыць пра абавязкі палкавога ўрача. Не шкадуючы слоў, не выбіраючы выразаў, ён гарачыўся ўсё больш і больш.
— Такіх бяздушных адносін да салдат — падкрэсліваю — да хворых салдат! — я нідзе не бачыў. Вы не ведаеце, дзе знаходзіцца ваш хворы на працягу двух месяцаў...
— Паўтара месяца...
— Няхай сабе паўтара. Дык што ж, мала гэта? А калі вас выклікаюць, дык вы ідзяце, як на шпацыр... Вам трэба бегаць па службовых справах. Бегаць! Вы разумееце?
Сарочын павярнуўся і глянуў на Смірына.
Маёр сядзеў на падаконніку і ківаў нагой, нібы слухаў не ўказанні начальніка, а нейкую вясёлую музыку.
— Вы маглі пацікавіцца, у якім становішчы знаходзіцца ў шпіталі ваш хворы салдат Каржаневіч? — не вытрымаў Сарочын.
— А вы маглі даведацца, ці пацвердзіўся ваш дыягназ? — заўважыў Смірын.
Сарочын змоўчаў. Ён збіраўся з думкамі.
— Нарэшце, самі маглі паехаць у шпіталь. Нашто пасылалі старшыну? Ездзіць па сваіх справах вы знайшлі час...
Нібы хто сапхнуў Смірына з падаконніка: ён гупнуў падэшвамі аб падлогу.
Сарочын адскочыў да дзвярэй і адчыніў іх у калідор. Твар яго перасмыкнуўся ад страху.
Смірын зразумеў яго, спыніўся, падняў руку:
— Спакойна!
Вярнуўся да акна і ціхім, але выразным голасам запытаўся:
— Вы многа разоў ездзілі ў шпіталь? Вы цікавіліся, як там лечаць нашых афіцэраў і салдат? Палкавы ўрач на аэрадроме днюе і начуе. І ў вас павярнуўся язык пытацца пра паездкі? Калі ласка! Я зараз магу паехаць. У мяне і патрэба ёсць. Вы, мусіць, забылі, як адпускалі летась мяне ў шпіталь праведаць лётчыка? Колькі ўпіраліся? А чаму? Таму што баіцёся адказнасці: а раптам, што здарыцца! Вось у чым соль!
У кабінеце ўсталявалася цішыня.
Сарочын стаяў на парозе, нібы каго выглядаў у калідоры. Яго мучыла ўсведамленне таго, што казаў ён Смірыну зусім не тое, што трэба.
Палкавы ўрач тут вінаваты меней за ўсіх. Усё нарабіў Ахтан. Сарочын даўно зразумеў, што памыляўся, калі хваліў Ахтана, але ўсё склалася так, што цяпер ён нават баяўся яго чапаць. За плячыма Ахтана ён смутна ўгадваў свайго камандзіра.
Цяпер не аб гэтым ішла гаворка. Трэба было знайсці вінаватага. Не Сарочыну ж, нарэшце, падстаўляць пад удар сваю галаву? Ёсць жа ў яго падначаленыя, на якіх можна спіхнуць гэту справу.
— Фу-у... Што ж рабіць? — нечакана папытаўся Сарочын. У голасе яго чулася разгубленасць, страх.
— Што рабіць? — перапытаў Смірын.— Хто даўно зрабіў не тое, што трэба, няхай падумае, што яму рабіць цяпер...
Сарочын не ведаў, што скажа Астахаву, калі той пакліча да сябе. Якое ён дасць тлумачэнне? Усё на Смірына валіць толькі таму, што Каржаневіч з яго палка? Не! Смірын адразу дакажа сваё. Можа на Ахтана? Не! Ахтан жыве ў адным доме з Астахавым, і, напэўна, пасябравалі ўжо...
Як ні думаў Сарочын, а выходзіла, што аднаму яму давядзецца за ўсё адказваць.
— Як выйсці з гэтага зачараванага кола? — ледзь не плакаў Сарочын.
Смірын падышоў да яго.
— Многа ці мала мы будзем разам служыць, а ўсё-такі я раю трымаць заўсёды шчыльны кантакт з палкавымі ўрачамі. Часцей бываць на палётах сярод лётчыкаў. Не саромецца вывучаць іх рабочае месца, кіслароднае абсталяванне, аэрадынаміку, тактыку. Пасля ўсяго гэтага вы мацней будзеце адчуваць сябе на сваёй пасадзе. У вас знікне зайздрасць да кожнага ўрача, які добра ведае сваю справу...
У калідоры пачуліся крокі.
У адчыненыя дзверы кабінета зазірнуў дзяжурны афіцэр.
— Вас чакае палкоўнік Астахаў,— сказаў ён Смірыну.
— Іду...
Астахаў непрыхільна сустрэў Смірына.
— Колькі загадаеце вас чакаць?
— Я адразу прыйшоў. У штабе вас не было, і я зайшоў да свайго начальніка...
Палкоўнік насцярожана ўстаў з-за стала. Кусцістыя яго бровы сышліся на пераноссі. Ну вось, калі ласка! Усе сцвярджаюць, што Смірын харошы авіяцыйны доктар, а дапусціў такі ляпсус. Ніколі нічога падобнага ў злучэнні не было...
— Чаму ў вас так атрымалася? — суха спытаў Астахаў.
Смірын маўчаў.
— Вы разумееце, пра што я пытаюся? Дзе салдат Каржаневіч?
— Век жыві — век вучыся, таварыш палкоўнік. У вайну, бывала, у часе наступлення палажу салдата ў шпіталь, а ён праз месяц залечыць раны і знойдзе полк за чатырыста кіламетраў у лесе, у балоце. А тут...
— Гэта ў вас уверцюра?
— Музыказнаўцы сцвярджаюць, што пасля ўверцюры заўсёды пачынаецца вялікая музыка...

— Вашу музыку я ведаю,— павысіў голас Астахаў,— Вы садзейнічалі дэзерцірству салдата Каржаневіча. Я хачу ведаць, як гэта атрымалася?
Смірын пабялеў. У чым яго абвінавачваюць?
Пачуццё ўласнай годнасці не дазволіла прамаўчаць.
— Справядлівасць патрабуе сказаць, што так атрымалася не ў мяне, а ў вас... з салдатам майго палка. Так што...— аж задыхнуўся ад крыўды Смірын.
— Маўчаць! — крыкнуў разгневаны Астахаў, стоячы тварам у твар з урачом. І тут жа схамянуўся, паспакайнеў.
— У мяне, кажаце? — перапытаў з роздумам у голасе.
Маёр маўчаў. Здавалася, што гэтае пытанне яго не датычыла, што ён яго зусім не чуў. Напружанасць саступіла месца роўнаму спакою і незалежнасці.
Гэтая акалічнасць падзейнічала на Астахава мацней за самыя моцныя словы.
Ён сеў за стол, паклаў перад сабою вялікія, прыгожыя рукі.
— Ну-у?
Смірын пазіраў у акно міма Астахава.
— Я ў вас пытаюся? — палкоўнік злосна прыжмурыўся.
— Я не прывык, каб на мяне крычалі. Прашу перамяніць тон...
Халодныя вочы Астахава блiснулі нянавісцю. Ён таямніча памаўчаў, усхапіўся з месца і шпарка пайшоў да дзвярэй.
Смірын вырашыў, што яго аўдыенцыя ў камандзіра злучэння на гэтым закончылася. Не ўяўляў толькі, якое спагнанне атрымае ад яго.
Астахаў вярнуўся ад самых дзвярэй, падышоў да стала.
— Дык як жа ўсё-такі было? — ужо спакойна запытаўся ён, нібы між імі да гэтага нічога не адбылося.
Смірын таксама падышоў да стала, палажыў перад Астахавым разгорнуты журнал.
— Я раскажу, як было. Прыняў я салдата Каржаневіча, агледзеў яго — грып, і накіраваў у лазарэт. Вось запісы ў журнале, вось накіраванне. У той жа дзень у лазарэце на яго заведзена гісторыя хваробы з папярэднім маім дыягназам. Паляжаў Каржаневіч тры дні, і ў гісторыі зроблены запіс...— паказаў Астахаву адзін запіс, ніжэй другі.
Камандзір паглядзеў і так і гэтак, пакруціў галавою.
— Напісаў, як мак пасеяў. Хто гэта так?
— Ахтан. Ніжэй — Сарочын. Яны ўдвух паставілі дыягназ — брушны тыф і адвезлі Каржаневіча ў шпіталь. Ні Сарочын, ні Ахтан не сказалі мне, што дадумаліся да такога дыягназу. А я ж пасля гэтага павінен быў правесці ў палку прафілактычную работу. Час, зразумела, прайшоў, потым я паехаў у адпачынак. Зусім нядаўна, гартаючы журнал, убачыў, што Каржаневіч усё яшчэ лічыцца ў лазарэце. Пазваніў туды, мне сказалі, што даўно адвезлі салдата ў шпіталь. Пасылаем чалавека, і ён прывозіць паперу,— Смірын паклаў перад Астахавым адносіны са шпіталя.
Астахаў усё пагледзеў, пачытаў, вярнуў назад.
— Я накіраваў хворага ў лазарэт з грыпам, і ў шпіталі ён лячыўся ад грыпу. Дзе ж дзеўся тыф? — запытаўся Смірын.
— Значыць, брушнога тыфу не было? — здзівіўся Астахаў.
— Самі бачыце...
— Ого! Выдумалі страшную хваробу, заслалі чалавека ў шпіталь, не прасачылі за ім, а цяпер шукаюць вінаватага? — Астахаў памаўчаў, а потым нібы пахваліўся Смірыну: — Толькі ўчора мне казалі, што Ахтану трэба прысвоіць чарговае званне. Як жа так? Што вы скажаце наконт гэтага?
— Па-шчырасці?
— Ну, зразумела...
— Ахтана нельга трымаць у арміі ні аднаго дня...
— Вось як! — здзівіўся Астахаў.— То ён піша навуковую работу, то ён хірург, то тэрапеўт. На словах усё выдатна, а на справе...
— Шануючы вас, як выдатнага лётчыка і камандзіра, я хачу асцярожна запытацца, якім чынам Ахтан трапіў у наша злучэнне і пасяліўся ў вашым доме?
— Як трапіў? Прыслалі, не папыталіся...
Астахаў маўчаў, ён не мог са Смірыным гаварыць пра тое, што вырашыў дома з жонкай.
— Мы ўхіліліся ад асноўнага пытання,— сказаў Астахаў.— Што ж нам рабіць з Каржаневічам?
Смірын зірнуў Астахаву ў твар, сустрэў позірк быстрых, разумных вачэй і сказаў:
— Трэба паслаць чалавека да бацькоў Каржаневіча, а тады ўжо — што будзе...
— Гэта — ідэя...— Астахаў весела глянуў на ўрача і пазваніў у полк.— Цвёрдахвалаў, пашліце сягоння каго-небудзь на радзіму Каржаневіча. Першым поездам.
Астахаў дапытліва паглядзеў на Смірына, які забіраў са стала амбулаторны журнал, гісторыю хваробы Каржаневіча, і са стрыманай прыхільнасцю падаў яму руку.
— Пачакаем яшчэ два дні...
Смірын выйшаў з кабінета. У калідоры яго пільнаваў Сарочын.
— Што сказаў камандзір? — пацікавіўся ён.
— Камандзір сказаў, што гэтую справу зрабілі галавацяпы,— на хаду кінуў Смірын і пайшоў па лесвіцы ўніз.
Сарочын зусім упаў духам. Хадзіў па калідоры, чакаў з заміраннем сэрца, што вось-вось яго пакліча Астахаў.
У канцы калідора ён зірнуў у акно і ўбачыў: Астахаў садзіцца ў сваю «Пабеду».
Ён адразу ажыў, спусціўся па лесвіцы на першы паверх і з намерам параіцца, што яму рабіць з Ахтанам, пайшоў да намесніка начальніка палітаддзела падпалкоўніка Міхайлава.
У Міхайлава сядзеў Цвёрдахвалаў.
— А, доктар... Прашу...— Міхайлаў кіўнуў Сарочыну.— Сядайце.
Відаць было па ўсім, што да яго прыходу тут ішла жывая гутарка, якая нечакана абарвалася. Міхайлаў патрабавальна пазіраў на Цвёрдахвалава, чакаў, што ён яшчэ скажа.
Начальнік штаба панура глядзеў у акно, марудзіў.
— Што сказаў камандзір? — пацікавіўся Міхайлаў, глянуўшы на Сарочына.
— Да камандзіра хадзіў Смірын...— адказаў ён ціха.
— Я паслаў начальніка хімічнай службы на радзіму Каржаневіча,— сказаў Цвёрдахвалаў.— Паглядзім, што прывязе...
— Добра зрабілі,— пахваліў Сарочын.
Міхайлаў думаў сваё:
— Цікава, што сказаў Смірыну камандзір?
— А што можа сказаць Смірыну Астахаў? Не пагладзіць па га-

лаве — будзьце спакойны! — цвёрда і ўпэўнена сказаў начальнік штаба.

«Не ўдасца мне пагаварыць з Міхайлавым»,— падумаў Сарочын.

— А вазьміце гэты выпадак,— падахвоціўся Цвёрдахвалаў, зірнуўшы на Міхайлава.— Смірын паслаў салдата ў шпіталь. Нашто? У нас ёсць лазарэт. Няхай бы тут лячыўся. А гэта ўсё для таго, каб меней самому рабіць. Абы з рук. Няхай другія лечаць. У палку няма салдата два месяцы, а ён і вухам не вядзе. Пра ўсё павінен клапаціцца начальнік штаба...

Сарочын слухаў Цвёрдахвалава і, хоць добра ведаў, што той гаворыць няпраўду, падтакваў яму.

Цвёрдахвалава падбадзёрыла гэтая падтрымка:

— А як перад усімі афіцэрамі Смірын абразіў нампаліта Зверава... Не так, маўляў, падышоў да ўрача, не пакланіўся. Нельга такое цярпець у нашым асяроддзі!..

— Гэта ён можа зрабіць,— кіўнуў галавою Сарочын.

Стукнулі дзверы. У кабінет увайшоў палкоўнік Хмарук. Усе ўсталі. Палкоўнік павітаўся, здзіўлена зірнуў на Міхайлава. Той не зразумеў гэтага позірку, загаварыў:

— Ёсць скарга на камуніста Смірына. Мусіць, прыйдзецца выклікаць на партыйную камісію...

— Хто скардзіцца?

— Камуніст Цвёрдахвалаў,— паказаў вачамі Міхайлаў на начальніка штаба палка.

— У чым справа?

Міхайлаў далажыў.

— А сам Звераў чаму не паскардзіўся? — глянуў Хмарук на Цвёрдахвалава.

— Звераў у нас новы чалавек, таму ён...

— Дзіцячыя словы, падпалкоўнік. Маёр Звераў у вас новы чалавек? Ды ён жыццё палка ведае лепш за іншага старажыла. Нават у штабных джунглях нядрэнна разабраўся.— Вочы Хмарука смяяліся.— А вось я новы чалавек, сапраўды. Дык вы думаеце, што мне можна гаварыць, што толькі ўздумаецца?

У кабінеце стала ціха. Разгублены, Цвёрдахвалаў стаяў перад Хмаруком і густа чырванеў.

За яго заступіўся Міхайлаў. Ён пагартаў свой блакнот і, як на трыбуне, нават узмахнуў рукой.

— Чаму ж, камуніст Цвёрдахвалаў таксама можа са скаргай прыйсці да нас...

— Ён можа прыйсці да нас пасля таго, калі наладзіць работу штаба палка,— сказаў Хмарук і кінуў іранічны позірк на Міхайлава. Але таго гэта не спыніла.

— Са Смірыным трэба разабрацца. Звераў сам прыходзіў са скаргай да Матуля...

— Матуль разбіраў скаргу?

— Так точна! — адказаў Міхайлаў.

— Нашто ж мне тую скаргу разбіраць цяпер ужо ў рэдакцыі Цвёрдахвалава? Ёсць логіка?

— У камуніста Цвёрдахвалава загаварыла афіцэрская гордасць,— настойліва казаў Міхайлаў.— А вазьміце адносіны Смірына да хворага салдата Каржаневіча?

— Я толькі што быў у вашым страявым аддзеле і лічу справай гонару навесці там парадак.— Хмарук кінуў позірк на Цвёрдахвалава.— І вам бы раіў закасаць рукавы і ўзяцца за работу.— Потым Хмарук глянуў на Сарочына.— І вы са скаргай?

— Не...

— Што ж, слухаеце, як афармляецца справа на вашага падначаленага? — Хмарук зняў фуражку. Ад яго веяла сілай, здароўем.— Вам бы цяпер быць у лазарэце і разабрацца, якія там адбываюцца метамарфозы. З грыпа, скажам, брушны тыф...— Ён яшчэ нешта хацеў сказаць, але ўстрымаўся, памаўчаў.— У вас ёсць пытанні да мяне? — глянуў ён на Сарочына і Цвёрдахвалава.— Няма? Можаце ісці...

Сарочын і Цвёрдахвалаў пакінулі кабінет.

Хмарук сеў за стол, уважліва паглядзеў на Міхайлава.

— Вы былі сёння ў палку Дыма?

— Раніцай хадзіў...— Міхайлаў апусціў вочы.

— Работнік палітаддзела не рэвізор у часці, не госць — ён арганізатар і дарадца, ідэйны кіраўнік камуністаў і камсамольцаў. З людзьмі трэба быць штодзённа, у кабінеце няма чаго рабіць...

— Слухаю!

— Што ж да скаргаў, то мы камуніста па рабоце цэнім. Цвёрдахвалава з Сарочыным саміх будзем выклікаць на парткамісію. Вы б паслухалі, што пра іх у палку гавораць. Адзін бегае, крычыць, а справа стаіць на месцы. У другога ведаў па спецыяльнасці мала. А яны на другіх скардзяцца...

— Разумею,— адказаў Міхайлаў і замкнуў свой стол.

— У кабінетах палітаддзела не будзе ні аднаго чалавека. І сам я іду на палёты ў полк...

— Слухаю!..

## 24

Астахаў загадаў Капусціну весці першую групу знішчальнікаў, а Звераву другую. У палку так рабілася першы раз. Дыма цяпер не было, і Астахаў двойчы лятаў са Зверавым. Камандзір злучэння ўбачыў, што нампаліт — добры, тактычна падрыхтаваны лётчык-знішчальнік, такі ж, як Дым, Капусцін, Ануцюнаў і яшчэ добрая палова палка.

На пасівелай ад расы траве аэрадрома клаліся дзве зялёныя дарожкі — сляды Капусціна і Зверава. Капусцін расказваў нампаліту, які будзе строй яго групы, мяркуючы, што ў нампаліта народзіцца свой план і тактычны прыём.

На шэрым бетоне рулёжнай дарожкі яны спыніліся.

— Хто ў вас вядзёны? — спытаў Капусцін.

— Макараў...

— Як ён?

— Я два разы лятаў з ім. Добра трымаецца...

— Узлятайце адразу за мной. Не адрывайцеся.

Асноўную частку групы Зверава складала эскадрылля Ануцюнава. Ён любіў лятаць з ёю.

Нампаліт спыніўся перад строем лётчыкаў.

— Выйдзем на Ятвезь, а там атрымаем задачу ў паветры...

— Ясна,— за ўсіх адказаў Ануцюнаў.

Звераў паправіў на плячы планшэт.

— Па самалётах! — загадаў ён.
Падышоўшы да сваёй машыны, Звераў палажыў шлемафон на плоскасць. Надзеў белы шаўковы падшлемнік і ўбачыў Смірына, які спяшаўся з першай эскадрыллі.
— Усе лётчыкі здаровы,— далажыў урач.
— Дзякуй, Мікола Іванавіч. Сёння вяду групу.
— Даўно пара вадзіць палкі,— глянуў на яго Смірын.
— А палітычна-выхаваўчая работа?
— Мне здаецца, што самы лепшы выхаваўчы эфект дае палёт у складаных умовах...
— Да такога палёту трэба многа рыхтавацца на зямлі.— Звераў шчоўкнуў на грудзях замком парашута, падняўся па лесвіцы і сеў у кабіну.
Смірын павярнуўся да самалёта Макарава. Лейтэнант падымаўся па лесвіцы.
— Як справы, Саша?
— Выдатна, таварыш маёр. У мяне такі вядучы, што толькі паварочвайся...— кіўнуў Макараў на Зверава.
Смірын задаволена зірнуў на палеткі, над якімі драмалі сівыя туманы. Усход фарбаваўся тонкай чырванню. Ад гэтага сіні захад пацямнеў. Недзе за хвастамі самалётаў няроўнымі штуршкамі ў вышыню ўзнімаўся жаваранак. На зямлю палілася яго срэбная песня.
— Жадаю поспехаў! — памахаў Смірын Макараву.
Гул на стаянках узнік нечакана. Задрыжала зямля, абудзіліся далёкія сонныя ваколіцы.
Узляцела група Капусціна, услед за ёю шчыльным строем — група Зверава. Калі яны ляглі на курс над далёкім лесам, гул рухавікоў, ледзь чутны, трымцеў у паветры. Потым зусім сціх, і механікі на стаянках пачулі шчабятанне жаўранкаў. Усход наліўся чырванню, з-за гарызонту выглянула іскрыстае сонца, запаліла шыбы каманднага пункта, а потым рассыпалася іскрамі ў росных травах.
Група Зверава ішла ў раён Ятвезя з усходу, набіраючы вышыню. Лейтэнант Макараў трымаўся свайго вядучага, часта папраўляў на твары кіслародную маску, глядзеў на далёкую зямлю, якая прасвечвала скрозь ранішнюю смугу. Лейтэнанта бадзёрыла і хвалявала мноства самалётаў, якія ішлі звеннямі разгорнутым строем на фоне сіняга неба.
Сёння для Макарава ўсё было незвычайнае — зборы ў пацёмках, хуткі ад'езд на аэрадром, таемнасць задачы. Што яны будуць рабіць так рана? У якім раёне?
Яго думкі і разважанні перапыніў голас камандзіра злучэння палкоўніка Астахава.
— Арол чатыры, я — Тэраса. Група бамбардзіроўшчыкаў ідзе курсам семдзесят. Не дапусціць налёт на Ятвезь. Як зразумелі? Прыём!
— Вас зразумеў,— спакойна адказаў Звераў.— Іду на Ятвезь. Прыём!
«Вось яна, задача»,— ледзь не крыкнуў Макараў і з палёгкай уздыхнуў.
— Увага! — папярэдзіў Звераў.
Строй самалётаў, які да гэтага ў вольным палёце раўняўся на правафлангавага, цяпер стаў, здаецца, яшчэ больш шчыльны.
— Разварот улева,— камандаваў Звераў.
І калі ўся група развярнулася, Макараў, самы правафланговы,



убачыў за бліскучай пакручастай істужкай ракі групу бамбардзіроўшчыкаў на зялёным фоне лесу.
— Тэраса, цэль бачу,— перадаў Звераў на камандны пункт.— Як зразумелі? Прыём!
— Атакуйце! — загадаў Астахаў.
Бамбардзіроўшчыкі ішлі шчыльным клінам, трымаючы курс на Ятвезь. Здавалася, ніякая сіла не зможа парушыць іх строй.
У Макарава па ўсім целе прабег халадок. Ён яшчэ мацней сціснуў ручку кіравання.
— Арол дваццаць адзін, васьмёркай самалётаў скаваць знішчальнікаў прыкрыцця,— загадаў Звераў Ануцюнаву, і камандзір эскадрыллі адразу павярнуў два звяны ўлева.
«Дзе ж тое прыкрыццё?» — мільгнула ў галаве Макарава, і толькі зірнуўшы ў той бок, дзе была група Ануцюнава, над бамбардзіроўшчыкамі, крыху ўбаку ад іх, ён убачыў ледзь прыкметныя кропкі, якія бліснулі на сонцы. Гэта і былі знішчальнікі, што прыкрывалі бамбардзіроўшчыкаў.
«І вока ж у Зверава»,— захапляўся Макараў сваім вядучым.
— Увага! Атакуем вядучага і правае крыло бамбардзіроўшчыкаў,— загадаў Звераў.
Макараў ад страшэннай перагрузкі ўрос плячыма ў бранеспінку і дзівіўся, як хутка павялічваліся, раслі чорныя сілуэты бамбардзіроўшчыкаў. Зрок настолькі абвастрыўся, што ён выразна ўбачыў рулі гармат на хвастах самалётаў «праціўніка».
Сілуэты раслі, і калі Макараву здалося, што якраз цяпер трэба адкрываць агонь, Звераў загадаў:
— Выхад!
Звенні адначасова ўзвіліся свечкамі і пацягнулі за сабой бялявыя шлейфы. Выйшаўшы з атакі, яны прайшлі крыху з наборам вышыні, і зноў пачулася каманда:
— Атакуем яшчэ раз.
Цяпер быў атакаваны цэнтр і левае крыло групы, якая павярнула ад Ятвезя на поўнач.
Макараў сціснуў ручку кіравання, адчуваючы, як у вачах паплылі вясёлкавыя кругі, выхваціў свой самалёт і ні на адзін сантыметр не адстаў ад вядучага.
— Трымайся! — падбадзёрыў яго вядучы, але Макараў паўпераваротам, дакладна, як і Звераў, выйшаў з атакі.
— Цяпер паможам Ануцюнаву,— сказаў Звераў і павярнуў сваю групу ўправа. У момант, калі знішчальнікі прыкрыцця, ідучы па вертыкалі, страцілі хуткасць, Звераў атакаваў іх і, выходзячы баявым разваротам, убачыў чырвананосы самалёт пасрэдніка.
«Дык мы прыхапілі палкоўніка Хмарука»,— усміхнуўся сам сабе Звераў, убачыўшы, як пасрэднік ірвануўся ўбок.
Мільгала і кружылася ярка асветленая сонцам зямля, а сіняе неба цямнела ў сваім бязмежжы.
— Загад выканаў,— перадаў Звераў на камандны пункт.— Як зразумелі?
— Вас зразумеў,— адказаў Астахаў.
— Іду дамоў...— сказаў Звераў і павярнуў на свой аэрадром.
Самалёты зніжаліся па вялікім кругу, раўняліся на вядучага. Потым віслі ўсё ніжэй і ніжэй, і Макараў у пары са Зверавым сеў, зарупіў. Вылез з кабіны, скінуў з потнага твару кіслародную маску, палажыў на плоскасці парашут і скочыў на зямлю. Яго падхапіў

пад рукі Смірын і, нічога не пытаючыся, зразумеў, які шчаслівы быў лейтэнант.

Гула і звінела ўся ваколіца. Калі зарулiў апошні самалёт, з каманднага пульта ўзляцела чырвоная ракета.

— Адбой!

Смірын ехаў з аэрадрома разам са Зверавым і без канца распытваў. Радаваўся, што Макараў так удала трымаўся ў палёце, што група Капусціна таксама выдатна правяла атакі па цэлях.

— Цікава, як ацэніць наш вылет палкоўнік Хмарук...— прыжмурыўся Звераў.

— Ці ж Хмарук з вамі лятаў?

— Ён ляцеў з групай бамбардзіроўшчыкаў. Пасрэднікам быў...

— Ён-то ацэніць,— Смірын узяў шафёра за плячо.— Я тут выйду...



Машына на хвіліну прыпынілася і памчалася далей. Смірын звярнуў на палявую дарогу. У твар падзьмуў кволы, пахучы ветрык.

Дарога ўзбегла на грудок. Паабапал яе высіліся рослыя бярозы. Галіны іх спляталіся ўгары, утвараючы адмысловы тунель.

З макавішчаў бяроз пачулася адна салаўіная трэль, потым другая... Смірын спыніўся, узняў галаву. Тонка звінела чыстае, як шкляное, паветра. А трэлі, адна прыгажэй за другую, пераліваліся ў бліскучай на сонцы, кволай зеляніне лісця.

Незвычайная лёгкасць агарнула Смірына. Ён прытуліўся плячом да ствала бярозы, адчуваючы, як разлілася на душы прыемная цеплыня.

Салаўіны спеў абарваўся...

І колькі Смірын ні стаяў, колькі ні ўслухоўваўся, чуў толькі шум ветру, шапаценне лістоты на дрэвах, гудзенне пчол...

Смірын з Алесяй сустрэлі Дыма каля лазарэта. Ён хадзіў ужо без мыліц, ледзь прыкметна кульгаў. З ім быў капітан Кудлач.

— Прашу пазнаёміцца з маёй жонкай,— сказаў Смірын Дыму.

Дым чыкільнуў бліжэй да Алесі, абняў і шчыра павітаўся.

— Вельмі рад вас бачыць,— шчыра сказаў ён і паказаў на Кудлача.— А гэта наш ас...

— Капітан Кудлач,— сціпла і неяк разгублена адрэкамендаваўся той.

— Як ваша нага? — глянула Алеся на Дыма.

— Хаджу,— радасна ўсміхнуўся палкоўнік.— Мяркую з дапамогай вашага мужа скора разбіць гіпсавы кайдан. Га? — ён дапытліва глянуў на Смірына.

— Якое чысло напісана на гіпсе?

— Дзевятнаццатае...

— І ламаць будзем дзевятнаццатага...

Алеся зірнула на гадзіннік.

— Спяшаецеся? — спытаў Дым.

— Да хворага...

— Працуеце ўжо?

— І дня не пасядзела дома,— сказаў за жонку Смірын.

— Учора да нас прывезлі трактарыста. Бляшанка разарвалася, і асколкі ўдарылі ў грудзі. Ужо і пульса амаль не было. Я аперыравала яго. І што вы думаеце? Адзін асколак раніў сардэчную сарочку, а другі засеў у самім сэрцы. Дасталі асколкі, зрабілі пераліванне крыві, і чалавек будзе жыць. Спяшаюся яго паглядзець.

Алеся развіталася.

— Жадаю поспехаў у вашай рабоце! — сказаў Дым і моўчкі доўга пазіраў ёй услед.

— Мікола Іванавіч, залатыя рукі ў вашай жонкі,— пасля доўгага роздуму сказаў Дым.— Чулі, Сцяпан Сцяпанавіч, у нашым горадзе робяць аперацыі на сэрцы... Не ў інстытуце, не ў сталіцы, а ў нас...— ён узрушана круціў галавою.— Гэта вам не парушальнікаў збіваць.— Памаўчаў крыху, а потым з захапленнем сказаў: — А нашы сёння добра лёталі раніцай!

— Вы даўно знаёмы з палкоўнікам Хмаруком? — пацікавіўся Кудлач.

— На Курскай дузе пазнаёміліся.

— Даўнавата, значыць. А я вам выдам адзін сакрэт.— Кудлач усміхнуўся.— Мой цяперашні камандзір Алесік паставіў задачу перад асабовым складам: перагнаць ваш полк у летняй баявой вучобе.

— Мікола Іванавіч, чуеце? Збівайце з нагі кайдан, нельга драмаць,— страпянуўся Дым.— Не ўступім яму. Так і перадайце.

— Як Марына і Саша? — папытаўся Смірын Кудлача.— Прывітанне ім...

— Дзякуй, у нас усё добра...— Кудлач глянуў на гадзіннік.— Мне час...

— І мне,— азваўся Смірын.— Трэба ў штаб.

— Заехаў я ў тую Дуброўку, папытаўся дзе жывуць Каржаневічы — і да іх. «Тут жыве Алесь Каржаневіч?» «Тут». З другога пакоя выходзіць ён сам. Узрадаваўся, цягне за стол. А мне, самі разумееце, не да пачастункаў. «Ты што ж,— кажу,— думаеш ехаць у полк? Ці рашыў дома сядзець?» Ён зніякавеў, падае мне пасведчанне ваенна-ўрачэбнай камісіі. Аказваецца, справа была вось як. У нашым гарнізонным шпіталі пасля лячэння ён атрымаў водпуск на два тыдні. Вырашыў падскочыць дамоў. Узлез на пляцоўку таварнага вагона і паехаў. За дарогу, слабы яшчэ пасля хваробы, так прастудзіўся, што ледзь злез на сваёй станцыі. Там яго накіравалі ў шпіталь. Ледзь адхадзілі, а потым камісавалі. Кажа, што пісаў у полк. Не атрымлівалі пісьма? — начхім глянуў на начальніка страявога аддзела.

— Не...

Цвёрдахвалаў стаяў, як каменны, і пазіраў у акно.

— Потым мы з Каржаневічам пайшлі ў ваенкамат, і нам далі вось гэтую паперу,— начхім паклаў яе перад начальнікам штаба.

Цвёрдахвалаў доўга трымаў яе перад вачамі, хмурыў бровы, а потым падняў трубку. Выклікаў Астахава і прачытаў яму.

— Я згодзен. Урачы вінаваты... Не. Не нашы... Так точна! — пацямнеў з твару і палажыў трубку.

— Што там пра ўрачоў гаварылі? — пацікавіўся Смірын.

Цвёрдахвалаў павольна павярнуўся.

— Нарабілі, а цяпер...

— Вось хто нарабіў,— Смірын пастукаў пальцам па стале.— Канцылярыя нарабіла... Дайце мне на хвілінку гэтую паперу. Я хутка прынясу,— Смірын узяў адносіну ваенкамата і пайшоў у баракамеру.

Там за сталом сядзелі Сарочын, Ахтан і начальнік кабінета авіямедыцыны капітан Гайдамацкі, які нядаўна вярнуўся з курсаў удасканалення. У пакоі насупраць трэніраваліся лётчыкі.

Прачытаўшы даведку райваенкамата, Сарочын увабраў у плечы галаву і дробна заморгаў:

— Фу-у... Я так і знаў...— бегаючы па пакоі, гаварыў ён.— Быў упэўнены, што вы не вінаваты...

— А хто ж вінаваты?

Сарочын спыніўся, пастаяў, а потым паказаў на Ахтана:

— Ваш дыягназ...

Ахтана быццам на гарачае паставілі.

— Усе клінічныя даныя былі... былі...— хутка загаварыў ён, не клапоцячыся, слухаюць яго ці не.

Смірын глянуў у дробны твар Ахтана, які ўвачавідкі пацямнеў.

— Стаўце якія хочаце дыягназы. За іх вы будзеце адказваць. Але ж паведамляйце палкавому ўрачу, куды і калі эвакуіруеце хворых. Трэба мець, нарэшце, належны службовы кантакт...

У баракамеру ўвайшоў маёр Лушчыцкі, за ім — палкоўнік Хмарук.

— Увага! — падняў Лушчыцкі над галавой канверт.— Пісьмо ад прафесара Сямёнава... Таварыш палкоўнік, дазвольце...

Лушчыцкі разгарнуў пісьмо.

— Прафесар Сямёнаў прачытаў навуковую работу Смірына. Ён лічыць, што гэта гатовая дысертацыя. Прафесар рэкамендуе аўтару абараняць яе на ступень кандыдата навук. Віншую, Мікола Іванавіч! — Лушчыцкі аддаў пісьмо Смірыну і пацconfiguration яму руку.

Смірын разгарнуў пісьмо і ніяк не мог яго прачытаць. Хмарук падышоў да яго. Добрымі вачамі глянуў на франтавога сябра.

— Скромнічаеш, Мікола Іванавіч? Віншую, віншую... Выходзіць, што навука можа развівацца і на нашым аэрадроме,— сказаў ён.— Пачатак вельмі добры. Цяпер трэба ісці далей...

Хтосьці прыгадаў, што на іхнім аэрадроме малады інжынер атрымаў кандыдата тэхнічных навук. Талент нідзе не загіне...

Смірын непрыкметна выйшаў на двор і падаўся ў прысады. Шумелі клёны і акацыі, у вышыні плылі бялюткія аблокі.

Ён мінуў паласаты шлагбаум ваеннага гарадка і ішоў ужо вуліцай, якая вяла ў цэнтр горада. А там зусім недалёка была гарадская бальніца...

Выйшаўшы з аперацыйнай, Алеся скідала гумавыя пальчаткі.

— Добра, што прыйшоў,— яна зняла бураваты халат, падала санітарцы.— Я пакажу табе таго хлопца... Ды што з табой? Ты не хворы?

Смірын падаў ёй пісьмо.

— Ад Васіля? — узрадавалася яна.

— Чытай...

Вочы яе, хутка прабегшы па радках пісьма, здзіўлена акругліліся. Бровы радасна ўзняліся.

— Што ж... віншую!



Алеся села поруч. Палажыла руку на яго шырокую далонь.

— Але чаму ты ніколі мне пра гэта не гаварыў?

— Не думаў нават, што так атрымаецца. Паслалі работу, потым я паехаў цябе шукаць і забыўся...

Алеся аддала яму пісьмо.

— Не лёгкая справа — абарона дысертацыі. Рыхтуйся! Перавярні ўсё, што ёсць пра кіслароднае галаданне. Многа работы!..

Смірын глянуў у цёмную сіняву вачэй жонкі, сціснуў яе руку.

— Дзякуй, Алеся.

Каля вакзала спынілася «Пабеда». З яе выйшаў маёр Лушчыцкі. Статны, свежы, шчыгульна апрануты. За ім у квяцістым плацці паказалася Вера, потым — Алеся Смірына. Апошнім, не спяшаючыся, бразнуў дзверцамі машыны палкоўнік Хмарук.

На ганку макавым цветам загарэлася малінавая шапка ваеннага каменданта. Ён казырнуў Хмаруку, паслужліва правёў на перон.

— Далёка едзеце?

— Сустракаем...— адказаў палкоўнік.

— Ідзе! — узрушана сказала Вера.— Хутчэй сюды! Не адставайце!

З шыпеннем прагрукатаў паравоз, замільгалі, запавольваючы бег, зялёныя вагоны. Лушчыцкі здалёк убачыў Смірына ў дзвярах пятага вагона. Падбег, падхапіў яго. Падышлі астатнія, горача паціскалі рукі, наперабой пыталіся.

— Расказвай...

— Як там было? Горача?

— Схуднеў як!..

— Навука патрабуе ахвяр...—засмяяўся Смірын.

— Ну? Абараніў? — узяў яго пад руку Хмарук.

— Паспрачаўся, але абараніў...

— І там паспрачаўся?..— з дакорам сказаў Лушчыцкі.

— Не хвалюйся, дружа. Усё з тактам і на ўзроўні. А табе прывітанне ад прафесара Сямёнава. Заве ў інстытут. Тэму табе добрую падгатаваў...

— Брава! — гукнуў Хмарук.

Усе гурбою выйшлі на прывакзальную плошчу.

— А тут што чуваць? — глянуў Смірын на Лушчыцкага.— Ты загарэў...

— Загарыш з двума палкамі на аэрадроме. Нядаўна Каўцоў быў.

— Зноў правяраў работу?

— Ахтана прагнаў...

— Як?!

— Давучвацца. Ён жа толькі тры курсы інстытута закончыў... А Сарочына зняў і паслаў у полк...

— Вось гэта правільна. Пасядзіць на аэрадроме, навучыцца сам усё рабіць, а тады можна брацца камандаваць другімі,— адчувалася, што Смірын радаваўся гэтым пераменам.

— А хто за Сарочына?

— Цябе назначылі начальнікам медыцынскай службы злучэння,— сказаў Хмарук.

Смірын аж спыніўся.

— Завочна назначаць не паложана. Хто гэта пастараўся?

— Што праўда, то праўда, тваю кандыдатуру я падтрымаў. Ска-

заў, што ты згодзен.— Хмарук адчыніў дзверцы машыны.— Дрэнна зрабіў?

— Добра зрабілі! — не ўтрымаўся Лушчыцкі.

Смірын крышку падумаў, потым махнуў рукой.

— Як адчувае сябе Дым?

— Кожны дзень звоніць. Пра цябе ўсё пытаецца,— сказаў Хмарук.— Без гіпса ходзіць. Давайце зараз і паедзем гуртам да яго. Во радасці будзе!

— Згода! Паехалі!

Хмарук сеў за руль, побач — Вера.

З задняга сядзення Смірын бачыў яе ружовую шчаку, плячо, адчуваў мілае цяпло жонкі і нейкае невыказнае шчасце.

Захад разгараўся велічным барвовым полымем.





# МАСКВА ШЧЫРА АПЛАДЗІРАВАЛА

**ПАСЛЯГАСТРОЛЬНЫ РЭПАРТАЖ**

Такое здараецца адзін раз у некалькі гадоў. І кожны тэатральны калектыў, які запрашаюць у Маскву, лічыць гэта для сябе вялікім гонарам, заўсёды рыхтуецца да сталічных гастролей, як да самага сур'ёзнага выпрабавання творчых сіл. Такім выпрабаваннем для Беларускага акадэмічнага тэатра оперы і балету з'явіліся амаль двухтыднёвыя выступленні яго калектыву на сцэне Крамлёўскага палаца з'ездаў.

Апошні раз масквічы слухалі нашы нацыянальныя оперы і балеты на Другой дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў 1955 годзе. Пасля таго мінула дзевяць гадоў. За гэты час у опернай і балетнай трупах тэатра адбыліся вялікія змены: іх склад значна абнавіўся, прыйшлі маладыя спевакі, танцоры, музыканты.

З вялікай радасцю ўспрыняў тэатральны калектыў вестку аб паездцы ў сталіцу Радзімы з чарговай творчай справаздачай.

Працавалі напружана, з захапленнем. Падрыхтавалі і выпусцілі для паказу ў Маскве дзве оперныя прэм'еры — «Яснае світанне» і «Арэстэю».

Опера беларускага кампазітара А. Туранкова (лібрэта А. Бачылы), якую пяць гадоў назад упершыню паставілі ў Мінску, была не зусім дасканалая па драматургічных якасцях і аркестроўцы, па музычнай характарыстыцы асноўных дзеючых асоб. Кампазітар Г. Вагнер і пастаноўшчыкі — дырыжор Л. Любімаў, рэжысёры Д. Смоліч і Ю. Ужанцаў — зрабілі новую музычна-сцэнічную рэдакцыю оперы, і яна загучала зусім інакш. Гэтаму садзейнічалі яркія рэжысёрскія знаходкі і арыгінальнае дэкарацыйна-жывапіснае афармленне, вырашанае мастаком Я. Чамадуравым. Што ж датычыць «Арэстэі» С. Танеева, дык яна амаль паўстагоддзя была незаслужана забыта і нікім у савецкі час не ставілася.

Да дзвюх прэм'ер сёлетняга сезона дадалі яшчэ тры пастаноўкі — балеты «Святло і цені» Г. Вагнера, «Мара» Я. Глебава і оперу «Атэла» Д. Вердзі. Варта адзначыць, што ўсе тры нацыянальныя спектаклі — «Яснае світанне», «Святло і цені», «Мара» — прысвечаны важным тэмам сучаснасці.

Як прымуць маскоўскія гледачы спектаклі беларускага тэатра, як ацэняць яго работу? Гэта турбавала не толькі творчы калектыў, але і ўсю грамадскасць рэспублікі.

І вось, нарэшце, гастролі пачаліся. Пачаліся операй «Яснае світанне». Яе сапраўдная народнасць, меладычнасць і рэвалюцыйная мэтанакіраванасць адразу за-

хапілі гледачоў. А потым паказан быў сучасны балет «Святло і цені», дзе разгортваецца вострая драматычная барацьба за чалавечыя душы, супраць рэлігійнага цемрашальства. Потым балет «Мара». І нарэшце — «Атэла» і «Арэстэя». З кожным новым спектаклем рос аўтарытэт нашага тэатра ў вачах строгіх цаніцеляў мастацтва. У заключным канцэрце, апроч артыстаў оперы і балету, выступалі Акадэмічная капэла БССР, Дзяржаўны народны хор, Дзяржаўны ансамбль танца, артысты драматычных тэатраў і філармоніі. На спектаклях і заключных канцэртах пабывала каля ста тысяч чалавек. Гэта гаворыць пра многае.

Як сапраўдных пераможцаў, сустрэлі мінчане гастралёраў, калі яны ў сваім родным горадзе паказалі спектаклі і канцэртную праграму, што з надзвычайным поспехам прайшлі ў Палацы з'ездаў.

Пасля таго як удзельнікі гастроляў вярнуліся дамоў, мы сустрэліся з артыстамі і кіраўнікамі опернага тэатра, каб даведацца пра іх асабістыя ўражанні ад выступленняў у Маскве. А ўражанняў сапраўды многа!

### ЭКЗАМЕН ВЫТРЫМАН



Першае інтэрв'ю з галоўным дырыжорам, народным артыстам рэспублікі **Л. Любімавым.**

— Нашы выступленні на сцэне Палаца з'ездаў,— гаворыць ён,— проста цяжка ацаніць, настолькі яны важныя для далейшага развіцця музычнага тэатра Савецкай Беларусі. Нас здзівіў перш за ўсё велічны будынак Палаца, пабудаваны і абсталяваны па апошняму слову тэхнікі. У ім змяшчаецца шэсць тысяч чалавек. Сцэна нябачаных памераў цалкам механізавана і радыёфікавана, на ёй устаноўлена многа мікрафонаў вялікай адчувальнасці. На першых рэпетыцыях некаторыя салісты не маглі адразу прывыкнуць да незвычайнага гучання сваіх галасоў і таму часта бянтэжыліся. Ім здавалася, што аркестр не чутны, што іх спяванне не даходзіць у глядзельную залу. Работнікі Палаца супакоілі нас, растлумачылі стэрэафанічны эфект, і мы хутка асвойталіся з новай абстаноўкай, пачалі адчуваць сябе, як дома. Ужо тыя, хто ўдзельнічаў у першым спектаклі «Яснае світанне», зразумелі, як добра гучаць іх галасы, якая ідэальная чутнасць у гэтым цудоўным Палацы.

## МАСТАК-РАМАНТЫК

Змест гэтай карціны можна перадаць даволі лаканічна. Трывожныя гады грамадзянскай вайны... Звычайная сцэна сельскага клуба. Дзве дзяўчыны-камсамолкі, чырвонаармеец з параненай рукою, хлапчук-падлетак у будзёнаўцы... Ідзе першая рэпетыцыя, першая чытка п'есы. Вельмі сціплая абстаноўка, у якой паказаны героі карціны: бляшанка з пэндзлікамі на стале, балалайка, самаробная заслона, слабае святло з маленькага падслепаватага акенца. Здавалася б, няма ў гэтым нічога новага, нічога асаблівага. Але заўважце, як умела скампанаваны гэты твор, як удала знойдзена месца для кожнага персанажа, які натхнёны твар у дзяўчыны, што стаіць каля стала і слухае сваю сяброўку.

Карціна, пра якую ідзе гаворка, называецца «Першая рэпетыцыя» і належыць мастачцы Раісе Кудрэвіч. У ёй знайшла сваё адлюстраванне рэвалюцыйная рамантыка тых гістарычных дзён, калі нашы бацькі змагаліся за савецкую ўладу, за першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву рабочых і сялян. Рэпрадукцыя гэтай карціны была змешчана ў лютаўскім нумары часопіса.

Задума гэтага твора ўзнікла ў Раісы Кудрэвіч яшчэ ў юнацкія гады. Яе бацька, Уладзімір Мікалаевіч Кудрэвіч, вядомы дзеяч беларускага мастацтва, быў адначасова і мастаком, і пісьменнікам, і рэжысёрам, і акцёрам. Ён часта расказваў дзецям пра станаўленне савецкага мастацтва, пра тое, як сам ён у гады грамадзянскай вайны арганізоўваў першыя гурткі мастацкай самадзейнасці.

Карціна «Першая рэпетыцыя» выклікае



Маскоўская публіка адразу цёпла прыняла беларусаў. Дырыжыруючы на адкрыцці гастролей операй «Яснае світанне», я ўжо з другой дзеі адчуў, што паміж намі, выканаўцамі, і прысутнымі ў зале ўстанавіўся шчыльны кантакт. Пасля кожнай дзеі — дружныя воплескі, выклікі вядучых артыстаў. А калі мы сыгралі фінальную ўрачыстую сцэну прыходу на шматпакутную зямлю Заходняй Беларусі савецкіх воінаў-вызваліцеляў, калі адгучалі радасныя акорды заключнага апафеознага хору,— зала літаральна задрыжала ад авацый.

Мне не забыць і другога спектакля «Яснае світанне», не забыць нашага заключнага канцэрта для ўдзельнікаў Пленума ЦК КПСС. На іх прысутнічалі кіраўнікі партыі і ўрада на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым. Калі зводны хор выканаў апошні нумар канцэртнай праграмы,— патрыятычную песню Ю. Семянякі «Слухайце, людзі!» на словы П. Броўкі,— уся зала, стоячы, і нашы выканаўцы са сцэны пачалі дружна вітаць членаў урада, што сядзелі ў першым радзе. І раптам бачу, Мікіта Сяргеевіч падыходзіць да невялікага бар'ера, які аддзяляе аркестрантаў ад глядзельнай залы, і па-сяброўску працягвае мне руку. «Вялікі дзякуй,» — сказаў ён. Гэта была лепшая ўзнагарода для ўсіх удзельнікаў канцэрта. Добра паказалі сябе нашы маладыя спевакі Віктар Гур'еў, Паліна Дружына, Аркадзь Саўчанка, Віктар Кірычэнка, маладыя танцоўшчыкі Наташа Парошына, Валеры Сумарокаў. Яны з гонарам вытрымалі цяжкі экзамен на творчую сталасць.



І сапраўды, гэта быў экзамен у першую чаргу для тых, хто толькі пачынае першыя крокі ў мастацтве. Мы, відаць, не памыліліся, што даручылі маладым салістам выкананне вядучых партый у першым оперным спектаклі, які, па сутнасці, задаваў тон гастролям, служыў, калі можна так сказаць, своеасаблівай «візітнай карткай». І моладзь гэтае давер'е апраўдала.

### МАЛАДЫЯ ПАРАСТКІ

Што яны, маладыя, перажылі перад тым, як першы раз выйсці на крамлёўскую сцэну ў прысутнасці шматлікай маскоўскай публікі, што ім давялося пера-

роздум пра цудадзейную сілу мастацтва, прагу да якога абудзіла сацыялістычная рэвалюцыя. Героі карціны ў цяжкія і суровыя дні зазналі, што такое радасць і сіла творчага натхнення... Углядаючыся ў твар цэнтральнай гераіні твора, чамусьці прыгадваеш адну з даўніх карцін мастачкі, напісаную амаль пятнаццаць гадоў назад, — «Пушкін у Міхайлаўскім». Успамінаецца надзвычай выразны твар геніяльнага паэта, які паказаны ў хвіліну натхнення... І хоць гэтыя творы вельмі далёкія хinduаналагічна і зусім розныя па каларыту, іх аб'ядноўвае адна думка, адзін рамантычны настрой, адны і тыя ж сучасныя адносіны аўтара да гістарычнай тэмы.

Героі «Першай рэпетыцыі» — гэта старэйшыя браты і сёстры нашых сучаснікаў, душэўную прыгажосць якіх Раіса Кудрэвіч паказвае ў многіх сваіх творах. Мастачка знарок акцэнтуе ўвагу на радасных хвілінах у жыцці сваіх герояў, каб лепш перадаць іх інтэлектуальнае багацце, раскрыць рамантычнае, узнёслае ў звычайным, будзённым. Шчырай, сардэчнай любоўю да чалавека сагрэты такія палотны, як «У родны калгас», «З Масквы з узнагародай», «Віншаванне настаўніцы», «Сяброўкі». Верная традыцыям рэалістычнага мастацтва, Раіса Кудрэвіч у сваіх работах стварае ўзнёслы, рамантычны вобраз жанчыны — нашай сучасніцы.

Рамантыкай нашых дзён прасякнуты карціны «Гарманіст ідзе» і «Беларускія прыпеўкі». У гэтых творах гучыць урачысты гімн мастацтву, якое ўвайшло ў штодзённае жыццё савецкіх людзей.

Многія палотны Р. Кудрэвіч напісала ў творчай садружнасці з А. Гугелем. Вынікам такой садружнасці з'яўляецца і цікавае палатно «Апасіяната». Хоць гэтая карціна — плён сумеснай творчасці, але ў ёй вельмі выразна адчуваецца індывідуальная манера Р. Кудрэвіч. Вобраз Уладзіміра Ільіча авеяны рамантыкай, светлай марай. Ільіч, слухаючы Бетховена, задумаўся, твар яго светлы, ясны, позірк задумлівы, натхнёны. Магчыма, ён у сваіх марах убачыў светлую будучыню Радзімы...



**І. СТАСЕВІЧ. Шахцёры Салігорска.** Рэспубліканская мастацкая выстаўка.

**А. ГУГЕЛЬ, Р. КУДРЭВІЧ. Апасіяната.** Рэспубліканская мастацкая выстаўка.





**Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС,
Старшыня Савета Міністраў СССР
Мікіта Сяргеевіч ХРУШЧОЎ.**
(Да 70-годдзя з дня нараджэння).



**М. і Л. РОБЕРМАНЫ. Валодзя Ульянаў.** Рэспубліканская мастацкая выстаўка.

думаць за дзесяць гастрольных дзён? Слова маладому спеваку, выхаванцу Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі **Віктару Гур'еву**. Ён выконваў партыі Міколы ў «Ясным світанні» і Арэста ў «Арэстэі».

— Нялёгка перадаць словамі, якое хваляванне ахапіла мяне і маіх паплечнікаў па спектаклю на другім паказе «Яснага світання», калі яго слухаў Мікіта Сяргеевіч. Я неяк прывык ужо да незнаёмай сцэны, але тут раптам зноў пачаў хвалявацца за кожны свой крок, за кожную ноту. Толькі калі пачаўся спектакль, крыху супакоіўся, увайшоў, як кажуць, у ролю. І з другой карціны зусім адчуў сябе свабодна і ўпэўнена.

Аблічча майго героя ў другой карціне оперы раскрываецца найбольш поўна і глыбока: ён прадстае не толькі актыўным, мужным рэвалюцыянерам-прапагандыстам, здольным запальваць сэрцы людзей на барацьбу супраць прыгнятальнікаў, але і чалавекам, які горача кахае. Марына для яго — не проста каханая дзяўчына, а перш за ўсё верная сяброўка ў жыцці, надзейны памочнік па падпольнай рабоце. Роля Міколы мне вельмі падабаецца. Я палюбіў свайго героя за чго гарачы, смелы характар, вытрымку і цвёрдую пераконанасць у справядлівасці справы, за якую ён бясстрашна змагаецца і гатовы ахвяраваць жыццём. Вобраз маладога падпольшчыка знайшоў у масквічоў цёплы водгук. Увогуле, публіка да ўсіх нашых работ ставілася з выключнай увагай. Неяк пасля заканчэння аднаго спектакля за кулісы прыйшоў вядомы спявак Андрэй Іваноў. Успамінаючы сваю канцэртную паездку па гарадах Беларусі, ён сказаў: «Я рады, што ў беларускім тэатры выраслі цудоўныя маладыя парасткі вакальнага мастацтва!»



## ТАКОЕ НЕ ДАВОДЗІЛАСЯ БАЧЫЦЬ

Маскоўскія рэцэнзенты і крытыкі аднадушна прызналі талент маладой спявачкі, выпускніцы нашай кансерваторыі **Паліны Дружыны**, якая стварыла яркі вобраз рыбачкі Марыны ў «Ясным світанні».

Мы ведалі, што Палінін муж **Міхаіл Дружына** — таксама вакаліст, працуе разам з ёю ў адным творчым калектыве. Узнікла думка — узяць інтэрв'ю адразу ў двух артыстаў. На жаль, у тэатры іх не аказалася, і мы паехалі да іх на кватэру.

— Паездка ў Маскву — самая яркая старонка ў маёй пакуль яшчэ невялікай творчай біяграфіі,— з захапленнем заявіла маладая спявачка.— Пра гэта я магла раней толькі марыць. Пасля заканчэння спектакля «Атэла», дзе я выконваю ролю Эміліі, публіка хвілін пятнаццаць не адпускала нас са сцэны. Такое мне ніколі не даводзілася бачыць.

— Калі хочаце,— уключыўся ў гаворку Міхаіл Дружына,— я раскажу вам, як у час гастролей я сустрэўся са сваімі старымі баявымі таварышамі, былымі франтавікамі Вячаславам Сізовым і Ільёй Краўчанкам.

— Калі ласка, з цікавасцю паслухаем.

— Семнаццаць гадоў мы не бачыліся. У свой час вучыліся разам у лётнай школе, разам ваявалі ў адной авіяцыйнай часці. А потым лёс параскідаў нас каго куды. Я, праўда, чуў, што Краўчанка працуе начальнікам аднаго з маскоўскіх аэраклубаў. А дзе Сізоў, як склалася яго жыццё, не ведаў. І вось аднойчы даюць мне маскоўскі тэлефон нейкага Сізова і просяць адразу ж яму пазваніць. «Няўжо Слаўка?» — мільганула думка. Званю. Так і ёсць — ён. Працуе таксама на ніве мастацтва. Я, вядома, запрасіў сябра на «Арэстэю», а пасля спектакля мы, як належыць, адзначылі нашу сустрэчу.

## СУСТРЭЧЫ, СУСТРЭЧЫ...



Ды хіба мала такіх хвалюючых спатканняў адбылося за час гастролей! Група беларускіх артыстаў прыехала на свята жывёлаводаў у падмаскоўны саўгас «Белая дача». Выступілі нашы салісты з канцэртам, потым іх ветліва запрасілі да святочнага стала. Глядзіць галоўны канцэртмайстар тэатра С. Талкачоў, хто з ім побач сядзіць, і вачам сваім не верыць.

— Аляксандр Славін?!

— Ён самы...

— Якім чынам тут?

— Ды вось працую намеснікам дырэктара саўгаса.

Так выпадкова сустрэліся ўраджэнцы горада Бабруйска, неразлучныя сябры дзяцінства Сямён Талкачоў і Аляксандр Славін, якія не бачылі адзін аднаго некалькі дзесяткаў гадоў.

У салістаў оперы **Аркадзя Саўчанкі** і Віктара Чарнабаева была таксама не менш радасная сустрэ-

У некаторых палотнах, у тым ліку і ў серыі партрэтаў студэнтак, адзін з якіх экспанаваўся на сёлетняй рэспубліканскай выстаўцы, Р. Кудрэвіч імкнецца да глыбокага псіхалагічнага раскрыцця вобразаў сваіх гераінь. Вельмі выразная псіхалагічная характарыстыка ў гераіні карціны «Першае знаёмства». Маладая настаўніца пасля заканчэння інстытута прыязджае працаваць у вёску. І вось толькі ступіўшы на вясковую вуліцу, яна ўбачыла хлопчыкаў і дзяўчынак — сваіх будучых вучняў... Вобраз маладой настаўніцы вельмі цэласны, узнёслы. Твар яе і ўся постаць свецяцца вялікай радасцю, шчасцем... Гэты твор, як і поўны задуменнасці і цеплыні «Партрэт студэнткі», выкананы ў мяккай лірычнай манеры.

Карціны мастачкі сваёй рамантычнай узнёсласцю ў вырашэнні вобразаў нашых жанчын палемізуюць з фармалістычнымі спробамі некаторых мастакоў прынізіць жаночы вобраз, зрабіць яго грубым і прымітыўным.

З асаблівай любоўю працуе Р. Кудрэвіч над вобразамі дзяцей. Паказальная ў гэтых адносінах карціна «Хутка вясна». Сцэна, убачаная мастачкай у жыцці, вельмі натуральная і ў той жа час вельмі тыповая. Вобразы дзвюх дзяўчынак-школьніц авеяны такім лірызмам, такою цеплынёй, што адразу пранікаешся настроем аўтара, яго адчуваннем прадвесня. У гэтым творы вельмі яскрава выявілася творчая манера мастачкі: яна імкнецца не проста адлюстраваць убачанае ў жыцці, а знайсці штосьці ўзнёслае, рамантычнае, па-сапраўднаму прыгожае і падзяліцца ўсім гэтым з гледачом.

У творчых планах Раісы Кудрэвіч, у асноўным, дзве тэмы — маладыя работніцы Салігорскага калійнага і ўдзел моладзі ў грамадзянскай вайне. І верыцца, што мастачка створыць высокамастацкія, хвалюючыя палотны.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

## З ЗАЛАЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ

Сяброўскія шаржы
**М. Лісоўскага.**



**М. ДАНЦЫГ.** Крыніца натхнення.



ча са сваім любімым педагогам, дацэнтам Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі Гуга Ціцам.

— Наш педагог не прапусціў ніводнай пастаноўкі з маім удзелам і з удзелам Віктара,— гаворыць Аркадзь Саўчанка.— Аднойчы на «Арэстэі» ў перапынку паміж дзеямі ён зайшоў да нас у грымірвальны пакой. Я адразу пытаюся: «Падабаецца наш спектакль?» «Вядома, падабаецца, малайцы!» — адказаў Гуга Ціц.

— Тады і я не вытрымаў,— расказвае **Віктар Чарнабаеў**,— пытаюся: «Гуга Іанатавіч, якое ўражанне пакінулі выступленні вашых выхаванцаў?» Ён з вясёлай хітрынкай паглядзеў на нас абодвух і прамовіў: «Што ж, сябры, у вас ёсць поспехі. Толькі глядзіце — не зазнавацца!»



## ШЧЫРЫ ПРЫЁМ

Мы гутарылі яшчэ з адной таленавітай спявачкай — **Нінэль Ткачэнка,** выдатнай выканаўцай складаных партый Дэздэмоны і Касандры. Гэтую спявачку з яркімі вакальнымі і сцэнічнымі данымі добра ведаюць аматары музыкі Мінска, Кіева, Львова, ведаюць яе і ў Маскве. Перад самай гастрольнай паездкай нашага тэатра Нінэль Ткачэнка выступала з сольным канцэртам у Малой зале Маскоўскай кансерваторыі, а яшчэ раней удзельнічала ў юбілейным вечары, прысвечаным пяцігоддзю Крамлёўскага тэатра.

— Масквічы мяне слухалі не адзін раз,— расказвае артыстка.— Я задаволена іх шчырым прыёмам. Памятаю, на канцэрце ў Цэнтральным доме журналістаў, дзе сабраліся прадстаўнікі больш ста рэдакцый газет і часопісаў сталіцы, на сцэну паступіла запіска на беларускай мове: «Усё слаўна! Усё цудоўна! Ад шчырага сэрца дзякуем. Журналісты Масквы». Гэтыя словы нас кранулі да глыбіні душы.



В. ЯРМОЛЕНКА. Смакаванне тэмы.



## СУЧАСНЫЯ БАЛЕТЫ СПАДАБАЛІСЯ

Пра ўдзел у гастролях балетнай трупы расказаў галоўны балетмайстар тэатра, заслужаны дзеяч мастацтва **А. Андрэеў.**

— Не хачу хваліцца, але паказаныя намі два сучасныя балетныя спектаклі — «Святло і цені» і «Мара» — атрымалі ў асноўным станоўчую ацэнку гледачоў. У друку адзначаліся рост танцавальнага майстэрства салістаў, зладжанасць, выразнасць ліній, сінхроннасць рухаў кардэбалету. У нас была гутарка з кампазітарам А. Хачатуранам — аўтарам вядомага балету «Спартак», які мы ў бліжэйшы час паставім на нашай сцэне. У прыватнасці, пра спектакль «Мара» ён адгукнуўся як пра таленавіты твор маладога кампазітара Яўгена Глебава.



## ШЧАСЛІВАЕ ХВАЛЯВАННЕ

Наша размова з Андрэевым адбылася ў той самы вечар, калі ў Мінску цалкам паўтаралася праграма заключнага маскоўскага канцэрта. Перад тым мы папрасілі галоўнага балетмайстра пазнаёміць нас з маладой таленавітай балерынай **Наташай Парошынай.** І вось перад намі з'явілася стройная, высокая дзяўчына, апранутая ў стракаты касцюм цыганкі.

— Знаёмцеся. Гэта і ёсць Наташа,— адрэкамендаваў балетмайстар.

Крыху збянтэжаная, не паспеўшы яшчэ аддыхацца пасля тэмпераментнага цыганскага танца, Парошына ўважліва выслухала, што ад яе хочуць, і сказала:

— Я танцую другі сезон пасля заканчэння Ленінградскага харэаграфічнага вучылішча. І на мяне асабіста паездка ў Маскву зрабіла незабыўнае ўражанне. Не ведаю, як іншыя, але я страшэнна хвалявалася перад кожным выхадам на сцэну. І адначасова была шчаслівая, што нас так добра прымалі гледачы, што наша мастацтва ім падабалася.

## РЫХТУЕМ НОВЫЯ СПЕКТАКЛІ

Апошняе інтэрв'ю мы ўзялі ў мастацкага кіраўніка тэатра **Д. Смоліча.** Ён расцэньвае гасцінны прыём, аказаны тэатру маскоўскай грамадскасцю, як аванс, які неабходна апраўдаць далейшай упартай працай.

— Цяпер важна ўсе намаганні прыкласці на добрую падрыхтоўку новага рэпертуару. Наша задача — стварыць новыя беларускія оперы і балеты, перш за ўсё пра жыццё савецкіх людзей. Дарэчы, адна такая лірыка-камічная опера «Твая вясна» ўжо ёсць у партфелі тэатра, і мы рыхтуем яе да пастаноўкі. Але гэтага, вядома, мала. Хочацца, каб творчыя саюзы пісьменнікаў і кампазітараў працавалі з нашым калектывам у больш шчыльным кантакце і ў бліжэйшы час напісалі для нас новыя цікавыя творы.



* * *

Так закончыўся наш паслягастрольны рэпартаж. Яшчэ калі тэатр толькі збіраўся ў Маскву, ад некаторых артыстаў можна было пачуць такія словы: «Чакайце нашага вяртання «са шчытом або на шчыце». І оперны тэатр вярнуўся якраз «са шчытом» — ён усесаюзнаму гледачу паказаў росквіт беларускага сацыялістычнага мастацтва.

**Георгі ЗАГАРОДНІ.**
**Фота У. Крука.**



# ПАДАРОЖЖА ЦЫМБАЛ

Цымбалы любяць падарожнічаць. Наш Беларускі дзяржаўны народны аркестр за апошнія гады пабываў на гастролях у многіх гарадах, у шмат якіх кутках краіны.

...Грукочуць колы на стыках рэек, адлічваючы многія кіламетры, мільгаюць за вокнамі назвы станцый. Поезд ідзе на ўсход. На гэты раз беларускія музыканты адправіліся ў далёкую дарогу ў спецыяльным вагоне, які надоўга стаў нам домам на колах. Мы ехалі на Урал.

Першы горад, у якім спыніліся, быў Свярдлоўск — буйны прамысловы і культурны цэнтр Урала. Незабыўнае ўражанне ў кожнага, хто пабудзе ў гэтым вялікім горадзе, застаецца ад шырокіх свярдлоўскіх праспектаў, ад магутных заводскіх карпусоў.

Канцэрты мы давалі не толькі ў цудоўнай зале Свярдлоўскай дзяржаўнаў філармоніі, але выступалі і ў рабочых Палацах культуры, у заводскіх клубах.

Уралмашзавод, Першаўральскі дзінасавы завод... Усюды беларускія цымбалы, ліру, дудачку сустракалі гарачымі воплескамі. У перапынках і пасля канцэртаў да нас заходзілі аматары музыкі, мясцовыя музыканты, і ў сяброўскіх, шчырых гутарках раскрываліся таямніцы майстэрства, шырыўся абмен думкамі, умацоўваліся братэрскія сувязі.

На Дзяхцярскім медным рудніку ў перапынку за кулісы прыйшлі нашы земляхі Анатоль Сакалоўскі, Іосіф Пракаповіч, Канстанцін Грушэцкі. Як прыемна было нам сустрэць тут, ля сівых Уральскіх гор, беларусаў, якія любяць сваю родную песню.

— Прыязджайце ў госці часцей! — гаварылі нам земляхі на развітанне.— Прывозьце новыя беларускія песні...

Такімі просьбамі заканчваліся звычайна нашы канцэрты ўсюды, дзе мы ні выступалі: на ўдарных камсамольскіх будоўлях, у Цалінным краі, у Сібіры.



Выступае Беларускі дзяржаўны народны аркестр.



Іграе Веніямін Бурковіч.

Іншы раз да нас далучаліся мясцовыя аматары музыкі, самадзейныя артысты, і тады канцэрты ператвараліся ў хвалюючае свята дружбы.

Калі мы прыехалі ў клуб будаўнікоў горнаабагачальнага камбіната, перад канцэртам падышоў да нас юнак-грузін.

— Айзор Чэлідзе,— назваў сябе хлопец.— Я іграю на грузінскай долі. Хачу выступіць з вамі...

Як цудоўна прагучала тэмпераментная лезгінка, выкананая на грузінскім народным інструменце ў суправаджэнні беларускіх цымбал. Электрамантажніку Айзору Чэлідзе апладзіравалі з такім жа імпэтам, як і беларускім артыстам, якія выконвалі велічную беларускую песню «Ой, бацька, наш Нёман».

Цікавай і плённай была наша вялікая паездка па Узбекістану і Казахстану, якая пачалася з канцэртаў у Ташкенце.

Тут былі таксама хвалюючыя сустрэчы. Як старыя знаёмыя сустрэліся мінскі цымбаліст Веніямін Бурковіч і музыкант з Ташкента Фазыл Харатаў, які іграе на ўзбекскім інструменце — чанга, падобным на беларускія цымбалы. Яны пазнаёміліся ў Маскве, на VI Сусветным фестывалі моладзі. Тады гэта была сустрэча сапернікаў на сусветным конкурсе выканаўцаў. Цяпер ім было што ўспомніць, абмяняцца думкамі і ўражаннямі аб новых творах.

Самарканд, Чымкент, Джамбул, Чырчык, Алма-Ата... І ўсюды канцэрты, канцэрты.

У сталіцы Казахстана Алма-Аце аркестр выступаў на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балету імя Абая. Мы падрыхтавалі некалькі вялікіх канцэртных праграм. Побач з сімфаньетай М. Чуркіна «Беларускія малюнкі», мініяцюрамі «Купалінка», «Перапёлачка» і іншымі творамі вялікае месца ў нашых праграмах займаў цыкл музыкі народаў СССР. Аркестр пазнаёміў слухачоў з фрагментамі з балету «Сем прыгажунь» Кара-Караева і з балетаў А. Хачатурана «Гаянэ», «Спартак», з музыкай Д. Шастаковіча да кінафільма «Авадзень». З багатым рэпертуарам выступілі салісты Беларускай дзяржаўнай філармоніі спевакі Яўгенія Цвятаева і Барыс Казанцаў, а таксама салісты аркестра Веніямін Бурковіч, Юры Старыковіч, Эдуард Навіцкі. Дырыжыраваў Віктар Барсаў.

У аўтобусах мы зрабілі цікавае падарожжа па Цаліннаму краю. Выступалі на новабудоўлях Вялікай хіміі, у саўгасе «Макінскі», у горадзе камса-



У цэху Першаўральскага новатрубнага завода такія ж уважлівыя слухачы, як і ў канцэртнай зале.




**Першае, што наведалі беларускія артысты ў волжскім горадзе Ульянаўску, быў дом-музей У. І. Леніна.**

мольскага юнацтва Рудным. Як і ўсюды, на цаліне нас сустракалі з радасцю і шчырым захапленнем.

Пра нашы выступленні ў Цалінным краі газета «Молодой целинник», напрыклад, пісала: «Ад сімфаньеты Чуркіна «Беларускія малюнкі» павеяла сапраўднай паэзіяй лясных прастораў Беларусі і шчырай жыццерадаснасцю народных песень...»

Высокую ацэнку мясцовы друк даў выступленням кіраўніка нашага аркестра народнага артыста БССР І. Жыновіча, які выступаў з вялікім натхненнем як саліст-цымбаліст.

Па дарозе дамоў мы пабывалі ў Татарыі, Удмурціі, у Пензе, Куйбышаве. Беларускія цымбалы і песні гучалі над вялікай рускай ракой Волгай, у горадзе Ульянаўску. На радзіме Леніна з хваляваннем наведалі мы ленінскія мясціны, аглядалі дарагія рэліквіі ў музеі Уладзіміра Ільіча.

Дарога наша завітала і на Воткінскую ГЭС. Мы з канцэртам выступілі ў Воткінску, дзе нарадзіўся Пётр Ільіч Чайкоўскі. Сёння побач з гідраэлектрастанцыяй вырас новы малады горад, названы імем вялікага рускага кампазітара.

Наша падарожжа працягвалася некалькі месяцаў. Але цымбалы не любяць сядзець на адным месцы. Яшчэ не ўлягліся ўражанні ад гэтай паездкі, як нас зноў паклікала дарога. На гэты раз мы едзем на поўнач, у гастрольнае турнэ па Запаляр'і.

**Марат РУБІНШТЭЙН,**
**артыст Беларускага дзяржаўнага народнага аркестра БССР.**

## *Для цікаўных*

...З другой паловы XIX стагоддзя ў Мінскай губерні статыстычны камітэт штогод выдаваў «Памятныя кніжкі». У іх побач з апісаннем паветаў, гарадоў і цудоўных краявідаў можна было знайсці карысныя рэкамендацыі — як лавіць уюноў, даведкі пра шынкі і манастыры, лічбы зарэзаных ваўкамі скаціны і іншае.

1878 год быў памятным для Мінскай губерні не толькі з'яўленнем велізарнай колькасці пацукоў, небывалым ураджаем грэчкі, але і адкрыццём... шасці прыватных друкарняў з «машынамі ціснення».

Такое паведамленне на сучаснага чалавека, вядома, не робіць таго ўражання, якое яно выклікала ў той час. Гэта зразумела — мы прызвычаіліся да сённяшніх маштабаў: калі гавораць цяпер аб друкарні, уяўляюць прадпрыемства накшталт паліграфічнага камбіната імя Я. Коласа або Дом друку. Але ў той далёкі час мысліў па-свойму «вялікімі маштабамі» і мінскі купец Дворжац са сваім супольнікам па выдавецкай справе барысаўскім мешчанінам Лыпам. У слова «друкарня» яны ўкладалі свой сэнс — іхнія «друкарскія ўстановы» мелі... па адным ручным станку і па двасры рабочыя...






# АВІЯХІМІКІ НА СТАРЦЕ

**Цяпер, калі ўсё больш выпускаецца мінеральных угнаенняў, ядахімікатаў і гербіцыдаў, значна ўзрастае роля грамадзянскай авіяцыі ў сельскай гаспадарцы.**

**Як жа беларускія авіятары сустрэлі сёлетнюю вясну? Якія перспектывы сельскагаспадарчай авіяцыі?**

**— Рашэнні лютаўскага Пленума ЦК нашай партыі аб інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі,— сказалі нам у Беларускім тэрытарыяльным упраўленні грамадзянскага паветранага флоту,— натхнілі авіятараў на новыя подзвігі. За мінулы год дзесяткі тысяч гектараў апрацаваны звыш плана. Сярод перадавых калектываў — авіятары Міншчыны, якіх узначальвае здольны камандзір-арганізатар камуніст Міхаіл Налівайка. Слаўна папрацавалі паветраныя хімікі. Ніводнай аварыі, ні адной хвіліны прастою — такі іх дэвіз. Калектыў прадстаўлены на Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве.**

**Яшчэ большыя планы ў беларускіх авіяхімікаў сёлета. Натхнёныя клопатамі партыі, яны ўзялі на сябе высокія абавязацельствы. Павялічваецца нагрузка на кожны самалёт. Экіпажы будуць выкарыстоўваць новы метад двухзменнага і спаранага палётаў, які добра апраўдаў сябе ў мінулым сезоне, ад чаго знізіцца сабекошт авіяхімічных работ.**



**Пілот камсамолец Юры Якубоўскі.**



Перад палётамі. Камандзір падраздзялення Міхаіл Іванавіч Налівайка (трэці злева) дае ўказанні авіятэхнікам Івану Васілёнку, Уладзіміру Грыбу і пілоту Фёдару Купрэйчыку.

Спаборніцтва разгарнулася за тое, каб у сёлетнім годзе апрацаваць авіяцыяй 900 000 гектараў пасеваў!

Мы пабывалі ў авіятараў Міншчыны і пацікавіліся, як яны падрыхтаваліся да сёлетняй вясны.

У кабінеце камандзіра аж цесна ад розных карт і схем. Карты-маршруты і на сценах і на спецыяльных століках... Міхаіл Іванавіч Налівайка ахвотна расказаў нам пра будні свайго дружнага калектыву, які змагаецца за ганаровае права называцца камуністычным.

Ідуць залікі. Інжынер Віктар Пяскоўскі правярае, як пілот Уладзімір Каламійцаў падрыхтаваўся да авіяхімічных работ. І сёлета ён здаў залікі на выдатна.

— Так, сапраўды, калі знаёмішся з рашэннямі снежаньскага і лютаўскага Пленумаў ЦК нашай партыі,—сказаў Міхаіл Іванавіч,— то не можаш стрымаць свайго захаплення ад тых грандыёзных перспектыў, якія адкрываюцца перад сельскай гаспадаркай. Мы, авіятары, ганарымся, што і наша праца ўліваецца ў агульнанародную барацьбу за дастатак, за шчасце, за камунізм!

Міхаіл Іванавіч далей сказаў, што ўсе экіпажы ў зімовы час працавалі з агеньком і паспяхова справіліся з перавозкамі. І вучыліся, як ніколі, старанна, адчуваючы адказнасць перад часам. Усе авіяцыйныя хімікі (так тут называюць пілотаў і авіятэхнікаў) прайшлі праграму па аграхімічнаму мінімуму. Экіпажы сфарміраваны. Тэхніка прыведзена ў баявую гатоўнасць. Інжынер Віктар Пяскоўскі пабываў ужо ў многіх калгасах і саўгасах, з якімі заключаны ўмовы на авіяхімічныя работы, на месцы вывучыў карты палёў, удакладніў графікі і маршруты. Заданне ў гэтым годзе амаль на адну трэцюю частку большае, чым летась, і трэба спяшацца.

Міхаіл Іванавіч нецярпліва падхапіўся, узяўся за шапку:

— Прабачце, мне трэба прымаць залікі!

Па дарозе мы даведаліся, што ў калектыў прыйшло новае папаўненне. Поплеч з ветэранамі, а іх многа ў калектыве, самастойна павядуць крылатыя машыны маладыя авіяхімікі Фёдар Купрэйчык, Анатоль Сасноўскі, Аркадзь Дакучаеў і іншыя.

Маладыя пілоты, якія прыйшлі з авіяцыйнай школы, перш чым павесці самалёт над палямі, павінны здаць залікі па аграхіммінімуму і прайсці так званыя трэніровачныя палёты: спачатку з узлётнай пляцоўкі, пры добрай бачнасці, а потым у вытворчых умовах — з грузам і апаратурай для работы на палях.

Між іншым, трэніровачныя палёты праходзяць усе члены экіпажаў. Аграхімічныя работы на калгасных і саўгасных палях — ударны фронт. І трэба, каб усё было як мае быць падрыхтавана, каб кожны авіятар дакладна ведаў свае абавязкі.

Напрадвесні, калі палі былі яшчэ моцна ўхутаны снегавой напраткай, на ўзлётнай паласе ўжо стаялі бліскучыя «АН-2» у чаканні каманды.

Камандзір называе адно прозвішча за другім, пералічвае экіпажы, якія ўзялі павышаныя абавязацельствы.

— Ды вось яшчэ!— раптам усклікнуў ён.— Не забудзьце, што нашы авіятары добра папрацавалі на Кубані, у парадку братняй дапамогі сельскім працаўнікам. Ад нашага калектыву на Кубань адправіліся тры лепшыя экіпажы. Мы ўжо атрымалі ад іх добрыя весткі. За якія два тыдні Міхаіл Біч, Яўген Барысевіч і Іван Тумар падкармілі больш як па тры тысячы гектараў пасеваў. Так што, пакуль мы тут трэніруемся, яны на поўдні пройдуць добрую вытворчую загартоўку.

...Калі вам давядзецца дзе-небудзь на Любаншчыне, пад Маладзечнам ці ля Старых Дарог убачыць, як у сінім вясновым небе, над яшчэ не падсохлымі палеткамі, кружаць самалёты, то ведайце, што гэта працуюць крылатыя хімікі — хлопцы з «гаспадаркі Міхаіла Налівайкі».

Шчаслівых рэйсаў вам, працаўнікі неба!

**С. ІВАНОЎ.**

Фота **А. Дзітлава.**

# ПУШЫСТЫ КАПРОН

**На гомельскай фабрыцы імя 8-га Сакавіка ўжо даўно выпускаюць капронавыя панчохі. Тут асвоены выраб капронавай бялізны, шкарпэтак, а неўзабаве пачнецца выпуск розных вырабаў з капронабаваўнянай пражы.**

**І раптам з'явіліся новыя валокны, якія здзівілі гомельскіх трыкатажнікаў. Што гэта за валокны?**

**У Чарнігаве, на камбінаце штучнага валакна, распрацавана тэхналогія новага віду прадукцыі — аб'ёмнага капрону. Яго першыя доследныя ўзоры сябры-ўкраінцы прыслалі ў Гомель. Па свайму выгляду гэтае валакно нагадвае чыстую воўну, па трываласці ў два разы перавышае пражу з яе.**

**Сінтэтычная навінка спадабалася трыкатажнікам. У той жа дзень інжынеры тэхнічнага аддзела сумесна з тэхнолагам панчошнага цэха Святланай Храмчанка ўзяліся за падрыхтоўку да выпуску мужчынскіх шкарпэтак з новага валакна. Майстар Аляксей Жывулька сам не адыходзіў ад аўтаматаў, назіраючы, як нараджа-**



Маладыя інжынеры Іна Разінская і Рэма Захарына заклапочаны, каб удасканаліць новы спосаб адбельвання капрону.



Начальнік швейнага цэха Антаніна Каўрыцкая і кантралёр Антаніна Кавалёва пільна сочаць за якасцю кожнага вырабу.

ліся першыя ўзоры... Неўзабаве вырабы з пушыстага капрону паявяцца на прылаўках магазінаў. Яны ўпрыгожаць быт савецкіх людзей.

А як жа звычайны капрон? Ён, зразумела, не збіраецца ў адстаўку. Тонкая, мяккая і моцная капронавая нітка будзе служыць сваю добрую службу ў трыкатажнай вытворчасці. Але і тут ёсць навіна.

Вядома, што зацяжкі намнога скарачаюць тэрмін носкі капронавых панчох. Трыкатажнікі пачалі апрацоўваць іх полікрыламіднай смалой. Гэты хімікат мае цудоўную ўласцівасць — ён раўнамерна пакрывае капронавае валакно найтанчэйшай плёнкай, якая засцерагае панчохі ад зацяжак.

Шырока ўкараняюцца ў вытворчасць актыўныя фарбавальнікі, якія, уступаючы ў хімічныя злучэнні з валакном, надаюць афарбоўцы трыкатажных вырабаў асаблівую трываласць. У хімічнай лабараторыі фабрыкі нарадзіўся найбольш рацыянальны, высокаэфектыўны і эканамічны метад адбельвання капронавага палатна надвоцатнай кіслатой. Распрацоўваючы яго, загадчык лабараторыі Іна Разінская і інжынер Рэма Захарына пайшлі прынцыпова новым шляхам, і іх настойлівыя пошукі далі свой плён.

Гомельскія трыкатажнікі настойліва дамагаюцца таго, каб іх вырабы надзейна служылі чалавеку, цешылі яго вока. І ўсё гэта робіцца з дапамогай чараўніцы-хіміі.

Барыс ГЛІКІН.

Фота В. Бараноўскага.

Калі вы набудзеце шкарпэткі з аб'ёмнай капронавай пражы, якія выпускае гомельская фабрыка імя 8-га Сакавіка, успомніце сціплую працаўніцу Ганну Юрчанка.





# ВЯРШЫНІ ПАЭЗІІ ВЫСОКАЙ



*Сіла рэалістычнага мастацтва Вільяма Шэкспіра — у высокамастацкай праўдзе жыцця. Драматычнае адлюстраванне з'яў рэчаіснасці, якое вялікі мастак пакінуў у сваіх творах, вось ужо* **чатыры вякі** *здзіўляе і захапляе нас пераканаўчай праўдзівасцю і жыццёвасцю. Любы шэкспіраўскі герой — гэта жывы чалавек сваёй эпохі і свайго асяроддзя: ён дзейнічае, змагаецца, радуецца і пакутуе ва ўласцівых гэтай эпосе і асяроддзю ўмовах, праяўляючы ўсю шматграннасць свайго духоўнага складу і характару.*

*Неперасўзыйдзены мастак, які дасканала валодаў паэтычным майстэрствам, дасягае чарадзейнага ўздзеяння на нас, нашчадкаў яго спадчыны, у першую чаргу дзякуючы бездакорнаму валоданню паэтычнай мовай. Гётэ, імкнучыся разгадаць гэтую тайну ўздзеяння шэкспіраўскай лірыкі на чытача, калісьці трапна заўважыў, што «Шэкспір уздзейнічае жывым словам». Багацце моўнай палітры ў яго драматычных і лірычных творах здзіўляючае. Кароль Лір, пакуль ён яшчэ кароль, размаўляе з падначаленымі як дэспат-самаўладца, а пайшоўшы ўпрочкі і блукаючы па пустцы ў навальніцу, шле праклёны «стыхіям прыроды і часу» на мове англійскіх фермераў з сярэдніх графстваў Брытаніі.*

*Між іншым, гэтую характэрную асаблівасць у мове шэкспіраўскіх герояў пранікліва заўважыў яшчэ Пушкін, указваючы, што ў Шэкспіра нідзе няма залішняй напышлівасці і хадульнасці, і калі ў яго трагедыях каралі часам размаўляюць як конюхі, то «нам гэта не дзіўна, бо мы адчуваем, што і знатныя, як і ўсе простыя людзі, аб простых паняццях павінны выказвацца проста».*

*Вобразы неўміручых драм і камедый Шэкспіра раскрываюцца перад намі ва ўсім багацці іхняга духоўнага свету не толькі ў гераічных учынках і подзвігах. Свет інтымных пачуццяў, сваё самае запаветнае яны выказваюць у паслядоўным развоі маналогаў і дыялогаў, у задушэўных размовах сам-насам. З іх мы даведваемся, што «клык нястач глыбока раніць» Ліра, які зрокся прастола, а палкаводзец Атэла пагарджае хамелеонам Яга за тое, што ён «грабе рукой з чужога кашаля, нібы тытунь з уласнага кісета».*

*У Шэкспіра кожны чалавек любіць, ненавідзіць, смуткуе і радуецца па-свойму, «кожны на свой лад», як падкрэсліваў зноў-такі Пушкін.*

*Паэт-мастак, Шэкспір увянчаў лаўровым вянком англійскую лірыку эпохі Адраджэння сваімі славутымі 154 санетамі. Паэзія — гэтая вечная крыніца радасці — уладае чароўнай сілай, палонячы нашы пачуцці, і праз іх цярэбіць шлях да нашага розуму, усведамлення, аналізаў і вывадаў. Яна дзейнічае як музыка — проста праз сэрца, міма галавы, для якой, як гаварыў Бялінскі, наступіць свая чарга пасля.*

*Праз паэзію Шэкспір перадаваў усё багацце зместу неўміручага жыцця. У гэтым сэнсе яго паэзія — невычэрпная крыніца вобразнага пазнання з'яў рэчаіснасці, скарбніца ведаў і эстэтычнай асалоды ў роўнай меры для літаратара, як і для псіхолага, філосафа, гісторыка, прамоўцы і дзяржаўнага дзеяча.*

*У санетах Шэкспір-лірык спаборнічае і па сіле мастацкай дасканаласці падчас перамагае Шэкспіра-драматурга. Асэнсаванне такіх вечных тэм, як каханне, вернасць абавязку ў каханні і дружбе, разуменне вонкавай прыгажосці і духоўнага харастава чалавека, пытанні вернасці і вераломства, справядлівай улады і дэспатычнай гардыні — увесь неабдымны свет чалавечых узаемаадносін і пачуццяў вырашаецца паэтам-мысліцелем з гуманістычных філасофскіх пазіцый. Поўныя дзеяння і руху, страснага пачуцця і настраёвасці, санеты Шэкспіра з'яўляюцца як бы мініяцюрнымі драмамі ў строга абмежаванай форме 14-ці вершаваных радкоў. Яго санеты — гэта гімн жыццю ва ўсіх шматгранных праяўленнях. У складанейшых гамах пачуццяў і перажыванняў, што знайшлі свой адбітак у класічнай форме санета, адлюстроўваецца глыбокае разуменне і асэнсаванне паэтам жыццёвых супярэчнасцей цэлай эпохі Адраджэння.*

*Творчыя пераклады з багацейшай скарбніцы Шэкспіра на мовы розных народаў пры ўмове беражлівай «перасадкі заморскіх кветак на чужую глебу» і з густам зробленага «пераапранання чужаземцаў у новыя для іх строі чужой мовы і вопраткі» заўсёды ўзбагачалі культуру другога народа і, як гаварыў А. Фадзееў, «станавіліся фактам нацыянальнай літаратуры». Мы рады адзначыць, што да 400-годдзя з дня нараджэння вялікага англічаніна наша літаратура прымае ў сваё здабыткі кнігу санетаў В. Шэкспіра ў перакладзе на беларускую мову аднаго са старэйшых сваіх майстроў — паэта Уладзіміра Дубоўкі.*

***Язэп СЕМЯЖОН***

**Вільям ШЭКСПІР**

## Санеты

### 23

Як той акцёр, збянтэжыўшыся, стане,
Згубіўшы ролі вызубранай ніць,
Ці безразважны, ў раззлаваным стане,
Знямее, сіл не меўшы гаварыць,—

Так я замоўк, бо словаў больш не маю,
Якімі надарае нас любоў.



Але ж яна, магутная такая,
Мяне навучыць гаварыць без слоў.

Няхай тлумачыць кніга мову сэрца,
Як абаронца красамоўны мой.
Хай у радочку кожным адгукнецца,
Што варты ўзнагароды я тваёй!

Пачуем пра любоў з нямых радкоў?
Вачыма слухаць вучыць нас любоў!

### 29

Зняслаўлены людской няпраўдай, лёсам,
У неба шлю я смутак горкі мой.
Але мой лямант не скране нябёсы
З іх абыякасцю, да слёз глухой.

Бывае зайздрасць горш самога ката,
На ўласны скарб забыцца з ёй гатоў,
Зайздрошчу ўсім, надзеямі багатым,
На таленты шчаслівым, на сяброў.

Калі ж цябе, у той хвіліне самай,
Згадаю я, дык стану ўраз другім.—
Нібы жаўрук перад нябеснай брамай,
Мая душа табе спявае гімн.

За успаміны пра тваю любоў
Не ўзяў бы я багацці каралёў.

### 43

Прыемна мне, калі заплюшчу вочы,
Бо што б удзень пабачылі яны?
Цудоўны вобраз твой скрозь цемру ночы
Мне зіхатлівыя прыносяць сны.

Калі твой цень і ноч перамагае,
Святлом барвовым разганяе змрок,—
Дык як жа ўдзень краса свяціла б тая,
Твой яснавейны, прамяністы зрок?

Якім бы дзень прыгожым стаў раптоўна,
Каб ты з'явілася ў сваёй красе,
Калі адзін твой толькі цень цудоўны
Такую слодыч для мяне нясе!

Мне без цябе і дзень — як ноч глухая,
З табою ж ноч — як ясны дзень бывае.

### 46

У воч і сэрца вечная вайна:
Не падзялілі ўлады над табой.

І тая і другая старана
Тваёю захапляюцца красой.

Гаворыць сэрца, што жывеш ты ў ім
І ў тайніку схаваны там на дно.
А вочы кажуць, што ў святле сваім
Адлюстравалі вобраз твой даўно.

Каб скончыць спрэчку, скліканы быў суд.
Паселі суддзі — думкі — ля стала.
Каму належыць што — сказаў прысуд,
А ў ім развага мудрая была:

— Над сэрцам — сэрца будзе уладар.
Знадворнасць — вочам дастанецца ў дар.

61

Ці праз цябе я вочы не самкну,
Калі ўначы прыходзіш летуценнікам?
Ці вобраз твой мяне пазбавіў сну,
Ці карагод табе падобных сценяў?

Хіба твая з'яўляецца душа,
Каб зварушыць усё перабытое,
У памяці зайздросна ўваскрашаць
Мае памылкі, усё маё благое?

О, не! Хоць моцная твая любоў,
Ды не такая, каб у сне з'явіцца.—
Мая любоў, пазбыўшыся ўсіх сноў,
Каля цябе стаіць, як вартаўніца!

Яна вартуе, не самкне вачэй,
Пакуль ты да другіх сяброў бліжэй.

82

Не заручоны з музаю маёй,
Ты можаш быць паблажлівы для тых,
Што кожны твор табе прысвецяць свой,
Благаславення просячы для кніг.

Каб славіць розум, прыгажосць тваю,
Мой талент вельмі сціплы і малы.
А новы час, на сілу ўсю сваю,
Нясе табе багата пахвалы.

Але калі ад новых спевакоў
Пачуеш красамоўны іх тандэт,
Тады ацэніш праўду шчырых слоў,
Якія даў ад сэрца друг-паэт.

Малюнкі іх — як нежывыя ўсе,
А вобраз твой — радня самой красе.

85

Прыціхлі з музаю мы, як нямыя,
Тым часам плойма модных песняроў,
Пабраўшы ў рукі пёры залатыя,
Да кучаравых прылягла радкоў.

Пакуль яны грымзоляць спрытна словы,
Я думы думаю свае адзін,
І, як дзячок да псалмаў адмысловых,
Да гладкапісаў дадаю: «Амін!»

Пачуўшы хвалу, пасылаю кожнай:
«Але!» «Па праўдзе так!» «Во — гэта верш!»
Хоць так пачуцці выказаць няможна,
Любоў к табе я выкажу найлепш!

Цані за пуставейнасць спевакоў,
Мяне — за думкі ціхія, без слоў.

122

Навошта мне дарунак твой — таблiцы?
Нататкі ўсе у памяці маёй.
І так запісаны, што ім скрышыцца
Прыйшлося б толькі разам з галавой.

Ты будзеш жыць аж да тае часіны,
Пакуль дарэшты знішчыцца, на тло
Усё, што для цудоўных успамінаў
Скарбніцаю надзейнаю было.

Калі нататкам шчырага кахання
Такія сховы давялося мець,
Няхай лепш некаму дарункам стане
Табліц халодных мармур або медзь.

Хто ж хоча мець для памяці дарункі,
Не верыць той у сілы ўласнай думкі.

Пераклаў з англійскай мовы
Уладзімір ДУБОЎКА.




# КАНКРЭТНАСЦЬ ПАЭТЫЧНАГА БАЧАННЯ




**Рыгор Барадулін. «Нагбом». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1963.**

Можа быць, гэта крыху і дзіўна, але новую кнігу Рыгора Барадуліна «Нагбом» я ўзяў у рукі з адчуваннем, якое можна выказаць прыкладна так:

Як хутка ідзе час!..

Чаму ўзнікла менавіта такая асацыяцыя?

Можа таму, што, здаецца, яшчэ зусім нядаўна, усяго некалькі год назад, я сустрэўся ва ўніверсітэце з Барадуліным як са студэнтам-першакурснікам.

А можа таму, што, здаецца, зусім нядаўна мы, члены літаб'яднання пры «Чырвонай змене» (яно існуе і цяпер, поспехаў яму!), абмяркоўвалі першыя вершы Р. Барадуліна... Помню, спрачаліся вакол верша, які, здаецца, не ўключаўся ў зборнік «Маладзік над стэпам» і дзе была прыблізна такая метафара: «З рогу месяца льецца святла малако». Некаторым з нас яна не спадабалася — можа таму, што тады больш высока «каціравалася» гучнае слова, рыторыка. Ніл Гілевіч, які быў сярод нас больш вопытны і лепш дасведчаны ў такіх рэчах, аказаўся і больш дальнавідны. Ён пярэчыў: «Чаму? Якраз гэта нядрэнна — мысліць вось так вобразна. Можа, гэта якраз і добра». Лепшым суддзёй аказаўся час. Ён вырашыў нашы спрэчкі.

Як хутка ідзе час...— такое ўражанне ўзнікла, пэўна, і ад самой кнігі «Нагбом». І ад яе вокладак, яе знешняга выгляду — яшчэ зусім нядаўна ў нас такіх кніг не выдавалі: так не набіралі, так не афармлялі, так не прадстаўлялі аўтара (партрэт, біяграфічная даведка, анатацыя). І, вядома, ад зместу зборніка, ад твораў, якія складаюць яго. Большасць з іх я чытаў раней і цяпер мог загадзя ўявіць, што тоіцца за гэтым круглым і сакавітым, як белы налiў,— «Нагбом». Мог меркаваць, наколькі Барадулін,— Пегас якога ўвогуле не наравіцца асабліва, ідзе даволі роўна, паступальна,— вырас з часу выхаду яго «Маладзіка над стэпам», мог вызначыць і асноўную асаблівасць зборніка «Нагбом».

Як хутка ідзе час...

Выдаюць кнігі інакш, таму што пішуцца яны інакш, таму што іншай становіцца паэзія. Яна абнаўляецца, адмаўляючыся ад многіх непатрэбных умоўнасцей, узбагачаецца новымі рысамі і якасцямі. Верш — як тэматычна, так і стылістычна — робіцца больш разнастайны і гнуткі, больш рухомы.



Няцяжка, як мне здаецца, назваць і важнейшую з тых умоў, якія вызначаюць сённяшняе развіццё паэзіі. Яна ўсё больш жывіцца звычайным, чорным хлебам, усё часцей прыпадае да «ракі», пад назваю — «Факт». Яна становіцца паэзіяй факта, паэзіяй самай што ні на ёсць жыццёвай з'явы і, пашыраючы поле сваёй дзейнасці, заходзіць у манапольныя ўладанні прозы з іх славутай чэхаўскай попельніцай. І гэта — не дэпаэтызацыя жыцця, не эстэтычная непаборлівасць і ўсяяднасць. Не. Гэта, калі хочаце, і ёсць сапраўдная паэтызацыя.

Мне прыгадваецца дыспут Назыма Хікмета і Янаса Рыцаса, які быў перадрукаваны з Пражскага штотыднёвіка «Культура» ў маскоўскім «Дні паэзіі» за 1962 год. «Мне здаецца,— гаворыць Рыцас,— што паказальным момантам адказнасці сучаснага паэта з'яўляецца тое, што ён не толькі не апіраецца на сімвалы, якія існуюць, але наадварот, стварае больш шырокую, усеабдымную іх шкалу, што карэннямі ўваходзіць у сучаснасць. З яе сучасны паэт чэрпае свае вобразы. Таму такія прадметы будняў, усё, чым мы акружаны, — стол, крэсла, машына, уся атмасфера сучаснага жыцця, атрымоўваюць у паэтычнай эстэтыцы сённяшняга дня такое вялікае значэнне. Усе прадметы, якія акружаюць нас, не з'яўляюцца толькі знешняй формай матэрыі. Яны — прадукт чалавечай дзейнасці за мільёны гадоў. Яны — канкрэтнае выражэнне гісторыі. І калі мы здолеем паглядзець на іх поглядам ясным і глыбокім, то ўбачым у іх увесь свет».

«Сучасны паэт,— уступае ў гаворку Хікмет,— любіць рэч, а па-гэтаму спецыфічным бокам сучаснай паэзіі з'яўляецца яе непасрэднасць і канкрэтнасць».

«Але гэта ні ў якой меры не азначае,— гаворыць далей Рыцас,— што паэзія прапануе свае паслугі лапаце. Наша паэзія непасрэдная і канкрэтная, але яна адначасова і складаная, гэтак жа як канкрэтныя і складаныя адносіны мужчыны і жанчыны, жыцця і смерці, любві і нянавісці, святла і цемры...»

Той працэс, пра які гаварылі два выдатныя паэты сучаснасці, адчуваецца, асабліва ў апошні час, і ў нашай беларускай паэзіі. Дае знаць ён і ў творчасці Рыгора Барадуліна, у прыватнасці ў яго новай кнізе «Нагбом».

> Я знаю,
> для многіх паэтычных кастратаў
> тэма міру ўяўляецца
> нейкай абстрактнай.
> На справе ж яна —
> надзвычай канкрэтная,
> як кашуля,
> што на спіне,
> работай і сонцам нагрэтая,—

піша Барадулін у адным са сваіх новых вершаў. А ў паэме «Куліна», прызнаючыся, што «так і не мог знайсці строгай сюжэтнай лініі», ён гаворыць:

> Баючыся ўступ зацягнуць празмерна,
> канкрэтна пачну з таго, што
> маці завуць Кулінай.

Гэтыя радкі, гэтае «канкрэтна пачну» не выпадковыя для аўтара кнігі «Нагбом». Ён не любіць розныя ўмоўнасці, накшталт строгай сюжэтнай лініі, не да спадобы яму абстрактныя сімвалы і агульныя

месцы. Надзвычай канкрэтнымі ўяўляюцца яму не толькі тэма міру, а і ўсе іншыя тэмы. Ён «любіць рэч», ён яе «на смак і навобмацк ведае», як той «ціхі дым» бульбоўніку («Паляць бульбоўнік»). І таму ён часта адштурхоўваецца ў сваіх вершах, як рыбак на лодцы — ад цвёрдага берагу, ад жывога назірання, ад звычайнай будзённай рэчы і падрабязнасці, паэтызуе самыя, здавалася б, бытавыя прадметы і з'явы — «кірзавыя боты сорак апошняга памеру» і паром, памытую падлогу і бульбоўнік, лазню і «грузавік-пярэстар», якому забаронены праезд па цэнтральнай вуліцы, станцыйны кіпень і «зборнік лірыкі — рум» і многае-многае іншае. Кніга «Нагбом» напоўнена жывымі пахамі, фарбамі, гукамі прыроды і чалавечага побыту, навакольны свет у ёй сапраўды «многоцветен и прекрасен».

Паэзія Барадуліна — гэта перш за ўсё паэзія вясковага дзяцінства і сыноўняй удзячнасці, паэзія роднай, бацькоўскай зямлі. І тут, можа быць, асабліва ярка праяўляецца непасрэднасць яго светабачання, схільнасць яго музы піць «нагбом». І калі паэт піша, звяртаючыся да Радзімы:

Не, ты не толькі ў арнаменце тым,
Што на салодкай цукерцы.
Матчынай мовы
словам святым
Жывеш ты ў сыноўнім сэрцы,—

дык гэта не дэкларацыя, не проста «краснае» слоўца, а глыбокае ўнутранае перакананне, эстэтычная норма.

Тэма Радзімы ўяўляецца паэту зноў-такі «надзвычай канкрэтна» і пераламляецца ў яго вершах праз прызму асабістага ўспрыняцця. Бацькоўская зямля паўстае перад ім ва ўсёй сваёй непаўторнай красе і разнастайнасці» — «ад кропкі маленькай гнязда чмяля да маладзіковай коскі». Яна хмеліць галаву сваім духмяным ветрам, настоеным на аеры і кропе, яна звініць крыніцамі і купалаўскімі радкамі, яна глядзіць на паэта вачыма яго маці, яна пахне для яго

Цвікамі, смалой,
сукамі
І дужымі —
у мазалях —
Бацькавымі рукамі.

«Трыпціх» — гэта натхнёны, пранікнёны гімн роднай хаце, бацькам і простаму чалавеку ўвогуле. Сапраўды «зялёным лістком... трымціць ён на дрэве ўдзячнасці сыноўняй, пераліваецца ўсімі яго колерамі і адценнямі». Я сам спрабаваў пісаць пра маці. Звяртаўся да гэтай тэмы і ў сваёй «Песні пра хлеб» і ў некаторых вершах. Буду звяртацца да яе і далей. Але, скажу шчыра, радок-задуму «хто дрэнны сын — той дрэнны чалавек», што даўно «круціцца» ў мяне ў галаве, Барадулін «расшыфраваў», увасобіў так, як дай бог гэта зрабіць кожнаму з нас. Ён не пабаяўся тут выказацца да канца, не пабаяўся агаліць самае, здавалася б, інтымнае, самае асабістае, і ў яго радках, прысвечаных маці, затрапятала ва ўсёй непасрэднасці вялікае і пяшчотнае сыноўняе пачуццё.

Не пакідае Рыгора Барадуліна адчуванне кашулі, «што на спіне, работай і сонцам нагрэтая», і тады, калі ён бярэцца за тэмы больш аддаленыя, больш шырокага ці абстрактнага плана. Ён і тут імкнецца абысці «за вярсту» агульныя словы і разважанні, хоча неканкрэтнае зрабіць канкрэтным, наблізіць і ажывіць яго, зрабіць яго даступным нашым пяці пачуццям. З Віцебскам, мінулым і сённяшнім, паэт размаўляе, як са «старым плытагонам, веснаходам аследжаным». У назве



горада яму чуецца «гарластых ластавак песня шчырая» і «сыканне пары, што пхае поршань упарта». Сафійскі сабор, што ў Полацку, уяўляецца аўтару ў вобразе жанчыны:

Васпаватая ад асколкаў і куль,
на свет Сафійка глядзіць,
вачыма цнатлівымі.
Здалёку,
з адзінаццатага стагоддзя.

Вельмі ўдала выкарыстоўваецца той жа прыём персаніфікацыі ў вершы «Варшава». У ім гістарычнае і бытавое, канкрэтна чалавечае — мінулае сталіцы польскай дзяржавы і жывыя рысачкі характару полькі — так асацыіруюцца і пераплятаюцца, што ствараецца надзвычай цікавы каларытны вобраз «панны Варшавы»:

Як Елена з Парысам,
панна Варшава
какетавала з Парыжам.
Падымала кілішак
на ножцы гранёнай,
цягнік варожы перакуліўшы,
гладзіла ствол варанёны...

Гэтак жа адухаўляе паэт і мікрараён, і возера, і адлігу, і гарадскую ўскраіну, і бор, што атрымаў «высокі тытул» — «Парк», і іншае. Як з людзьмі, размаўляе ён з «салаўём знаёмым» і з «зубрам-равеснікам». Дарэчы, пра зубра. Ён нямала павандраваў па вытаптаных сцежках нашай паэзіі. Але часцей за ўсё ён быў умоўнай, сімвалічнай фігурай, накшталт той, якой упрыгожваюць радыятары машын. Барадулін у сваім гумарыстычным вершы паказвае зубра жывога, канкрэтнага — з яго ўзростам, яго «грэчаскім профілем», «спакоем алімпійскім» і «губамі цёплымі». І верш набывае цікавы, свежы змест.

Чакайце, могуць запярэчыць мне. Вось вы ўсё гаворыце пра непасрэднасць і канкрэтнасць вершаў Р. Барадуліна. А ці не звужае яна, гэтая канкрэтнасць, гэтая дэталізацыя, погляд паэта? Ці не прызямляе яна верш у той час, калі яму патрэбны крылы ды ветразі? І потым — ці не тоіцца ўвогуле за ёй, гэтай самай канкрэтнасцю, небяспека фактаграфіі, спрошчанасці, празаічнасці радка? Во-во, менавіта: празаічнасці радка. Ёсць жа ў Барадуліна радкі... (і мой уяўны апанент пачынае прыводзіць прыклады).

Апасенне гэтае, увогуле, можа, і слушнае, у дадзеным выпадку не мае пад сабой падставы. Калі, вядома, падыходзіць да факта ці да рэчы механічна, глядзець на прадмет занадта цвяроза, «па-даросламу», а не спрабаваць заглянуць, як гэта робяць дзеці, «што там у сярэдзіне», то прадмет у вершы застанецца тым, чым ён з'яўляецца ва ўжытку — нечым адзінкавым, прыватным. Калі ж тую самую рэч асвятліць звонку ды яшчэ падсвяціць знутры, «спектрызаваць» яе маральна-філасофскую і эстэтычную сутнасць, тады яна становіцца здабыткам паэзіі, робіцца і вобразам верша, і яго душой, яго крыламі — прытым крыламі тугімі і трывалымі.

У той жа гутарцы з Назымам Хікметам Рыцас зазначае: «Мне ўяўляецца, што канкрэтнасць паэтычнага бачання вядзе да больш складанага аналізу рэчы, у супрацьлегласць бачанню абстрактнаму. Я б нават сказаў, што паэзія папярэдняга перыяду ішла ад канкрэтнага да абстрактнага, у той час як паэзія сённяшняга дня — ад абстрактнага да канкрэтнага».

«Я не думаю, каб гэта датычылася толькі паэзіі,— уступае ў гаворку Хікмет.— Мы не маем права падмяняць паняцце канкрэтнага

простым, а абстрактнага складаным. Наколькі прасцей і больш на глядна ўдаецца рэчаіснасці авалодаць многімі сучаснымі мастацкімі тварэннямі, абазначанымі як абстрактныя, чым мастацтвам, названым канкрэтным. І як многа ўяўна канкрэтнага ў мастацтве з'яўляецца чыстай абстракцыяй!»

Такім чынам, канкрэтнасць паэтычнага ўспрыняцця не трэба блытаць са спрошчанасцю, з прымітывам. Яна нават «вядзе да больш складанага аналізу рэчы» ў параўнанні з бачаннем «абстрактным». Гэта можна прасачыць і ў лепшых творах зборніка «Нагбом».

Калі, напрыклад, Барадулін «канкрэтна пачынае з таго, што маці завуць Кулінай», то тут мы яшчэ можам насцярожана ўсміхнуцца: «Ці не занадта ўжо просты пачатак? Ці не занадта ўжо наіўны?» Але калі з наступнага радка паэт пачынае ўспамінаць, як у час блакады дзеці гукалі ў лесе сваіх матак і як ён, страціўшы надзею, гукнуў маці па імені, мы пачынаем мяняць думку.

Калі ж у наступным раздзеле твора пойдуць прасякнутыя глыбокай горыччу радкі пра чорную няўдзячнасць дзяцей («Пасля забываемся на пісьмы, на словы мацярок адгукацца...»), калі яны, нарастаючы, пачынаюць гучаць гнеўнай саркастычнай інвектывай («Адны залатыя дзеткі, іх забіраюць у горад...»), калі паэт гаворыць пра памнікі, што нагадваюць яму гаспадарнікаў, якія знішчаюць бязлітасна лес і ў той жа час прыбіваюць шыльды: «Шануйце лес — ён багацце нашага краю!» — то мы ўжо разумеем, што гэта і ёсць сапраўдная паэзія. Канкрэтная, насычаная жывымі назіраннямі, жывымі фактамі, і ў той жа час сапраўдная, шырокага грамадзянскага гучання.

Характэрная ў гэтым сэнсе трэцяя частка трыпціха — «Матчына хата». На першы погляд яна можа здацца мелкаватай, занадта эмпірычнай. Але чытаеш твор больш уважліва і пераконваешся, што аўтар не дарэмна ўзнаўляе ў памяці так падрабязна, так дэталёва «матчыну хату», не дарэмна імкнецца паказаць яе буйным планам. За матчынай хатай ён бачыць лёс соцень і тысяч такіх вось хат, бачыць лёс народа, жывую гісторыю.

Тут жа можна было б спаслацца і на такія вершы Рыгора Барадуліна, як «Дзверы», «Праезд на цэнтральнай вуліцы», «Правінцыя», «Нешта ёсць непаўторнае» і іншыя. І калі ўжо гаварыць аб тых прычынах, якія часам перашкаджаюць паэту вывесці «песню ціхую»

На арбіту
сяброўскага сэрца,
на арбіту
высокага сэнсу,—

то трэба, як мне здаецца, гаварыць вось аб чым. Барадуліну трэба больш выхоўваць і дысцыплінаваць сваю тэмпераментную музу ў духу грамадзянскай занепакоенасці, грамадзянскай адказнасці, прымушаць яе не толькі «піць нагбом» з жыцця, а і прыслухоўвацца, гаворачы словамі Аляксандра Блока, «да самога сэрца жыцця». Як бы там ні было, а некаторым творам Барадуліна не хапае яшчэ імкнення асэнсоўваць складанасці і вострыя вуглы жыцця. Іншы раз паэт яшчэ выступае як чалавек, які і самую ісціну, сам ідэал «на смак і навобмацак ведае» і якому ўжо няма патрэбы звяртацца за парадай, за адказам да другіх. Між тым, паэт, як вядома, павінен звяртацца да чытача, павінен запрашаць яго ў свае субяседнікі, свае сааўтары ў пошуках ідэалу.

Не магу не заўважыць тут жа, што не-не ды і прагучаць у вершах Барадуліна ноткі самазаспакоенасці і самалюбавання. Вось ён ужо, праўда, у жартаўлівай форме, хваліцца зубру-равесніку: «І мне не блага, заўважан даўно і — каб не сурочыць! — не быў у загоне». Вось ён ужо і бароды сваіх дзядоў, нават «усе бароды з роду Барадулінаў» узводзіць у ранг барод гістарычных. Думаецца, залішне гэта. Справа паэта — любіць не столькі сябе, колькі чалавека, думаць пра новыя прасторы і арбіты, у прыватнасці, пра арбіту «сяброўскага сэрца» і «высокага сэнсу». А што яна пад сілу Барадуліну, сведчыць яго трэцяя кніга «Нагбом».

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**






# «КАРЭННІ» І ВЫШЫНЯ

**Алесь Савіцкі.**
**Жанчына. Раман.**
**Дзяржаўнае выдавецтва БССР.**
**Мінск, 1963.**

Кажуць, што другая і трэцяя кнігі даюцца пісьменніку цяжэй, чым першая. У большасці выпадкаў так яно і ёсць. У першай кнізе звычайна пераважае аўтабіяграфічнае, у далейшым асвойваецца матэрыял, які выходзіць далёка за межы перажытага асабіста і патрабуе больш актыўнага асэнсавання.

Раман «Жанчына» — трэцяя кніга Алеся Савіцкага. Яна створана на матэрыяле, які з'яўляецца нейтральным у адносінах да вопыту самога пісьменніка. Аўтар вядзе апавяданне ад імя жанчыны, і трэба сказаць, што пераўвасабленне (не гаворачы пакуль што пра ступень яго мастацкай мэтазгоднасці і апраўданасці) удалося пісьменніку.

Са старонак рамана перад чытачом паўстае жанчына пэўнага ўзросту і сацыяльнага становішча, са сваім бачаннем свету, сваім лёсам.

Стэфа Шукан, споведзь якой і складае змест кнігі, працуе апаратарам на Полацкім заводзе шкловалакна, завочна вучыцца ў інстытуце. Яна ўступіла ў самастойнае жыццё, як і многія тысячы юнакоў і дзяўчат, з адчуваннем тых перспектыў, якія адкрываюцца перад працоўным чалавекам у нашай краіне, з глыбокім разуменнем той ісціны, што чалавек сцвярджае сябе ў грамадстве сваёй працай.

І хоць Стэфа з'яўляецца работніцай толькі ў першым пакаленні (сама яна яшчэ моцна звязана з сельскім жыццём, а бацька яе і цяпер жыве ў вёсцы), рабочыя традыцыі ўладна ўваходзяць у яе свядомасць. Невыпадкова ж старому чыгуначнаму машыністу Трахіму, які высока трымае гонар рабочага, Стэфа ўнутрана бліжэй, чым яго жонка Валянціна, ваўкаватая і сквапная жанчына.

Праца з'яўляецца неад'емнай часткай жыцця Стэфы, займае значнае месца ў яе думках і пачуццях. Ёй знаёма і радасць удала завершанай работы і прыкрыя пачуцці, калі не ўсё ладзіцца. Жан-

чына нялёгкага лёсу, Стэфа знаходзіць у працы раўнавагу і спакой. Яна ўсёй істотай адчувае, што на рабоце «турботы асабістага жыцця аддаляюцца, ... мізарнеюць, трацяць вастрыню і сілу».

Асабістае жыццё Стэфы склалася няўдала. Тую залатую пару, калі жанчына становіцца маці, Стэфа сустракае без мужа. У кніжцы пераканаўча паказана, як гэта нялёгка быць адной, працаваць і выхоўваць дзіця.

Стэфа, як вялося ў сям'і яе бацькоў, гатова за праўду і чэснасць стаяць да апошняга. А жыць у згодзе з праўдай для яе азначае быць у згодзе з часам, з яго маральнымі законамі. І калі ў зацятай непрымірымасці Стэфы да п'янства адчуваецца нешта ад спрадвечнай жаночай нянавісці да гэтага зла, дык яе адносіны да ўласніцтва цалкам сённяшняга паходжання.

Канфлікт паміж Стэфай і яе мужам Міхасём з гэтага і пачынаецца — з іх розных адносін да ўласнасці. Пажаніўшыся, маладыя раптам зразумелі, што будаваць сумеснае жыццё яны мяркуюць па-рознаму. Міхась збіраецца ставіць сваю хату, а Стэфе і думаць аб гэтым сорамна, нават страшна. Перад яе вачыма — горкі прыклад сяброўкі Ніны, якая жыла ў хаце мужавых бацькоў, як у труне.

«Надакучыла па чужых кутках бадзяцца ды кватарантам жыць!» — гаворыць Міхась.

«Станем на чаргу, як людзі,— ушчувае яго Стэфа.— І атрымаем. Прыйдзе чарга — атрымаем пакой».

«Калі на Задзвінні рак засвішча! — распаляецца Міхась.— Збудуем самі і зажывём па-людску».

Ад слоў Міхась пераходзіць да справы, прывозіць цэглу. Адчуваючы, што інакш яго не пераканаеш, Стэфа вырашае «адарваць Міхася ад Раманюка (Міхасёвага дзядзькі дамаўласніка.— **С. Г.**), выцягнуць яго з той уласніцкай багны...» Прыехаўшы з заліковай сесіі, Стэфа застае мужа і Раманюка за гарэлкай. Яны «абмывалі» прывезены для будаўніцтва хаты матэрыял. Стэфа пачынае ўкладваць чамаданы. Міхась адмаўляецца пакінуць кватэру ў дзядзькі, б'е Стэфу. Яна пакідае яго.

У антыўласніцкіх перакананнях Стэфы многа завучанага, кніжнага, дакучліва дыдактычнага. Яе ўяўленні аб гэтым часта абстрактныя, пазбаўленыя канкрэтнага зместу. Міхась разумее гэта і таму спачатку не прымае пазіцыю Стэфы ўсур'ёз, ставіцца да яе іранічна. Калі Стэфа папракнула Міхася, што ён загаварыў пра грошы, той адказаў: «Добра, маўчу,— ён прыціснуў руку да грудзей і заплюшчыў вочы.— Грошы — перажытак. Мяшчанства. Бачыш, як лёгка Міхась паддаецца выхаванню».

Было б ханжаствам бачыць у імкненні Міхася дасягнуць дабрабыту нешта нявартае чалавека. Забеспячэнне патрэб грамадства ў цэлым і кожнага чалавека ў пасобку з'яўляецца законам нашага жыцця. Мы ўжо адвыклі выхваляцца беднасцю і бачыць у ёй прыкмету новага ладу жыцця. Аскетызм — спадарожнік маладосці рэвалюцыі, а не яе сталасці, і ён сёння не можа ўспрымацца як прывабная рыса чалавека.

Але антыграмадскімі па сваіму зместу могуць быць шляхі дасягнення дабрабыту. Міхась, калі глядзець на яго з гэтага боку, не вельмі пераборлівы ў сродках дасягнення мэты. Ён можа пайсці і на падман, на тое, што, па сутнасці, з'яўляецца крадзяжом. Калі іншыя выпісваюць у лесгасе два кубаметры дроў ці будаўнічага матэрыялу, а прывозяць у некалькі разоў больш, разважае Міхась, дык чаму і мне так не зрабіць? Бяда Стэфы ў тым, што яна не можа аддзяліць у Міхасю добрае ад сапраўды благога.

З таго часу, калі Міхась і Стэфа разышліся, канфлікт паміж імі пераносіцца ў свядомасць і псіхалогію адной Стэфы, яе погляды і перакананні выяўляюцца ўжо не ў сутычках з мужам, а ва ўзаемадачыненнях з людзьмі, сярод якіх яна працуе. Пісьменнік з бясспрэчным поспехам прасочвае, як само жыццё выхоўвае чалавека, узмацняе адны яго погляды і адкідае другія.

Стэфа ўяўляецца самой сабе жанчынай перадавой, сучаснай, асабліва калі гутарка ідзе пра матэрыяльны бок жыцця людзей. «Грошы... Грошы... Пра іх казаў Міхась, і мы з ім сварыліся. Пра іх кажа Турава, і я таксама не магу раўнадушна слухаць яе; мяне раздражняе яе сквапнасць, хочацца пярэчыць ёй. Але я маўчу. Я ведаю, што Турава сквапная толькі на грошы, ва ўсім астатнім — памяркоўная, і можа памагчы, калі надарыцца выпадак. А да грошай нераўнадушная. І не хавае ад нас, што кожную капейку кладзе на ашчадкніжку. Унук у арміі. Ён скора павінен дэмабілізавацца, і Турава хоча збудаваць яму хату».

Прад'яўляючы высокія патрабаванні да людзей, непрымірыма ставячыся да «перажыткаў» у іх свядомасці, Стэфа не лічыцца з умовамі жыцця і магчымасцямі гэтых людзей, з тым, нарэшце, ці ў стане само жыццё задаволіць гэтыя патрабаванні, адмовіць «перажыткі».

Толькі праз пэўны час Стэфа зразумела, што ў яе адносінах да людзей, у каханні да Міхася «было нешта ад дзяцінства». Вядома, справа тут не ў большай цярплівасці да чалавечых слабасцей, якая прыходзіць са сталасцю. За «антыўласніцтвам» Стэфы было многа ад бесклапотнасці, бяздумнасці.

Нясталасць некаторых сваіх перакананняў Стэфа зразумела, толькі прайшоўшы праз цяжкія выпрабаванні. Адчуванне таго, што яна будзе маці, прыйшло да Стэфы на чужой кухні. Гаспадыня кватэры, дзе жыве Стэфа, ідзе на розныя хітрыкі, каб выжыць маладую жанчыну, калі ў яе нарадзілася дачка. Выручае маці, прапануе ёй бясплатна ў сваім доме асобны пакойчык тая самая Турава, імкненне якой пабудаваць уласны домік так прыніжала яе ў Стэфіных вачах.

Так паяўляюцца «зусім новыя думкі — пра Тураву, пра Вольку, пра маё цяперашняе жыццё. Побач са мною былі шчырыя, чулыя людзі». Стэфа нават не заўважае, як «паправела» яна ў сваіх адносінах да людзей. Наогул, уласная эвалюцыя для самой Стэфы застаецца неўсвядомленай. Яна не можа растлумачыць, чаму яе так неадольна пацягнула да Міхася, чаму яна, кінуўшы завод, заставалася з ім на цэлы месяц на плытах. Яна не разумее, што з нечым прымірылася, а нешта ацэньвае зусім па-іншаму. І калі перад таварыскім судом Стэфа гаворыць Віктару Журко, што Міхась стаў другі, гэта самападман. Другім стаў не Міхась, а яна сама.

Жыццё пакуль што не навучыла Міхася нічому істотнаму. Ён паранейшаму гатовы і на куцельства, з лёгкай душой прапануе Стэфе падрабіць бюлетэнь, каб апраўдаць месячны прагул. І калі Стэфа ў пачатку твора нават і слухаць не хацела пра падман, дык цяпер яна вагаецца і ўсё ж дазваляе Міхасю «запоўніць» бюлетэнь.

Аднак адступленне Стэфы на гэтым і закончылася. Без жалю развітаўшыся з тым, што разбіта самім жыццём, Стэфа не можа пайсці на кампраміс са сваім сумленнем. Яна рве бюлетэнь і гатова прыняць заслужанае пакаранне. Гэта была яе сапраўдная, а не ўяўная перамога над Міхасём. Застаўшыся сама сумленным чалавекам, Стэфа ўцягвае ў сферу прынцыповасці і Міхася. Памагчы ёй можна было, толькі ўзяўшы віну на сябе, што Міхась і робіць. Адмовіўшыся ад пуцёўкі ў санаторый, ён прыходзіць на таварыскі суд і расказвае ўсё, як было. Толькі прызнаўшы сваю віну, Міхась мог памагчы жонцы, умацаваць у ёй добрае, шчырае. Зрабіўшы так, ён і сам вырас у нашых вачах.

Паказваючы змены ў характары чалавека, А. Савіцкі бачыць іх вытокі ў самім жыцці. Гэта значны крок наперад у параўнанні з аповесцю «Кедры глядзяць на мора», дзе пісьменнік шукаў прычыну змен характару героя ў самой яго псіхалогіі, у трэніроўцы волі. Няма ў «Жанчыне» і характэрнага для аповесці «Кедры глядзяць на мора» паказу ўяўнай складанасці чалавечай душы, калі павароты ў думках і пачуццях амаль не паддаюцца тлумачэнню.

І ўсё ж, нягледзячы на тое, што за героямі рамана стаяць значныя грамадскія праблемы і з'явы, што праз лёс Стэфы і Міхася раскры-

ваецца нешта істотнае ў самім жыцці, што асноўныя героі пад канец кнігі становяцца больш прывабныя, чым у пачатку, пачуцця сапраўднай задаволенасці твор не выклікае. І справа тут не ў тым, што Стэфа Шукан не з сузор'я Ганавай. Аўтар і не збіраўся ствараць вобразы людзей выключных. «Я пісаў не аб станоўчых і адмоўных героях, а пра людзей. Харошых людзей, на маю думку»,— гаворыць Стэфе пра сваю кнігу карэспандэнт абласной газеты Лабан. Гэтыя словы праліваюць святло і на творчы прынцып самога пісьменніка.

А. Савіцкі вывеў на суд чытача гераіню такой, якой ён убачыў яе ў жыцці. Стэфа належыць да таго масавага «чалавечага матэрыялу», з якога мы будуем камунізм. А калі такія людзі, як Стэфа, ёсць у самім жыцці, значыць, яны маюць бясспрэчнае права на існаванне і ў літаратуры.

Але ж маючы права паказваць і **такіх** людзей, нельга абмяжоўвацца паказам **толькі** такіх. Калі справядліва, што нельга падцягваць героя на загадзя зададзеную вышыню, дык не менш справядліва і другое — нельга апускацца да ўзроўню «сярэдняга» чалавека, глядзець на свет толькі яго вачыма. Павёўшы апавяданне ад імя Стэфы, цалкам перадаўшы ёй права ацэньваць учынкі і справы людзей, пісьменнік пазбавіў сябе магчымасці ўзняцца над ёю, выявіць больш глыбокае разуменне рэчаіснасці, чым тое, на якое здольна Стэфа. І ад гэтага ў творы шмат што траціцца і драбнее.

Абраная аўтарам форма падачы жыццёвага матэрыялу адмоўна адбілася і на вобразах другога плана. Стэфа дае часта вельмі выразныя і нечаканыя знешнія характарыстыкі, накшталт: «Журко пісаў. Тонкія губы ад старання склаліся ў бутон. Прамы нос нібыта абводзіў кожную літару». Падобныя характарыстыкі не заўсёды памагаюць зразумець унутраную сутнасць чалавека. Нос, які нібыта абводзіць кожную літару, у нашым уяўленні пачынае асацыіравацца з прыкметамі бюракрата, а Журко зусім не такі чалавек.

Раскрыццю ўнутранай сутнасці герояў вельмі шкодзіць тое, што ацэнкі Стэфы часта супярэчлівыя і залежаць не столькі ад таго, што яна адкрывае ў людзях новыя якасці, колькі ад яе мімалётных настрояў.

Захопленая любоўю да дачкі і асабістымі нягодамі, маладая жанчына нікога не пускае ў сваё запаветнае, і ад гэтага героі здаюцца адасобленымі адзін ад аднаго, трывалых сувязей паміж імі няма.

У кніжцы выразна гучыць матыў слабасці жанчыны. Слабасць пры гэтым разумеецца ў першую чаргу як безабароннасць перад дамаганнямі мужчын. Каб прыўзняць Стэфу, пісьменнік падрабязна апісвае, як яна выходзіць пераможцай з рызыкоўных паядынкаў. А між тым, жаночая строгасць Стэфы зразумела чытачу і без падрабязных апісанняў таго, як падаўляе яна «бунт крыві».

Безумоўна, немагчыма патрабаваць, каб у жанры сямейна-бытавога рамана быў большы грамадскі змест, чым той, які здольны змясціць гэты жанр. Аднак і ў межах таго, што трапіла ў абсяг рамана А. Савіцкага «Жанчына», можна і трэба гаварыць аб нявыкарыстаных магчымасцях жанра.

Стэфа сустракаецца з рознымі людзьмі, вакол яе кіпіць заводскае жыццё. Былі ўсе падставы чакаць, што роздум гераіні пра тое, што дзеецца навокал, яе разнастайныя ўзаемадачыненні з людзьмі прынясуць у твор нешта ад вялікага жыцця. Але моманты найбольшага духоўнага напружання ў жыцці сваёй гераіні пісьменнік не звязвае са з'явамі грамадскага характару.

Цяжкасці трэцяй кнігі пераадолены пісьменнікам далёка не поўнасцю. І не толькі таму, што яму не ўдалося дасягнуць належнай мастацкай кандэнсацыі матэрыялу, што лёг у аснову твора. Узяты з самога жыцця, гэты матэрыял не апладнёны высокім грамадзянскім пафасам. Твор нагадвае дрэва з моцнымі карэннямі, але з абламанай верхавінай...

**Сяргей ГУСАК.**




*Для фотааматараў*
*№ 2, красавік, 1964*

***„Гісторыя пішацца аб'ектывам. Яна яснейшая і больш зразумелая, гэта гісторыя ў здымках. Ніводзін мастак не мае магчымасці адлюстраваць на палатне тое, што бачыць апарат...“***

*Гэтыя словы Леніна прыводзіць у сваіх успамінах адзін з першых савецкіх фотарэпарцёраў П. А. Оцуп.*

# ЗБЯРОМ КРУПІНКІ ГІСТОРЫІ

**Набліжаецца 50-годдзе нашай дзяржавы, створанай вялікім Леніным. Па ініцыятыве часопіса «Советское фото» пачаўся збор фатаграфій, якія расказваюць пра рэвалюцыйнае мінулае, пра грамадзянскую вайну, пра першыя пяцігодкі, пра Вялікую Айчынную вайну і гады камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне.**

**Наш ФОТАКЛУБ, падтрымліваючы гэты каштоўны пачын, можа зрабіць шмат, каб сабраць у адно залатыя крупінкі гісторыі.**

**У многіх сем'ях захоўваюцца фатаграфіі, пра гістарычную каштоўнасць якіх ніхто і не падазрае. Бывае, што фатаграфія не мае строга дакументальнага подпісу. Нарэшце, вельмі часта, асабліва калі на здымку хто-небудзь са сваякоў, фотакартка не абнародуецца па прычынах сціпласці.**

**Мы звяртаемся да ўсіх чытачоў з просьбай арганізаваць самы старанны пошук гістарычных фатаграфій. Паведамляйце пра іх ці прысылайце ў наш фотаклуб, суправаджаючы тым подпісам, які ўдаецца скласці са слоў уладальніка здымка. Няхай вас не бянтэжыць няведанне прозвішчаў сфатаграфаваных людзей, недакладная дата падзеі. Мы паклічам на дапамогу вучоных, супрацоўнікаў музеяў, старых бальшавікоў, ветэранаў Савецкай Арміі, каб удакладніць змест здымка.**

**Фотадакументы вялікага пяцідзесяцігоддзя мы апублікуем, назваўшы асоб, якія дашлюць нам іх ці прымуць удзел у росшуках. Дадаўшы ўдакладнёны подпіс, мы будзем перадаваць гэтыя крупінкі гісторыі ў рэдакцыю часопіса «Советское фото». Гэта будзе нашым укладам у фоталетапіс Савецкай Беларусі і ўсёй сацыялістычнай Айчыны.**

**Публікацыю гістарычных фотадакументаў мы пачынаем з групавога здымка, знойдзенага юнымі краязнаўцамі сярэдняй школы № 1 г. Клецка. Старшакласнікі зрабілі паход пад кіраўніцтвам настаўніка геаграфіі Д. М. Чорнага, шукаючы звесткі пра аднаго са сваіх знатных землякоў, удзельніка Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі І. Г. Будавея. У вёсцы Вялікі Карацк школьнікі звярнулі ўвагу на ве-**



лізарную (шырынёй амаль у паўметра) фатаграфію ўдзельнікаў 1-га з'езда ваенных і рабочых дэпутатаў арміі і тылу Заходняга фронта, сярод якіх быў і І. Г. Будавей.

З 7 па 17 красавіка 1917 года ў Мінску праходзіў I з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў арміі і тылу Заходняга фронта, на якім прысутнічала каля 1 200 дэлегатаў. У рабоце з'езда прымалі ўдзел прадстаўнікі ад бальшавікоў, згодніцкіх партый і беспартыйныя. Змагаючыся за заваяванне салдацкіх мас на бок рэвалюцыі, бальшавікі ў час з'езда разгарнулі актыўную агітацыйную дзейнасць. У выніку ў выбраны на гэтым з'ездзе Выканаўчы камітэт Заходняга фронта прайшлі 6 бальшавікоў, якія стварылі бальшавіцкую фракцыю на чале з А. Ф. Мясніковым.

Рэпрадукцыя з гэтай гістарычнай фатаграфіі ў нашым часопісе дае ўяўленне толькі пра яе агульны выгляд. Арыгінал жа — гэта ўнікальная калекцыя партрэтаў. З дапамогай супрацоўніка інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ І. Хаўратовіча мы прадпрынялі першую спробу пазнаць старшыню з'езда Б. М. Позэрна, кіраўніка мінскіх бальшавікоў А. Ф. Мяснікова і многіх іншых. Мы спадзяемся, што некаторыя ўдзельнікі 1-га франтавога з'езда яшчэ жывуць сярод нас і памогуць узнавіць цікавыя падрабязнасці важнай падзеі таго часу.

Па меры таго, як будзе раскрывацца гісторыя здымка і лёс сфатаграфаваных на ім асоб, мы будзем інфармаваць пра гэта нашых чытачоў.

Прыклад клецкіх школьнікаў паказвае, якой цікавай і важнай справай з'яўляецца росшук гістарычных фатаграфій.

## ДРУГАЯ ГАРАДСКАЯ



Трафім Бярэзін. На пярэднім краі.

У Светлагорску адбылася другая гарадская фотавыстаўка. Яе ўдзельнікі паказалі рознабаковасць творчых інтарэсаў, выставіўшы работы ва ўсіх фатаграфічных жанрах. Галоўным напрамкам творчасці светлагорцаў з'яўляецца адлюстраванне працы сваіх таварышаў.

Светлагорскі прамысловы партком КПБ, камітэт камсамола і фотасекцыя Саюза журналістаў БССР узнагародзілі аўтараў лепшых здымкаў. Вышэйшая ўзнагарода — ганаровы дыплом Саюза журналістаў — уручаны слесару Васілевіцкай ДРЭС Юрыю Якуну. Сярод узнагароджаных: супрацоўнік упраўлення будаўнічага трэста № 20 Міхаіл Башлакоў, начальнік цэха завода жалезабетонных вырабаў Трафім Бярэзін, фотакарэспандэнт газеты «Агні камунізма» Аляксандр Хаміцэвіч і іншыя.





# ПАЭМА ПРА ЛЕС



З гэтым летуценнікам мы пазнаёміліся вось як.

Аднаго разу ў рэдакцыю завітаў малады чалавек.

— Ці тут фотаклуб «Маладосць»? — запытаўся ён.

— Тут,— адказалі яму.

— Я хачу паказаць паэму пра лес,— сказаў малады чалавек.

— Дык можа вам у аддзел паэзіі?

— Не, мне патрэбен фотаклуб,— з гэтымі словамі малады чалавек дастаў пачак фатаграфій і моўчкі паклаў на стол.

...Мы адабралі для друку некалькі здымкаў. Магчыма, прыдзірлівае вока вопытнага фатографа заўважыць у іх тыя ці іншыя недахопы. Нам жа хочацца пагаварыць пра іх вартасці — перш за ўсё пра іх паэтычнасць.

Давайце пройдземся па лесе разам з аўтарам гэтых здымкаў Аляксандрам Глінскім. Дарэчы, ён выкладчык інстытута фізкультуры. Магчыма, вы нават сустракалі яго на гаравых дарожках ста-



дыёна. Аляксандр Глінскі член зборнай лёгкаатлетычнай каманды нашай рэспублікі.

Восень. Маланаезджаная дарога. Падфарбаваны пажоўклым лісцем, маўклівы і засяроджаны, стаіць лес у чаканні дажджоў і халодных парываў ветру. Цішыня лесу толькі зрэдку абуджаецца ценькім пліканнем сініц. І не хочацца парушаць яе. І думаецца неяк сур'ёзна і крыху самотна. Восень — гэта сталасць лесу, якая паўтараецца кожны год. Гэтую сталасць лесу і перадаў на сваім здымку Аляксандр Глінскі.

А потым яго позірк спыніўся на другім куточку, дзе пад вялізнай елкай чарнелася глыбокая пячора. І тады ён прыгадаў леташнюю буру. Уявіў, як ашчацініўся лес, учапіўся за зямлю моцнымі карэннямі. Стагналі дрэвы, долу гнучыся сваімі вяршалінамі. А вецер лютаваў. Вялізная елка з усяе сілы бараніла сваё жыццё, але не вытрымала, паддалася ветру. Была б яна адна, і вецер змог бы яе. Але елку падтрымалі другія дрэвы. Абапёршыся на іх плечы, яна выстаяла, за лета глыбей закапала ў зямлю карэнне і жыве. Толькі пячора пад ёй сведчыць пра бітву, што адбылася летась у гэтым куточку лесу.



На высечках фотааматар убачыў высачэзную сасну, што зіхацела пад сонцам начышчанай меддзю.

Эх, сасоніца, сасна,  
Дні суровыя!  
Бервяно да бервяна —  
Хата новая.

Секлі лес. Падышоў лесаруб да гэтай гонкай, танклявай тады сасонкі, і, мусіць, сказаў: «Маладзенькая, а прыгажуня. Няхай расце». Пацягнулася сасна да сонца. Вырасла і ківае далёкаму спадарожніку завітой макушкай. А навокал — царства малодшых сясцёр. А гэтая сасна — нібы іх царэўна на старых пасляваенных высечках.

Збоч высечак, у старым і густым лесе, куды не пранікае нават сонечны прамень, нарадзілася калісьці нягеглая маладая сасонка. Спачатку яна гнулася ля саменькай зямлі, выкручвала сваё худое цельца — шукала сонца. Знайшла ласкавы прамень і весела пацягнулася ўгору, раскідваючы ад радасці густыя сукі-крылы. Маленькая няўдаліна была, аднак, вялікай злосніцай. Яна адваявала сабе ладную палянку і ўсё старалася захапіць як можна больш прасторы і сонца. Верхнія галіны былі прагныя. Яны забіралі ўсё святло, а тыя, што ніжэй, паміралі, засыхаючы. Вырасла сасна, састарылася. Хто не пройдзе, скажа: «Вось недарэка». І лёс яе чакае незайздросны. Не, яна не спатрэбіцца людзям на хату, на стойкі ў шахтах. Калі-небудзь спілуюць яе і спаляць у печы. А ўсё таму, што была прагная.

Восень — сталасць лесу. Вясна — яго маладосць. Яшчэ не растаяў снег, а дрэвы, як самыя заўзятыя модніцы, пільна глядзяцца ў люстэрка вод: «Які ж убор сёлета будзе ў модзе?» Вядома, чым больш лісця на дрэве, тым прыгажэй. І выкідвае дрэва многа-многа клейкіх, зялёных лісточкаў, апранаецца, як нявеста на вяселлі.

Нізка схілілася над вадою вярба. Блізарука глядзіцца ў рэчку, прымярае свой вясковы касцюм з пушыстых, жаўтаватых коцікаў. Яна багатая. У яе аж два касцюмы: адзін, вясновы,— коцікавы,



другі — летні, з вастралістых лісцяў, што будуць звісаць на галінках да самай вады, як косы.

Цвіце вярба. А ў празрыстым небе ўжо чуваць спеў жаўранка — гімн вясне. Шумяць ручаі, і апошні снег, стайваючы пад сонцам, шуршыць, прыпадае да зямлі, стараецца зберагчы холад, што скнапна збіраў усю зіму.

І маленькая елачка зімавала пад снегам. Але прыгрэла сонейка, і яна вытыркнулася на свет, надзела кучомку са снегу: «Бачыце, я ўжо дарослая».

Пра лес можна гаварыць бясконца





многа. Кожны яго куточак, кожнае дрэва — гэта зайздросная гісторыя жыцця і барацьбы, бурнай весялосці і страшных трагедый, маўклівай задумлівасці і шумнай, грознай урачыстасці. Мы часта бываем у лесе, але неяк мала прыглядаемся і мала ведаем яго. Магчыма, гэтыя здымкі прымусяць вас па-новаму глянуць на лес. І тады вы адкрыеце для сябе новы свет прыгажосці. Можа і вы станеце такімі летуценнікамі, як Аляксандр Глінскі, які кожны свой паход у лес пачынае вось з гэтай роднай вёсачкі, якая мае чароўную назву Любоша.



Нам здаецца, што ў многіх нашых чытачоў-фотааматараў ёсць свае любімыя куткі ў лесе, на лузе, на рэчцы або на возеры. Раскажыце пра іх у сваіх здымках. А да здымкаў напішыце свае натхнёнае слова — вершам ці прозай. Гэта і будзе нашай агульнай паэмай: аб роднай беларускай прыродзе.

Фотаклуб «Маладосць» чакае вас на свае старонкі.

Да новых сустрэч, таварышы фотааматары!

Алесь **АСІПЕНКА.**





Мікалай Байцоў. На першамайскай трыбуне.

# КОЖНЫ ЧАЦВЕР...

**У дом № 2-а, што на Даўгабродскай вуліцы беларускай сталіцы, вось ужо больш трох год кожны чацвер па вечарах збіраюцца людзі розных узростаў і прафесій. Урачы і шафёры, педагогі і юрысты, рабочыя — усіх не пералічыш. Ды і ці варта? Бо акрамя асноўнай прафесіі, якая адрознівае іх на працы, ва ўсіх наведвальнікаў гэтага дома на Даўгабродскай вуліцы ёсць яшчэ адзін занятак — усе яны фотааматары.**

**Тут, у гарадскім Доме народнай творчасці, увосень 1960 года заснаваўся Мінскі фотаклуб. Кожны, у каго ёсць пытанні па тэхніцы фатаграфіі, атрымлівае тут адказ. Кожны, хто хоча праслухаць лекцыю або расказ аб творчасці майстроў фатаграфічнага мастацтва, можа гэта зрабіць у фотаклубе. Кожны, хто хоча абмеркаваць свае здымкі, можа прыйсці сюды.**



Міхась Моніч. Святочны вечар.







Віктар Траскуноў. Клапатлівая мама.

«Галоўная задача клуба,— як запісана ў яго статуце,— садзеянне творчым пошукам фотааматараў, скіраванне іх творчасці на шлях мастацкага адлюстравання нашай рэчаіснасці, прапаганда фотамастацтва як аднаго са сродкаў камуністычнага выхавання працоўных».

Некалькі слоў аб матэрыяльнай базе клуба. Значная частка сродкаў для лабараторыі, для правядзення конкурсаў і выставак, для творчых камандзіровак выдзяляецца па каштарысу гарадскога Дома народнай творчасці. Акрамя таго, кожны член клуба штомесяц плоціць узносы — 20 капеек. Але асноўная работа вядзецца на грамадскіх асновах.

Робячы агляд першых крокаў дзейнасці Мінскага клуба фотааматараў, хочацца перш за ўсё сказаць пра нашы выстаўкі. Выстаўка-конкурс 1963 года была прысвечана XI з'езду прафсаюзаў Беларусі. У яе арганізацыі прынялі ўдзел Мінскі прамысловы абласны Савет прафсаюзаў, Мінскі прамысловы абком ЛКСМБ і Саюз журналістаў БССР.

Высокая патрабавальнасць журы не застала ўдзельнікаў выстаўкі знянацку. Члены клуба выставілі многа цікавых работ, якія атрымалі добрую ацэнку наведвальнікаў. Вось, напрыклад, які водгук аб выстаўцы пакінуў навуковы супрацоўнік з Ленінграда М. Серадзенка: «...выстаўка цікавая. Хочацца, каб работы мінскіх фотааматараў былі паказаны не толькі ў іншых гарадах рэспублікі, але і за межамі Беларусі». Многія работы з выстаўкі 1963 года адабраны Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі для паказу за граніцай.

Мы дружым са старэйшым у краіне фотаклубам Выбаргскага палаца культуры ў Ленінградзе, з фотааматарамі Эстоніі, з Днепрапятроўскім фотаклубам. Мы вядзем абмен здымкамі і з адным з чэхаславацкіх рабочых фотаклубаў. Але, як ні дзіўна, у нас няма сувязі ні з адным з фотаклубаў нашай рэспублікі. Уласна кажучы, мы нават не ведаем, ці існуюць у іншых гарадах Беларусі творчыя аб'яднанні фотааматараў. Трэба кінуць папрок Рэспубліканскаму дому народнай творчасці, які ўпарта не заўважае аматарскага фотамастацтва. Па масавасці, па перспектыўнасці развіцця, па грамадскай карыснасці яно можа стаць вядучым сярод іншых відаў самадзейнай творчасці працоўных. Для гэтага трэба даць магчымасць не толькі мінчанам збірацца кожны чацвер... Даўно настаў час пераняць прыклад Эстонскай ССР, дзе не толькі створаны ўсе ўмовы для росквіту фотамастацтва, але і наладжана сістэматычная мэтанакіраваная арганізацыя дзейнасці ўсіх, хто займаецца фатаграфіяй.

Аляксандр ЗАЙЦАЎ,
старшыня праўлення Мінскага
клуба фотааматараў.

Міхась Моніч. Да вяршынь Эльбруса.



# НАШ КОНКУРС

Каб выявіць і развіваць журналісцкія здольнасці фотааматараў, **ФОТАКЛУБ «МАЛАДОСЦЬ»** разам з фотасекцыяй Саюза журналістаў БССР будзе рэгулярна праводзіць **тэматычныя конкурсы.** У ацэнку прадстаўленых работ будзе ўваходзіць не толькі якасць здымкаў, але і аператыўнасць іх аўтараў.

Наша першае конкурснае заданне прысвячаецца тэме **«Мой таварыш».**

Умовы конкурсу:

Перадайце фатаграфіяй або серыяй фатаграфій самае цікавае ў характарыстыцы блізкага вам чалавека — таварыша па рабоце, па вучобе, па спорту і г. д.;

здымкі могуць прысвячацца як грамадскаму, так і асабістаму жыццю вашага таварыша;

аб'ём тэкста, які суправаджае здымкі, можа быць адвольны;

на конкурс прымаюцца здымкі, зробленыя вамі і раней, але не апублікаваныя ў друку;

размер фатаграфій—18×24 см; папера—звычайнага чорнага тону, глянцавая;

апошні тэрмін прысылкі здымкаў у рэдакцыю — 25 чэрвеня 1964 г.

Пераможца конкурсу ўзнагароджваецца дыпломам Саюза журналістаў БССР і памятным падарункам.

Вынікі конкурсу будуць апублікаваны ў шостым выпуску ФОТАКЛУБА «МАЛАДОСЦЬ» (жнівень 1964 г.).



# ВЯДЗЁМ ДЫСКУСІЮ

*Гэты здымак, аўтарам якога з'яўляецца мінчанка Людміла Арсенка, быў апублікаваны ў першым выпуску нашага фотаклуба. Мы звярнуліся да чытачоў з прапановай абмеркаваць здымак, выказацца з поваду яго зместу і выяўленчага вырашэння.*

**Прыводзім першыя атрыманыя водгукі:**

**І. Лушчын** (выкладчык): Можа і цяжка ўлавіць думку аўтара, ідэю здымка, таму што ў ім няма галоўнага і другараднага. І ўсё ж я даў бы яму такую назву: «Пазнанне свету».

**А. Казлоўскі** (кінамеханік): Гледзячы на гэты здымак, я падумаў: у век тэхнікі і прагрэсу вучыцца, пры ўсіх акалічнасцях, абавязкова!

**Я. Плоткін** (студэнт): Здымак мне падабаецца. Аўтар не паказвае ні пакоя, дзе адбываецца дзеянне, ні нават твару старэйшага героя. У кадры толькі дзіця і рукі яго бацькі, якія ляжаць на канспекце. Нічога лішняга! Аднак, мне здаецца, што дарэмна пры кадроўцы зрэзана значная частка галавы хлопчыка.

**М. Залозны** (мастак): Добры здымак. Добра, што пры кадроўцы зрэзана частка галавы дзіцяці. Калі б гэта не было зроблена, хацелася б бачыць і галаву бацькі. А тады знікла б лаканічнасць. Здымак трэба назваць — «Завочнік».

У майскім выпуску фотаклуба апублікуем астатнія водгукі і падвядзем вынікі дыскусіі.

## ФАТАГРАФІЧНЫЯ КУР'ЁЗЫ

**«Фотография». Спецыяльнае рэвю мастацкай і прыкладной фатаграфіі. ЧССР.**



**ФАТОГРАФЫ І ФУТБОЛ.** Шатландскі клуб «Dundee» апратэставаў дзеянні фатографаў у часе матча паміж шатландскай і італьянскай камандамі. Шатландцы прайгралі 1 : 5, як яны сцвярджаюць, па віне фатографаў, таму што тыя «пастаянна і наўмысна сляпілі варатара ўспышкамі сваіх «бліцаў». Гэты пратэст будзе абмяркоўвацца на пасяджэнні Міжнароднай федэрацыі футбола, таму што ў некаторых краінах ужыванне фатографамі ўспышак у часе матчаў сапраўды забаронена, а ў іншых пра гэта яшчэ не падумалі.



# З ГІСТОРЫІ ФАТАГРАФІІ

Раздзел вядзе
І. САЛАВЕЙЧЫК

**Пачынаючы з 1878 года Маскоўскі фатограф Іван Васільевіч Болдыраў займаўся пытаннем замены ў фатаграфічных пласцінках шкла чымнебудзь не ломкім, больш лёгкім і аднолькава празрыстым. Вынікам яго працы з'явілася «смалавідная плёнка», якая дэманстравалася на ўсерасійскай прамыслова-мастацкай выстаўцы ў Маскве ў 1882 годзе, дзе атрымала высокую ацэнку.**

**З-за коснасці бюракратычных чыноўнікаў, якія кіравалі фотасправай, і зняважлівых адносін да рускіх вынаходнікаў у царскіх урадавых колах, плёнка, якая наблізіла нараджэнне вялікага вынаходніцтва веку — кінематографа — не знайшла ў Расіі прамысловага прымянення.**

**Вынаходніцтва Болдырава было выкарыстана амерыканскай фірмай «Істнэн Кодак», прыпісана амерыканскім вынаходнікам Корбуту і Ганібалу Гудвіну і выпушчана на рынак у 1887 годзе.**

***Першыя савецкія фабрыкі кінаплёнкі былі пабудаваны ў Пераяславе-Залескім і ў Шостцы ў 1931 годзе.***

**У 1876 годзе выдатны рускі спадарожнік і географ Мікалай Міхайлавіч Пржавальскі, рыхтуючыся да чарговай экспедыцыі, вымушаны быў адмовіцца ад фатаграфіі, таму што «фатаграфічныя прыборы», пласцінкі і ўсе прыстасаванні важылі 17 пудоў. Толькі ў 1883 годзе ў Тыбет была ўзята паходная фатаграфічная лабараторыя з сухімі бромажэлацціннымі пласцінкамі.**



**Беларусь мае права ганарыцца сваім суайчыннікам віцебскім фатографам С. А. Юркоўскім. Ён першы ў свеце вынайшаў у 1883 годзе шторнашчылінны затвор, прататып сучасных затвораў у малафарматных камерах «Фэд», «Кіеў» і г. д.**

**І як часта бывала ў той час, вынаходніцтва не было рэалізавана ў Расіі, а яго выкарысталі за граніцай.**

**У Віцебску захаваўся дом, у якім змяшчалася фатаграфія С. А. Юркоўскага (вуліца Фрунзе, 3). У 1919 годзе фатаграфія, якая належала ў той час Астроўскаму, была нацыяналізавана. Гэта была першая дзяржаўная фатаграфія ў Беларусі.**



**РЭКЛАМА — РУХАВІК ГАНДЛЮ.** Гэта агульнавядомае палажэнне паставіла, аднак, у няёмкае становішча... мужа англійскай прынцэсы Маргарэты Рональд Армстронг — Джонса. У Букінгемскім палацы Джонс атрымаў строгае ўнушэнне за непрыстойныя паводзіны, якія выявіліся ў тым, што ён, будучы сваяком англійскай каралеўскай сям'і, дазволіў сфатаграфаваць сябе для рэкламы фірмы, якая робіць дзёгаць.



**НА ВАРЦЕ ПАРАДКУ.** Нямецкая газета «Штутгартэр Цайтунг» *паведаміла пра новую спробу абрабаваць* банк. Бандыт уваходзіць у банк, накіроўваецца да касіра і падае яму партфель з запісачкай: «Напоўніце партфель грашыма і толькі паспрабуйце пікнуць!» Няшчасны касір напаўняе партфель грашыма, аддае яго рабаўніку і таксама аддае запісачку: «Усміхніцеся! Вас таемна фатаграфуюць». Злодзей кідае партфель і спрабуе ўцякаць, але яго затрымліваюць.



# СПАРТЫЎНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ



Міхась Моніч. На дыстанцыі.

Той, хто хоча праверыць сваю гатоўнасць да работы ў галіне фотарэпартажу, павінен перш-наперш пайсці на стадыён або спартыўную пляцоўку. Спартыўныя здымкі — самы складаны, а таму самы лепшы экзамен для рэпарцёра.

Перш за ўсё, большасць спартыўных здымкаў павінна насіць характар інфармацыі. Гэта значыць, што на здымку павінен быць адлюстраваны такі момант, які б даў чытачу магчымасць зразумець змест без падрабязнага подпісу.

Калі вы прывучыце сябе быць уважлівым, імгненна рэагаваць на змену падзей і хоць крыху прадбачыць, як будзе развівацца дзеянне,— можаце разлічваць на першы поспех. А каб дамагчыся поўнага поспеху ў рэпартажы, вам яшчэ трэба добра ведаць прадмет свайго назірання. Ад гэтага залежыць правільны выбар экспазіцыі, ракурсу і пункта для здымання, а таксама таго моманту, калі будзе націснута кнопка затвора. Спартыўны здымак тады правільны, калі ён перадае і суровую напружанасць спаборніцтва, і пластыку рухаў, і зайздросную прыгажосць спартсмена.

Перад намі чатыры фатаграфіі: чатыры розныя сюжэты і чатыры імгненні, схопленыя пільным позіркам пачынаючых фотарэпарцёраў.

Святло не спрыяла М. Монічу, калі на ледзяной дарожцы мінскага стадыёна «Дынама» ён фатаграфаваў матацыклетныя гонкі. У пахмурны дзень аўтар не мог разлічваць на які-небудзь светавы эфект і зрабіў правільна, выбраўшы выяўленчым сродкам сілуэт. Буйная фігура гоншчыка на фоне снегу чытаецца выразна. Мы добра ўспрымаем напружанне спартсмена. Паспяхова выкарыстаны прыём «праводкі апарата» за дзеяннем. Нягледзячы на фармальнае «адзіноцтва» гоншчыка, нас ні на хвіліну не пакідае адчуванне масавасці спаборніцтва. Гэтаму ў значнай меры садзейнічае смелая кадроўка.

Магілёўскі фотааматар А. Шклярэўскі засведчыў выразныя сілуэты хакеістаў на пярэднім плане. Многафігурная кампазіцыя патрабавала ад аўтара асаблівай увагі. І калі б не адбылося прыкрага сумяшчэння незразумелай цёмнай фігуры другога плана з галавой крайняга правага хакеіста, выбар кадра можна было б прызнаць зусім удалым. Але... У жыцці здараецца столькі нечаканасцей, што з нязначнымі агрэхамі міжволі даводзіцца мірыцца.



Алег Шклярэўскі. Хакей.



Эдуард Шарапа. Апошні.

Ніякіх пярэчанняў не выклікае здымак «Апошні». Аўтар яго — выпускнік Інстытута фізічнай культуры Э. Шарапа не проста запратакаліраваў эпізод школьных спаборніцтваў. З веданнем псіхалогіі спартсменаў будучы педагог вельмі правільна прыкмеціў мужнасць маладога лыжніка, які адстаў ад каманды, але не здаецца перад няўдачай. Светлы задні план і верна знойдзенае становішча лініі гарызонту забяспечылі магчымасці для паказу гледачоў. Фігуры ў кадры ствараюць ураўнаважаную кампазіцыю, не пазбаўленую дынамічнасці.

Чацвёрты здымак — зноў М. Моніча і зноў зроблены пры скупым асвятленні. Яго «Вялікі футбол», вытрыманы ў светлых танах, тонка перадае характэр папулярнай ігры. Гэтую рысу футбольнай ігры не часта ўдаецца падкрэсліць на здымку. Поспехі М. Моніча — у здыманні пры аднатонным асвятленні — прыклад правільна прынятых рашэнняў рэпарцёра, які ў самым складаным становішчы павінен хутка зарыентавацца, каб не прамінуць самае цікавае імгненне.

І так, аўтараў дасланых у наш фотаклуб здымкаў на спартыўныя тэмы варта павіншаваць з удалым дэбютам!

**Аляксандр ДЗІТЛАЎ.**



Міхась Моніч. Вялікі футбол.

## ПЕРАПІШЫЦЕ Ў СВОЙ БЛАКНОТ

Правільная экспазіцыя — адна з абавязковых умоў поспеху фатаграфічнай творчасці. Няправільная экспазіцыя прыводзіць да страт у танальнай гаме, выклікае павышаную зярністасць і зніжае рэзкасць адлюстравання.

Калі ў вас яшчэ няма дастатковага вопыту вызначэння экспазіцыі «на-вока» і вы яшчэ не набылі экспанометр, раім весці запісы ўмоў здымання і аналізаваць іх пасля праяўлення плёнкі. Удалыя экспазіцыі адзначайце, каб у наступны раз яны служылі вам арыенцірам. Для таго, каб запіс характарыстыкі асвятлення быў сціслы, раім выкарыстаць умоўныя абазначэнні:

| | |
|---|---|
| сонца зацягнута паўпразрыстай смугой (цені змякчаны) . . . . . | воблачна . . . . |
| яркае сонца без воблакаў (шчыльныя цені) | пахмурна . . . . |
| лёгкая воблачнасць . . | вельмі пахмурна . . . |

Прыводзім прыкладныя вытрымкі ў долях секунды, пры здыманні паміж 10 і 14 гадзінамі ў маі, чэрвені і ліпені. Разлік зроблен на плёнку, якая мае адчувальнасць 90 адзінак па ГОСТу і дыяфрагму — 5,6.

| | |
|---|---|
| Водная прастора | 1/500 |
| | 1/250 |
| Адкрыты ландшафт са светлым пярэднім планам | 1/250 |
| | 1/50 |
| Будынкі на плошчах | 1/250 |
| і шырокіх вуліцах | 1/100 |
| Партрэт на фоне адкрытага пейзажа | 1/100 |
| | 1/50 |
| Партрэт у пакоі за 2 метры ад акна (рассеянае святло) | 1/5 |
| | 1/2 |

Калі вы карыстаецеся плёнкай іншай адчувальнасці, вытрымка зменіцца наступным чынам:

45 адз. — павялічыць у 2 разы
65 адз. — павялічыць у 1,5 раза
130 адз. — зменшыць у 1,5 раза
180 адз. — зменшыць у 2 разы.

Змена дыяфрагмы таксама патрабуе змены вытрымкі:

| | |
|---|---|
| д 4 — зменшыць у 2 разы | д 8 — павялічыць у 2 разы |
| д 2,8 — зменшыць у 4 разы | д 11 — павялічыць у 4 разы |
| д 2 — зменшыць у 8 разоў | д 16 — павялічыць у 8 разоў. |







# ЗАЙЗДРОСНА?

**У сакавіцкім нумары мы ўжо развіталіся былі з зімой, як на рэдакцыйным стале з'явіўся гэты здымак. І мы ўсё ж парашылі пазнаёміць нашых чытачоў з энтузіястамі зімовага плавання ў Мінску. Каля 70 чалавек розных прафесій аб'ядналіся ў секцыі пры добраахвотным спартыўным таварыстве «Чырвоны сцяг», каб гартаваць сваё здароўе, не зважаючы на тое, што слупок ртуці ў тэрмометры даволі далёка ўнізе ад 0.**

**Гэты здымак зроблен у апошнія дні лютага, а яны сёлета, як вы памятаеце, былі марозныя. Прыемна прымаць сонечныя ванны проста на снезе. Так у адзін голас кажуць рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм» Юры Філін, студэнтка тэхнікума савецкага гандлю Надзея Капачова і майстар завода аўтаматычных ліній Пятро Шчогалеў.**

**Зайздросна? Але навошта зайздросціць. Можа лепш пачынаць загартоўку, каб заўсёды зіма здавалася летам.**

Фота **У. Лупейкі (БЕЛТА).**



# ДЗЕСЯТЫ МЕДАЛЬ

Колькі разоў выходзіў Уладзімір на рынг і — заўсёды хваляваўся. Так было і ў Тамбове на першынстве спартыўнага таварыства «Спартак», дзе ў трэці раз Уладзімір Батвіннік стаў чэмпіёнам.

І зноў трэніроўкі, новыя спаборніцтвы. Потым было асабістае першынство баксёраў ва ўсіх вагавых катэгорыях у Таліне. Аб'явілі спіс удзельнікаў, кінулі жэрабя. Уладзіміру выпала першы свой бой правесці з іркуцкім баксёрам Аркадзем Крывашэевым («Лакаматыў»). Уладзімір добра памятае занальнае першынство краіны 1962 года і першую з Крывашэевым сустрэчу. Вопытны баксёр адразу пайшоў у наступленне, імкнуўся «аглушыць» Уладзіміра, але ўдачы асаблівай не меў. У напружанні прайшлі два раунды. А ў трэцім Уладзімір атрымаў над праціўнікам канчатковую перамогу.

І вось зноў сустрэча з ім. На гэты раз Крывашэеў пачынае бой асцярожна, але цяпер ужо бурна атакуе Батвіннік. Пасля кожнага перапынку Аркадзь мяняе манеру бою. Аднак дарэмна: Уладзімір ведае ўжо ўсе яго прыёмы і аж тры раунды ганяе праціўніка па рынгу, прыціскае да канатаў, асыпае ўдарамі... Аднагалосна перамога прысуджаецца Уладзіміру Батвінніку.

У паўфінальным баі Уладзімір сустракаецца з казахскім майстрам спорту Амаргаліевым. Два раунды прайшлі ў поўнай перавазе Уладзіміра, а ў трэцім Амаргаліеў сам адмовіўся ад бою.

Потым апошні, рашаючы, фінальны бой з майстрам спорту Усеваладам Чорным. Праціўнік знаёмы. З ім сустракаўся Уладзімір у 1961 годзе на камандным першынстве краіны ў Ленінградзе. Тады ён з цяжкасцю атрымаў перамогу над Чорным. А як жа цяпер?

Удар гонга. Баксёры кідаюцца ў атаку. Чорны адразу прапаноўвае паядынак у хуткім тэмпе. Уладзімір атакуе яшчэ больш бурна, бо ўсё разлічыў і ўзважыў. Два раунды прайшлі амаль аднолькава для абодвух, а ў трэцім Усевалад прыкметна стаміўся. Ён амаль ужо не б'е, а толькі абараняецца. Батвіннік вядзе бой у ранейшым тэмпе і апошні раунд лёгка выйграе.

Радасць перамогі! Колькі разоў ты яе перажываеш, а заўсёды яна хвалюе душу! Дзевяты медаль Уладзімір урачыста прыколвае да вымпела, побач з залатымі медалямі чэмпіёна СССР 1959 года, чэмпіёна III Усебеларускай спартакіяды, побач з медалямі прызёра першынства краіны.

Дзевяць гадоў, як Уладзімір Батвіннік займаецца боксам. У яго ўжо было 129 сустрэч, з якіх ён выйграў 120. З сямі міжнародных сустрэч у шасці здабыў перамогу.

Пяціразоваму чэмпіёну БССР нядаўна прысвоілі званне ганаровага майстра спорту. Уладзімір Батвіннік першы ўдастоены такога звання.

Уладзімір настойліва трэніруецца. Побач з боксам займаецца цяжкай атлетыкай, гімнастыкай. Наперадзе новыя сустрэчы на рынгах краіны і за мяжой.

**Арнольд ПЯТРОВІЧ.**
Фота **А. Дзітлава.**



# МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ ГІМНАСТКІ

У Маладзечне, ля старой шашы на Мінск, стаіць звычайны будынак, якіх многа ў горадзе. Але жыццё ў гэтым будынку не зусім звычайнае. Сюды прыходзяць юныя аматары спорту, тыя, хто хоча мець моцныя мускулы, добрае здароўе, хто хоча стаць спрытным, дужым, смелым. Тут працуе дзіцячая спартыўная школа.

У гімнастычнай секцыі заняткі ідуць кожны дзень. Інакш нельга. Вопыт гродзенскага трэнера Рамуальда Іванавіча Кныша, які выхаваў вядомых у нашай краіне гімнастак Алену Валчэцкую і Тамару Аляксееву, пераканаўча сведчыць, што заняткі гімнастыкай нельга спыняць ні на адзін дзень. Так і робіць Мікалай Зіноўевіч Ласіцкі, што трэніруе маладзечанскіх дзяўчат, рыхтуе іх стаць кандыдатамі ў майстры спорту.

...Невысокай стройнай дзяўчынцы ніяк не даваўся надзвычай складаны саскок з рознавысокіх брусоў. Некалькі разоў яна спрабавала ўзляцець над верхнім брусам, але ёй гэта не ўдавалася.

— Не, сёння не змагу, Мікалай Зіноўевіч, баюся,— вінавата гаворыць яна.

— Паспрабуй яшчэ раз, Галя. Вось пабачыш — атрымаецца!..— падбадзёрваюць сяброўкі.

Галя зноў падымаецца на снарад. Нібы струна, застывае, рыхтуючыся для імгненнага палёту, і... зноў зрываецца са снарада.

— Нічога дзіўнага,— заўважае трэнер,— новае заўсёды цяжка даецца.

А Галя развучвае камбінацыю, якая пад сілу толькі майстру. Пройдзе час, і яна саскокне. Абавязкова!..

Галя пачала вольныя практыкаванні.



Галя Цэтва.



Валя Ганчарова — на бервяне.

Яна то застывала ў грацыёзнай позе, то імкліва неслася па дыване. Яе скачкі, смелыя і эмацыянальныя, былі бездакорныя. Русыя валасы разлятаюцца ад хуткага разбегу. Стойкі, пераваροты, сальта... Каскад складаных практыкаванняў зачараваў усіх.

Пасля трэніроўкі мы разгаварыліся. Галя Цэтва яшчэ піянеркай прыйшла ў дзіцячую спартыўную школу. Нічога не ўмела. Баялася нават таго бруса. Дзень за днём вёў яе Мікалай Зіноўевіч па ступенях майстэрства. У мінулым годзе яна — вучаніца дзесятага класа — стала чэмпіёнкай вобласці сярод дарослых. Удзельнічала ў III Рэспубліканскай спартакіядзе. Выступала тады Галя па першаму разраду. А цяпер хоча стаць майстрам спорту.

У кожнай спартсменкі ёсць свой любімы снарад. Валя Ганчарова, навучэнка політэхнікума, аддае перавагу практыкаванням на бервяне. Вось ужо сапраўды — тут яна, як рыба ў вадзе. А бервяно ж — цяжкі і каварны снарад. Паспрабуйце прайсці па чыгуначнай рэйцы. Не ступіш і дзесяць крокаў... А калі яшчэ гэтыя рэйкі ўзняць на вышыню хоць бы аднаго метра... А Валя не падае, ідзе размеранымі, плаўнымі крокамі. Перакульванне, выпады, скачкі, павароты на 180 градусаў — усё гэта выконваецца прыгожа, з выключнай дакладнасцю.

У Валі ўжо ёсць паслядоўніцы — Ала Кошалева, Руслана Ражадава. Між іншым, васьмікласніца Руслана мае першы спартыўны разрад. Яна — самая юная чэмпіёнка горада.

Ідуць дні, праходзяць месяцы. Яны напоўнены напружанымі заняткамі, сістэматычнымі трэніроўкамі. Дзяўчынкі разумеюць, што нічога не даецца само сабой, без настойлівай і штодзённай працы. А калі ўзнімаецца сцяг абласнога першынства па гімнастыцы, дзяўчынкі з Маладзечна заусёды першыя.

**Мікола ЧАХОЎСКІ.**
Фота аўтара.



Міласлаў **ШВАНДРЛІК**

Мал. С. **ВОЛКАВА**



# Не прагльні андатру, Марго!

Я напісаў апавяданне. У ім было ўсё: соль, разынкі, перац і нават ідэя, — словам, усё, што трэба для добрага апавядання... Я назваў яго «Звычайная гісторыя».

Звярнуўшыся да свайго прыяцеля Браніслава Рульца, я спытаў, ці спадабаўся яму мой новы твор.

Нейкі час Бронак узіраўся ў мяне так, нібы амфібія пячорная на сузор'е Арыёна, а потым заявіў:

— Слухай, дарагі, можаш думаць пра мяне, што хочаш, але я тваю лухту нават не падумаю чытаць! Накрэмзаў нейкую бязглуздзіцу ды яшчэ даў ёй такую нікчэмную, непрывабную назву! Ну, падумай сам: хто зверне ўвагу на тваё апавяданне? Ды я лепей займуся вывучэннем чатырох відаў трапічнай ліхаманкі, чым марнаваць час на нейкую «Звычайную гісторыю». Зарубі сабе на носе, што назва — гэта рэклама! Яна павінна адразу ж аглушаць чытача, біць яго, як абухам па галаве. А ты — «Звычайная гісторыя»! Прабач, але шырокія масы чытачоў звычайнымі гісторыямі не цікавяцца.

Я пратэставаў. Але такія ж думкі выказалі Карал Ванічка, Любаш Гізкавец і Штэфан Жэйдла. Што было рабіць? Я паслухаўся голасу мас...

З таго часу я сваім звычайным гісторыям даю незвычайныя назвы.

Напісаў неяк пра адстаючы земляробчы кааператыў і даў назву: «Шымпанзе



і жалюзі». Нарыс пра аднаго гультая і прагульшчыка назваў: «Смутак не ходзіць у турбане».

Фельетон, у якім я выкрываў злачынныя беспарадкі ў гандлі гароднінай, убачыў свет пад назвай: «Каму, каму кілаграм цыяністага калію?»

Як можна было спадзявацца, я хутка набыў папулярнасць. Вядома, не за якасць матэрыялаў...

Скажы, чытач, а ты ўзяў бы ў рукі гэтае апавяданне, калі б яно ішло пад загалоўкам, ну, напрыклад... «Абмен вопытам»?



# Чаму ў мяне твар скрывіла

Уласна кажучы, можна было б і не расказваць пра гэта, бо справа чыста прыватнага характару, але я чалавек кампанейскі і сёе-тое раскажу, можа каму на карысць пойдзе. Дык, значыцца, чаму ў мяне твар на бок з'ехаў.

Гэта дэфект не прыроджаны. Калі да мяне зайшла Лідушка Бегандлава, дык я выглядаў яшчэ зусім нармальна, ну, можа там падбародак выдаваўся крыху наперад. Прыйшла, значыцца, да мяне Лідушка і жаласна так просіць:

— Пане Мілаславе! Вы пісьменнік, а, як вядома, пісьменнікі павінны ісці ў нагу з народам! Дык вось узялі майго Ярду ў армію, і я хачу яму напісаць прыгожы ліст вершам, ды ніяк не магу падабраць рыфмы да слова «ручаёк». Да каго ж мне звярнуцца, як не да вас, інжынера чалавечых душ?

Я мусіў перапыніць працу над трэцім томам гістарычнай эпапеі «Як яно было сапраўды ў 1321 годзе?» і ўзяцца за любоўную паэму для салдата Яраслава Чулічака, што служыць у Непамуку. Лідушка Бегандлава не магла ўтаіць сваёй радасці.

Нармальны выгляд быў у мяне і пры сустрэчы з панам Чарнаручнікам, капітанам каманды рэгбістаў. Пан Чарнаручнік мне паскардзіўся, што гэты від спорту, які так не па праву замоўчваецца, толькі таму церпіць маральныя страты, што ў савеце ўжо цэлых паўгода няма сакратара.

— А хто ж іншы заклікан да выканання гэтай ключавой функцыі,— узняў голас пан Чарнаручнік,— як не вы, о, мастак, майстар пяра, гонар усяго нашага горада?

Так я стаў сакратаром у савеце рэгбістаў.

Потым да мяне звярнуўся інжынер Гліза, каб я памог навесці стыль у яго рэфераце пра асаблівасці слаістага пластыку ў аптымальна вялікім асяроддзі.





Вучань 7 «б» класа Сукейтка папрасіў выканаць за яго хатняе заданне на тэму: «Кожны піянер павінен збіраць жалуды і плады бука». Дзядок Мушын, які ўжо шэсцьдзесят год піша мемуары аб родным Заечаве-каля-Ракіцан, звярнуўся з просьбай надаць яго опусу належную літаратурную форму і даць ход у якім-небудзь выдавецтве, лепей за ўсё ў «Фронце маладых».

Але ўсё гэта яшчэ не скрывіла мой твар. Я гаварыў сам сабе: «А можа іх праўда? Калі ты ўжо стаў чалавекам пяра, дык пішы, не зважаючы на тое, ці перад табой спіс пародзістых галубоў, ці даклад аб парушэннях школьнікамі правіл паводзін, ці інструкцыя аб кармленні грудных дзяцей».

Аднак іменна ў гэты час перабраўся на нашу вуліцу марафонец Пілік. Вы, відаць, чулі пра яго, бо чалавек ён вядомы.

Але хоць і вядомы, ды дзівак! Аднойчы, якраз пасля яго перамогі над двума японцамі і адным фінам, прыйшоў я да яго і, ветліва так усміхаючыся, кажу:

— Вы, пане Пілік, бегаеце. Якраз цяпер вы можаце прабягаць па сорак два кілametры, і мне думаецца, што мала хто так можа бегаць, як вы. Ну, дык вось, калі вы ўжо ў такой добрай форме, дык ці не змаглі б збегаць па піва?

Вось з таго часу ў мяне твар і скрыўлены.

**Пераклаў з чэшскай мовы**
**Алесь МАЖЭЙКА.**






**КУДРАВЕЦ Анатоль** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне. Летась закончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер працуе ў рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач Беларускага радыё.

Чытачы «Маладосці» ўжо знаёмы з яго апавяданнямі.

**ФАМІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Старынка на Мсціслаўшчыне. Скончыў педагагічнае вучылішча і пасля службы ў Савецкай Арміі працаваў у рэдакцыях раённых газет. Цяпер — слухач Мінскай вышэйшай партыйнай школы.

**КАВАЛЕЎСКАЯ Ірына** нарадзілася ў 1934 годзе ў вёсцы Вялешына Першая на Капыльшчыне. Скончыла дзевяць класаў сярэдняй школы і падалася ў Мінск, дзе паступіла вучаніцай слесара на аўтазавод. Працавала слесарам-зборшчыцай, піраметрысткай, вучылася ў школе рабочай моладзі, пасля заканчэння якой паступіла на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

У «Маладосці» друкуецца першы раз.

**АДАМЧЫК Вечаслаў** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Варакомшчына на Навагрудчыне. Вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, цяпер — на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

Друкавацца пачаў у 1957 годзе. Аўтар двух зборнікаў апавяданняў: «Свой чалавек» (1958), «Млечны шлях» (1960).

**ТЫЧЫНА Міхась** нарадзіўся ў 1943 годзе ў Алданскім раёне Якуцкай АССР у сям'і золаташукальніка. У 1947 годзе пераехаў з бацькамі на Бабруйшчыну, дзе скончыў Камінтэрнаўскую сярэднюю школу.

Цяпер вучыцца на факультэце мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна.

**ГРАХОЎСКІ Сяргей** нарадзіўся ў 1913 годзе ў м. Глуску. У пачатку 30-х гадоў працаваў станочнікам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, пісаў і друкаваў вершы ў бабруйскіх і рэспубліканскіх выданнях.

У 1935 годзе скончыў Мінскі педінстытут. Працаваў журналістам, лесарубам і настаўнікам у школах Беларусі і Новасібірскай вобласці.

Выйшлі зборнікі вершаў Сяргея Грахоўскага: «Дзень нараджэння» (1958), «Ад вясны да вясны» (1959), «Чаканне» (1960), «Ля сініх крыніц» (на рускай мове), «Сёння і заўтра» (1961), «Табе зайздросціць сонца» (1963) і іншыя.

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

**Вершы Петруся МАКАЛЯ і Юрася СВІРКІ.**
**Аповесць Лідзіі АРАБЕЙ «ЛАРЫСА».**
**Апавяданні Алеся ПАЛЬЧЭЎСКАГА, Міколы РАКІТНАГА і Івана ЧЫГРЫНАВА.**
**Артыкул Уладзіміра КАЛЕСНІКА «РАМАН-ПАЭМА».**

Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: 93-854 — сакратарыят; 93-592 — аддзелы паэзіі і прозы; 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотакарэспандэнты.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 6857. Цана 40 кап.
АТ 05189. Здадзена ў набор 1.III.64 г. Падпісана да друку 1.IV.64 г. Зак. 84.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



